АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1984

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# СЯМЕЙНА-БЫТАВЫЯ ПЕСНІ



МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1984

ББК 82.3 Бел-6
С99



Складанне, сістэматызацыя тэкстаў, уступны артыкул і каментарыі **І. К. Цішчанкі**

Уступны артыкул, укладанне і сістэматызацыя напеваў **Г. В. Таўлай**

Рэдактары тома:
**А. С. Фядосік і Г. І. Цітовіч**

Рэцэнзенты:
**К. А. Цвірка, Р. І. Ярослаўцава, А. С. Яскевіч,**
кандыдаты філалагічных навук

С 99 **Сямейна-бытавыя** песні / [Склад. І. К. Цішчанка; Склад. муз. часткі Г. В. Таўлай; Рэд. тома А. С. Фядосік].— Мн.: Навука і тэхніка, 1984.— 752 с., нот. іл.— (Беларус. нар. творчасць / АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору).

У пер.: 3 р. 70 к.

У том уключаны лепшыя ўзоры лірычнай пазаабраднай песні, звязанай з сямейна-бытавымі адносінамі. Тэксты ўзяты з друкаваных крыніц і архіўных фондаў. Матэрыялы размешчаны па тэматычным прынцыпе.

Разлічан на фалькларыстаў, работнікаў культуры, студэнтаў, выкладчыкаў ВНУ і ўсіх, хто цікавіцца народнай творчасцю.

С $\frac{4702120000-150}{М316-84}$ 130—84 ББК 82.3 Бел-6

# СЯМЕЙНА-БЫТАВАЯ ЛІРЫКА

Сямейна-бытавыя песні складаюць даволі шырокі пласт пазаабрадавай лірыкі. Тэматычна яны цесна прымыкаюць да дзявочых песень аб каханні і з'яўляюцца іх лагічным працягам, але светлых і радасных матываў тут сустракаецца мала. Пераважае пачуццё глыбокага суму, жалобы, скаргі і невымернага гора. Як і ўся пазаабрадавая песенная лірыка, гэтыя песні больш позняга паходжання, чым каляндарна-абрадавыя, што пацвярджаецца тэматыкай саміх твораў.

Змест бытавых песень дае багата звестак для характарыстыкі побыту народа, яго ўнутрысямейных адносін. Але асноўная тэма іх — жыццё замужняй жанчыны, таму і небеспадстаўна некаторыя фалькларысты называюць іх «песнямі замужніцы».

У сямейна-бытавой лірыцы вылучаюцца два асноўныя тэматычныя рады: першы — песні, звязаныя з чужой сям'ёй, сям'ёй мужа, і песні, прысвечаныя роднаму дому. Гэтыя два тэматычныя рады аб'яднаны вобразам замужняй жанчыны, які факусіруе ў сабе ўсе іншыя вобразы сямейна-бытавой лірыкі: праз адносіны да замужніцы раскрываецца ступень маральнай значнасці персанажаў.

На матэрыялах нашага тома найбольш выразна можна акрэсліць такія галоўныя тэматычныя падгрупы: у народнай сям'і; ліхія свякруха і свёкар; недабраная пара, благі муж; здрада; няўдалая жонка; размова з маці; размова з бацькам; адносіны паміж сястрой і братамі; размова сына з маці; песні ўдавы; сірочыя песні; сямейная згода; бяседныя песні.

Змест сямейна-бытавых песень абумоўлены тым бяспраўным становішчам, у якім знаходзілася беларуская сялянка ў дарэвалюцыйнай Расіі. Яна не мела маральнага і звычаёвага права выбіраць сабе спадарожніка жыцця. Уся трагедыя ў тым, што сялянская дзяўчына выходзіла замуж не па любві, не па сваёй волі і жаданню, на тое была «воля бацькі, воля маці, воля не мая»[1]. Нярэдка здаралася, што свайго будучага мужа яна бачыла ўпершыню, калі станавілася пад вянец. У гістарычнай і фальклорна-этнаграфічнай літаратуры прыводзіцца нямала фактаў зневажання жаночай годнасці, глумлення над высокімі чалавечымі пачуццямі. Так, у

[1] Ц і т о в і ч Г. І. Песні беларускага народа: Выбранае.— Мн., 1959, с. 113.

трэцім томе «Материалов...» П. В. Шэйна расказваецца, як сялянскія хлопцы адной з вёсак Гродзенскай губерні Хадзько і Навапольскі, якія разам прыехалі ў царкву вянчацца, надумаліся раптам абмяняцца нявестамі. Але адзін з іх, Хадзько, запатрабаваў даплату ў суме 10 рублёў. «Што ты, ашалеў ці што? — запярэчыў другі.— За дзесяць рублёў можна не толькі жонкамі мяняцца, але нават добрую карову ці кабылу купіць!» Урэшце хлопцы стукнулі па руках, і прыцаркоўны гандаль скончыўся тым, што Хадзько ўступіў сваю нявесту, атрымаўшы 5 рублёў і воз жытняй саломы. А нявесты не смелі нават пярэчыць жаніхам.

М. Горкі слушна назваў шлюб з нялюбым «грамадзянскай смерцю». Выдадзеная замуж сілком, жанчына трапляла ў поўную і ўсепадначаленую залежнасць ад чужой сям'і і мужа.

Многія песні аб жаночай долі, як слушна піша М. Я. Грынблат, «наскрозь прамочаны слязамі» [2]. Замужніца, гаворыцца ў адной песні, «сваёю тугою лясы ўсушыла», «сваімі слёзкамі лугі ўтапіла». У другой песні расказваецца, што нявестка чэрпае вады паўвядра, бо пакуль «двору ішла, слёзкамі даліла». Гіпербалізацыя не засланяе сапраўднай карціны пакут замужняй жанчыны-сялянкі.

Каб я гэта гора знала,
Не йшла б замуж, ды гуляла.
Замуж пайсці — трэба знаць:
Позна легчы, рана ўстаць.
Пакуль у печы выпаліла,
Свіння дзверы выламіла.
Ні прылегчы, ні прысесці,
Трэба мужу есці несці.
А свякроўка не матуля:
Плача дзіця — не прытуля.
Дзевярочкі не браточкі:
Да дзіцяці як звярочкі.
А залвіцы не сястрыцы:
Да дзіцяці як звярыцы.
Каб я гэта гора знала,
Не йшла б замуж, ды гуляла.

Песень, у якіх расказвалася б аб шчаслівым замужжы, вельмі мала ў беларускім фальклоры, бо, як толькі жанчына пераступала парог мужавай хаты, надзеі яе на шчасце рушыліся, наступала горкае расчараванне. Муж нярэдка аказваўся чалавекам нячулым, бяздушным; жыццё з нялюбым, пастылым ды яшчэ з п'яніцам станавілася сапраўдным катаваннем, іначай нельга назваць бясконцыя абразы, прыніжэнні, глумленні.

Скарга маладой жанчыны на цяжкае жыццё ў чужой старане, як заў-

---

[2] Грынблат М. Я. Сацыяльна-бытавая лірыка.— У кн.: Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць: Гісторыка-тэарэтычнае даследаванне. Мн., 1967, с. 174.

важаў яшчэ Я. Ф. Карскі, ідзе ад варожых адносін да яе чужой сям'і [3]. Даволі выразна перадаецца пачуццё адзіноты ў такой песні:

Цяжка саду без зязюлі,
А мне цяжка без матулі.
Цяжка рыбцы без вадзіцы,
А мне цяжэй без сястрыцы.
Цяжка дрэўцу без лісточка,
А мне цяжэй без браточка.

Напоўненыя журбой і скаргай, песні замужніцы нагадваюць жалобныя рэкруцкія песні, пераклікаюцца з хаўтурнымі галашэннямі. Замужняя жанчына хоча расказаць пра свае пакуты родным і просіцца ў свёкра або свекрыві адпусціць яе ў госці да сваіх бацькоў. Найчасцей яна шэрай зязюляй прылятае ў «татулечкаў сад», каб пракукаваць родным аб сваёй скрусе. Высокага эмацыянальнага напалу дасягае зварот у форме анафары:

Ці не пачуе татулька, піва варачы,
Ці не пачуе матулька, абед гатуючы,
Ці не пачуе сястрыца, двары метучы,
Ці не пачуе братоўка, сталы сцелючы,
Ці не пачуюць брацікі, коні пасучы?

У другіх выпадках жанчына просіць белых гусей расказаць аб ёй, толькі не гаварыць праўду аб пакутах. У адным з пашыраных сюжэтаў прывітальным напамінам з'яўляецца ружовы вянок, пушчаны на рэчку «да свайго роду». Маці, беручы ваду, пазнае даччыны кветкі і даведваецца пра гора свайго дзіцяці.

Сапраўдным дэспатам у сямейнай лірыцы паўстае свякруха. Яна як бы сімвалізуе самыя злосныя сілы сямейна-патрыярхальнага ўкладу. Лютая, нічым не матываваная варожасць да нявесткі робіць гэты вобраз найбольш непрывабным сярод іншых вобразаў сямейна-бытавой лірыкі. Для свякрухі нявестка — чужы чалавек, на якога яна глядзіць як на парабка.

Я вячэру варыла,
Свякроў яе не ела.
Я вадзіцу прынясла,
Свякроў яе не піла.
Я пасцельку паслала,
Свякроў на ёй не спала.
Я ёй ножкі памыла,
Свякроў шырай ступіла. [4]

Характэрна, што ў пазаабрадавай песеннай лірыцы мы не знойдзем ніводнага цёплага радка, прысвечанага маці мужа, мы не сустрэнем свяк-

---

[3] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. III. Очерки словесности белорусского племени. I. Народная поэзия.— М., 1916, с. 342.
[4] Шырма Р. Беларускія народныя песні.— Мн., 1960, т. 2, с. 139.

рухі, якой дагадзіла б нявестка: «А бярозанька караністая, а свякроў мая наравістая. Пакуль норавы пераведала, не раз слёзкамі паабедала». У другіх варыянтах гэтай песні дэталі больш канкрэтныя: «Ці ела, маці, рэдзьку з палыном, так і мне, маладой, за чужым сталом. Я ў канцы століка настаялася, лічаных кусочкаў наглыталася».

Такім жа бяздушным і жорсткім чалавекам у сямейна-бытавых песнях паказан свёкар. Ён таксама прымушае нявестку працаваць з раніцы да вечара, будзіць «рана-ранюсенька», «шлець па вадзіцу цямнюсенька», а па вёсцы пускае пагалоску, што «нявестухна санлівая, на работу лянівая». Аднак маладая замужніца не заўсёды пакорліва схіляе галаву, асмельваецца за сябе пастаяць і на ўладарную прынуку адказвае: «Не ліха робіш, і сам сходзіш; не трасцу трасеш, і сам прынясеш» [5].

Невымерны боль жанчыны гучыць у песнях пра мужа. Грубую сілу яго кулакоў яна пераносіла маўкліва і цярпліва. Дзікая карціна расправы мужа над жонкай пададзена ў песні «Добры вечар, гаспадынька мая», шматлікія варыянты якой запісаны ў розных раёнах рэспублікі:

Я ж яму рэчы ні паўрэчы,
А ён мяне кулаком у плечы.
Я ж яму слова ні паўслова,
А ён мяне кулаком знова.
Я ж яму куляшку нясу,
А ён мяне палоўнікам па насу.
Я ж яму кашкі з маслам,
А ён мяне качаргой ляснуў.
Я ж яму кашулю пашыю,
А ён мяне мяшалкай у шыю.
Я ж яму пасцель белу пасцялю,
А ён мяне галавой аб сцяну.

Узаемаадносіны з жонкай муж высвятляе з дапамогай нагайкі, учыняючы фізічную расправу над безабаронным чалавекам: «Драцяная нагаечка высока лятае, сарочачка паркалёва ў цела ўліпае. Сарочачка паркалёва ў цела ўліпае, а хусцінка шаўкова ад слёз не ссыхае».

Жорсткія адносіны мужа да жонкі заўсёды выклікалі ў народзе гнеўны пратэст. Усім сваім зместам бытавая лірыка асуджае дэспатызм і сілу змрочнага сямейна-патрыярхальнага ўкладу вясковага жыцця.

Не заўсёды і не ўсе ў сям'і мужа злыя і жорсткія. Спагадаю да нявесткі пранікнуты паводзіны залоўкі, якая спрабуе абараніць яе і спыняе злоснага брата: «Узялі яе, як рабіначку, высушылі на быліначку; узялі яе, як ягадачку, ссушылі на саломачку» [6].

---

[5] Романов Е. Р. Белорусский сборник.— Киев, 1886, вып. 1—2, с. 4—5.
[6] Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии...— Могилев, 1882, кн. 1, с. 586.

Заступнікам жонкі выступае часам і муж. Ён абараняе яе ад несправядлівых нападак: «А за што яе біць, яна ўмее ўсё рабіць: і паліць, і варыць, і са мною гаварыць». І просіць бацькоў праявіць спагаду і цярплівасць да яго жонкі, навучыць яе, калі не ўмее чаго рабіць. І абяцае сам «каровачак падаіць», «жыта і пшаніцу жаць найме жнеечак». Муж прызнаецца жонцы: «Я ж цябе люблю, як душу сваю, я ж цябе берагу, як сэрца сваё».

Такая мірная карціна адлюстроўвала не столькі рэальнае становішча замужняй жанчыны, колькі яе мару аб шчаслівым жыцці, аб ідэальным мужы. Хіба што ў марах, у песнях заставалася для яе чалавечая дабрыня і цеплыня. Спагада, згода, чуласць і павага ва ўзаемаадносінах паміж мужам і жонкай — рэдкая з'ява ў сямейных песнях.

Узаемаадносіны паміж мужам і жонкай — адзін з пашыраных матываў у бытавой песеннай лірыцы. Многа твораў прысвечана прытворнай смерці жонкі, якая хоча такім чынам пераканацца ў шчырасці пачуццяў мужа. І тут выяўляецца, што ён ніколі не любіў па-сапраўднаму: жонка ляжыць яшчэ ў труне, а «гаротны» ўдавец шукае новую пару. У песні «Памру, міленькі» смерць жонкі муж успрымае як вялікае няшчасце для сябе і сям'і: у глыбокай жалобе моліць дружыну ўзняцца з дамавіны, бо «кароўкі рыкаюць», «малы сынок плача», «гаспадарка гіне». Праз песню народ выказаў сімпатыю да жанчыны, свой погляд на яе месца ў грамадстве, а іменна: жанчына не проста жонка і маці, яна — аснова ўсяго сялянскага ўкладу жыцця.

Асобную, прадстаўленую шматлікімі сюжэтамі групу складаюць песні пра адносіны паміж братам (братамі) і сястрой. Гэтыя творы, на думку некаторых вучоных, узыходзяць да старажытных часоў матрыярхату, калі брат лічыўся натуральным абаронцам сястры, і «ўказваюць на адзначаную блізкасць родавых адносін і юрыдычнага становішча брата і сястры, незалежна ад таго, якога яны ўзросту і якога становішча (жанатыя ці халастыя)»[7]. Аднак Я. Ф. Карскі памыляўся, сцвярджаючы, што сюжэты аб адносінах брата і сястры мала захавалі «чыста беларускіх рыс» і што тут перад намі больш міжнародных сюжэтаў. У нашым томе песні гэтай групы складаюць даволі значны раздзел — амаль дзевяноста сюжэтаў. І гэта далёка не ўсе вядомыя нам адменнікі. Узнікненне іх на роднай, нацыянальнай глебе не выклікае ніякага сумнення («Ой, ель мая да зялёная», «Старана мая, ты старОначка», «Аддай мяне, братка», «Братачка з сястрою», «А ў садочку дзве сцежачкі», «Пайду, маладзенька, у вішнёвы садочак», «Пад белаю бярозаю», «Выйду я на вуліцу» і інш.).

Драматычны змест сямейна-бяседных песень абумоўлены адмоўнымі з'явамі сялянскага побыту. Найвялікшым злом у дарэвалюцыйнай вёсцы з'яўлялася п'янства. Яно азмрочвала і без таго небагатае на радасці жыц-

---

[7] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. III. Очерки словесности белорусского племени. I. Народная поэзия, с. 368.

цё беларускага селяніна. Колькі абраз і зняваг давялося сцярпець «маладой малодачцы» ад мужа, што вяртаўся з карчмы п'яны і загадваў разуваць і распранаць яго! Акрамя таго, п'янства падрывала матэрыяльны дабрабыт сям'і, ставіла дзяцей пад пагрозу галоднай смерці. Дзесяткі песенных сюжэтаў даносяць да нас сумныя гісторыі пра мужа, што прапіўся да ніткі і залажыў апошняга каня. Прыйшоўшы дамоў, загадвае жонцы адмыкаць «куфры дубовыя», браць «трубкі бялёвыя» і выкупліваць «коніка варанога».

Не заўсёды галоўная гераіня паказана пакорлівай, забітай, схільнай цярпліва пераносіць усе нягоды, што выпалі на яе долю. У некаторых песнях яна рашуча пратэстуе супраць дзікай патрыярхальнасці, дэспатызму, узнімаецца на абарону за свае чалавечыя і грамадскія правы, за сваю жаночую годнасць. Ціхамірная пакутніца ўмее пастаяць за сябе, мужна і горда кідае выклік уладзе цемры і гвалту. Характары моцныя і валявыя, што паўставалі супраць сямейнага прымусу, выклікалі ў народа сімпатыю, захапленне і ўнутраную падтрымку. Народ услаўляў, апяваў і паэтызаваў іх хай сабе сямейны, бытавы, але па-свойму грамадзянскі подзвіг.

Праз песню народ выказаў высокія сямейныя ідэалы, погляд на сям'ю як на саюз людзей, што жывуць у добрай згодзе, дружбе, любві і ўзаемнай павазе.

У маім доме ўсё ў парадачку,
А ні буры, ні мяцеліцы,
А ні буры, ні мяцеліцы,
А ніякае бяздзеліцы.

Шмат цеплыні і спачування да чалавека нясуць удовіныя і сірочыя песні; яны авеяны дабрынёю, спагадаю і болем да чалавечых пакут і прасякнуты вялікім клопатам зрабіць жыццё лепшым, шчаслівейшым.

Зажурылася
Малада удовачка,
Што не скошана
Зялёна дубровачка.
— Ой, не журыся,
Малада удовачка,
Будзе скошана
Твая дубровачка.
Будзем наймаці
Косчыкі маладыя,
Будзем плаціці
Ды два залатыя.

Элегічным зместам асабліва вылучаюцца сіроцкія песні. Сіроты ў песнях паказаны глыбока няшчаснымі людзьмі. Сірата не спадзяецца ні на чыю ласку і ўцешваецца «ясным толькі сонцам» («Пайду я да рэчанькі абмачуся»). Адным з пашыраных матываў сірочых песень з'яўляецца

размова сіраты на магіле сваіх бацькоў («Ой, пад гаем зеляненькім»). Самотная, забытая богам і людзьмі, яна хоча падзяліць лёс сваіх нябожчыкаў бацькоў: «Зямля ж мая сырэнькая, ўзяла майго татку і мамку, ўзяла маю ўсю радзіну — вазьмі ж мяне, сіраціну». Зямля адгукаецца на голас пакутніцы, але не жадае прыняць да сябе, абяцаючы ёй долю, «хоць не людскую, хоць якую сіроцкую». І бог застаецца глухім да сірочых пакут: «Рабі, працуй, сіраціна, аж да самай ночкі»[8].

Найчасцей сірата вядзе дыялог з нябожчыцай маці, расказвае ёй аб здзеках, што церпіць ад лютай мачахі, якая «лічка мые — па лічку б'е, коску чэша — за коску рве, кашульку дае — праклінае»[9]. У сірочых песнях выразна вылучаецца думка, што па-сапраўднаму зразумець гора дзіцяці і паспагадаць яму можа толькі родная маці: «А ўстань, матка, не ляжы, работаньку пакажы. Будуць людзі судзіці, што не ўмее рабіці». Маці дакарае дачку, што тая не слухалася яе ў свой час, і цяпер раіць пытаць парады «ў добрых людзей».

Глыбокім эмацыянальным зместам напоўнены ўдовіны песні. Шмат варыянтаў сярод сямейна-бытавой лірыкі вядома на сюжэт аб смерці мужа, аб тым вялікім горы, што спасцігла бедную ўдаву і асіраціла дзяцей («Як устану раненька», «Гэй, бура лесу наламала»). Песні адлюстравалі роспач і страх бездапаможнай удоўкі за малалетніх дзетак, якіх трэба паставіць на ногі. Але і тады, калі вырастуць «бязбацькавічы», шчасце для ўдавіцы так і застанецца нязджейсненым жаданнем: «Дзеткі мае пабольшалі — слёзачкі мае пагоршалі; дзеткі мае падняліся — слёзачкі мае ўзняліся».

Асаблівай пачуццёвай напоўненасцю вылучаюцца песні, у якія ўрываецца роспачны голас галодных сірот, што шукаюць у чыстым полі магілу свайго бацькі («А ўсе хмаркі зеляненькі»):

Устань, татка, устань з ямы,
Гора жыці сіратамі.
Устань, татка наш радненькі,
Зрабі хату хоць маленьку,
Пасадзі нас у куточку
Ды дай нам па кусочку.

У жаночых песнях, як і ў дзявочых, значнае месца займае тэма долі. Доля жанчыны выступае ў розных іпастасях, выяўляючы ў сабе ўсе тыя аспекты адносін, з якімі было звязана жыццё жанчыны, выдадзенай замуж. Пра долю замужніцы гавораць азначэнні — горкая, ліхая, злая, худая, няшчасная, якія ўжываюцца як сталыя эпітэты. Гэта горкая і ліхая доля неадлучная ад жанчыны праз усё жыццё.

Нарадзіўшыся ў нядолі, яна і ў нядолі памірае:

---

[8] Чуркін М. Беларускія народныя песні.— Мн., 1959, с. 94.
[9] Ширма Г. Двести белорусских народных песен.— М., 1960, с. 178.

А я ў горы не радзілася,
Само гора прыключылася.
А я з гора ў магілачку —
Гора за мной з лапатачкай.
А я ад гора закапалася —
Тады гора адчуралася.[10]

Песні пра жаночую долю прасякнуты глыбокім сумам і скаргай. Гэта іх адметная рыса. «У пераважнай сваёй большасці,— піша Н. С. Гілевіч,— гэта голас невымернага жалю, смутку, нясцерпнага душэўнага болю і крыўды, гэта горкі і няўцешны плач, бясконцыя нараканні і гнеўныя праклёны. Узятыя разам, яны прадстаўляюць адну вялікую трагічную паэму-споведзь, роўных якой па глыбіні зместу і сіле вобразаў не было і няма ў нашай літаратуры. Паэму, якая сёння,— калі адышло ў мінулае амаль усё, што прымушала гаварыць яе безыменных творцаў,— здольна ўскалыхнуць да дна душы і дапытацца самых праўдзівых і самых балючых слёз» [11].

Жанчына называе сваю долю «слезавою» і параўноўвае яе з горкай травой — палыном. Зразумела, такой долі лепей не мець: «Калі ў агні згарэла, ляжы папяльцом; калі ў моры ўтапілася, ляжы камяпцом».

Нельга не адзначыць, што ў некаторых сямейна-бытавых песнях жанчына, спакутаваная невыносным жыццём, прымае сваё становішча як нейкі прысуд, як пакаранне, якое дадзена ёй навечна і якое нішто не зможа перайначыць ці пераадолець: «Горачка мая крутая, долечка мая худая. Ніхто горачку не змые, ніхто горачка не зменіць».

Да сямейна-бытавой пазаабрадавай лірыкі адносяць і бяседныя, або застольныя, песні, якія спяваюць за сталом пры частаванні гасцей, на бяседзе і інш. У розных мясцовасцях Беларусі гэтыя песні называюць па-рознаму: гасцявыя, кірмашовыя, банкетовыя, пірушачныя, п'яніцкія, пры чарцы, як выпіваюць, як балююць [12], але змест іх той жа — жаночая доля, перажыванні жанчыны-сялянкі, тая ж праўдзівая карціна сялянскага побыту з мноствам лірычных і драматычных дэталей.

Як і ў многіх талочных, хрэсьбінных і вясельных песнях, у бяседных вядомы матыў гімнічнасці, велічальнасці. Малюецца карціна поўнага дастатку, раскошы, дабрабыту. Сялянская хата выглядае княжацкай палатай, а гаспадар князем. «Столікі цясовенькія», «скацерці бялёвенькія», «мёд-віно» — усё гэта ідэалізацыя сялянскага побыту, мара селяніна аб шчаслівым жыцці.

Змест дарэвалюцыйнай лірычнай бытавой песні, яе вобразы абумоўлены сацыяльнымі ўмовамі, у якіх жылі шырокія працоўныя масы, дакладней — існуючым грамадскім ладам і патрыярхальным сямейным укладам. Але жорсткая рэчаіснасць не магла знішчыць імкненне да высокіх

---

[10] Шейн П. В. Материалы...— СПб., 1890, т. 1, ч. 1, с. 419.
[11] Гілевіч Н. С. Наша родная песня.— Мн., 1968, с. 135.
[12] Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць: Гіст.-тэарэт. даслед., с. 176.

ідэалаў — да свабоды і шчасця. У народа склаліся цвёрдыя ўяўленні аб шчаслівай сям'і, і на прыкладзе сямейнай песні добра відаць, як ён узнімаецца над суровымі буднямі, ствараючы высокапаэтычныя вобразы жанчын. Асуджаючы дэспатызм і тыранію, народ апяваў сям'ю як аснову чалавечага шчасця. Паэзіяй чалавечнасці, дабрыні і чуласці надзелены ў песні жаночыя вобразы.

Сямейна-бытавая песня — гэта шчырая споведзь жанчыны, здольнай на моцнае, прыгожае і непераможнае пачуццё. Ці не таму многія з гэтых песень не старэюць, жывуць у народзе актыўным жыццём.

У працэсе падрыхтоўкі гэтага тома складальнікам было выяўлена звыш трох тысяч тэкстаў у архівах і друкаваных крыніцах. Аднак пры канчатковым адборы матэрыялаў перавага аддавалася лепшым у мастацкіх і ідэйных адносінах творам, незалежна ад таго, дзе яны зафіксаваны (у межах этнічнага рэгіёна) або дзе змешчаны (знаходзяцца). Галоўнае, складальнік імкнуўся як мага паўней падаць сямейна-бытавую песню ў яе найбольш тыповых сюжэтах і варыянтах, характэрных іменна для гэтай паэтычна-песеннай групы.

Матэрыялы выпісваць дапамагалі малодшыя навуковыя супрацоўнікі В. І. Скідан, А. А. Акунькова, а таксама А. М. Зайкова. Навукова-тэхнічную работу выканала малодшы навуковы супрацоўнік С. Т. Асташэвіч.

*І. К. ЦІШЧАНКА*

# ПРА НАПЕВЫ ЛІРЫЧНЫХ ПЕСЕНЬ З СЯМЕЙНА-БЫТАВЫМІ СЮЖЭТАМІ

Песні сямейна-бытавой тэматыкі — вельмі важкая частка фальклорнай спадчыны беларусаў. Трэба адзначыць, што тэматыка гэта ўвогуле не з'яўляецца самай старажытнай у нашым фальклоры,— як вядома, манагамная сям'я і адпаведна ўласцівыя ёй сямейныя адносіны ўзніклі значна пазней, чым тыя гістарычна больш раннія сацыяльныя інстытуты, безліч сведчанняў аб якіх захавалася ў беларускіх земляробчых песенных цыклах. У кожным з такіх цыклаў поруч з рытуальна-кананічнымі, абрадавымі паэтычнымі тэкстамі заўсёды адзначаюцца даследчыкамі тэксты сямейна-бытавой накіраванасці. Звычайна яны не адыгрываюць акрэсленай функцыянальнай ролі ў адпаведным цырыманіяле. Той ці іншы момант абраду становіцца часам штуршком, пачаткам для выхаду паэтычнага матэрыялу ў пазаабрадавае вясковае жыццё з яго патрыярхальным сямейным бытам і звычаямі вялікай сялянскай сям'і.

Песні з сямейна-бытавымі сюжэтамі звычайна адзначаюцца выканаўцамі як «калі хто здумае», «так, калі хочаш», «у гасцях», «гастынна (за сталом)», «п'яніцкая», «карчомная», «пры любой бяседзе», «сіроцкая», «удоўская», «кірмашная» [1], «банкет», «па п'янцы, усюдых». Сустракаюцца і больш акрэсленыя дэфініцыі: «зімою, як кудзелю прадуць», «у піліпаўку і ў бяседзе», «сіроцкая паставая», «як грыбы збіраюць і ягады ў лесе», «летам, калі дажынкі спяваюць». Часам надзвычай характэрныя, традыцыйныя сямейна-бытавыя сюжэты набываюць зусім жорсткую прымеркаванасць, асабліва на Магілёўшчыне і Віцебшчыне: «лета», вясна», «як лён бяруць», «жніўская» (Магілёўская вобласць), «хрэсьбіны», «талака», «вясна» (Віцебская вобласць).

Некаторыя з каляндарна-земляробчых і сямейна-абрадавых цыклаў асобных рэгіёнаў рэспублікі — маем на ўвазе перш за ўсё спецыфічныя абрадавыя напевы, якія змыкаюцца з лірычнай плынню па сваіх меладычных прыкметах — з'явіліся крыніцай для развіцця песень цалкам пазаабрадавых, у тым ліку лірычных песень сямейна-бытавой тэматыкі. Так, шмат што ў песеннай лірыцы ўсходу Беларусі (пазаабрадавы па сваіх функцыянальных характарыстыках пласт) мае сваім вытокам так званыя «летнія»

[1] «Вот прыходзяць святкі — і кірмаш у хаце. У царкву ездзілі, а тады збіраецца радня ка мне ў хату ці там к каму. І тады пяюць» (зап. у 1982 г. ад М. А. Арлоўскай, жыхаркі в. Ганчараўка Смалявіцкага р-на).

каляндарныя песні з іх ладавымі, меладычнымі, рытмічнымі асаблівасцямі, бясконца падоўжанымі ўстоямі, вышынным размеркаваннем у межах напеву, шырокім, прывольным гучаннем, арыгінальнай і надзвычай багатай мелізматыкай. Тэксты сямейна-бытавой тэматыкі ўвогуле вельмі характэрныя для вясенне-летняга цыкла песень Магілёўшчыны. На Гомельшчыне ж тыя самыя песні спяваюцца ўжо ў любы час. Гэтыя «ўсходнія» вытокі праследжваюцца часам у асобных лірычных песнях па ўсёй тэрыторыі рэспублікі. «Абжыньскі» песні захаду і «вясна» ўсходу Брэстчыны — выток лірычных песень яшчэ адной значнай групы. Мінская і Гродзенская вобласці — зоны з найменшай абрадавай замацаванасцю сямейна-бытавых сюжэтаў (нават такіх устойлівых, як вясельныя сірочыя).

У цэнтральных раёнах Віцебшчыны вялікая частка сямейна-бытавых песень вызначаецца як «хрэсьбіны». Спяваюцца такія песні на тыпавыя напевы радзінных, і тут зноў-такі знаходзім вытокі некаторых вельмі распаўсюджаных па ўсёй Беларусі чыста лірычных песень сямейна-бытавога цыкла («Вярба, вярба...», «Ой, белая бярозачка» і інш.). Але гэта толькі знешнія і найбольш відавочныя праявы некаторых меладычных абагульненняў.

З'ява тыпізацыі напеваў у дачыненні да абрадавых жанраў шырока вядомая. Але ці так ужо індывідуалізаваны напевы пазаабрадавай сямейнай лірыкі, як гэта здаецца на першы погляд?

Важнейшай сістэмнай асновай песень з сямейна-бытавымі сюжэтамі з'яўляецца лад, які мы разумеем перш за ўсё ў яго меладычным, манадыйным аспекце. Зразумела, абедзве вызначальныя восі каардынат у музыцы — вертыкаль (лада-інтанацыйнае) і гарызанталь (рытма-інтанацыйнае развіццё) не існуюць ізалявана. Аднак разгляд рытмічных асаблівасцей адвёў бы нас ад сістэмнага аналізу песень, прымусіўшы акунуцца ў безліч рытмічных варыянтаў з рознымі тыпамі каардынацыі вершавай і музычнай структуры. Ладава ж інтанацыйныя прыкметы — той найбольш агульны архітэктанічны стрыжань, які аб'ядноўвае і тыпізуе музычны матэрыял сямейна-бытавой лірыкі [2], у найбольшай ступені раскрываючы сутнасць традыцыі, даючы магчымасць аперыраваць абмежаванай колькасцю мадэлей, стэрэатыпаў замест мноства іх эквівалентаў. Менавіта лада-інтанацыйны кантраст з'яўляецца самым значным сродкам лагічнай акрэсленасці і працэсуальнай дынамікі раздзелаў страфічнай музычнай кампазіцыі, выраз-

---

[2] Сістэматызацыя матэрыялу па ладавых прыкметах не з'яўляецца якім бы там ні было эвалюцыяністцкім замахам у трактоўцы складаналадавых утварэнняў як лепшых, больш высокіх эстэтычна. Эвалюцыя не ішла шляхам простага накаплення колькасці элементаў. У артыкуле прапануецца не храналагічная паслядоўнасць ад простых форм да складаных, а лагічнае асэнсаванне традыцыйнасці некаторых законаў інтанацыйнага мыслення. У межах кожнага стэрэатыпу ёсць свае вяршыні і свае «агульныя месцы». Да таго ж, як правіла, лаканізм выказвання, знешняя прастата лада-інтанацыйнай будовы з'яўляюцца прыкметамі самага вышэйшага майстэрства ў народнай песні.

ным момантам аднаўлення паўторных па рытміцы і вершавай структуры меладычных пабудоў. Да таго ж для сямейнай лірыкі гэта і найбольш значны семантычны ўзровень. Асноўным прынцыпам аналізу, які прапануецца ў томе, з'яўляецца не дыстынктыўны (вывучэнне састаўных частак з'явы), а функцыянальны, комплексны падыход з улікам рэальнага бытавання песень, дынамікі разнастайных пераўтварэнняў, дзеяння ўсёй сінкрэтычнай цэласнасці «верш — мелодыя», унутраных сувязей гэтай сістэмы. Скарыстанне акрэсленага метаду дазволіла раскрыць складаны механізм генетычных сувязей сямейна-бытавой песеннасці са старажытнейшымі абрадавымі цыкламі, знайсці некаторыя агульныя мадэлі, якія тут і там дзейнічаюць, паказаць не экстэрыорныя (знешнія), звязаныя з простым фактам бытавання ў абрадзе і па-за абрадам, а інтэрыорныя (унутраныя) сувязі лірыкі і абраду.

Першапачатковае лада-інтанацыйнае развіццё песень з сямейна-бытавымі сюжэтамі здаецца гранічна складаным, разнастайным, не маючым выхадаў да якіх бы там ні было стэрэатыпаў. Аднак пры ўсім мностве гукарадных, мелодыка-лінеарных форм звод гэтых мелодый, выключна трывалых па сваёй ладавай будове, арганізаваны моцна, суцэльна, з усёй пэўнасцю выкрываючы з'яву «непарыўнасці музычнай свядомасці, калі ніводзін элемент не мысліцца і не ўспрымаецца як незалежны сярод множнасці астатніх»[3].

І ў мове, і ў музыцы сэнс выказваецца праз завершаныя структуры. Асновай такой структуры ў музыцы з'яўляецца інтанацыя. Асноўныя інтанацыйныя вузлы, згусткі з той ці іншай сістэмай суаднясення ў руху апорных тонаў — тыя першасныя найбольш агульныя лада-інтанацыйныя стэрэатыпы, якія сталі лагічнай базай меладычнага развіцця песень з сямейна-бытавымі сюжэтамі, «роданачальнікамі» цэлых класаў мелодый.

У сваю чаргу першасныя ладавыя сістэмы ў выніку спецыфічных для ладу ўскладненняў, заваёвы больш пашыраных інтанацыйна межаў, рознага віду аб'яднанняў, счапленняў, узаемапранікненняў, шляхам выкрыцця іншых камбінацыйных магчымасцей зыходных лада-інтанацый, разамкнутасці ланцуга ў сыходным ці ва ўзыходным руху арганізуюць мелодыку песень складанаінтанацыйных пабудоў, складанаперамённых ладавых структур, галоўнай прыкметай якіх становіцца не агульны гукарад, часам пераўвышаючы актаву, а прынцып супастаўлення інтанацыйных пластоў, таксама строга адпаведны традыцыі.

Сярод кампанентаў ладу, у лік якіх уваходзяць гукавышынны, функцыянальна-дынамічны, інтанацыйны аспекты, вядучае значэнне для зыходнага класа напеваў з першаснымі ладавымі ўтварэннямі ў аснове мае лінеарна-меладычны фактар. Для класа складаналадавых пабудоў разам з

---

[3] Гэта абагульненае вызначэнне Б. В. Асаф'евым сімфанізму як нельга лепш раскрывае сутнасць мелодыка-інтанацыйнага мыслення, тыя парасткі сімфанічнага развіцця, якія ёсць у беларускай песні (Глебов И. Чайковский.— Пб., 1922, с. 7).

лада-інтанацыйным не меншую вагу мае функцыянальна-дынамічны бок інтанавання.[4]

Цэласная ладавая будова песень розных тэматычных адгалінаванняў сямейнай лірыкі дзейнічае як лагічна абумоўленая сістэма, адначасова замкнёная ў межах данага цыкла і разамкнёная ў суцэльную песенную культуру, нацыянальную песенную традыцыю, дакладна арганізаваная па некаторых агульных прынцыпах, але ніякім чынам не адасобленая. Прычым, як будзе відаць у далейшым, пры агульнасці для ўсёй беларускай тэрыторыі азначанай сістэмы ладавага мыслення ёсць больш і менш спецыфічныя для песень бытавой тэматыкі таго ці іншага рэгіёна рэспублікі лада-інтанацыйныя пабудовы.

У кожнай з груп напеваў з акрэсленай ладавай арганізацыяй ёсць свае стэрэатыпы, амаль што тыпавыя напевы[5], традыцыйныя і прывычныя. Часта нават адна спявачка, адна група выканаўцаў спявае розныя сюжэты амаль што на адзін напеў (гл. № 150, 151). Яшчэ больш відавочна гэта карціна пры параўнанні песень з геаграфічна розных месц (гл. № 27, 28; 16, 203, 233). Ёсць цэлыя серыі напеваў сямейнай лірыкі, вельмі блізкіх інтанацыйна і семантычна (гл. № 5, 6, 7, 93, 157, 231; 50, 51; 63, 153; 73, 77; 88, 181; 196, 197). Але тыповасць іх больш часта ў адрозненне ад даволі добра вывучанай тыпізацыі напеваў абрадавых песень ахоплівае гукавышынную сферу, а не ўвесь інтанацыйны комплекс. Дастаткова прыкметныя адрозненні існуюць паміж лірычнымі песнямі адной лада-інтанацыйнай групы ў інтанацыйна-канструктыўным плане, але колькасць стэрэатыпаў тут значна меншая ў параўнанні з рытмічнай разнастайнасцю. Характэрныя мелодыка-інтанацыйныя звароты тыпізаваліся, сталі інтанацыйнымі формуламі з традыцыйнымі суадносінамі тонаў па прынцыпу рух — тармажэнне і ўвайшлі ў якасці «напеваў-каранёў» у свайго роду «вусны інтанацыйны слоўнік» беларускай сялянскай лірыкі.

---

[4] Спробы абмежаваць мелодыка-інтанацыйны аналіз толькі своеасаблівасцямі гукарадаў, амбітусам увогуле перакрываюць магчымасць распазнаць дынаміку ўтварэння і дзеяння некаторых універсальных законаў ладавага мыслення, спецыфічных для кожнай нацыянальнай традыцыі, у тым ліку беларускай. Аналіз па гукарадным прынцыпе — сяміступенныя дыятанічныя лады ў дачыненні да беларускай песні — падзяляе блізкія і аб'ядноўвае вельмі далёкія па лада-інтанацыйнай сутнасці напевы. Скарыстанне ж лада-інтанацыйнага падыходу дае магчымасць убачыць у межах самых складаных і шырокіх па амбітусе гукарадных структур ясны падзел на першасныя інтанацыйныя ўтварэнні, якія зводзяць нават разгорнутыя напевы да больш простых, традыцыйных ладавых збудаванняў. Па-іншаму ў гэтых умовах выглядае і шкала гукавышыннай пераменнасці.

[5] Першай спробу вылучыць тыпавую інтанацыйную формулу для традыцыйных балад беларускага Палесся зрабіла З. Эвальд (Заметки о песенных стилях белорусского Полесья.— У кн.: Песни белорусского Полесья. М., 1979, с. 37).

Эмацыянальны строй напеваў, іх этычнае ўздзеянне адпавядае канонам беларускай традыцыйнай культуры, якія шырока вядомы па архітэктуры, арнаментальнаму мастацтву, бытавых прыладах і г. д. Гэта цэлы комплекс сродкаў, што падпарадкуюцца патрабаванням прастаты, стрыманасці, устойлівай традыцыйнасці [6].

Ці мае сэнс вылучаць напевы песень з сямейна-бытавымі паэтычнымі сюжэтамі з агульнага рэчышча лірычнай песеннасці? І так, і не. Бо па сваіх стылістычных вытоках, жанравых характарыстыках уся песенная лірыка складае адзіны магутны пласт фальклору. Калі ж усё-такі паспрабаваць знайсці адрозненні паміж мелодыямі лірычных песень з сямейнымі, сацыяльнымі, любоўнымі, жартоўнымі паэтычнымі сюжэтамі, то трэба адзначыць, што ў самым абагульненым плане такія адрозненні ёсць, і крыюцца яны перш за ўсё ў пераважнай семантычнай скіраванасці напеваў, у перавазе той ці іншай групы эмоцый у песнях кожнай з названых падгруп. Для любоўнай лірыкі — гэта мелодыі звычайна светлыя, замілавана-пяшчотныя, у песнях сацыяльных — пераважна спрошчаныя, рытмічна-ўзнёслыя напевы без залішняга раскрыцця інтымных пачуццяў, для жартоўных песень — зноў-такі свой уласны «фонд генаў»: напевы вельмі элементарныя, звычайна блізкія да мелодый танцаў. І калі нягоды, сямейнае бязладдзе жартоўныя песні, прыпеўкі трактуюць са смехам, без адмоўных эмоцый, дык лірычны пласт — з гранічнай сур'ёзнасцю і глыбінёй [7]. Песні сямейныя ілюструюць тыпова жаноцкі тэмперамент, песні сацыяльныя — іх антыпод, мужчынскі характар.

Эпіграфам да песень гэтага тома маглі б стаць словы Алены Васільеўны Лоська, 1912 г. н., што жыве ў в. Дабраволя Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці: «Ці вы плачаце, ці спяваеце? — пытаю ў мамы.— Здумаю тваё гора, дык я так спяваю...»

Песня сялянкі — а песні сямейна-бытавой тэматыкі амаль выключна песні жаноцкія — далёка не заўсёды з'яўляюцца прыкметай яе радасці, тым больш у песенным пласце, які закранае складаны свет сялянскай патрыярхальнай сям'і. Нягледзячы на пераважна журботную, тужлівую гаму пачуццяў, сярод песень сямейнай лірыкі шмат песень, магутных па сіле духа (№ 14, 43, 116, 221, 243). Амаль заўсёды тут не прыняцце смутку, але супраціўленне яму.

---

[6] Карский Е. Ф. Белорусы.— Варшава, 1903, т. 1, с. IV; Харузин А. Славянское жилище в Северо-Западном крае.— Вильна, 1907, с. 14; Беларускі народны арнамент.— Мн., 1953. Ва ўступным артыкуле М. Кацара на с. III адзначаюцца такія характэрныя асаблівасці беларускага арнаменту, як «тонкае вар'іраванне адных і тых жа матываў у залежнасці ад прызначэння рэчы, стварэнне абмежаванымі сродкамі разнастайных... кампазіцыйных спалучэнняў»; Елатомцева И. М. Художественная керамика Советской Белоруссии.— Мн., 1966, с. 12, 15.

[7] «Песні гэтыя спаважна спяваюць, трэба спаважна песню спяваць, не спяшацца» (зап. у 1983 г. ад М. К Станкевіч з в. Любашава Ганцавіцкага р-на).

Шмат якія з асаблівасцей сямейнай лірыкі ідуць ад абрадавых песень, перш за ўсё гаротных, жаласных — гэта традыцыйнае «жніво», «лета», блізкія да іх па тыпавым напеве «вясна», «вяселле». Зразумела, што іх традыцыйная для лірыкі эмацыянальная афарбоўка — значнае пераасэнсаванне інтанацыйнай абрадавай формулы, спалучэнне яе з новым, тыповым для лірыкі зместам [8]. Аднак трэба падкрэсліць: усё, што зараз было адзначана,— гэта толькі тэндэнцыі, якія ў адных песнях праступаюць больш выразна, у іншых — значна слабей ці зусім здаюцца размытымі. У мелодыцы лірычных песень сямейнага цыкла знайшлі сваё музычнае ўвасабленне ўсе тыя эмоцыі, якімі жыве чалавек.

Менавіта мелодыя песні сведчыць пра тое, як, з якой эмацыянальнай рэакцыяй адносіцца беларуская сялянка да самых розных здарэнняў у сваім жыцці: што трактуецца гумарыстычна, а што — па-сапраўднаму горка, якія падзеі быццам бы не кранаюць глыбінак душы, а якія становяцца яе няўцешным цяжарам. Незалежна ад таго, аб чым спявае жанчына: аб ліхім свёкры ці свякроўцы, аб сваім удалым ці, можа, не зусім удалым замужжы, аб сустрэчы з роднай маці ці бацькам і гэтак далей — гама пачуццяў-настрояў, што адлюстраваны ў напевах, паўтараецца ў розных сюжэтна-тэматычных падгрупах. Мелодыі гэтыя перадаюць увесь складаны свет пачуццяў: ад горычы, болю, сапраўднага высокага трагедызму да разгульнасці, ад глыбока затоенай, пяшчотнай і надта далікатнай «пакрыўджанасці» да спакойнай, цвярозай разважнасці.

Тут узнікае яшчэ адно вельмі важнае пытанне: з'яўляецца наша эмацыянальнае ўспрыманне напеву толькі рэакцыяй на своеасаблівасць выканаўчага майстэрства, моц творчай індывідуальнасці спявачкі або групы спевакоў ці гэтыя сугестыўныя якасці закладзены ў мелодыю песні першапачаткова, ■ моманту яе ўзнікнення? Сіла выразнасці лірычнага напеву сапраўды шмат у чым абумоўлена выканаўчымі і псіхалагічнымі якасцямі народных спевакоў, і таму, відаць, песня, пакладзеная на ноты, якой бы блізкай ні была яе транскрыпцыя да арыгінала, не здолее перадаць тую страснасць, гарачыню, гранічную шчырасць пачуццяў, якімі перапаўняецца песня ў яе жывым гучанні. Але, безумоўна, існуе незалежна ад выканаўцаў і дастатковая семантычная акрэсленасць лірычных напеваў.

Традыцыйныя сюжэты песень сямейнай лірыкі розных рэгіёнаў Беларусі адрозніваюцца перш за ўсё сваім прымеркаваннем. Амаль што кожны з вядомых сюжэтаў можна адшукаць у тым ці іншым абрадавым цыкле, а ўжо адтуль — пазаабрадавыя яго трансфармацыі. Такі выток звычайна бывае відавочным. Генетычная сувязь з абрадам праясняе манадыйную сутнасць нават цалкам адмацаваных лірычных напеваў. Не толькі песні з ледзь пазначаным шматгалоссем, але і напевы сямейнай лірыкі з падвод-

---

[8] Эвальд З. Социальное переосмысление жнивных песен белорусского Полесья.— Советская этнография, 1934, № 5, с. 17—29.

кай маюць звычайна аднагалосныя ці унісонна-гетэрафонныя абрадавыя аналагі (маем на ўвазе басуючы голас)[9].

Асобную групу складаюць песні, пазначаныя як «скочныя»[10]. Тут таксама дзейнічаюць своеасаблівыя ладавыя мадэлі, аднак асноўным фактарам, які вызначае гэты клас мелодыяў, з'яўляецца пазамузычны, звязаны з прыродай руху, прытупваннем, скокамі[11]. Менавіта сувязь з рухам становіцца прыкметай, якая вызначае стылістыку гэтых песень-прыпевак. Сярод «скочных» песень сустракаюцца больш-менш набліжаныя да песеннай традыцыі (№ 144), аднак відавочнай застаецца сувязь з традыцыйнымі танцавальнымі мелодыямі (напрыклад, «Камарынскай» — № 146). Песенна-танцавальны абрадавы масток паміж асноўным зводам песень з сямейна-бытавымі сюжэтамі і «скочнымі» песнямі — карагоды, асабліва карагоды Магілёўшчыны, што захавалі да нашых дзён сваю сінкрэтычную сутнасць ці жывую памяць аб ёй. Звычайна гэта карагоды абрадавай прымеркаванасці, і таму ў меладычных адносінах яны супадаюць з песнямі першасных лада-інтанацыйных пабудоў (№ 78). Карагоды іншых рэгіёнаў вызначаюцца зараз толькі па сваіх структурных прыкметах. З другога боку, ёсць карагоды, цалкам тоесныя «скочным» песням (карагоды-прыпеўкі). Мелодыі традыцыйных «скочных» песень сведчаць іншы раз аб пэўных суседскіх прыгранічных узаемасувязях — польскіх (№ 143), літоўскіх (№ 228).

Размеркаванне матэрыялу па рэгіянальным прынцыпе, якое прапануецца ў томе, дае магчымасць наблізіцца да праблемы спецыфікі мясцовых інтанацыйных сістэм музычнага мыслення, вызначыць некаторыя агульнабеларускія і дыялектныя асаблівасці традыцыйнай сямейна-бытавой песні.

Найбольш характэрнай і вызначальнай лада-інтанацыйнай структурай песень сямейна-бытавой лірыкі з'яўляецца квінтавая. Менавіта ў квінтавыя лады закладзены ўсе асноўныя імпульсы дынамічнага развіцця лірычных беларускіх напеваў[12]. У даволі рэдкіх выпадках больш інтанацыйна развітай застаецца ніжнетэрцовая ячэйка квінтавай інтанацыі — сведчанне

---

[9] Характэрную ў гэтым сэнсе з'яву адзначае З. Мажэйка, прыводзячы пяць розных лірычных песень у стылі падводкі з адзіным басуючым cantus firmus (Песенная культура Белорусского Полесья.— Мн., 1974, с. 151).

[10] «Запяі мне песеньку скочную»,— спяваецца ў народнай песні.

[11] «Пяеш і прытанцоўваеш»,— гавораць пра гэтыя песні народныя спевакі.

[12] Адрозненні ў межах квінтавых напеваў вельмі непрыкметныя, ледзь пазначаныя. Сапраўднымі «рухавікамі» музычнага развіцця яны становяцца ўжо за межамі традыцыйнай квінтавасці.

пэўных сувязей з абрадавым меласам[13] (№ 1). Кароткія лада-інтанацыі ў межах выходнай, квінтавай становяцца сродкам зруху, які замацоўвае то адзін апорны інтанацыйны вузел, то другі. Паяўленне новай апоры — заўсёды штуршок для далейшага разгортвання мелодыі ў межах той ці іншай сістэмы ладавых цэнтраў. Меладычнае прарастанне квінтавай лада-інтанацыі будуецца або шляхам разгойдвання паміж ніжнім (I) і верхнім (V) апорнымі тонамі, якія на аснове развіцця тыпу паўторнасці з дынамічным кантрастам хвалявай будовы замыкаюць рух у непарыўны круг (№ 2, 147),— мадэль A[14], або з дапамогаю расшчаплення верхняга апорнага тону надвое і папераменнага выкарыстання ў якасці верхняй апоры IV і V ступеней (№ 3, 4, 48—53, 90—92, 148—156, 191—197)—мадэль B. Увядзенне IV ступені ў якасці аднаго з цэнтраў меладычнага развіцця вылучае гэты момант формы як дынамічна востры ўнутрыладавы кантраст, выключна важны ў тыпалагічных адносінах і вызначальны для развіцця класаў больш складаных ладавых утварэнняў.

Квінтавая формула ахоплівае звычайна радок ці паўрадкоўе паэтычнага тэксту. Вышыннай формай меладычнай хвалі ў значнай ступені каардынуецца працэс дынамічнага станаўлення. Звычайна ў межах страфы гэта двух-, чатырохстадыйная хваля з больш дробнымі ў сярэдзіне: параўнальна значнай па маштабе сіметрычнай хваляй з адзінай кульмінацыяй і шэрагам меншых, сыходных, што пачынаюцца адразу з верхняй кульмінацыйнай зоны (часам з невялікім прад'ёмам). Вельмі характэрным з'яўляецца доўгае кружэнне дробных хваль у вяршыннай зоне (IV, V ступені) з паскораным зваротам да I. Гукавышынная будова хвалі звычайна адпавядае вершавай структуры, больш зрэдку — нейтралізуе члянение паэтычнага тэксту.

Наступны крок у выкрыцці патэнцыяльных дынамічных магчымасцей, закладзеных у квінтавай лада-інтанацыі, — супастаўленне ступеней тэрцовага рада (I—III) у выпадку, калі III ступень набывае значэнне самастойнага, рухаючага інтанацыйнае развіццё апорнага тону, які процістаўляецца I — мадэль C (№ 5—9, 54—59, 93—96, 157—163, 198—201, 230—232). Гэты стэрэатып разгортвання квінтавых мелодый таксама важны і выходны для некаторых складаных састаўных форм. Звычайна на тым ці іншым участку станаўлення страфічных напеваў гэтага класа ў ме-

---

[13] З. Эвальд лічыць квінтавыя лады (менавіта квінтавыя!) бясспрэчным вынікам трансфармацыі абрадавай «вытворча-шлюбнай» формулы



ў лірычную, адзначаючы, што калі ў абрадавых песнях яна «выступае ў сваёй найбольш тыповай форме, дык у пазаабрадавай сямейна-лірычнай песні некалькі відазмяняецца ў бок больш свабоднай варыятыўнасці» (Заметки о песенных стилях белорусского Полесья, с. 36, 37).

[14] Розныя тыпы лада-інтанацыйнага станаўлення, характэрныя для лірычнай песні, пазначаем як «мадэль A», «мадэль B» і г. д.

ладычны рух уцягваецца IV ступень (уплыў мадэлі B трансфармуе тыпавую ў CB [15]). У напевах з пераменнасцю тэрцовых сфер прыкметна ўзрастае роля дынамічнага супастаўлення розпавышынных хваль — таксама значнага фактару маштабнага развіцця складаналадавых песенных структур.

Наступную лада-інтанацыйную падсістэму ўтвараюць квартавыя і квінтавыя напевы з пераменнасцю ніжняга апорнага тону I — 2 [16]— мадэль D, якая фарміруе самы значны пакуль што па ступені кантрастнасці апорны вузел (№ 10—16, 60, 61, 97—104, 202, 204, 233—235). Інтанацыйнае развіццё выходзіць тут за межы вызначальнай для лірыкі квінтавасці. Парушэнне лада-меладычнай раўнавагі гэтым лада-інтанацыйным зрухам звычайна сіметрычна падзяляе 2- ці 4-вершавую страфічную кампазіцыю. Як і ў папярэдніх групах, побач з асноўнай (D), якая размясцілася ў «водараздзеле» формы, на іншых участках дзейнічаюць традыцыйныя ладавыя мадэлі A, B, C [17] і інш.

Дынамічнае развіццё характэрных секставых лірычных напеваў сваёй крыніцай мае квінтавыя напевы. Апяванне верхняга апорнага тону квінтавых (ускладненне мадэлі A) можа застацца ледзь пазначаным, аднойчы акрэсленым або стаць тыпалагічна значным і ўтварыць самастойную секставую ладавую канструкцыю—мадэль E (EA). Зыходным момантам развіцця іншай часткі секставых мелодый з'яўляецца меншае ці большае развіццё сферы IV ступені (зыходная мадэль B), якое набывае вызначальнае значэнне ў межах мадэлі E (EB) (№ 17—26, 62—77, 105—120, 164—176, 205—223, 236—241). Секставы тон уцягваецца ў меладычнае развіццё спачатку ў якасці пашырэння сферы IV ступені, потым набывае самастойнае значэнне і ў сваю чаргу можа вольна апявацца верхнімі тонамі. У меладычнае разгортванне секставых напеваў дадаткова можа ўключацца таксама пераменнасць I — 2. Істотным адрозненнем напеваў пагранічных класаў E і G з'яўляецца адсутнасць прыкметнай падзеленасці на два састаўляючыя інтанацыйныя ланцугі — у сферы 4-й і I ступеней, што вызначае напевы менавіта G, а таксама большая пашыранасць ва ўзыходным руху сферы I ступені для напеваў гэтай мадэлі.

---

[15] Аб'яднанне нават двух першасных лада-інтанацыйных стэрэатыпаў стварае нешта новае, трэцяе, што змяшчае ў сабе і якасці састаўляючых, і разам з тым новыя ўласцівасці, якія характарызуюць толькі гэту трэцюю сістэму. Нават сам парадак, паслядоўнасць ладавых кампанентаў аказвае ўздзеянне на ладавы стэрэатып. Не толькі кампаненты, але і іх узаемаразмяшчэнне вызначае спецыфіку сістэмы.

[16] Ступені гукарада, што размешчаны вышэй ніжняга апорнага тону (I), пазначаем рымскімі цыфрамі, ніжэй — у напрамку аддаленасці ад I — арабскімі.

[17] Трэба адзначыць прынцыповую блізкасць песень, пазначаных аднымі і тымі ж літарамі ў розным парадку: EB—BE; BC—CB і г. д. Усё залежыць ад пераважнай ступені ўздзеяння той ці іншай мадэлі на меладычнае разгортванне.

Напевы ў амбітусе септымы маюць звычайна падпарадкаванае ў адносінах да квінтавых (мадэль A) значэнне. VII ступень іх амаль заўсёды — апяванне квінтавага тону, таму мы далучаем гэтыя напевы да напеваў класа EA.

Наступны ладавы стэрэатып — F (№ 27—29, 78—82, 121, 177, 178, 242) будуецца шляхам ускладнення традыцыйных квінтавых напеваў, расшчаплення ніжняга апорнага тону надвое і сцвярджэння ў якасці ладамеладычнага кантрасту формы II ступені — разнавіднасць FA. Увядзенне II ступені ў сістэму ладавых цэнтраў можа вынікаць таксама з развіцця сферы IV ступені — разнавіднасць FB. Трэба адзначыць прынцыповую блізкасць мадэлі FA да традыцыйнага лада-інтанацыйнага стэрэатыпу D (з адхіленнем I — 2), у якім функцыі кадэнцыйнага тону выконвае 2-я ступень.

Для лада-інтанацыйнай мадэлі G (№ 30—33, 83—87, 122—137, 179, 180, 224, 243) характэрна інтанацыйнае ўзмацненне значнасці субквартавай сферы, якая ў зачаткавым выглядзе шырока вядома па квінтавых лірычных напевах. Напевы тыпу G вызначае выразнае адхіленне або завершаная меладычная мадуляцыя ў 4-ю ступень як кантрастны момант формы. Прычым калі ў першай з названых разнавіднасцей ладавае развіццё вынікае са счаплення двух квінтавых інтанацыйных ланцугоў (другі можа апявацца секстаю) праз агульны тон, якім звычайна становіцца II ступень зыходнага (яна ж V — вытворнага), дык другая, захоўваючы нязменным момант інтанацыйнага зрушэння, «адштурхоўваючыся» ад II ступені, з усёй відавочнасцю дэманструе дзеянне прынцыпу адвольнага размяшчэння інтанацыйных ланцугоў у межах страфы. Калі ў дынаміцы агульнай кампазіцыйнай структуры інтанацыйны ланцужок з 4-й ступенню ў якасці ніжняй апоры для песень першай разнавіднасці набывае значэнне моманту развіцця, кантрастнага процідастаўлення, дык для песень з меладычнай мадуляцыяй у 4-ю — гэта падагульняючы этап развіцця, этап згортвання руху, тармажэння.

Трэба звярнуць увагу на безумоўнае інтанацыйнае перакрыжоўванне мадэлей B і G, калі трактаваць першую з названых як вынік гранічнага адасаблення сферы IV ступені, што набывае значэнне першапачатковага, экспазіцыйнага, а не больш прывычнага моманту развіцця, прасоўвання формы (параўноўваем B з першай разнавіднасцю мадэлі G — з адхіленнем). Мадуляцыйная ж разнавіднасць цалкам тоесная развітай мадэлі B, разамкнутай ва ўзыходным руху да EB.

Наступны, дастаткова складаны лада-інтанацыйны стэрэатып H (№ 34, 35, 88, 138, 139, 181) утвараюць напевы з адхіленнем ці мадуляцыяй у сферу 5-й ступені. Пачатковыя раздзелы страфічнай кампазіцыі песень гэтай групы амаль што тоесныя роднасным ладавым мадэлям D і F (I D=II F). У сваім далейшым разгортванні напевы з меладычным адхіленнем у 5-ю ступень зноў-такі пашыраюць магчымасці інтанацыйнай з'явы, у аснове якой — развіццё сферы IV ступені (першапачат-

ковае В). У № 34 — гэта разгортванне апорных тонаў па ланцугу ўзыходных кварт: зрушэнне верхняга апорнага тону ў IV ступень стано-віцца штуршком да яшчэ аднаго, зараз ужо непадрыхтаванага інтанацый-нага кроку, I ступенню якога аказваецца папярэдні квартавы тон. Аднак інтанацыйная аснова гэтай з'явы — паўтарэнне — ужо на вышынным уз-роўні IV ступені секундавай пераменнасці (I — 2; I—II), якая ляжыць, як адзначалася вышэй, у пачатковым раздзеле страфічнай кампазіцыі песень гэтай групы, затым — шлях вяртання па тых самых лада-інтанацыйных вузлах.

У напевах з мадуляцыяй у 5-ю ступень (№ 35) агульным тонам двух счэпленых інтанацыйных ланцугоў становіцца верхні з секундава-пераменных апорных тонаў пачатковага. Ад яго будуецца квінтавы (з верхняй септымай апяваннем) інтанацыйны ход у сыходным руху, значнасць якога падкрэсліваецца літаральным паўторам усяго інтанацыйнага ходу:



Не выключаны невялікія адрознeнні канкрэтных тыпаў суаднясення лада-інтанацыйных ланцугоў, якія ўзаемапранікаюць адзін у другі, але зыходны прынцып застаецца нязменным.

Мадэль I (№ 36—45, 89, 140, 182—185, 225—227, 244—253) — свайго роду пераасэнсаванне на новым узроўні лада-інтанацыйнага стэрэа-тыпу С (развітае супастаўленне ступеней тэрцовага рада: I—III). Часам гэта зыходная мадэль счэпліваецца з ладавым стэрэатыпам Е (самастойная секставасць). Але вызначае песні групы I менавіта тэрцовая лада-інтана-цыйная пераменнасць. Секставасць можа падкрэслівацца двайка — як вы творная V і IV ступеней (№ 36—40)[18]. У напевах лада-інтанацыйнай мадэлі I нярэдка строга вызначана паслядоўнасць лада-інтанацыйных ад-хіленняў: I—VI—III—I (№ 41, 42). У гэты ланцуг можа ўкліньвацца развітае меладычнае адхіленне ў сферу IV (№ 38). Кампазіцыйнае станаў-ленне меластрафы можа ўзбагачацца таксама выключна важным з пункту погляду крытэрыяў кантраснасці адхіленнем у II ступень (№ 43, 44) — інтанацыйнае развіццё зноў узбагачаецца традыцыйным шляхам. Харак-тэрным інтанацыйным зрушэннем, штуршком да далейшага развіцця можа стаць таксама дынамічнае перамяшчэнне ніжняга апорнага тону ў 2-ю ступень (№ 45).

Вузкааб'ёмныя лады (тэрцовы з субквартай — № 47, 124, 126, 189, 190, 234) звычайна дапасаваны да тыпавых абрадавых напеваў і не з'яўля-юцца вызначальнымі для традыцыйных песень з сямейна-бытавымі сюжэтамі.

«Скочныя» песні пададзены пад № 46, 141—146, 186—188, 228, 229.

---

[18] Песні гэтай групы блізкія інтанацыйна да песень класа ЕС, аднак у апош-ніх звычайна супастаўляюцца менш разгорнутыя па амбітусе пласты.

Як адну з рэгіянальных асаблівасцей Магілёўшчыны і Віцебшчыны трэба адзначыць жорсткую абмежаванасць першаснымі тыпамі інтанацыйнага разгортвання, пераважную квартавасць выходных інтанацыйных стэрэатыпаў Магілёўшчыны, перакрыжоўванне першасных трыхордава-тэтрахордавых структур у спалучэнні з выключнай развітасцю субквартавай сферы як характэрную рысу песеннай традыцыі Віцебшчыны. Дамінуючы клас напеваў з сямейна-бытавымі сюжэтамі Міншчыны і Гродзеншчыны — Е з істотным для Гродзеншчыны выпростваннем мелодый у адзіны дыятанічны сяміступенны ланцуг. Рэгіянальная спецыфіка песень Брэстчыны — вольнае, адметнае пашырэнне верхняй мяжы выходнай лада-інтанацыі. Традыцыйныя напевы класа В атрымліваюць тут як у шматгалоссі, так і ў сольнай традыцыі выгляд ЕВ, С — ЕС, І. На Гомельшчыне адзначаныя лада-інтанацыйныя стэрэатыпы захаваліся ў найбольш чыстым выглядзе.

Калі параўнаць песні па сюжэтным прынцыпе, то трэба адзначыць, што побач з блізкімі рытмічна, але ў рознай ступені развітымі ў лада-інтанацыйных адносінах (№ 15, 29, 72; 16, 83, 116; 36, 93, 185; 37, 89, 227, 247; 73, 168; 74, 171, 191, 218, 219; 79, 252; 58, 161, 166, 167) — тоеснымі застаюцца толькі некаторыя песні складаналадавай будовы — існуюць даволі далёкія рэдакцыі аднаго сюжэта (№ 3, 43, 44, 55, 202; 10, 11, 47, 61, 130, 194; 20, 78, 120, 184, 206; 31, 209).

Матэрыял беларускіх песень з сямейна-бытавымі сюжэтамі наскрозь пранізаны бясконцымі каналамі прамых і адваротных сувязей. У цэлым сюжэтны прынцып менш сістэматызуе музычны матэрыял у параўнанні з ладавымі прыкметамі. Беларуская сямейна-абрадавая песня ў значна большай ступені павязана з каляндарным і сямейна-абрадавым цыкламі, чым любы іншы падраздзел лірычных пазаабрадавых песень. Гэта важны пераходны масток ад абрадавай у пазаабрадавую песенную традыцыю.

Спецыяльных даследаванняў па сямейна-бытавой лірычнай песні ў межах Беларусі ці асобных яе рэгіёнаў пакуль што няма. Публікацыі асобных вялікіх раздзелаў беларускіх песень аб жаночай долі, недабранай пары, сіроцкіх Р. Р. Шырмам у другім томе «Беларускіх народных песень», а таксама раздзела «Сямейна-бытавыя і баладныя песні» ў «Анталогіі беларускай народнай песні», складзенай Г. І. Цітовічам [19],— пакуль усё, што зроблена ў гэтым напрамку.

Музычная частка гэтага тома ўключае 253 мелодыі песень з сямейна-бытавымі сюжэтамі, запісаных у экспедыцыях супрацоўнікамі ІМЭФ АН БССР за апошнія 10 гадоў і публікуемых упершыню. Размеркаванне матэрыялу па абласцях адлюстроўвае дзве ўзаемазвязаныя тэндэнцыі: паступовае накапленне рэгіянальных асаблівасцей і замкнёнасць у адзіным коле агульнабеларускай песеннай культуры. Нумары нотных прыкладаў даюцца справа, нумары адпаведных тэкстаў — злева.

---

[19] Беларускія народныя песні / Зап. Р. Шырмы.— Мн., 1960, т. ІІ; Анталогія беларускай народнай песні / Уклад., прадм. і кам. Г. Цітовіча.— М., 1975.

Усе расшыфроўкі песень зроблены аўтарам артыкула. Тактавая рыска выкарыстоўваецца ў нотных транскрыпцыях у якасці ўмоўнага знака, які ўказвае на сілавы, экспіратарны акцэнт. Рытмічную перыядызацыю квантытатыўных напеваў паказвае рыска ў выглядзе тактавай — пункцір. Тактарытмічнай сістэмы ў беларускіх песнях сямейнай лірыкі няма. Вызначае ўмоўны метр песні страфічная будова паэтычнага тэксту. Таму мы палічылі магчымым апусціць абазначэнні колькасці рытмічных долей, роўных працягласці верша ці паўверша. У напевах расстаўлены толькі тыя ключавыя знакі, якія сустракаюцца ў данай мелодыі на ўзроўні яе дыяпазону. Павышэнне, меншае за паўтон, абазначана стрэлкай уверх ↑, аналагічнае паніжэнне — стрэлкай уніз ↓. Глісандаваныя канчаткі гуку адзначаны двайною лігаю . Гук прыблізнай вышыні — нотным знакам .

Гучанне актаваю ніжэй адзначана ключавымі знакамі  .

*Г. В. ТАУЛАЙ*

# У НЯРОДНАЙ СЯМ'І

## 1. ЭЙ! ШТО ГУЛЯЙ, ГУЛЯЙ, ДОНЕЧКА *

Эй! Што гуляй, гуляй, донечка,
Весялі галовачку.

Эй! Што будзе табе, донечка,
Будзе тры заботачкі.

Эй! Што першая заботачка —
Чужая староначка.

Эй! Што другая заботачка —
Ліхая свякровачка.

Эй! Што трэццяя заботачка —
Малое дзіцятачка.

Эй! Што на чужой жа староначцы
Трэба прывыкаць будзе.

Эй! Што ліхой жа свякровачцы
Трэба паважаць будзе.

Эй! Што малае дзіцятачка
Трэба калыхаць будзе.

## 2. НА ГАРОДЗЕ НА ХОЛАДЗЕ

На гародзе на холадзе
Стаяў калодзезь поўны вады.
Мая мамка ваду брала
З маленькімі вядзерцамі,
Да й тых поўных не набрала.

* Да тэкстаў, пазначаных зорачкай, у музычнай частцы тома пададзены напевы.

Устаўшы, слёзкамі далівала,
Даліваючы, гаварыла:
— Расціла дзіця не год, не два,
Вырасціўшы, у людзі аддала —
Чужому бацьку работніца,
А мне пад старасць сухотніца.
Людзі будуць пасылаці,
А мне на старасць гараваці.

### 3. БЫВАЙЦЕ ЗДАРОВЫ

Бывайце здаровы,
Тутэйшы парогі,
Кудою хадзілі
Мае белы ногі.

Кудою хадзілі,
Не будуць хадзіці,
Каго я любіла,
Не буду любіці.

Каго я любіла,
Стаіць за плячыма,
Каго знаць не знала,
Той перад ачыма.

Каго я любіла,
Той паплыў з вадою,
Каго знаць не знала,
Астаўся са мною.

Як мы любіліся,
Нас маці не знала,
Цяпер разышліся,
Як цёмная хмара.

Хмара разыйдзецца —
І дажджу не будзе,
З нашага кахання
Нічога не будзе.

З нашага кахання
Ні славы, ні ўжытку,
Вочкам няма спання,
Ножкам адпачынку.

## 4. БЫВАЙЦЕ ЗДАРОВЫ, ДА БАЦЬКАВЫ ПАРОГІ *

Бывайце здаровы, да бацькавы парогі,
Кудою хадзілі мае белыя ногі.

А кудою хадзілі, хадзіці не будуць,
Ой, каго й любіла, любіці не буду.

Ой, каго не знала, да з тым у пары стала.
Ох вы, суседачкі, вы ж, добрыя людзі,

Ох вы, суседачкі, вы, добрыя людзі,
Памінайце ж мяне добрымі словамі,

Памінайце ж мяне добрымі словамі.
Ох, дзе той хлопчык дзеўся з чорнымі бровамі?

А ці ён утапіўся, ці з коніка ўбіўся,
Ці ў салдаты ўзялі да нам не сказалі?

## 5. ЯК ПАЙДУ [redacted] Ў КРЫНІЦУ

Як пайду я ў крыніцу
Чэрпаці вадзіцу,
Доля ж мая няшчасная!
Палын, палын, палыночак,
Палын — горкая трава,
Хто ідзець — палын ірвець,
Палын — горкая трава.[1]

Як сябе абачу,
Горанька заплачу,
Доля ж мая няшчасная!

Цела ж маё, цела,
Як папера, бела,
Доля ж мая няшчасная!

Вочкі ж мае, вочкі,
Як у сакалочкі,
Доля ж мая няшчасная!

---

[1] Чатыры апошнія радкі паўтараюцца як прыпеў пасля кожнай страфы.

Як я падрастала,
Горачка не знала,
Доля ж мая няшчасная!

Падрасці не далі,
Замуж аддавалі,
Доля ж мая няшчасная!

Вяселле зрабілі,
Мяне загубілі,
Доля ж мая няшчасная!

## 6. ОЙ, КУДРАВА БЯРОЗАНЬКА

— Ой, кудрава бярозанька,
Чаму не гарыш, а курышся?
Маладая маладзіца,
Чаму не робіш, а журышся?
— Каб я была сухенькая —
Я б гарэла, не курылася,
Каб мне жыці было добра —
Я рабіла б, не журылася.
Ой, у полі тарпавіна,
Вецер воду разганяе,
Маладая маладзіца
Сваю долю праклінае:
— Ой, ліхая мая доля,
Найлішэйша мая маці:
За каго я не хацела,
Мусіла мяне аддаці.
Як была я дома дзеўкай —
Ішлі да мяне з гарэлкай,
А цяпер я маладзіца —
Не йдуць нават і з вадзіцай.

## 7. ТАМ НА СТАВУ, НА СТАВОЧКУ

Там на ставу, на ставочку
Плывуць гусі ў радочку.
Гэй, гэй, доля мая,
Чаму ж ты з вадою не сплыла? [1]

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Мая маці бедна жыла,
Мне пасагу не злажыла.

Ці то кумаў такіх бралі —
Шчасця, долі не жадалі.

## 8. ОЙ, КАЛІСЬ [redacted] БЫЛА

Ой, калісь я была
Красна і прыгожа,
Як на весні
Чырвоная рожа.

Ў сарочаньцы беленькай
Пры даліне міленькай
Скакала я, гуляла я,
Бо гора не знала.

Як выйду я на вуланьку,
Усе хлопчыкі мяне знаюць,
Знаюць і кахаюць
І ў дружынаньку просяць,
Мяне, маладую,
На ручаньках носяць.

І хлопчыкі, панічыкі,
На мяне маргаюць,
А ўсё ж мне гасцінчыкаў
Харошых шукаюць.

Пярсцёначкаў залоценькіх,
Каснічкоў красненькіх,
Штоб я толькі пагуляла,
З імі размаўляла.

А цяпер мае шчасце
Пашло ўсё з вадою,
Пашло ўсё з вадою,
З маёю даленькою.

Як зязюля на весні,
Схіліўшы галаванньку,
Спявае, прыплаквае
На сваю доленьку.

Спявае, прыплаквае,
Пары не маючы,
Ой, пайду я па лясочку,
Сябе гукаючы.

Буду гукаць, буду спяваць,
Ручкі заламаўшы,
Бо і маці плача мая,
Замуж мя аддаўшы:

— Нашто жа я, донька мая,
Цябе ўрадзіла,
Ох, што табе, маладзенькай,
Зла доля паспела.

На весні кукуе
Зязюля ў садочку,
Адбілася я, маладзенька,
Ад сваго радочку.

Доля маёй маладосці
З сонцам уляцела,
А к няшчасцю, ліхой долі
Сама я паспела.

## 9. ОЙ, ПУШЧУ Я ПАЖАР

Ой, пушчу я пажар,
Пажар па даліне,
Няхай гарэць горы,
Горы і даліны.

Няхай ідуць дымы
На маю старонку:
На маёй старонцы
Ацец, родна маці.

Ой, у маёй мамкі
Піражочкі мяккі,
У маёй жа горкай долі
Няма хлеба-солі.

У маёй жа маладосці
Хлеба да скупосці,
Ой, пазаву к сабе
Родну мамку ў госці.

— Не ўпавай жа, мая мамка,
Што я ў цябе адна,
Ідзі мяне, ўтапі мяне,
Дзе крыніца без дна.

Не ўпавай жа, мая мамка,
Што высокага росту,
Ідзі мяне, ўтапі мяне
З высокага мосту.

## 10. ОЙ, ПАЙДУ [redacted] У ЛЕС ПА ДРОВЫ

Ой, пайду я ў лес па дровы
Да й набяру лому,
Занёс мяне дурны розум
Ў чужую старону.

Ой, пайду я ў лес па дровы
Да й набяру хмызу,
За дробнымі слязінкамі
Свету я не віжу,

Бо ў чужой старонцы
Ні атца, ні мамкі,
Толькі ў саду зяляному
Пяюць салавейкі.

## 11. БЫЛА У МАЦЕРЫ АДНАЯ ДАЧКА

Была ў мацеры адная дачка,
Была ў мацеры адная дачка,

Была яна ды красівая,
Яе доля нешчаслівая.

Ой, у горы яна, ў горы расла,
Ой, у горы яна замуж пайшла.

Яна думала, палегчае
І работанькі паменшае,

Ажно замужам пагоршала
І работанькі пабольшала.

Што свёкарка, то не родны айцец,
Што свякруха, то не маманька,

Што дзверыкі не брацікі,
Што заловушкі не сёструшкі,

Што заловушкі не сёструшкі:
Самі селі ды вячэраці,

Ой, [redacted] мяне, маладу, маладу,
Пасылаюць за Дунай па ваду.

За Дунаем там і маці мая,
Кліча мяне вячэраці.

Ой, даўно я ела сухі хлеб,
А ўсё ела хлеб з калінкаю,

А ўсё ела хлеб з калінкаю,
Праганяла ўсё слязінкаю!

— Чаго, дочка, так адказала,
Маё сэрца не ўспакоіла,

Ой, цяпер жа я ўсю ноч не спацім,
А ўсё буду аб дачцы думаці.

## 12. ЦІ У ПОЛІ, ЦІ У ПОЛІ НЕ КАЛІНКА РАСЛА?

Ці ў полі, ці ў полі не калінка расла?
Ці ў полі, ці ў полі не чырвоная была?
Яе ўзялі паламалі ды ў пучочкі павязалі,
Мусіць, трэба было, мусіць, трэба было!

Ці ў лузе, ці ў лузе не травінка расла?
Ці ў лузе, ці ў лузе не зялёная была?
Яе ўзялі пакасілі ды ў стажочкі палажылі,
Мусіць, трэба было, мусіць, трэба было!

Ці я ў мамкі, ці я ў мамкі не дачушка была?
Ці я ў мамкі, ці я ў мамкі не прыгожая была?
Мяне ўзялі замуж 'ддалі, свет навекі завязалі,
Така доля мая, така доля мая!

Ой, у полі, ой, у полі ды не рэчка цякла,
Ой, у полі, ой, у полі ды не быстрая цякла,
Былі рэчкі — паўсыхалі, харошыя — паўміралі,
Така доля мая, така доля мая!

## 13. ЧЫРВОНАЯ КАЛІНАЧКА

Чырвоная каліначка [1]
На зялён луг схілілася.

Я, малада, журылася,
Што ад роду адбілася.

Ой, ад роду, ад радочку,
Цяжка мне жыць сіраточкай.

Цяжка жыці, цяжка быці
На чужыне маладзіцы.

Цяжка саду без зязюлі,
Мне ж цяжэле без матулі.

Цяжка рыбцы без вадзіцы,
Мне ж цяжэле без сястрыцы.

Цяжка дрэўцу без лісточка,
Мне ж цяжэле без браточка.

Ой, пайду я, гукаючы,
Сваёй долі шукаючы.

Адгукнулась мая доля
На тым баку сіня мора.

Ой, пайду я к беражочку
Да к ліповаму кусточку.

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Да вышчыкну па лісточку,
Да напішу па пісьмочку.

Ой, напішу па пісьмочку,
А пашлю я да радочка.

Няхай радня прачытае,
Назад весці прысылае.

## 14. ТЫ, КАЛІНА, ТЫ, МАЛІНА

Ты, каліна, ты, маліна,[1]
Над вадою схілілася.

Над вадою схілілася,
Я, молада, журылас[я].

Я, молада, журылася,
Што ад роду адбілас[я],

Што ад роду, ад радзімы,
Цяжка жыці на чужбін[е].

Цяжка жыці, цяжка быці,
З чужым родам гаварыц[і].

Цяжка саду без зязюлі,
Цяжка дочцы без матул[і].

Ой, пайду я, гукаючы,
Сваёй долі шукаюч[ы].

Адгукнулась мая доля
Каля сіненькага мор[а].

Адпушчу я сваю долю
Та й па сіняму па мор[у].

Плыві, доля, ты з вадою,
А я следам за табо[ю].

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

## 15. ЧЫРВОНАЯ КАЛІНУШКА

— Чырвоная калінушка,[1]
Што над вадою схілілася?

— А я, млада, журылася,
Што ад роду адбілася.

А я выйду за вароты,
А я стану, як сірота,

Буду долю праклінаці:
«Плыві, доля, за вадою!

Плыві, доля, за вадою,
А я, млада, за табою.

Пераплывём мы к беражочку
Да дубовага кусточку,

Вышчыкнем мы па лісточку
Ды напішам па пісьмочку,

Каб радзіма не тужыла,
Ка мне ў госці прыхадзіла».

## 16. РАБІНА, РАБІНАЧКА, РАБІНА МАЯ *

— Рабіна, рабіначка, рабіна мая,
Чаму ты, рабіначка, рана расцвіла? [2]

— Я ў мамы радзілася, я ў мамы расла,
Мама, не падумаўшы, замуж аддала.

Ў дальнюю стараначку, незнаёмую,
Ў вяліку сямеечку, невясёлую.

Дальняя староначка без ветру шуміць,
Нядрдна матуленька без віны крычыць.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца.
[2] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Каб(ы) я была пташачкай, шызай зязюляй,
Паляцела б к мамен(ы)кі, к мамен(ы)кі сваёй.

Заляцела б, села ў вішнёвым саду,
Заспявала б песеньку жаласну сваю.

Я й думала, думала, што маменька спіць,
Адно ж мая маменька да ў сенях стаіць.

Ой, будзіць нявестачкі, ластаўкі свае:
«Паслухайце птушачку што ў саду пяе.

Ой, калі зязюленька, так ляці у бор,
А як мая дочанька, так зайдзі у дом».

Не пачула дочачка маміных размоў,
Паляцела дочачка аж у цёмны бор.

Чаму табе, дзераўцо, бог лісцёў не даў,
Чаму мне, малодзенькай, бог шчасця не даў.

## 17. А [redacted] ЛЕСАМ АДНА ІШЛА

А я лесам адна ішла,
Я з лесам гаварыла:
— Ты, лясочак мой цёмненькі,
На вецце зялёненькі,
Падымай жа вецце ўгору,
Церабі мне дарогу.
Ты, бяроза, бярозачка,
Ці не сумненька табе,
У цёмным лесе стоячы,
На палянку гледзячы?
Ты, дзяўчына, дзяўчыначка,
Ці не цяжанька табе,
У чужой сям'і жывучы,
Па падружках тужачы?

## 18. АДДАЛА МЯНЕ МАЯ МАМАЧКА

Аддала мяне мая мамачка
Так замуж далёка.
А як аддала, так і забыла:
Думала, не жаль будзіць.

Пайду, молада, у роўна поле
Тры горкі капаці.
Як выкапала тры горачкі,
Села аддыхаці.
Ляцеў сокал праз брацяткаў двор,
Ножкі падагнуўшы.
Ножкі падагнуў, скрылле апусціў,
Знаць, яму маркотненька,
Як мне, маладзе, беднай сіраце,
У чужой старонцы.
Суляціцеся, дробны пташачкі,
Да ў луг на каліну,
Развесяліце мяне, маладу,
На чужой ускраіне.
Суляцеліся дробны пташачкі
У луг на каліну,
А запелі, зашчабяталі
І на свой куст палі.
А мне, маладзе, беднай сіраце,
Болей жалю далі.

## 19. СТАРОНКА МАЯ, ДА СТАРОНАЧКА

Старонка мая, да старонaчка,[1]
Не магу я цябе да забыці —
Ні ноччу сплючы, ні ўдзень ходзячы.
А як лягу спаць, я не высплюся,
Удзень ходзячы, не размыслюся.

## 20. МІЖЫ ГОР БЯРОЗА

Міжы гор бяроза
Зялёна стаяла,
Стаяла, буяла.
Ох, на той бярозе
Зязюля кукуець,
Не ўсю праўду кажыць.
Салавей шчабечыць,
Да й ўсю праўду кажыць,
Што не быць калінцы
Саладзей малінкі,

[1] Кожны радок паўтараецца.

Што не быць свёкарку,
Як роднаму татку,
Што не быць свякроўцы,
Як роднай матульцы,
Што не быць дзевярку,
Як роднаму брацітку,
Што не быць залвіцы,
Як роднай сястрыцы.

## 21. БЕЛАЯ БЯРОЗА МІЖ ГОР СТАЯЛА

Белая бяроза між гор стаяла,
А на той бярозе салавейка пяець,
Салавейка пяець, а мне жалю надаець.
— Ляці, салавейка, дзе мая мамка жывець.
А скажы, раскажы маёй мамачцы,
Што я з сваім мужам не ў любасці жыву.
Ўжо мая пасцеленька, як лёд, сцюдзяненька,
Ўжо мае падушачкі параскіданы,
Свякроўка-змяёўка ў нагах сядзіць,
У нагах сядзіць, мяне біць вяліць.
Залвіца-сястрыца пужачку адбірае:
— А не бі ж, браток, а не бі ж яе:
Усё гэта будзе мне на чужой старане.

## 22. ОЙ, ЖУРАУКА, ЖУРАУКА

— Ой, жураўка, жураўка,
Чаго грачыш так жалка?
— Ой, як жа мне не гракаць?
Трэба высока лятаць.
Ой, высока, высока
Клён-дзераўца ад вады.
Ой, далёка, далёка
Ад радзімай стараны.
Адбілася ад роду,
Як бел камень у воду.
Упаў камень дый ляжыць,
На чужбіне цяжка жыць.
Не дай божа захварэць —
Некаму і пажалець.
Не дай божа паміраць —

Некаму і пахавяць.
Пахавае чужына,
Не будзе знаць радзіма,
Толькі тады ўспамянуць,
Як вячэраць пасядуць:
Будзе лішня ложачка —
На чужбіне дочачка,
Будзе лішні кусочак —
На чужбіне сыночак.

## 23. СЯЛО МАЁ, СЯЛО НОВАЕ

Сяло маё, сяло новае,
Сяло маё ды кляновае.
А ў том сяле цякла рэчачка,
А ў том сяле цякла быстрая,
А ў той рэчцы вада чыстая.
Там дзяўчыначка ўмывалася,
Ліцу свайму дзівавалася:
— Ліцо маё, ліцо белае,
Лічанька маё прэкраснае,
Лічанька маё да прэкраснае,
Долечка мая да няшчасная.
Ой, я ў горы не радзілася —
Ка мне гора прыкацілася.
Ка мне гора прыкацілася,
Ад мамачкі адлучылася.
Свякровачка да не мамачка,
А я яе не дзіцяначка.
Самі селі да вячэраці,
Мяне выслалі ў Дунай па ваду.
За Дунаем мая мамачка жыве,
За Дунаем мая родная жыве,
Яна мяне да вячэраць пазаве.
— Дзякуй табе, мая мамачка,
Дзякуй табе, мая родная,
Я із дому не галодная.

## 24. ОЙ ТЫ, МІЛЫ МОЙ, ДРУЖЫНА МАЯ

— Ой ты, мілы мой, дружына мая,
Прывёз ты мяне, дзе роду няма.

Дзе роду няма, да ўсё чужына,
Да ўсё чужына, чужа старана.

Нідзе не выйсці, не пагаварыці,
Свайго сэрданька не развесяліці.

— Ах, міла мая, няпраўда твая:
Цераз тры двары — там кума мая.

Сходзі да кумы пагавары,
Сваё сэрданько дый развесялі.

— Я ў кумы была дый гаварыла —
Свайго сэрданька не развесяліла.

А ў тае кумы стаяць тры дубы,
А на тых дубах па тры галубы.

Яны ўсё сядзяць, весялуюцца
Ды з майго жыцця дзівавуюцца.

А маё жыццё, як у полі трава,
Як у полі трава, на траве раса:

Сонейко ўзыдзе — раса ападзе,
Так маё жыццё марно прападзе.

## 25. САЛАВЕЙКА МОЙ, ДРУЖЫНА МАЯ

— Салавейка мой, дружына мая,
Завёз ты мяне, дзе роду няма,
Дзе роду няма, чужая старана.
Нельга мне выйці, пагаварыць,
Сэрданько свайго развесяліць.
— Мілая мая, дружына твая
Цераз улічку ўсю — кума мая.
Пайдзі да кумы да й пагавары,
Сярдэнька сваё ўсё развесялі.
— Я ў кумы была да й гаварыла —
Сэрданька свайго не развесяліла.
У маёй кумы стаіць два дубы,
На тых двох дубах сівыя галубы,
І цалуюцца ўсё і мілуюцца,

Жыцейку майму ўсё дзівуюцца,
Што я тут жыву, што я гарую,
Жыцейка сваё людзям дарую.
Стала жыцейка паніжаціся,
Стала радзіна выракаціся,
Стала жыцейка павышаціся,
Стала радзіна прызнаваціся.

## 26. ПАРАДЗІЛА МЯНЕ МАМА Ў ПРАВАДНУЮ НЯДЗЕЛЮ*

Парадзіла мяне мама ў правадную нядзелю,
Дала жа мне ліху долю, дзе я яе падзену? [1]

Ой, вазьму я ліху долю, павяду прадаваці:
Людзі знаюць, што ліхая, не хочуць купляці.

— Ой, купляйце, людзі, долю, доленька мая добра:
Прыйдзе вечар, цёмна ночка — не начуе ў дом(е).

— Калі доля твая добра, то не зыч ты нікому,
Вазьмі долю на матузік да ступай ты дадому.

Ой, прывяла ліху долю, да не ўспела я ўстаці,
Доля мая ўжо ліхая ды кладзецца спаці.

Ой, прыняла ліху долю, да не ўспела я сесці,
Доля мая ўжо ліхая да й закрычала есці.

— Доля мая ты ліхая, дзе мне цябе падзеці?
Вазьму долю на матузік дый павяду ўтапіцца.

— Ой, хоць жа ты мяне ўтопіш, я не ўтаплюся,
Як ты прыйдзеш хусты мыці — за рукаў я ўхаплюся.

## 27. ЦЯЖКА ТРАВЕ, ЦЯЖКА МУРАВЕ

Цяжка траве, цяжка мураве
Ад зямлі адхадзіці,
А яшчэ цяжэй мне, маладзенькай,
Пры чужой сям'і жыці.
Мяне, маладу, пашлюць па ваду,

[1] Апошні радок кожнай страфы паўтараецца.

Самі сядуць вячэраць.
Гара высока, вада глыбока,
Не скора я вярнуся.
Прынясу вады, на сябе бяды —
Кожнаму піцькі даці:
Падай старому, падай малому
І міламу маладому.
Малому ў кружку, старому ў гаршку,
А міленькаму ў шклянцы.
Малы нагнецца, стары нап'ецца,
А мілы надуецца.
Ой, каб я знала, каб я ведала
Сваю горкую долю,
Пляла б я касу да сівога валасу,
Не йшла б замуж ніколі.

## 28. ЦЯЧЭ РЭЧАНЬКА НЕВЯЛІЧАНЬКА*

Цячэ рэчанька невялічанька —
Скочу, пераскочу,
Ой, аддай мяне, родна мамачка,
За каго я хочу.[1]

Ой, як аддала, прыгавор дала:
Ў госцях не бываці,
Бо як вер(а)нешся, родна дочан(і)ка,
То выганю з хаты.

Жыла годзічак, жыла і другі,
Трэці не сцярпела:
Ператварылася і зязюлькаю —
Да роду ляцела.

Прыляцела ў сад, ў сад зялёненькі,
Стала кукаваці.
Як пачула родна мамачка,
Стала гараваці.

Сядзіць мамачка, сядзіць родная,
Рушнік вышывае,
А малодшы брат на парозе сеў,
Ружжо зараджае:

[1] Два апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца.

— Пазволь, мамачка, пазволь, родная,
Тую зязюльку ўбіці,
Бо яна куе, жалю нам дае,
А нам гора жыці.

— Не пазволю я, сынок родненькі,
Тую зязюльку ўбіці,
Бо той зязюльцы, як маёй дачцы,
На чужбіне жыці.

Цячэ рэчанька невялічанька —
Скочу, пераскочу.
Ой, аддай мяне, родна мамачка,
За каго я хочу.

## 29. ОЙ ТЫ, КАЛІНА*

— Ой ты, каліна, ой ты, чырвона,
Ой, чаго ж ты завяла?
Ці цябе, каліна, ці цябе, чырвона,
Быстра вада заняла?

Ой ты, дзяўчына, ой ты, маладая,
Ой, чаго ж ты змарнела?
Ці цябе матуля, твая маці родна,
На чужыну аддала?

— Ой, на чужыну, чужую старону,
У вялікую сям'ю.
Ой, сям'я сядзе, сядзе вячэраці,
Мяне пашлюць па ваду.

А вады прынёсшы, а вады прынёсшы,
То ўсім піці падаю,
А піці падаўшы, а піці падаўшы,
За вароцечкі пайду.

Ой, гляну я сюды, ой, гляну я туды,
То ўсё крутая гара,
Куды павярнуся, куды пахілюся,
Ўсё чужая старана.

Ой, пакачу я залаты пярсцёнак
Ды па той крутой гарэ:
— Кацíся, пярсцёнак, кацíся, залоты,
Аж да маценькі мае!

Кацíўся пярсцёнак, кацíўся залоты
Аж да маценькі мае.
Ой, ажно прыходзіць мая маці родна
На параду да мяне:

— Ой, вярніся, дзіця, ой, вярніся, родна,
Яшчэ назад да мяне,
То ты пагуляеш, то ты пакрасуеш
Хоць гадочак у мяне.

— Ой, што мне, маценька, ой, што мне, родная,
Што мне ў цябе за краса,
Калі распляцёна, калі расчасана
Мая русая каса!

Ой, калі запляцеш, ой, калі зачэшаш
Русы косанькі мае,
То буду гуляці, буду красаваці
На раскошы ў цябе!

## 30. ОЙ, КАЛІНА-МАЛІНА

Ой, каліна-маліна,
Не стой над вадою.
Не стой над вадою,
Не раўняйся са мною.

Было табе раўняцца,
Як была ў бацькі,
Была ж я бялей цвету,
Прыгажэй той ягоды.

Мая матухна родна,
Як сядзеш палуднаці,
Як сядзеш палуднаці,
Заві сваю дочку.

— Хадзі, мая дочка,
Хадзі палуднаваці.
— Палуднай, мая матухна,
Бо я палуднала.

Сухі хлебец з'ела,
Слязьмі палівала.
Слязьмі палівала,
Долю праклінала.

Каб, мая ж ты доля,
На агні згарэла,
На агні згарэла,
Я б ручкі пагрэла.

## 31. ДЫ БАЛІЦЬ МАЯ СЯРЭДЗІНКА

Ды баліць мая сярэдзінка,
Перабіла яе бярэзінка —

Тонкая, высокая,
Лісцейкам шырокая.

Лісцейкам шырокая,
Карэньмі глыбокая.

Карэньмі глыбокая,
А я родам далёкая.

Ды не шум-шум, хвойка,
Не адной табе горка —

Гарчэй мне, малодачцы,
На чужой старонaчцы:

Хто захоча — наглуміцца,
Да й ніхто не ўступіцца:

Ні брат, ні сястрыца
Да й ні родна матачка.

Да й ні родна матачка
За сваё дзіцятачка.

## 32. КАЛІНА-МАЛІНА

Каліна-маліна
Над ракой стаяла.
Што ж ты, каліна,
Ад сонца завяла?

Ад сонца завяла,
Ад ветру упала,
Маці сваю дочку
За год не узнала.

Ёсць у мяне, маці,
Тры журбы ў хаце:
Што першая журба —
Дзяціна малая,

А другая журба —
Свякруха ліхая,
Што трэцяя журба —
Мой муж памірае.

## 33. КАЛІНА-МАЛІНА

Каліна-маліна
Над ярам стаяла.
Чаго ж ты, каліна,
Ад сонца саўяла? [1]

Чаго ж ты, каліна,
Ад сонца саўяла?
Маці сваю доню
За год не спазнала.

— Доню, мая доню,
Што з табою стала?
Што з табою стала,
Што я не спазнала?

— Маці, мая маці,
Тры журбы спазнала:
Першая журбіна —
Малая дзяціна,

[1] Два апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Другая журбіна —
Свякруха ліхая,
А трэця журбіна —
Мілы пакідае.

— Доню, мая доню,
Няхай пакідае,
Няхай пакідае,
Другое шукае.

## 34. ДУЕ ВЕЦЕР ДЫ ДУЕ-ПАВЯВАЕ

Дуе вецер ды дуе-павявае,
А маці ў доні ды пра жыццё пытае.

Ды пытай, маці, ды шэрыя вуці,
Бо шэрыя вуці на моры начуюць.

Шэрыя вуці на моры начуюць,
Ой, ды яны мае ўсё горушка чуюць.

Перша гора, што дзяціна малая,
А другое гора, што свякроўка ліхая.

А трэцяе гора, што мой мілы гняўлівы,
Дак каго захоча, то мяне прыраўнуе.

Сам ён едзе ў поле гараці,
А мяне бярэ ён ды валы паганяці.

— Нуце, нуце, ды валы крутарогі,
А я накалола свае белы ногі!

Нуце, нуце, ды валы палавыя,
Ой, прапалі мае ды гады маладыя!

## 35. СУДЗІ, БОЖА, НЯДЗЕЛЬКІ ДАЖДАЦІ

Судзі, божа, нядзелькі даждаці,
Так я пойду і к роду гуляці.
Род багаты, будзе частаваці,
Вып'ю чарку, вып'ю я і другую,
За трэцюю стану я прасіцца:

— Ой, род жа мой, калі мне не ўпіцца,
Ой, ёсць у мяне да тры бяды ў хаце:
Перша бяда — свякруха ліхая,
Друга бяда — дзяціна малая,
Трэця бяда — свёкар наравісты.
Ой, пайду я да й да свайго дому,
Паслухаю, што сям'я гаворыць.
Ой, свякруха вячэраньку варыць,
А свёкарка дубіначку парыць,
А мой мілы дзяціну калыша.
— Нашто, татка, дубіначку парыш?
— Гэта, сынку, тваю жонку біці,
Штоб не хадзіла і к роду гуляці.
Трэба ж было бязродную браці,
То б не хадзіла і [redacted] роду гуляці.

## 36. СУДЗІ, БОЖА, НЯДЗЕЛЬКІ ПРЫЖДАЦІ *

Судзі, божа, нядзелькі прыждаці,
Та я пайду да роду гуляць.

А мой радок не вельмі багаты,
Ён не будзе споўна наліваць.

Ён не будзе споўна наліваці,
Я не буду да дна выпіваці.

Я не буду да дна выпіваці,
Ёсць у мяне тры беданькі ў хаце.

Адна бяда — мой мілы журлівы,
На крэслечку сядзіць — дробны лісты піша.

На крэслечку сядзіць — дробны лісты піша,
А нагою дзяціну калыша:

— Люляй, люляй, дзяціна малая,
Хай гуляе маці маладая.

Хай гуляе мая чарнаброва,
Пакуль мая галоўка здарова.

А як мая галоўка схібнецца,
Тады яе гулянне мінецца.

## 37. СУДЗІ Ж(Ы), БОЖА, НЯДЗЕЛЬКІ ДАЖДАЦІ *

Судзі ж(ы), божа, нядзелькі даждаці —
Пайду к роду на ўвесь дзен(і) гуляць.

Пайду ж(ы) к роду на ўвесь дзень гуляці,
Род багаты будзе частаваць.

Род мой любы, не пой мяне п'яну,
Бо мне трэба йці дадому ран...

Бо мне трэба йці дадому рана,
Мяне ў доме да тры беды ў хац...

Перва ж бяда — свёкар наравісты,
Друга бяда — свякруха ліхай...

Друга ж бяда — свякруха ліхая,
Трэцця бяда — дзеткі мае мал...

Падыйду ж(ы) я пад новыя сені,
Паслухаю, што сям'я гавор...

А свякруха хацінaчку топіць,
А ятроўка куры, гусі мань...

А ятроўка куры, гусі маніць,
А свёкарка дубінaчку парыць.

А свёкарка дубінaчку парыць,
А залвіца росу косу чэш...

А залвіца росу косу чэша,
А мой мілы дзяціну й калыш...

А мой мілы дзяціну калыша.
Калыхаўшы, у таткі пытай...

Калыхаўшы, у бацькі пытае:
— Нашто, татка, дубінaчку пар...

Нашто, татка, дубінaчку парыш?
— Пару, сынку, я на тваю жонку.

Пару, сынку, я на тваю жонку.
— Нашто, тата, маю жонку біць?

Нашто, татка, маю жонку біці?
Як памрэ род — не будзе хадзіць.

Як пам(ы)рэ ж(ы) род — не будзе хадзіці
Да не будзе з родам гаварыці.

### 38. ОЙ, ДАЙ, БОЖА *

Ой, дай, божа,
Нядзелькі даждаці,
То я пайду
Да роду гуляці.

А мой радок
Не вельмі багаты,
Ё[illegible] скажа мне
Споўна выпіваці.

Я не буду
Споўна выпіваці,
Бо я маю
Тры беданькі ў хаце:

Адна бяда —
Дзяціна малая,
Друга бяда —
Сама маладая.

— Люляй, люляй,
Дзяціна малая,
Гуляй, гуляй,
Жана маладая,

Бо як мае
Галоўкі не стане,
Бо тады ты
Гуляць перастанеш.

Друга бяда —
Сама маладая,
Трэця бяда —
Свякруха ліхая.

Хоць ліхая —
Вячэраньку варыць,
А свёкарка
Дубінаньку парыць.

А хоць парыць,
То не будзе біці:
Сядзіць мілы —
Будзе бараніці.

Сядзіць мілы,
Дробны лісты піша
І малую
Дзяціну калыша,

Бо як мая
Галоўка схібнецца,
Тады табе
Гулянне мінецца.

## 39. МІЛЕНЬКІ З МІЛОЮ

Міленькі з мілою
Спіць пад пярыною.
— Ці ты спіш, ці не спіш?
Гавары са мною.
— Буду гаварыці,
Свякроў наравіці.
Свякроўка ліхая
Лучынку ламае.
Свёкар яшчэ горшы —
Вачыма сціскае.
Дзевер ваду нясе —
Ўсё вачыма пасе.
Мае залувіцы
Ходзяць, як змяіцы:
Слова не прамовяць,
А ўсё рубам ходзяць.

## 40. ГЫЛЯ, ГУСІ, ШЭРЫ ЛЕБЕДЗІ, ДАМОЎ

Гыля, гусі, шэры лебедзі, дамоў,
Ці ж вы ў моры не наплаваліся?

Ці ж вы ў моры не наплаваліся?
Я ўжо, малада, наплакалася!

Я ўжо, малада, наплакалася,
З айцом, маткай разлучылася.

Гэй вы, дзеўкі, вы, падружкі мае,
Вы прыйдзеце пасядзець у мяне!

Вы прыйдзеце пасядзець у мяне,
Паможаце маёй беднай галаве,

Што я, малада, сыночка зрадзіла,
Палажыла ў цясовую кравáць.

Палажыла ў цясовую кравáць,
А сама пайшла на рыначак гуляць.

## 41. ГЫЛЯ, ГЫЛЯ, БЕЛЫ ГУСІ

Гыля, гыля, белы гусі,
І з поплава на ваду.
Ой, аддала маці дочку
І з раскошы ў бяду.

Гыля, гыля, белы гусі,
На быстрыя рэкі,
І звязалі праву ручку,
Не развяжуць навекі.

Гыля, гыля, белы гусі,
Ужо наплаваліся,
Ужо мае чорны вочы
Да й наплакаліся.

Скрыплівыя вароцечкі,
Як жа я вас адчыню?
Чужы бацька, чужа маці,
Як жа я вам дагаджу?

Скрыплівыя вароцечкі
Намазаўшы адчыню,
Чужому бацьку, чужой матцы,
Рана ўстаўшы, дагаджу.

Ой, выйду я за вароты,
Усё трава зелена.
Сюды гляну, туды гляну —
Усё чужая старана.

Ой, выйду я, маладая,
Стану пры даліне,
Льюцца з мяне дробны слёзы,
Як і з арабіны.

Ой, ціхая бярэзінка
Да ад ветру шуміць,
Чужы бацька, чужа матка
Хоць пагладзіць, то баліць.

Ой, ціхая бярэзінка
Да ад ветру мае,
Чужы бацька, чужа маці
Хоць не б'е, то лае.

Чужы бацька, чужа маці
Яшчэ пахваляецца:
— Добра біці чужэ дзіця:
Не адсварваецца.

## 42. МАЛАДЗІЦА МАЛАДАЯ

Маладзіца маладая
Шэрых гусей праганяла,
Праганяла, прымаўляла:
— Гыля, гыля, шэры гускі,
На сцюдзёную вадзіцу,
На зялёную травіцу.
Прывыкайце, шэры гускі,
Да к сцюдзёненькай вадзіцы,
Да к зялёненькай травіцы.
Я й, малада, прывыкала
І к свёкарку, і к свякроўцы,

І к дзеверку, і к залоўцы.
Я і свёкарку ўгадзіла —
Белы ручанькі памыла.
Я і свякроўцы ўгадзіла —
У печы дроўцы падпаліла.
Я і дзеверку ўгадзіла —
Варанога коніка напаіла.
Я й залоўцы угадзіла —
Русу коску учасала:
А вот, мая заловачка,
Слізка твая галовачка.

## 43. ОЙ, ПЛАВАЛІ ЛЕБЯДЗІ

Ой, плавалі лебядзі
Па ціхаму Дунаю,
Ой, плавалі, плавалі,
Да і наплаваліся.

Ой, як жа той маладзіцы
На чужыне жывучы.
— Ой, свекратку дагаджу —
У галованьцы пагляджу,

А свякроўцы дагаджу —
Пасцель белу пасцялю,
А дзевяру дагаджу —
Сівага каня напаю,

А залвіцы дагаджу —
Русу косу зачашу,
А міламу дагаджу —
Піражкоў напяку.

І мілому не ўгадзіла,
Цераз шабельку скачыла,
Ручку, ножку адцяла,
Сабе бяду зрабіла.

## 44. КАБ Я ТОЕ ГОРА ЗНАЛА

Каб я тое гора знала,
Не йшла б замуж маладая.

А замужам трэба знаці:
Позна легчы, рана ўстаці,

Ўсю дружыну абудзіці,
Дзевяць кароў падаіці,

Дзевяць кароў падаіці,
Дзяжу хлеба замясіці.

Мяшу хлеб я — рукі ў цесце,
Дзіця плача ў калысцы.

Я ручкамі абмахнула,
Свае дзіця скалыхнула.

— Ці ты, мілы, спіш, не чуеш,
Ці сыночка не шкадуеш?

## 45. КАЛЯ РЭЧКІ, КАЛЯ БРОДУ

Каля рэчкі, каля броду
П'юць галубы зімну воду.

Яны пілі, напіліся,
Скрыдэлкамі абняліся.

А ты, дзеўка, ты, дурная,
Не йдзі замуж маладая.

Замуж пайсці — трэба знаці:
Позна легчы, рана ўстаці,

Ўсю сямейку абудзіці,
Дзевяць кароў падаіці,

Дзевяць кароў падаіці,
Дзяжу цеста замясіці.

Хлеб мясіла, рукі ў цесце,
Дзіця плачыць — хоча есці.

Дзевярочак не браточак:
Да дзіцяці — як звярочак.

А залвіца не сястрыца:
Да дзіцяці — як звярыца.

А свякроўка не матуля:
Дзіця плачыць — не прытуліць.

— Ці ты, мужу, спіш, не чуеш:
Дзіця плачыць — не прытуліш?

— А я не сплю і ўсё чую,
Толькі цябе памуштрую.

Каля рэчкі, каля броду
П'юць галубы зімну воду.

## 46. КАБ Я ГЭТА ГОРА ЗНАЛА

Каб я гэта гора знала,
Не йшла б замуж ды гуляла.

Замуж пайсці — трэба знаць:
Позна легчы, рана ўстаць.

Пакуль ў печы выпаліла,
Свіння дзверы выламіла.

Ні прылегчы, ні прысесці,
Трэба мужу есці несці.

А свякроўка не матуля:
Плача дзіця — не прытуля.

Дзевярочак не браточак:
Да дзіцяці — як звярочак.

А залвіца не сястрыца:
Да дзіцяці — як звярыца.

Каб я гэта гора знала,
Не йшла б замуж ды гуляла.

## 47. ЦЕРАЗ ГОРУ СЦЕЖКА БІТА

Цераз гору сцежка біта,
Туды ішла маладзіца.
Сустрэў яе стары дзядок,
Пытаецца: — Куды ідзеш, маладзіца?
— Іду, дзеду, ад свякраткі.
Свёкар кажа: Мядзведзіца,
Свёкра кажа: Пахмурніца!
Мілы кажа: Заляпуха!
Дзевер кажа: Клевятуха!
Зова кажа: Разносчыца!
— Вярніся ж ты, маладзіца,
У цёмным лесе — мядзведзіца,
Пахмурніца — хмарка на небе,
Заляпуха — ягаданька,
Клевятуха — ластаванька,
Разносчыца — мышка ў норцы.

## 48. ПРЫСЛАЛА МАЦІ ГАСЦІНЦА ДЗІЦЯЦІ

Прыслала маці гасцінца дзіцяці —
Сталяную іголачку і нітачку шолачку.
— Вышывай, дзіцятка, як вышывала,
Пахаджай па вуліцы, як пахаджала.
— Ой, маці, маці, так не вышываці,
Маладзе па вуліцы да не пахаджаці;
Іголка гнецца, нітачка рвецца,
Дзявоцкае пагулянне ўсё мінаецца.
Свякратка кажа: волікі гнаць,
А дзевяратка: конікі пасць,
Свякруха кажа: кросна ткаць,
А Ванька кажа: пасцельку слаць
Да лажымося спаць.

## 49. ТОНЕНЬКА ПРАДУ

Тоненька праду,
Спаценькі хачу.
Як пайду я ў каморачку,
Прыкладу я галовачку:
Ой, спіцца мне,
Дрэмлецца мне.
А свёкар ідзе па сенях,

Стучыць, гручыць і гаворыць:
— Спі, шэльма, спі,
Спі, не гадай.
Усё дзела не роблена:
Сыра пшонка не мелена,
Шэры гусі не скублены,
Чорна воўна не прадзена.
Спі, шэльма, спі,
Спі, не гадай.

Тоненька праду,
Спаценькі хачу.
Як пайду я ў каморачку,
Прыкладу я галовачку:
Ой, спіцца мне,
Дрэмлецца мне.
А свякруха йдзе па сенях,
Стучыць, гручыць і гаворыць:
— Спі, шэльма, спі,
Спі, не гадай.
Усё дзела не роблена,
Сыра пшонка не мелена,
Шэры гусі не скублены,
Чорна воўна не прадзена.
Спі, шэльма, спі,
Спі, не гадай.

Тоненька праду,
Спаценькі хачу.
Як пайду я ў каморачку,
Прысланю я галовачку:
Ой, спіцца мне,
Дрэмлецца мне.
Мой мілы па сенях ідзе
Паціхеньку, памалюсеньку:
— Спі, жонка, спі,
Спі, малада.
Усё дзела параблена:
Сыра пшонка памелена,
Шэры гусі паскублены,
Чорна воўна папрадзена.
Спі, жонка, спі,
Спі, малада.

## 50. ХАДЗІЎ ЧЫЖЫК ПА ВУЛІЦЫ

Хадзіў чыжык па вуліцы,
Клікаў дзевак на вуліцу:
— Йдзіце, дзеўкі, на вуліцу,
Вам, дзевачкі, ваша воля.
Вам, дзевачкі, ваша воля —
Маладзіцы няма волі.
Маладзіцы няма волі:
Свякроў клічыць гаршкі мыці,
Свякроў клічыць гаршкі мыці,
А свёкарка разуваці,
А залвіца касу плесці,
А дзеверка каня весці.
Я свякроўцы гаршкі мыла,
А свёкарку разувала,
А залвіцы касу пляла,
А дзеверку каня вяла.
Мало дзіця ў калыбелі,
А ліхі муж на пасцелі.
Мало дзіця прыкалышу,
Ліха мужа перапрашу.

## 51. У НЯДЗЕЛЮ РАНО

У нядзелю рано
Ды пад зарыною
Спіць мілы з мілою
Ды пад пярыною.
— Ці ты, мілы, спіш,
Ці ты так ляжыш?
Калі мяне любіш,
Гавары са мною,
Навучы, як жыці,
Сям'і наравіці.
Свякроўка ж ліхая —
Лучыну ламае,
Свёкар яшчэ худшы —
Ачыма сціскае,
Дзевер воду нясе
І ачыма пасе,
Малада залоўка
Да ўсё натраўляе:

— Уставай, нявехна,
Бадай ты не ўстала,
Пайдзі выгань стаду,
Што ад бацька прыгнала.
— Каб я стаду мела,
Тут бы не сядзела,
А пайшла б за такога,
За каго б хацела.

## 52. АДДАЛА МЯНЕ МАЦІ

Аддала мяне маці
У вялікую сям'ю.
Ох, ці мне, ох, лю-лі,
У вялікую сям'ю.[1]
Толькі свёкар да свякруха,
Да чатыры дзевяра,
Да дзве залвіцы,
Да тры цётачкі.
Свёкар гаворыць:
— Нам мядзведзіцу вязуць.
А свякруха гаворыць:
— Лютаедніцу вязуць.
А дзеверы гавораць:
— Нам няўдаліцу вязуць.
А залвіцы гавораць:
— Нам няпраху вязуць.
А цётачкі гавораць:
— Нам няткаху вязуць.
Вох ты, свёкар,
Бацюшка мой,
Зволь па горніцы прайці,
Слова выразіці,
Сем'ю выругаці.
Што сабака на цапу,
Так то свёкар на даму.
Што найлютае зелле,
То свякруха мая.
А дзевяры — сакалы,
Вашы жоны такавы.
Вы залвіцы — галубачкі,
Вам самім у людзі йсці.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожных двух радкоў.

Вы цётачкі — галубачкі,
Вы ж тое знаеце,
Што ў чужой сям'і.
Сядзіць муж на палу,
Пабліскуе на жану.
Пабліскуй не пабліскуй,
Да не будзеш мяне біць.
Устаў муж з полу,
Задзеў жану па уху.

## 53. ЗАРА МАЯ, ЗАРАНАЧКА

Зара мая, зараначка,
Зара мая вячэрняя,
Чаго рана за лес зайшла,
А мне, млодзе, гульня прайшла.
Гульня мая дзявоцкая,
Журба мая жаноцкая.
Свёкар ідзе — дамоў заве,
А свёкаркі не слухала,
Гульню сваю не кінула.
Гульня мая дзявоцкая,
Журба мая жаноцкая.
Свякроў ідзе — дамоў заве,
Я свякроўкі не слухала,
Гульню сваю не кінула.
Гульня мая дзявоцкая,
Журба мая жаноцкая.
Мілы ідзе — дамоў заве.
Я мілага паслухала,
Гульню сваю пакінула.
Гульня мая дзявоцкая,
Журба мая жаноцкая.

## 54. ЯК У МАМКІ ЖЫЛА, ДЫК РАБОТНІЦА БЫЛА

Як у мамкі жыла, дык работніца была,
Да свякроўкі прышла — загультаілася:
Па вадзіцу пашла і забавілася.
Раскіпеўся гаршчок, у печы кіпючы,
Скрычалася дзяцё, ў калыбелі лежучы.
Разбубніўся свёкар, на печы седзючы,

А свякроў на палу, паджыгаючы яму.
Дзевяр'ё, як звяр'ё, па застоллю пашло,
А залвіцы-паскудніцы і тыя ўсе на мяне.
А мой мілы сядзіць, абуваецца,
Мяне біць, маладую, сабіраецца.
— А мой міленькі гудзень, ты не бі мяне ўдзень,
А бі мяне ўпаўначы, каб не чулі, крычучы.

## 55. СВЯКРОЎКА ЛІХАЯ — ЛУЧЫНУ ЛАМАЕ

Свякроўка ліхая — лучыну ламае,
А свёкар найгоршы — вачыма сціскае,
А дзевер воду нясе — усё вачыма пасе,
А залувіца малая і та намаўляе:
— Спіць наша братовая, спіць няўдалая,
А я, маладая, рана ўсхвацілася,
Горкімі слязамі без вады ўмылася.
Кароў падаіла і павыганяла,
У печы пратапіла, есці наварыла.
А я, маладая, ўсю работу знаю,
Выйду на вуліцу — хараша спяваю.
А я, маладая, ўсю работу знаю,
Выйду на вуліцу — хараша гуляю.

## 56. ЗАГАРЫСЯ, ЧУЖА СТАРАНА

Загарыся, чужа старана,
Без агня і без полымя —
Ужо мне жыць у цябе не весела:
Свёкар-бацюшка як журыць, дак журыць,
Свякроў-матушка і пабіць вяліць,
А дзевяр'ё падгаварываюць,
Заловачкі ўсё й заступніцы:
— Не журы, не журы, родны бацюшка,
Не браніся, родная матушка,
А вы, братцы, й не падгаварывайце,
Падумайце і на сваіх дзяцей.
Узялі яе, як рабіначку,
Высушылі на быліначку,
Узялі яе, як ягадачку,
Ссушылі на саломачку.

## 57. МІЛЫ ЯК П'Е, ТАК П'Е

Мілы як п'е, так п'е,
Прыдзе дамоў, як б'е, так б'е.
— Свякорка, татка, барані мяне!
Свёкарка ўсхапіўся, за нагаечку ўхваціўся:
— Ой, бі, сынку, бі да й навучай,
На сваю сторану да й наварачай.

Мілы як п'е, так п'е,
Прыдзе дамоў, як б'е, так б'е.
— Свякроўка, мамка, барані мяне!
Свякруха ўсхвацілася, за нагаечку ўхвацілася:
— Ой, бі, сынку, свінку, бі да й навучай,
На сваю сторану да й наварачай.

Мілы як п'е, так п'е,
Прыдзе дамоў, як б'е, так б'е.
— Дзеверко, братка, барані мяне!
Дзеверка ўсхваціўся, за нагаечку ўхваціўся:
— Ой, бі, братка, бі, да й навучай,
На сваю сторану да й наварачай.

Мілы як п'е, так п'е,
Прыдзе дамоў, як б'е, так б'е.
— Завіца, сястрыца, барані мяне!
Завіца ўсхвацілася, за нагаечку ўхвацілася:
— Годзе, братка, біць, чужо цела глуміць.
Охці мне, будзець то мне.

## 58. Я НА ГАНКУ СТАЯЛА

Я на ганку стаяла,
Я на ганку стаяла,
Русу косу часала.
Каса мая ўчасаная,
Каса мая ўчасаная —
Я ж, маладая, загнаная
Ад свёкра, ад свякроўкі,
Ад свёкра, ад свякроўкі,
Ад дзевера, ад залоўкі.

## 59. ПАСЕЮ Я ЖЫТА ПАМІЖ АСАКОЮ

Пасею я жыта паміж асакою,
Ой, жалка мне, жалка расстацца з табою.

Ой, жалка мне, жалка, само сэрца вяне:
А хто ж мне на старасць ў галоўку загляне?

Здумай мне, мамка, хоць раз у суботу,
А я цябе, мамка, йдучы на работу.

Здумай мне, мамка, хоць раз у нядзельку,
А я цябе, мамка, сцелючы пасцельку.

Здумай мне, мамка, хоць раз у аўторак,
А я цябе, мамка, на дне разоў сорак.

Здумай мне, мамка, хоць раз у сераду,
А я цябе, мамка, сто раз папераду.

## 60. ЗЯЛЕНАЯ ВІШНЯ

Зялёная вішня
З-пад кораня вышла.
Аддала мяне маці,
Дзе я непрывычна.

Ты думаеш, мама,
Што я тут пануючо.
Прыдзі падзівіся,
Як я тут гарую.

Ты думаеш, мама,
Што я тут не плачу,
А [illegible] ж за слязамі
Бела свету не бачу.

Успомні мяне, мама,
Хоць раз у нядзелю,
А я цябе, мама,
Сцелючы пасцелю.

Успомні мяне, мама,
Хоць раз у аўторак,
А я цябе, мама,
На дзень разоў сорак.

Успомні мяне, мама,
Хоць раз у суботу,
А я цябе, мама,
Ідучы на работу.

Як выйду на ганак,
Ды крыкну дадому:
— Вары, мама, вячэру
І на маю долю.

— Варыла, варыла —
Не многа, не трошкі:
Няма табе, дочка,
Ні міскі, ні ложкі.

Міску разламалі,
А ложку згубілі.
Ідзі туды, дочка,
Каго ты любіла.

## 61. А ЧЫРВОНАЯ КАЛІНА *

А чырвоная каліна
Да ўсю весну красіла.
За ліхім мужам, за разбойнічкам
Маё сэр(ы)ца ссушыла. [1]

Ой, пайду я да броду,
Да да броду па воду,
Ой, я стану, я да падумаю,
Ці харошага роду.

А я роду харошага,
На ліцо я прыкрасна,
Аддала мяне родна мамачка,
Дзе дружына няшчасна.

А я тую каліну
Да зламлю да пакіну.
За ліхім мужам, за разбойнічкам
Я навекі загіну.

---

[1] Два апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца.

— Не тапісь, маё дзіця,
Навек душу загубіш.
Ой, было табе напярод сказаць,
Каго верненька любіш.

— Я любіла, кахала
Да й навек не забуду.
Наракала я на матуленьку,
Наракаці я буду.

Ой, зялёны барвіночак,
Што ні ягад, ні цвету,
Што па міленькім да паклончыку,
Што самога тут нету.

## 62. ОЙ, ГАЮ, МОЙ ГАЮ

Ой, гаю, мой гаю,
Гаю зеляненькі,
Праз цябе, мой гаю,
Ветрык не прадувае.

Ветрык не прадувае,
Лістоў не калыша,
Мая мамачка, мая родная,
Ка мне пісем не піша.

Адно пісьмо піша,
Другое чытае:
— А дзе маё дзіця роднае,
Дзе яно прабывае?

Спамяні мяне, мамка,
У нядзельку, у аўторак,
А я ж цябе, мамачка,
Ды на дзень разоў сорак.

## 63. ОЙ, ВЫСОКО, ВЫСОКО

Ой, высоко, высоко
Клён-дзераво ад вады.
Ой, далёко, далёко
Мая мамка ад мяне.

Хоць дзерава й высоко,
То хоць лісцік ападзе,
Хаця ж мамка далёко,
Яна ж мяне спамяне.

Хаця ж мамка далёко,
Яна ж мяне спамяне,
Яна ж мяне спамяне
І дачушкай назаве.

— Ой, дзіцятко, дзіцятко,
Як на моры вуцятко.
А вуцятко воду п'е,
А дзіцятко слёзы лье.

## 64. ДА ПАЙДУ Я З ТУГІ Ў ЛУГІ

Да пайду я з тугі ў лугі
Да на чорную смуродзіну,
Да наламлю смуродзінак,
Да накідаю на дарозе,
Ці не будзе ісці мая матка,
Да не падыме смуродзінку.
— Бедная мая смуродзінка,
Што зелена паламлёна
Да па дарозе пакідана.
Беднае маё дзіця,
Малалетняе заручона,
На чужом дзеле замучона.

## 65. РАСЛА, РАСЛА РУЖА-КВЯТКА

Расла, расла ружа-квятка
Над быстрай ракою,
А сарву ж я ружу-квятку
Праваю рукою.

А сарву ж я ружу-квятку
Праваю рукою,
А пушчу ж я ружу-квятку
Быстраю вадою.

Плыла, плыла ружа-квятка,
Пры беражку стала,
А там мая родна мамка
Ды вадзіцу брала.

Яна ж тую ружу-квятку
Па вярху пазнала.
— А знаць, мая дачушачка
Сем гадоў ляжала.

Чаму ж тая ружа-квятка
На вадзе завяла?
— Не ляжала, мая мамка,
Ні дня, ні нядзелькі,
Ссушыў мяне, мая мамка,
Мой муж маладзенькі.

## 66. ЯК САРВУ Я РУЖЫ КВЕТКУ

Як сарву я ружы кветку
Ды пушчу на воду —
Плыві, плыві, ружы кветка,
Да самага броду.
Плыла, плыла ружа-кветка
Ды стала круціцца,
Выйшла маці воду браці
Ды стала дзівіцца.
— Што ж ты, мая ружа-кветка,
На вадзе завяла?
Відаць, доўга ты, дзіцятка,
На вадзе ляжала?
— Ой, пі, маці, ту вадзіцу,
Што я нанасіла,
Любі, маці, таго зяця,
Што я палюбіла.
— Ой, не буду вады піці,
Буду разліваці,
Не буду зяця любіці,
Буду забываці.
Ўзяла маці ружы кветку,
Палажыла ў хаце,
А як гляне, ўспамінае
Аб сваім дзіцяці.

## 67. ПАРАДЗІЛА МЯНЕ МАМАЧКА ЛЯ ЗЯЛЁНАГА ДУБА

Парадзіла мяне мамачка ля зялёнага дуба,
Аддала мяне мамачка за каго нялюба.
А я таго нялюба зроду не любіла,
Дык вырву я рожы ветку да й кіну ў рэчку —
Плыві, рожы ветачка, плыві за вадою.
Плыла, плыла з рожы ветачка да стала кружыцца,
Прыйшла маці вады браці да стала журыцца:
— Чыя гэта з рожы ветка на вадзе зламана?
Дзесь мае дзіця любае тры гады ляжала.

## 68. ОЙ, ПАЙДУ Я ЦЁМНЫМ ЛЕСАМ

Ой, пайду я цёмным лесам,
Наламлю я лому.
Завёў мяне дурны розум
На чужу старону.

На чужой старонаньцы
Ні бацька, ні маці.
Толькі ўсяе радзінанькі —
Што спяваюць салавейкі.

Ой, спявайце не спявайце
Разнымі галасамі,
А я пайду ў сад зялёны
Абальюсь слязамі.

І зламлю ■ ружы кветку
Ды пушчу на воду —
Плыві, плыві, ружа-кветка,
Ды да майго роду.

Плыла, плыла ружа-кветка
Дый стала кружыцца.
Выйшла маці ваду браці
Дый стала дзівіцца.

— Ой, пі, маці, тую воду,
Што я нанасіла,
Любі, маці, таго хлопца,
Што я палюбіла.

— Ой, не буду вады піці,
Буду праліваці.
Ой, не буду любіць зяця,
Буду праклінаці.

## 69. ОЙ, У ПОЛІ БЯРОЗА

Ой, у полі бяроза,
Ой, у полі кудрава,
Пад таею бярозай
Дзяўчына стаяла.

Дзяўчына стаяла,
Каліну ламала,
У пучочкі вязала,
На Дунай кідала.

— Ды плыві ж ты, каліна,
Ды да майго ж роду —
Няхай мой род знае,
Як я пражываю.

Як я пражываю,
Марна прападаю,
Марна прападаю,
Што й роду не маю.

Е ў мяне радзіна
Сільненька далёка.
Чую цераз людзі,
Што радзіна судзіць.

Няхай яна судзіць,
Я яе не буду.
Прыязджайце ка мне ў госці,
Я вам рада буду.

## 70. ПІЦЕ, ЛЮДЗІ, ГАРЭЛІЦУ

Піце, людзі, гарэліцу,
Белы гускі — воду.
Ой, ляціце, белы гускі,
Аж да майго роду.

Ой, ляціце, белы гускі,
Круціце, муціце,
Толькі, мае белы гускі,
Праўды не кажыце.

Ой, калі вы, белы гускі,
Будзеце маніці,
Можа, прыйдзіць мая мамка
Ка мне пагасціці.

Як будзеце, мае гускі,
Праўдачку казаці,
Дык не будзіць мая мамка
У мяне бываці.

## 71. ПІЦЕ, ЛЮДЗІ, ГАРЭЛІЦУ, А ВЫ, ГУСІ, ВОДУ

— Піце, людзі, гарэліцу, а вы гусі, воду,
Накажыце, белы гусі, да да майго роду.

Не кажыце, белы гусі, што я тут гарую,
А скажыце, белы гусі, што я тут паную.

Як будзеце, белы гусі, ўсю праўду казаці,
Так не будзе ацец, маці ў госці бываці.

Ой, сарву я з рожы кветку да й пушчу на воду —
Плыві, плыві, з рожы кветка, там да майго роду.

Прышла маці ваду браці, кветаньку пазнала:
— Ці ты, донька, маё дзіце, тры рокі хварэла?

Ці ты, донька, маё дзіце, тры рокі хварэла,
Што ўжо твая з рожы кветка ў вадзе засмутнела?

— Не хварэла, мая маці, ні дня, ні гадзіны,
Папалася злому мужу, нявернай дружыне.

Не так жа той дружынаньцы, як ліхому мужу,
Утапіла мяне, матка, як каноплі ў лужу.

Намачыўшы канапелькі, трэба іх цягаці,
А мне, малодай, маладзенькай, трэба іх сушыці.

А мне, малодай, маладзенькай, трэба іх сушыці,
А мне, малодай, маладзенькай, трэба век тужыці.

## 72. БАЛІЦЬ, БАЛІЦЬ МАЯ ГАЛОВАЧКА*

Баліць, баліць мая галовачка,
Нечым мне завязаці.

Та далёка мая радзіначка,
Некім наказаці.

Завяжу я сваю галовачку
Шоўкавым платочкам,

Накажу ■ сваёй радзіначкі
Шызым галубочкам.

Што шаўковенькі платочак
Галоўкі не звяжыць,

А што шызы галубочак
Праўдачкі не скажыць.

Пайду, млада-маладзёшанька,
Я ў сад, у садочак,

Сарву, млада-маладзёшанька,
І з розы цвяточак.

Кіну-брошу гэты цвяточак
Ў быструю рэчку.

Тама маці выйдзіць ваду браці,
Будзіць у цвеціка пытаці:

— Ці не з аттулі гэты цвецічак,
Дзе маё дзіцяці?

Плуві, плуві, еты цвецічак,
Плуві, не круціся.

Жыві, жыві, маё дзеціткa,
Жыві, у горы не журыся.

## 73. ОЙ, ПА ГАРЭ, ПА ДАЛІНЕ

Ой, па гарэ, па даліне
Камары лятаюць,
Я раскошы не ўжыла,
Ўсе летка мінаюць!

Я раскошы не ўжыла,
Гора не забуду:
Па чом жа я свае лета
Спамінаці буду.

Ой, сарву я з ружы кветку,
Пушчу я на воду —
Плыві, плыві, з ружы кветка,
Аж да маго роду!

Плыла, плыла з ружы кветка,
На воданцы звяла.
Вышла маці воду браці,
Кветачку пазнала.

— Ой, мая ж ты з ружы кветка,
Чаму ты так звяла?
Ой, чы ж мая млода дура
Тры лета ляжала?

— Не ляжала, мая маці,
Ні дня, ні гадзіны,
Не мела я здаровечка
З малое дзяціны.

Закладайце ў новы возы
Коні вараныя,
Паеду я даганяці
Лета маладыя.

Даганяла млоды летка
На кляновым мосце:
— Ой, варотцесе, млодэ летка,
Хоць да мяне ў госці!

— Не вруцімся, не вруцімся,
Бо нема до чога,
Трэба было шанаваці
Здаровечко свога.

## 74. ЧЫРВОНАЯ КАЛІНАЧКА

Чырвоная каліначка
На мора схілілася.
А я, млода, журылася,
Што ад роду адбілася.
Ой, ад роду, ад радочку —
Цяжка сэрцу й жываточку.
Ой, пайду я, гукаючы,
Шчасця, долі шукаючы.
Азвалася мая доля
На той бок сіня мора.
— Плыві, доля, у чаўночку
Ды к ліповаму кусточку.
Мы вышчыкнем па лісточку
Ды напішам па пісьмочку:
Хай мамачка прачытае,
Дзе дзіцятка пражывае.
Хай мамачка не гаруе,
Мне ж бяседы не гатуе:
Добра доля сама знайшла,
Без бяседы замуж зайшла.

## 75. ТЫ, КАЛІНА ЧЫРВОНАЯ

Ты, каліна чырвоная,
У тры рады саджоная.
Я й чацверты палівала,
Мяне мама гадавала,
Ісці замуж не давала.
Пайшла замуж сваей воляй,
Стрэла мяне горка доля.
— Плыві, доля, за вадою,
А я, млода, за табою.
Прыплывем к беражочку,
Адарвем па лісточку,
Напішам па пісьмочку,
Адашлем атцу, маме.
Хай мама не журбуе,
Мне вяночка не гатуе.
Я згубіла свой вяночак
Пра свой дурны разумочак.

## 76. ТЫ, САКОЛІК, ЛЯТНА ПТАШАЧКА МАЯ

— Ты, саколік, лятна пташачка мая,
Ты лятаеш па ўсіх старанах.
Ды ці быў ты на маёй старане,
Ды ці чуў ты навінушкі пра мяне?
— Ой, я быў на тваёй старане,
Ой, я чуў навінушкі пра цябе:
Плача, плача твая мамка па табе,
На белым ложы ўсё седзячы,
Каля сэрца ручку дзержачы.
Гарыць свечы ўсё яснюсенька,
Плача мамка галаснюсенька.
Гарыць свечы не згараючы,
Плача мамка не сціхаючы,
Праз акенца усё гледзячы:
«Ці не йдзе мая дачушачка?
Ці не едзе маладзюсенька?
Доля ж яе ўсё ліхусенька».

## 77. ЛЯЦЯЦЬ, ЛЯЦЯЦЬ ДА Й ДЗВЕ ГУСАНЬКІ

Ляцяць, ляцяць да й дзве гусанькі,
Да абедзьве бялюсенькі.

— Станьце, станьце да не ляціце,
Да й са мною пагаварыце.

Ці не былі на маёй старане,
Ці не плача ацец, матка па мне?

— Плача, плача, забіваецца,
Слёзанькамі абліваецца:

«Дзіця маё да й раднюсенька!
Як там табе й нуднюсенька,

Праз парогі пераходзячы,
Чужым людзям да й нагодзячы».

## 78. БАЛІЦЬ МАЯ ГАЛОВАЧКА

Баліць мая галовачка,
А й нечым звязаць.
Ды й далёка радзіначка —
Некім наказаць.

А й звяжу ж я галовачку
Шоўкавым шнурочкам,
Накажу ж я радзіначцы
Сізым галубочкам.

— Ляці, ляці, галубочак,
Толькі не садзіся,
А ты ж маёй радзіначцы
Нізенька скланіся.

— Няма, няма радзіначкі
Нечага тужыць.
Прывыкай без радзіначкі
На чужыне жыць.

## 79. А БАЛІЦЬ МАЯ ГАЛОВАЧКА

А баліць мая галовачка, ды нечым завязаці.[1]
А што далеча радзіначка, некім наказаці.

Завяжу я галовачку шаўковым платочкам,
Накажу я радзіначцы сізым галубочкам.

А шаўковенькі платочак галовачкі не звяжа,
А сізанькі галубочак праўдачкі не скажа.

А зламлю я з розы кветку дый кіну на рэчку —
Плыві, плыві, з розы кветка, да майго роду.

Плыла, плыла з розы кветка дый стала кружыцца.
Выйшла маці ваду браці дый стала дзівіцца:

— Чаго-сяго з розы кветка на вадзе павяла?
Верна, мае дзіцятачка больнае ляжала?

— Не ляжала, мая маці, ні час, ні мінуты,
Папалась я, мая маці, людаеду ў рукі.

## 80. ПРЫЛЯЦЕЛА ДВА ГАЛУБОЧКІ

Прыляцела два галубочкі —
Гэта мае братулечкі.

[1] Кожны радок паўтараецца.

— Галубочкі-братулечкі,
Накажыце матулечцы:
Ці я сюды прададзёна?
Ці я замуж выдадзёна?
Калі ж я прададзёна —
Хай прыедзе выкупляе,
Калі ж замуж выдадзёна —
Хай прыедзе адведае.

## 81. БАЛІЦЬ МАЯ ГАЛОВАНЬКА

Баліць мая галованька,
Ды нечым звязаці,
Наказала да матуля,
Некім наказаці.

Ой, звяжу я галованьку
Шаўковым платочкам,
Накажу я да матулі
Сівым галубочкам.

— Ляці, голуб, ляці, голуб,
Толькі не садзіся,
Як убачыш матуленьку,
Нізка пакланіся.

— Чаго, голуб, чаго, сівы,
Гэтак прыпадае?
Мусі, маё міла дзіця
Горку долю мае?

## 82. МІМА МАЙГО САДЗІКА

Міма майго садзіка,
Міма майго зялёнага
Пралягла дарожачка.
Як па той дарожачцы
Дочка ад маці ехала,
Тры дні слёзна плакала,
Салавейку наказвала:
— Ты ляці, салавеюшка,
На радзімую староначку,

На любімую яблыньку.
Суцяшай маю мамачку,
Каб яна, мая родная,
Не тужыла, не плакала,
На чужых дзяцей гледзючы,
Пра сваіх прамаўчаючы.

## 83. САЛАВЕЙ РАБЕНЬКІ, У ЦЯБЕ ГОЛАС ТАНЕНЬКІ

— Салавей рабенькі, у цябе голас таненькі,
Салавей рабенькі, у цябе голас таненькі,

Ці быў ты на чужой старане,
Ці плача бацька й маці па мне?

— Плача, плача, забіваецца,
Цябе ў госці дажыдаецца.

Бацька плача, на крэселку седзячы,
Маці плача, па каморы ходзячы,

Браток плача, коні сядлаючы,
Сястра плача, русу косу чэшучы:

«Каса мая радзімая,
Доля мая нешчаслівая!

Каб я знала, каб я ведала,
То я замуж ніколі не пашла б,

То я замуж ніколі не пашла б,
Лепей у бацькі, ў мацеры была б,

Штосуботы умывалася б,
Штонядзелькі прыбіралася б,

Па падворку пахаджывала б,
Русай касе прыгаварывала б:

— Каса мая да радзімая,
А каму ж ты да застанешся:

Ці маёру, ці палкоўніку,
Ці хлопчыку-свавольніку?»

## 84. РАСЦІ, РАСЦІ, КАЛІНАЧКА ДРАЙЧАСТА

Расці, расці, каліначка драйчаста,
Бывай, бывай ў мяне, мамачка, часта.
Зарасла ж ужо дарожка калінай.
А як будзеш, мая мамка, ка мне йсці —
Вазьмі ж тую каліначку пралам і.
Вазьмі ж тую каліначку пралам і —
Хаця ж майго гараваннейка паглядзі,
Як я на чужой старонцы гарую,
Ад сямейкі добрага слова не чую.

## 85. ЗА ДУНАЕМ СТАІЦЬ ХАТАЧКА

За Дунаем стаіць хатачка,
А там жыве мая матачка,
Ой, там жыве мая родная.
Я ад мамачкі адлучылася,
Да свякроўкі прылучылася.
А свякроўка ды не родная —
Дый паслала за Дунай па ваду.
За Дунаем стаіць хатачка,
Ой, там жыве мая матачка,
Ой, там жыве мая родная.
Яна кліча на вячэру к сабе:
— Ідзі, дзіця, павячэрай з намі,
Ідзі, дзіця, павячэрай з намі.
— Дзякуй, дзякуй, мая мамачка,
Дзякуй, дзякуй, мая родная,
Я із дому не галодная:
Я вячэрала скарынкаю,
Я вячэрала скарынкаю
Ды з гарачаю слязінкаю.

## 86. АДДАЛА Ж МЯНЕ МАМАЧКА

Аддала ж мяне мамачка
На Украіну жыці,
У вясёлую сямеечку —
Не будзеш тужыці.
Чаму ж, мая мамачка,
У госці не прыходзіш?
Ці ж ты, мая мамачка,

Дарожкі не знаеш?
Дарожка ў вароцечкі,
Сцежачка ў ваконца.
Прыдзі, прыдзі, мамачка,
Як яснае сонца.
А я ж для сваёй мамачкі
Вячэру згатую,
Пад мацясовым акенечкам
Пасцялю пасцельку.
— Чаму ж ты, мая мамачка,
Ночку не ўсыпаеш?
Так часценька, так борздзенька
У акно паглядаеш?
— Мне трудненька, мне нудненька
Тут ноч начаваці.
— А як жа мне, мая мамачка,
Тут век векаваці?
Ты думаеш, мая мамачка,
Што я тут не плачу,
За дробнымі слёзкамі
Я свету не бачу.
Ты думаеш, мая мамачка,
Я тут не нуджуся,
Як выйду я за вароцейка,
Дык з ветру валюся.

## 87. ОЙ, Я ЗЛУЮ, ЗЛУЮ НА СВАЮ МАТУЛЮ

Ой, я злую, злую на сваю матулю,
Што аддала замуж мяне, маладую:

Я не нажылася, я не набылася,
Да за ліхім мужам роду выраклася.

— Адпусці ты, мужу, да броду па воду,
Да броду па воду, адведаю роду.

— Бо я сам не пайду і цябе не пушчу,
Бо ты скажаш роду ўсю сваю выгоду.

— Як будуць пытаці, не буду казаці,
Ваду чэрпануўшы, назад завярнуўшы.

А за ёю маці здароўя пытаці:
— Ці здарова, дзіця, ці добрае жыццё?

— Я жыва, здарова, да жыццё благое,
Выбіў мілы сілу праз ліху дружыну.

Выбіў мілы сілу праз ліху дружыну,
Вырваў косу русу да ўсю да пояса.

Кашуленька бела ўся кроўю скіпела,
Хвартушок бяленькі ад слёз макрэнькі.

## 88. ОЙ, ТАМ КАЛЯ БРОДУ

— Ой, там каля броду
П'юць галубкі воду,
Адпусці, міленькі,
Адведаці роду.

— Не пушчу, міленька,
Галубка сівенька,
Бо ты свайму роду
Скажаш усю выгоду.

— Не буду казаці,
Ані гаварыці,
Як будуць пытаці,
Я буду маўчаці.

Як будуць пытаці,
Я буду маўчаці,
Будуць слёзкі ліцца,
Буду выціраці.

Ой, выйшла я ў сені,
А за мною маці:
— Ціха, дачка, не плач,
Будзеш панаваці!

— Маё панаванне —
Горкае ўздыханне,
Мае раскашонькі —
Дробныя слязонькі!

Ані пажылася,
Ані набылася,
За ліхім я мужам
Роду адраклася!

## 89. У БАРЫ СОСНА

— У бары сосна,
Не шумі жалосна,
Не задавай сэрцу жалю,
Бо я ў чужым краю.

Бо я ў чужым краю
Марна прападаю,
Марна прападаю,
Бо радні не маю.

Я да свайго роду —
Хоць па шыю ў воду,
Хоць ў вадзе замачуся,
У радні высушуся.

Ой, роду мой, роду,
П'юць галубы воду,
Прасілася жонка ў мужа
Да свайго да роду.

— Не пушчу цябе,
Ой, да свайго роду,
Бо ты скажаш роду
Ўсю сваю прыгоду.

— Як будуць пытаці,
Не буду казаці,
Аблiюся слёзкамі,
Буду уздыхаці.

## 90. ОЙ, ГОРА Ж МАЁ

Ой, гора ж маё,
Ой, бяда ж мая,
Аддаў бацюхна
Замуж моладу.

От я нажылася,
От я набылася,
На сваю радзімачку
Не наглядзелася.

Пабыла я гадок,
Пабыла другі,
На трэці гадок
Затужылася,

На трэці гадок
Затужылася,
Я ў свайго мілога
Папрасілася:

— А мой ты міленькі,
Галубок сівенькі,
Пусці мяне, пусці
Да броду па ваду.

— Мая ж мілая,
Галубка сівая,
Не пушчу я цябе
Да броду па воду.

Не пушчу я цябе
Да броду па воду,
Да броду па воду,
Бо ты скажаш роду.

— Як будуць пытаці,
То буду маўчаці,
Як агорнуць слёзкі,
То выйду із хаты.

То я выйду з хаты
За новы вароты,
За новы кляновы,
Да зямлі прыгнуся,

Да зямлі прыгнуся,
Фартуком утруся.
Фартушок бяленькі
Ад слёзак макрэнькі.

На трэці гадочак
Прыехаў браточак
Й пытае: — Сястра,
Ці жыва-здарова?

— Не пытайся, браце,
Ці жыва-здарова,
А пытайся, браце,
Яка добра доля.

Добра доля, добра,
Нікому не жычу.
Па новай дзярэўні
Можна пахадзіці.

Новая дзярэўня,
Ды ўжо пастарэла,
Добрая сямейка,
Ды ўжо занямела.

## 91. ЗАМОРСКІ САЛАВЕЙКА

Заморскі салавейка,
Ці даўно ты з-за мора?
Ці не палянеш да зноў туды?
То накажы майму баценьку:
Няхай па мне не тужыць,
Бо я тута ў дабро ўпала,
Як пчолачка на мяду стала,
Як пралесачка ў лесе,
Як ластаванька ў стрэсе.

# ЛІХІЯ СВЯКРУХА І СВЁКАР

## 92. А КАЗАЛА МАЦІ, НЕ ЗБУДУ ДЗІЦЯЦІ

А казала маці, не збуду дзіцяці.
Аж тое дзіцятка а само збылося.
А пагнала валы на шчырыя бары.
— Валы мае, валы, валы палавыя,
А дзе ж вы падзелі маё дзіця мілае?
Ці яно заснула, ці яно не чула?
А маё дзіцятка у свякроўкі ў хаце.
— А як я была ў сваёй мамачкі —
Ні курэй не чула, ні зораў не знала.
А як асталася я ў чужой свякроўкі —
І курэй пачула, і зоры пазнала:
А курэй пачула, рана ўстаючы,
А зоры пазнала, ваду несучы.

## 93. ЯРКА СОНЦА ЗАКАЦІЛАСЯ

Ярка сонца закацілася,
Матка ў дачкі загасцілася.

— Ой, правяду сваю мамачку
За тры лясы, за тры цёмныя.

За тры лясы, за тры цёмныя,
За тры гаікі зялёныя.

Назад матка аглянулася:
Нешта дачка спатыкнулася.

— Ці травачка ножачкі спутала,
Ці расічка вочкі выела?

— А спутала ды мне ножачкі
Усё чужая ды старonaчка.

А выела ды мне вочачкі
Усё ліхая ды свякрухначка.

## 94. ЯК ПАЙДУ Я ДА ДУНАЮ

Як пайду я да Дунаю,
Стану, гляну, падумаю,

Што ў Дунаі да дна няма,
А мне ў свякроўкі да дабра няма:

На постаці пераднюю,
Над жорнамі заначую.

## 95. ГОРУШКА МАЯ КРУТАЯ

Горушка мая крутая,
Горушка маё бальшое.
Ніхто горушку не зроіць,
Ніхто горушка не зменіць.
Мілы з горушкі збягаіць,
З плеч вядзёрушкі здымаіць,
Ў мяне горушка пытаіць.
— Ці ты, міленькі, не знаеш,
Што пра горушка пытаеш?
Я тваёй матке не ўладжу:
Хату падмяту — не йдзець,
Ложкі памыю — не возьміць,
Абедаць гукну — не чуіць,
А мне горушка гатуіць.



## 96. ОЙ, У ЛЕСЕ ДАРОЖАЧКА

Ой, ў лесе дарожачка,
Пры дарожачцы каліна,
На той каліне зязюля —
Яна раненька кукуе,
Яна праўданьку гаворыць.
Мілы мілую страчае,
З плеч вядзерушкі здымае,
Мілы ў мілае пытае:
— Чаго ходзіш ты хмурная?
— Ой, як мне вясёлай быці?
Тваей мамцы не ўгадзіці:
Пасцялю пасцель — не ляжа,
Памыю лаву — не сядзе,

Замяту хату — не ступіць,
Выйдзе на вуліцу — судзіць:
«Нявехна мая лядашта,
Яе работа нізашта».

## 97. НА ВОЗЕРЫ, ВОЗЕРЫ

На возеры, возеры
Ды на гібкай кладцы
Мыла я кашулю
Ды нянроднай матцы.

Ой, мыла я, мыла
Ды і перамыла,
Нянродная мамачка
Ды абгаварыла.

Сушыла, сушыла
Ды перасушыла,
Нянродная мамачка
Ўсё перасудзіла.

Качала, качала
Ды перакачала,
Нянродная мамачка
Ўсё перавучала.

Згатую вячэрку —
А ёй не смашненька,
Пасцялю пасцельку —
А ёй не мякенька.

Пасцялю пасцельку —
А яна не ляжа,
Спытаю работку —
А яна не скажа.

## 98. ОЙ, КРЫВАЯ ВУЛАЧКА

Ой, крывая вулачка —
Як па ёй хадзіць?
Ліхая свякроўка —

Як ёй угадзіць?
Я па крывой вулачцы
Сяк-так перайду,
А ліхой свякроўцы
Ніяк не ўгаджу.
Я па крывой вулачцы
Нахадзілася
І ліхой свякроўцы
Нагадзілася.

## 99. КАЛЯ ГАЮ ГУСЕЙ ЗАГАНЯЮ

Каля гаю гусей заганяю —
Гыля, гыля, вы, серыя гусі,

Не муціце вадзіцы Марысі,
Буду праці плацейка свякрусе.

А я мыла, беленька ўмывала,
Свякрусе сваёй нараўляла.

Як ба ж я свякрусе не наравіла,
Даўно ж ба я ў магіле ляжала.

## 100. ОЙ, У ЛУЗЕ КАЛІНА

Ой, у лузе каліна,[1]
На каліне зязюля.

Яна днюе й начуе,
Ніхто ж яе не чуе.

Ой, зачула нявестка,
Ой, зачула малада,
Рана па ваду йдучы,

Рана па ваду йдучы,
Да зязюлькі куючы:

— Добра табе, зязюлька,
Добра табе, сівая,
На каліне кукаваць!

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

А мне, младой, яшчэ горш
Свякровачцы дагаджаць.

Я вячэру варыла,
Свякроў яе не ела.

Я вадзіцы прынесла,
Свякроў яе не піла.

Я пасцельку паслала,
Свякроў на ёй не спала.

Я ёй ножкі памыла,
Свякроў шырай ступіла.

А я свякроў папхнула,
Бадай свякроў утанула.

Плыві, свякроў, з вадою,
Цяжка жыці з табою!

## 101. ЛУЧЫНА, ЛУЧЫНАЧКА

Лучына, лучыначка
Так ярка гарыць.
Малада дзяўчыначка
Бестурботна спіць.

Хараша дзявіцаю
Бестурботна спаць,
Плоха маладзіцаю
Гора гараваць.

Як была я ў маманькі,
Любіла гуляць,
А цяпер у свякраванькі —
Слёзы праліваць.

Як была я ў маманькі,
Часала касу,
А цяпер ў свякраванькі
Нячэсану нашу.

## 102. ЛУЧЫНА, ЛУЧЫНАЧКА БЯРОЗАВАЯ

Лучына, лучыначка
Бярозавая,
Чаму ж ты, лучыначка,
Зырка не гарыш?

Недзе, ты, лучыначка,
У печы не была,
Свякруха ліхая
Вадой заліла.

Дзеванькі-сястрыцы,
Кладзіцеся спаць,
А мне, маладзюсенькай,
Усю ноч чакаць.

Першы сон сасніла я —
Пеўнікі пяюць,
Другі сон сасніла я —
Мілага вядуць.

Збоку ў яго шабелька,
Як агонь, блішчыць,
На галоўцы шапачка
Снегам зіхаціць.

## 103. ЛУЧЫНА, ЛУЧЫНАЧКА БЯРОЗАВАЯ

— Лучына, лучыначка бярозавая,
Мусіць, ты, лучыначка, ў печы не была?

— Я была ў печы ўзапар тры начы,
Ліхая свякруха выграбла з пячы.

Ліхая свякруха з печы выграбла,
З печы выграбла, вадой заліла.

Дзевачкі, падружачкі, лажыцеся спаць,
Дзевачкі, падружачкі, вам некага ждаць,

А мне, маладзенькай, усю ночку не спаць,
А мне, маладзенькай, нялюбага ждаць.

## 104. ТУШЫЦЕ ЛУЧЫНАЧКУ, ЛАЖЫЦЕСЯ СПАЦЬ

Тушыце лучыначку,
Лажыцеся спаць,
А я, маладзюсенька,
На ўсю ноч гуляць.

— Зачым ты, лучыначка,
Жарка не гарыш?
Знаці, ты, лучыначка,
Ў печы не была?

Свякроўка ліхая
Вады падліла,
А я, маладзенька,
Не зразумела.

## 105. УСТАНЬ, НЯВЕХНА

— Устань, нявехна,
Бадай ты не ўстала!
Выжань свой тавар,
Што ад бацькі нагнала,
Тыя авечкі,
Што маці даравала.

— Нашто каровы,
Як мае чорны бровы,
Нашто авечкі,
Як мае тры славечкі.

## 106. ОЙ, БОРКУ, БОРКУ, ПРЫ БОРКУ

Ой, борку, борку, пры борку
Стаўляй каморку,
Сячы аконца на вулку,
Каб салавейкі лят.алі,
Нас, маладзенькіх, будзілі.
Наша матулька ліхая:
Не будзе рана будзіці,
Выйдзе на вулку судзіці:
— Драмліва нявестка, драмліва,
На ўсю работку лянівa.

Кужалёк прала — драмала,
Красёнцы ткала — заснула.
— Няпраўда, матулька, няпраўда,
Кужалёк прала — пяяла,
Красёнцы ткала — звінелі.

## 107. ГЭЙ У ГЭЙ! РАСЛА [redacted] Ў МАМКІ

Гэй у гэй! Расла я ў мамкі,
Як сад на пагодзе.

Гэй у гэй! Як сад на пагодзе,
Як вішанька ў гародзе.

Гэй у гэй! Аддала мяне мамка
За сіняе мора.

Гэй у гэй! За сіняе мора,
У вялікае гора.

Гэй у гэй! Свякроўка паругаіць,
Што ў гасцёх не бываем.

Гэй у гэй! Сынку, мой сынку,
Узяў сабе жонку.

Гэй у гэй! З куста высячона,
З лесу прывязёна.

Гэй у гэй! Выйду я на вулачку,
Выйду я паслухаю.

Гэй у гэй! Ці не брацятка едзіць
Мяне ў госці папрасіць?

Гэй у гэй! Узвінуліся буры,
Жоўты пяскі ўздзьмулі.

Гэй у гэй! Сіні хвалі ўзмуцілі,
Брацяткі не пусцілі.

Гэй у гэй! Брацяткі не пусцілі,
Мяне затрудзілі.

## 108. ШЛЯХ-ДАРОЖАЧКА НЕЗНАКОМАЯ

Шлях-дарожачка незнакомая,
А ў мяне маці ўсё й нядродная.

Яна ж мяне рано збудзіла,
А збудзіўшы — за вадой паслала.

Не да рэчкі, не да возера:
— Ступай, шэльма, да калодзезя!

Верба ўецца, верба клоніцца,
А мне, маладой, гуляць хочацца.

## 109. А Я ВЫЙДУ НА ВУЛІЦУ

— А я выйду на вуліцу,
Сяду падумаю.
Пайшла б, пайшла ўвосень замуж —
Пасагу не маю.

Каб я мела пасажаньку,
Хоць рыжу кароўку,
Пайшла б, пайшла ўвосень замуж
На чужу старонку.

— А мая ты дзяўчыначка,
Я так браці буду.
Я з цябе пасажаньку
Вымагаць не буду.

— Ты не будзеш вымагаці,
Будзе твая маці.
Будзе, будзе сіротаньку
Штодзень папракаці.

Зайшла зора ізвячора,
Я йшчэ не слалася,
А ўжо мая свякровачка
Даўно ўлеглася.

Зайшла зора ізвячора,
Я ўжо паслалася,
А ўжо мая свякровачка
Даўно праспалася.

— Устань, устань, нявестачка,
Каб ты век не ўстала,
Выгань стаду і грамаду,
Што з дому прыгнала.

А я ўстала, падумала,
Няма чаго гнаці.
Няма бацькі, няма маткі,
Век мне гараваці.

## 110. СТУК-СТУК ПА СЕНЯХ, СТУК-СТУК ПА НОВЫХ

Стук-стук па сенях, стук-стук па новых —
Свякроўка ходзе, нявестку будзе:
— Устань, нявестка, устань, нябога,
Бо ўжо суседзі таўкуць, мелюць,
А ў нас, нябога, не чуць нікога.
Нявестка ўстала, цяжка ўздыхнула:
— Я ў мамачкі была — петухоў не чула,
Петухоў не чула, зары не знала.
У свякрухі стала — зару пазнала,
Петухоў пачула, таўкучы, мелючы,
Зару пазнала, па вадзіцу ідучы.
У нядзелю рана плакала маладая,
Што горы высокія, што вада далёкая,
Што вада далёкая, што суды вялікія,
У панядзелак рана смяялася маладая,
Што горы паніжэлі, воды пабліжэлі,
Што воды пабліжэлі, суды памяншэлі.

## 111. ГАВАРЫЛІ ЛЮДЗІ

Гаварылі людзі,
Свякроў ліха будзе:
Сама рана ўстане,
Мяне не пабудзіць.

А я, маладая,
Усё тое знала,
За сваю свякроўку
Дый раней устала.

Узагнала волікаў,
У поле пагнала.
Пусціла галасок
У ціхі лясок.

Будзе ехаць мілы
З далёкай краіны,
Пачуе мой голас
За чатыры мілі.

— Калі ты зязюля —
То ляці да бору,
Калі мая міла —
То гані дадому.

Прыгнала я волікаў,
Стала на парозе,
Паліліся слёзы,
Як раса з бярозы.

## 112. ДУБОК ЗЕЛЯНЕНЬКІ, ЧАГО ТЫ СХІЛІУСЯ?

— Дубок зеляненькі, чаго ты схіліўся?
Ці сушы збаяўся, ці лугу жалееш?

— Сушы не збаяўся, лугу не жалею,
Дзе я пасаджоны, там і зелянею.

Усе людзі кажуць, што свякроўка добра,
Хоць яна і добра, ды не мама родна.

Сама рана ўстала, мяне не будзіла,
Пайшла да суседа дый абгаварыла:

— Усе чужыя валы ў зялёнай дуброве,
А мая нявестка спіць ў новай каморы.

А нявестка ўстала, як бы дый не спала,
Ў зялёну дуброву волікаў пагнала.

Ішоў яе мілы з далёкага краю,
Пачуў галасочак з зялёнага гаю.

— Як гэта зязюля — прашу кукаваці,
А як мая міла — прашу перастаці.

Ой, маці ты, маці, што ты нарабіла?
Маладу нявестку раненька збудзіла.

— Я дый не будзіла, сама рана ўстала,
Ў зялёну дуброву волікаў пагнала.

— Каб ты не будзіла, яна б не ўставала,
Каб ты не судзіла, яна б не плакала.

## 113. СВЯКРОВА, СВЯКРОВА

Свякрова, свякрова,
Ды чужая маці.
Мне баліць галоўка —
Яна кажа ўстаці:

— Уставай, нявестка,
Бадай ты не ўстала!
Выганяй каровы,
Што з сабой прыгнала.

— Ты, матуля, знала,
Што я сірацiна.
Дык нашто прыслала
Ў сваты свайго сына?

Ты, матуля, знала,
Што дом мой убогі.
Было пасла цьсына
На расстайны дарогі.

— Ой, маўчы, нявехна,
Не раздзімай губы:
Як вазьму палена,
То павыб'ю зубы.

— Матуля, матуля,
Цябе не баюся:
За твайго сыночка,
Як за мур, схаваюся.

## 114. САЛАВЕЙКА ЛУГАВЫ

Салавейка лугавы,
Не пей рано на зары,
Не пей рано на зары,
Не будзі ты свякрові.
Мая свякроў ліхая
Ды заранне ўсё ўстае:
Мне работу закажа,
Сама ў ложко спаць ляжа.
Ой, выйду я на сяло —
Нідзе агню не відно,
Адно ў нас агонь гарыць,
Маці сыну гаворыць:
— Трэба, сынку, жонку, біць,
Трэба яе навучыць.
Як не будзеш ты вучыць,
Я вас мушу разлучыць.
— Ой, за што яе мне біць?
Яна ўмее ўсё рабіць,
Яна ўмее ўсё рабіць,
З маім родам гаварыць.

## 115. З-ПАД ГАРЫ, ГАРЫ КРУТОЙ

З-пад гары, гары крутой
Едзе мой мілы з дарогі,
Мілы ў мілае пытае:
— Чаго ж, мілая, худая?

— Ці ж ты, міленькі, не знаеш,
Што ты ў мяне пытаеш?
Твая мамачка ліхая,
Мая долечка худая.

Вадзіцу падам — не бярэ,
Ложачкі памыю — не белы,
Пасцель пасцялю — не ляжа,
Мне славечка не скажа.

## 116. У ЛУЗЕ САЛАВЕЙ КАЛІНКУ КЛЮЕЦЬ

У лузе салавей калінку клюець,
Ліхая свякроўка нявестку журыць,
Шле яе, маладу, на Дунай па ваду.

На маё бяздолле пятух не пяяў,
Пятух не пяяў, гусак не крычаў,
Толька адзін ваўчышча за гарою выець.
Плакала малада, к Дунаю ідучы,
А зачуў міленькі, коні пасучы.
— Не бойся, мілая, я коні пасу,
Я коні напасу і вады прынясу.
— Чэрпай, міленькі, вёдры поўненькі,
Нясі, міленькі, памалюсеньку,
Пастаў, міленькі, у сенях на лаўцы,
Не кажы, міленькі, а сваёй мамцы.
— Вот табе, свякроўка, з Дунаю вада,
Умыйся, напіся з поўнага вядра.
— Я ж цябе, нявеста, не вады слала,
Я ж цябе, нявеста, з свету зжывала.

## 117. БЯРОЗКА МАЯ КУДРАВІСТАЯ

Бярозка мая кудравістая,
Ай, люлі, палюлі, кудравістая.

Свякроўка мая наравістая,
Ай, люлі, палюлі, наравістая.

Пакуль норавы пераведала,
Ай, люлі, палюлі, пераведала,

Не раз слёзкамі паабедала,
Ай, люлі, палюлі, паабедала.

Сама спаць ляжа, мне рабіць кажа,
Ай, люлі, палюлі, мне рабіць кажа.

Па цёмнай начы па воду ісці,
Ай, люлі, палюлі, па воду ісці.

Зачуў міленькі, каня пасучы,
Ай, люлі, палюлі, каня пасучы.

— Не плач, мілая, каня напасу,
Ай, люлі, палюлі, каня напасу,

Каня напасу, вады прынясу,
Ай, люлі, палюлі, вады прынясу.

Вады прынясу, свякроў напаю,
Ай, люлі, палюлі, свякроў напаю.

Пі, мамка, ваду з поўнага вядра,
Ай, люлі, палюлі, з поўнага вядра.

У цябе, матуля, нявестка адна,
Ай, люлі, палюлі, нявестка адна.

А будзе друга, ды ўсё не така,
Ай, люлі, палюлі, ды ўсё не така.

Серадольшая — яшчэ горшая,
Ай, люлі, палюлі, яшчэ горшая.

## 118. ПА ВАДУ ІДУ

Па ваду іду,
Як пчолка гуду,
Ваду беручы,
Сільненька плачу.

Пачуў міленькі,
Каня пасучы.
— Не плач, мілая,
Воду несучы,

Не плач, мілая,
Воду несучы.
Каня напасу,
Вады прынясу.

— Пі, маці, ваду,
З поўнага вядра,
Любі нявестку,
Бо ў цябе адна.

## 119. ГЭЙ, БЯРОЗА, БЯРОЗА КАРАНІСТАЯ

Гэй, бяроза, бяроза караністая,
Гэй, даў бог да мне мілага наравістага.

Пакуль нароў яго пераведала,
Не раз слёзкамі паабедала.

Гэй, яшчэ свякроўка не лепша была,
Гэй, я, маладзенька, горка плакала.

Як учуў міленькі, коні пасучы.
— Гэй, не плач ты, не плач, мая мілая.

Я конікі напасу, вады прынясу.
— Пі, мая матулечка, з поўнага вядра,

Пі, мая матулечка, з поўнага вядра,
Каб на маю мілую не журылася,

Каб на маю мілую не журылася,
Каб на яе работу не крывілася.

## 120. А У ПОЛІ ВЯРБА КАЛАСІСТАЯ

А ў полі вярба каласістая,
Мая свякруха наравістая:

Ой, не раз, не два не абедала,
Пакуль свякроўку пераведала.

Зарання ўстала, спаці не дае,
Работку скажа, сама спаці ляжа.

— Ой ты, сыночак, каня папасі,
А ты, нявестка, вады прынясі!

Па ваду ішла паціхонечку,
Пакуль прынесла — наплакалася.

— Не плач, міленька, не плач, не тужы,
Каня напасу, вады прынясу.

Каня напасу, вады прынясу,
Сваёй матаньцы такі дагаджу.

— Ой, пі, матанька, з поўнага вядра,
Шануй нявестку, бо ў цябе адна.

Возьмеш другую — не такую,
Возьмеш трэцюю — яшчэ горшую,

Возьмеш трэцюю — яшчэ горшую,
У хату бяду яшчэ большую.

## 121. ОЙ, ЕЛЬ МАЯ ЗЯЛЁНАЯ

Ой, ель мая зялёная,
Свякроўка мая шалёная.

Загадала мне работу рабіць,
Загадала мне адзежу мачыць:

У суботку мачыць,
У нядзельку жлукціць,

На моры бяліць,
У верх лесу сушыць,

Па небе катаць,
У арэшкі складаць.

Я не татарка —
У суботку мачыць,

Я не жыдоўка —
У нядзельку жлукціць,

Я не рыбачка —
На моры бяліць,

Я не сонейка —
У верх лесу сушыць,

Я не зорачка —
Па небе каціць,

Я не шчурачка —
У арэшкі складаць.

## 122. КАЛЯ ПЛОТУ КРАПІВУШКА

Каля плоту крапівушка
Усё куслівая.
Ёсць у мяне свякровушка
Усё журлівая.

Ой, журыла як дзень, як ноч,
Прэч праганяла.
Яна мяне, маладую,
З свету зжывала.

Ой, пайду я, маладая,
У поле роўнае,
Ой, стану я, маладая,
Хоць рабіначкай.

Ішлі хлопцы — два малойцы
З Украіначкі,
Увідзелі рабіначку
За тры мілечкі.

Сталі яны на дарожцы,
Падзівіліся,
А прыйшоўшы дахатачкі,
Пахваліліся:

— А мая ж ты матулечка,
Я ўвесь свет прайшоў,
Нідзе такой рабіначкі
Жаркай не найшоў.

## 123. А Я У ГОРЫ НЕ ЖЫЛА, НЕ БЫЛА

А я ў горы не жыла, не была,
А я ў горы не радзілася,

А я ў горы не радзілася,
Ка мне гора прыключылася.

Ка мне гора прыключылася —
Я ад мамкі адлучылася.

Ад мамачкі адлучылася,
Да свякроўкі прылучылася.

А свякроўка ды не родна маць,
А я не яе дзіцятачка.

Самі селі ды вячэраці,
Мяне, младу, выпраўляюць па ваду.

А я, млада, не спрачалася,
За вядзёрка ды памчалася.

Ой, прыходжу на Дунай па ваду,
Там купалісь гусі-лебедзі.

— Ах, мае гусі-лебедзі,
Ах, вы яшчэ не наплаваліся.

Ах, вы яшчэ не наплаваліся,
А я, млада, ды наплакалася.

А я, млада, ды наплакалася,
Пад паветачкай начуючы,

Пад паветачкай начуючы,
З верабейчыкам талкуючы.

## 124. ЦЕМНА НОЧКА, ЦЕМНА

Цёмна ночка, цёмна,
Яшчэ цямней будзе.
Гаварылі людзі —
Свякроў добра будзе.

А мая свякроўка
Наравіста была,
Сама рана ўстала,
Мяне не збудзіла.

Сама рана ўстала,
Мяне не збудзіла,
Пайшла да суседа
Дый абгаварыла.

А я, маладая,
Сама тое знала,
За сваю свякроўку
Яшчэ раней ўстала.

За сваю свякроўку
Яшчэ раней ўстала,
Заняла волікі,
Ў цёмны гай пагнала.

Ой, гнала я, гнала,
Ой, ды не дагнала,
На бітым гасцінцы
Начаваці стала.

Ехаў мой міленькі
З вялікай Украіны,
Пачуў галасочак
За чатыры мілі:

— Калі ты зязюля,
То ляці да бору,
Калі ты міла,
То ідзі дадому!

## 125. КАЖУЦЬ ЛЮДЗІ, КАЖУЦЬ, МАЯ СВЯКРОУ ДОБРА

Кажуць людзі, кажуць, мая свякроў добра,
Сама рана ўстала, мяне не збудзіла,

Сама рана ўстала, мяне не збудзіла,
Пайшла да суседа, мяне абсудзіла.

Ой, я тое знала, яшчэ раней устала,
Яшчэ раней устала, волікі пагнала.

Яшчэ раней устала, волікі пагнала,
Волікі жанучы, сільна заплакала.

Ой, ехаў мой мілы, ехаў з Украіны,
Зачуў галасочак за чатыры мілі.

— Ці гэта зязюлька, па бору лятучы,
Ці мая міленька, волікі жанучы?

— Гэта не зязюля, па бору лятучы,
А твая мілая, волікі жанучы!

Ой, вырубай, мілы, сажнёвую дошку,
А пахавай, міленькі, мяне у садочку.

Пасадзі ў голаў каліны кусточак,
А у ног — вярбіцу, бяленькі кваточак.

Як будзеш, мілы, ды сыны жаніці,
То прыйдзі да мяне каліны разжыці.

Як будзеш, мілы, дочак выдаваці,
Прыйдзі да мяне вярбіну шчыпаці.

## 126. КАЖУЦЬ ЛЮДЗІ, КАЖУЦЬ

Кажуць людзі, кажуць,
Свякроў мая добра,
Сама рана ўстала,
Мяне не збудзіла.

Сама рана ўстала,
Мяне не збудзіла,
Пайшла да суседа
Ды абгаварыла.

А я, маладзенька,
Сама то спазнала,
За сваю свякроўку
Яшчэ раней устала.

За сваю свякроўку
Яшчэ раней устала,
За сівыя волікі
Узяла ды пагнала.

За сівыя волікі
Узяла ды пагнала,
У зялёнай дуброве
Сільна заплакала.

А ехаў мой мілы
З далёкай Украіны,
Пачуў галасочак
За чатыры мілі.

— Калі ты зязюля,
То накувалася,
А калі мілая,
То наплакалася.

Калі ты зязюля,
То ляці да бору,
А калі мілая,
То ідзі дадому.

## 127. А УСЕ ЛЮДЗІ КАЖУЦЬ, МАЯ СВЯКРОЎ ДОБРА*

А ўсе людзі кажуць, мая свякроў добра.
Сама рана ўстала, мяне не збудзіла.

Сама рана ўстала, мяне не збудзіла.
Пашла да суседкі, мяне асудзіла.

А я й, маладая, да ўсё тое знала,
На другі я ранак сама раней устала.

На другі дзянёчак сама рана ўстала,
Заняла волікі, у дуброву пагнала.

Пушчу я волікі ў зялёну дуброву,
А свой галасочак па ціхаму бору.

Будзе ехаць мілы, мілы з Украіны,
Зачуй галасочак за чатыры мілі.

— Ці зязюлька куе, па бору летучы,
Ці плача мілая, волікі пасучы?

Калі зязюленька, то ляці да бору,
А калі мілая, то жані дадому.

Чаго, міла, плачаш, чаго табе трэба?
Даў бог рукі-ногі і ясныя вочы.

Даў бог рукі-ногі і ясныя вочы,
Да рабі, мілая, з рання да паўночы.

— Рабіла, міленькі, рабіла, рабіла,
Да мая работка нікому не міла.

Рабіла, міленькі, з рання да паўночы,
А свякроўка кажа: — Да заспаны вочы.

### 128. НЕ ШЧАБЯЧЫ, САЛАВЕЮШКА

Не шчабячы, салавеюшка,
Не шчабячы пры ранняй зары,
Не патрусі на траве расы
Да не пагані свякроўкі з каморы,
Да не пабудзі нявехну ў клеці.
— Устань, нявехна, падай вадзіцы
З халоднае крыніцы!
Узяла нявехна да й паслухала,
Узяла вядзерца да й пастукала.
Пастукаўшы, да й паставіла,
Паставіўшы, сама спаць лягла.
— Устань, нявехна!
Ужэ касарыкі на дуброве,
А жэнчыкі ў чыстым полі,
Рыбалушкі на сінім моры,
А пастушкі на выгане,
А ты, нявехна, спіш у каморы.

### 129. СВЯКРОЎ НЯВЕСТКІ ДЫ НЕЗЛЮБІЛА

Свякроў нявесткі ды незлюбіла,
Пайшла на сяло і абгаварыла:

— Мая нявестка не хазяйка ў хаце,
Завязала свет майму дзіцяці.

Метучы хату, ды задрамала,
Несучы смецце, за парог упала.

Свякроў нявесткі ды незлюбіла,
Пайшла на сяло — абгаварыла.

### 130. ДА Й СЫН МАТЦЫ КАМОРАНЬКУ ГРЭЕ

Да й сын матцы камораньку грэе,
Да й сын матцы пасцеленьку сцеле:

— Ой, ці цёпла каморанька мая?
Ой, ці мякка пасцеленька мая?

— Цёпла, сынку, камаранька твая,
Мякка, сынку, пасцеленька твая,

Толькі цвёрда тваёй жонкі слова:
На ложку спала, «дабранач» не дала,

З ложы ўстала, «добры дзень» не дала.
— Выбач, матка, выбач, старэнька,

Яна ўчора п'яненька была,
А сягоння галоўка балела.

А сягоння галоўка балела,
Яна матцы «добры дзень» забыла.

Буду учыці, буду наўчаці,
Як матцы «добры дзень» даваці.

Буду жыці, буду наўчаці,
Як старую матку звелічаці.

## 131. САЛАВЕЙКА ЛУГАВЫ

Салавейка лугавы,
Не пой рана на зары,
Не пабудзі свякровы:
Мая свякроў ліхая —
Яна рана ўстае,
Мне дзела раскажа,
Сама спаці ляжа.
Ой, выйду я на сяло,
Нідзе агню не відно,
У маёй хаце жар гарыць,
А сын з маткай гаварыць:
— Ой, сыня мой, сыня мой,
Чаму ж ты жаны не б'еш,
Нашто ёй пасцель даеш?
— Мая жонка малада
Робіць дзела ўсё адна,
Свякроўцы ўнаровіць,
Белу пасцель пасцеліць,
Са мною спаць ляжа.

## 132. ЯК ПАЙДУ Я ДА БРОДУ ПА ВОДУ

Як пайду я да броду па воду,
Ой, у броду вельмі ўмачуся,
Пайду к бацьку, абсушуся,
Як пайду сціха пад акенца,
Пагляджу я, што свякруха робіць.
А свякруха вячэраньку варыць,
А свякратка дубінаньку парыць,
А міленькі дзяціну калыша:
— Люлі, люлі, малое дзіця, спаці!
Пашла маці да шынка гуляці.
— Вазьмі, сынку, парану дубінку
Да зажані з карчмы п'яную жынку.
— За што мне сваю жынку біці?
Яна ўмее ўсё дзела рабіці,
Яна ўмее шыці да бяліці,
Яна ўмее прасці і ткаці,
Яна ўмее свёкру наравіці.

## 133. САЛАВЕЙКА ЛУГАВЫ

Салавей лугавы,[1]
Не пей рана да зары.

Не пей рана да зары,
Не будзі ты свекрыві.

Мая свякроў ліхая,
Яна рана ўставае,

Мне работаньку кажа,
Сама ў ложу спаць ляжа.

Ой, выйду я на сяло,
Нідзе агню не відно,

Толькі ў нас агонь гарыць,
Маці з сынам гаварыць:

— Трэба, сынку, жонку біць,
Трэба яе навучыць,
А то мушу разлучыць!

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

— Ідзі, маці, жабраваць,
А не будзеш разлучаць!

А ў стаенцы конік ёсць,
А ў святліцы мілай нет.

— Гэй вы, брацця вы мае,
Запрагайце коні мае!

Я паеду гуляці,
Сваёй мілай шукаці.

Еду поле — не відно,
На другое — не чутно.

А на трэце з'язджаю —
Мая міла гуляе.

Мая міла гуляе
І хустачкай махае:

— Не едзь, мілы, да мяне,
Бо не возьмеш мяне!

— Цераз цёмненькі лясок
Падай, міла, галасок!

Цераз быструю раку
Падай, мілая, руку!

### 134. ЦІ НЕ БОГ ДАЎ, У КАГО МНОГА СЫНОЎ?

Ці не бог даў, у каго многа сыноў?
Сярод поля мамку пераймаюць,
Пераняўшы, пад ручанькі бяруць,
А ўзяўшы, да хатачкі вядуць,
Правёўшы, на крэсліца садзяць,
Пасадзіўшы, вячэраць падносяць,
Павячэраўшы, пасцельку сцелюць,
Паслаўшы, ножанькі разуваюць,
Разуўшы, спатанькі ўкладаюць,
Палажыўшы, мамку накрываюць,
А накрыўшы, мамку пытаюць:
— Ці лёганька пасцель наша, мамка?

— Мякусенька пасцель ваша,
Толькі не мяккі вашай жаны словы.
Ідзі, сынок, у новую клетку,
Вазьмі са сценкі раменную плетку,
Вазьмі, сынок, жонку навучаці!
Ды ўзяў раменную плетку,
Ды ўзяў жа я жонку навучаці.
А дзякуй богу за маю натуру,
Што я сваёй жаны не калечыў —
Толькі сваю матухну пацешыў!

## 135. А ШУМЕЛА, ГУДЗЕЛА

А шумела, гудзела [1]
Сасоначка ў бару,
А гуляла, буяла
Свякроўка ў піру.
А гуляўшы, буяўшы,
Дварочку пашла
А прычыну нашла
А на большага сына,
А на большу нявестку:
— А чаму, сынку, не п'еш,
А чаму жонкі не б'еш?
— Ах ты, маці мая, маці,
А за што жонку біці?
А к чаму яе ўчыці?
— Што абед не варыла,
Што пасцелькі не слала.
Як узяў сын плётку
А павёў жонку ў клеці,
Як стаў жану біці,
Як стаў навучаці.
А не біў жа па плечыках,
А па голых сценачках,
А не біў па жонушцы,
А па белай падушцы.
— А крычы, жана, душа,
Кабы маці пачула,
А хвала табе, божа,
Што жаны не калечыў,
Сваю мамку ўцешыў.

[1] Кожны радок паўтараецца.

## 136. А СВЯКРОЎ НЯВЕХНЫ

А свякроў нявехны
Да й жадом жадала,
Ў вішнёвым садочку
Хатку збудавала:
— Каб мая нявестачка
Ў халадочку спала.
А назаўтра рана
Да й пайшла будзіці:
— Уставай, нявестачка,
Уставай, нябога,
Ўжо нашы суседзі
Да таўкуць і мелюць,
А у нас, нябога,
Не чуваць нікога.
Нявестачка ўстала,
Горда адказала:
— Не ты нарадзіла,
Каб мяне будзіла.
Не ты гадавала,
Каб мной пасылала.
Свякроў адышлася,
Ручкі заламала:
— Ой, божа мой, божа,
Чаго я прыждала:
Чужое дзіцятка
Горда адказала.

## 137. КАЛІ БЫЛА ДЗЕЎКАЮ МАЛАДОЮ

Калі была дзеўкаю маладою,
Я не чула ножак пад сабою.

А калі ж я мужыка дазнала,
Дык як села, ад лаўкі не ўстала.

Памры, памры, мужыкова маці,
Можа, буду гаспадыня ў хаце.

Я думала, мой мілы не чуе,
Ён на мяне дубіну рыхтуе.

Я думала, мой мілы не знае,
Аж ён мяне, маладу, звярае!

## 138. ПАМРЫ, ПАМРЫ, МУЖЫКОВА МАЦІ

Памры, памры, мужыкова маці,
А я застануся гаспадыняй у хаце.

Ой, памерла мужыкова маці,
Засталася ж я гаспадыняй у хаце.

А ўсе людзі ідуць жыта жаць,
А мне трэба дзіця калыхаць.

А пайду ж я к зялёнаму гаю,
Пазаву ж я мужыкову маці:

— Устань, устань, мужыкова маці,
Ідзі дамоў дзіця калыхаці.

## 139. ЯК ПАЙДУ Я ДА ГАРЭЛАЧКІ ПІЦІ

Як пайду я да гарэлачкі піці,
Як замкнулі да вароцечкі дзеці.

Ой, я шчэ спрамагуся,
Цераз баркан да і пераvalюся.

— Адчыніце, мае дзеткі, сені!
— Падажджы, мамка, мы вячэраці селі.

— Ой, буду я да на запечку сядзеці
Да буду вашых дзетак глядзеці.

Ой, буду я ў парозе стаяці
Да буду вашых дзетак калыхаці.

Ой, умры ты, мужыкова маці,
Ці не буду я гаспадыняй ў хаце.

Як умерла да мужыкова маці,
Ой, не стала парадачку ў хаце.

Як пайду я ў поле рабатаці,
Да й гукну я мужыкову маці.

— Было тады мяне шанаваці,
Як стаяла я ў парозе ў хаце,

Як стаяла я ў парозе ў хаце,
Не магу я цяпер галоўкі падняці.

## 140. ПАМРЫ, ПАМРЫ, МУЖЫКОВА МАЦІ

— Памры, памры, мужыкова маці,
Застануся гаспадынька ў хаце.

Буду у карчомку хадзіці,
Будзіць за што гарэлачку піці.

Як памёрла мужыкова маці,
Асталася гаспадынькай ў хаце.

Сталі ў мяне бяседачкі частыя,
Пасыпаліся ў мяне дзеткі дробныя.

Няма часу ў карчомку хадзіці,
Няма за што гарэлачку піці.

Стала я на магільнічак хадзіць,
Стала [redacted] свякровачку будзіць.

— Устань, устань, мужыкова маці,
Памажы мне гора гараваці.

Памажы мне гора гараваці,
Памажы мне дзетак гадаваці.

— Ой, не ўстану я, мужыкова маці,
Ой, не памагу гора гараваці,

Ой, не памагу дзетак гадаваці,
Бо не ўмела мяне шанаваці.

## 141. ПАЙДУ Я У КАМОРАНЬКУ

Пайду я ў каморанькy, прыкладу я галованьку,
Спаць хачу — спаць мне не даюць!

Ідзе свякроўка каля маёй каморанькі, гаворачы:
— Спі, нявестка, спі, нягодная!
Пшонка-ярыца не молата,
Белы кужаль непраджаны,
Спіць нявестка, спіць нягодная.

Пайду я ў комараньку, прыкладу я галованьку,
Спаць хачу — спаць мне не даюць!
Ідзе свякроўка, стуча, груча, каля маёй каморанькі:
— Спі, нявестка, спі, нягодная!
Кароўкі не доены, у поле не гонены,
Спіць нявестка, спіць нягодная.

Пайду я ў камараньку, прыкладу я галованьку,
Спаць хачу — спаць мне не даюць!
Ідзе міленькі ціхусенька,
Адчыняе дзверцы памалюсеньку,
— Спі, жонухна, спі, мілая!
Кароўкі падоены, у поле прагонены,
Пшонку-ярыцу на млын звязу,
На бел кужаль праллю найму.
Спі, жонушка, спі, мілая.

## 142. ЯК ПАЙДУ Я У КАМОРАЧКУ

Як пайду я ў каморачку
Ды прылажу галовачку.
Спаць хачу, спаць!
Спаць хачу, спаць!

Ідзе свёкар, гаворачы,
Каля маёй каморачкі:
— Спі, шэльма, спі,
Спі, не рабі!

І цяляткі не поены,
І кароўкі не доены,
Спі, шэльма, спі,
Спі, не рабі!

Як пайду я ў каморачку
Ды прылажу галовачку.
Спаць хачу, спаць!
Спаць хачу, спаць!

Ідзе мілы, гаворачы,
Каля маёй каморачкі:
— Спі, жонка, спі,
Спі, не рабі!

І цыляткі напоены,
І кароўкі падоены.
Спі, жонка, спі,
Спі, не рабі!

## 143. Я ПРАДУ, СУЧУ *

Я праду, сучу,
Спатачкі хачу.
Як пайду я ў каморачку —
Клоніць маю галовачку.
Спаць, хачу спаць,
Спаць, хачу спаць.

Свякруха ідзе,
Маланкай сячэ:
— Сшць нявехна, акалела,
На работу не паспела.
Не выспалася,
Не выспалася.

Я праду, сучу,
Спатачкі хачу.
Як пайду я ў каморачку —
Клоніць маю галовачку.
Спаць хачу,
Спаць хачу, спаць.

Свёкарка ідзе,
Як пярун, сячэ:
— Сшць нявехна, акалела,
На работу не паспела.
Не выспалася,
Не выспалася.

Я праду, сучу,
Спатачкі хачу.
Як пайду я ў каморачку —

Клоніць маю галовачку.
Спаць хачу,
Спаць хачу, спаць.

Мамачка ідзе,
Як галубка, гудзе:
— Спі, дзіцятка дарагое,
Пашло замуж маладое.
Не выспалася,
Не выспалася.

Я праду, сучу,
Спатачкі хачу,
Як пайду я ў каморачку —
Клоніць маю галовачку.
Спаць, хачу спаць,
Спаць, хачу спаць.

Татачка ідзе,
Як голуб, гудзе:
— Спі, дзіцятка дарагое,
Пашло замуж маладое.
Не выспалася,
Не выспалася.

## 144. КАМАРЫ ГУДУЦЬ

Камары гудуць,
Мне спаць не даюць.
Ой, пайду я ў каморачку
Ды прылажу галовачку,
То я там прызасну!

Свякроўка ідзе,
Як змейка, гудзе:
— Санлівая, драмлівая,
Заспаная, няўдалая
Сынавая мая!

Камары гудуць,
Мне спаць не даюць.
Ой, пайду я ў каморачку
Ды прылажу галовачку,
Там я прызасну!

А свёкарка йдзе,
Як ветрык, гудзе:
— Не санліва, не драмліва,
Не заспана, а ўдала
Сынавая мая!

Камары гудуць,
Мне спаць не даюць.
Ой, пайду [redacted] ў каморачку,
Прылажу галовачку,
Ды я там прызасну!

Міленькі ідзе,
Як голуб, гудзе:
— Калі будзе здароўіца,
Уся работка паробіцца,—
Ідзі ляж прызасні!

## 145. КАЗАЛІ ЛЮДЗІ, ШТО МОЙ СВЁКАР ДОБРЫ

Казалі людзі, што мой свёкар добры,
Ажно мой свёкар вельмі ліхі:
Паслаў мяне, маладу,
З паўночы па ваду,
Што ні куры не пяюць,
Ані гусі не крычаць,
Не вадзіцы жадаючы,
Мяне, маладу, збываючы.
Зачуе міленькі,
Конікі пасучы:
— Не журыся, жоначка
Мая маладзенькая:
Я коніка напасу,
Я вадзіцу прынясу,
Я свайму бацьку
Я ўсё угаджу.

## 146. ОЙ, НА САКАЛУ ПЕР'Е РАБАЕ

Ой, на сакалу пер'е рабае,
Як на паваньцы косы.
Ой, не зажыла адна нявехна
У свёкарка раскошы.[1]

[1] Два апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Свёкарка ўстане, свёкарка ўстане,
Па хатцы пахаджае:
— Устань, нявехна, ўстань, маладая,
Ўжо другі кур спявае.

Нявехна ўстала так, як не спала,
Ручанькі заламала.
— Ой, як я была ў сваго ойчанькі,
То я куры не чула,

Куры не чула, зораў не знала,
Работку парабіла.

Як засталася я да свёкаркі,
То я куры пачула,
Куры пачула, зоры пазнала,
Работкі не зрабіла.

Куры пачула, куры пачула,
Таўкучы і мелючы,
Зоры пазнала, пералічыла,
Па воду рана йдучы.

## 147. ЯК ПАЙДУ Я КАЛЯ ГАЮ

Як пайду я каля гаю —
Смародзіны наламаю,
Смародзіны наламаю
Не чорнае — зялёнае.
Не чорную — зялёную
Я ў пучочкі павязала,
Я ў пучочкі павязала,
На свякроўку пакідала.
Сама стану паслухаю,
Што мой свёкарка гаворыць,
Што мой свёкарка гаворыць,
Пра нявестачку судзіць:
— Негадзяй — наша нявестка:
Не ўмее спеч і зварыці,
Не ўмее спеч і зварыці,
Майму роду дагадзіці.

## 148. ОХ ТЫ, МЕСЯЧКА-ТАРГАЎШЧЫК

Ох ты, месячка-таргаўшчык,
Узыйдзі рана, пастой позна.

Выйду я к табе таргаваці,
Свёкра, свякруху прадаваці,

Свёкра прадала — шэлег узяла,
А за свякруху — адну палушку.

Татку купіла — сто й рублей дала,
А на мамку — і цаны няма.

Ой, выйду, выйду на вулачку
Да ўдару, удару ў ладоначкі,

У залатыя пярсцёначкі.
Чым я свёкру не ўгадзіла?

Ці пасцелечкі не паслала,
Ці ўзгалоўейка не паклала?

Не мусіў мяне пабудзіці,
Выйшаў на вулку, пачаў судзіці:

— Мая нявестухна санлівая,
На работу лянівая.

## 149. У ГОРЫ РАСЛА, У ГОРЫ Й ЗАМУЖ ПАШЛА

У горы расла, у горы й замуж пашла,
Толькі ў горы не радзілася,
Само гора прыкацілася,
Ад мамачкі адлучылася
Да к свякратку прыдзялілася.
А свякратка да няродны татка,
А свякроўка да не мамачка,
А я яе не дзіцятачка.
Па сенечках хаджу, я спаці хачу,
Кланіць маю да галовачку
Да на свекрыну пасцелечку,
Як лягу, так і сплю.

Свякроўка ідзе, як віхар гудзе:
— Да спіць мае да нялюбае,
Да на работу няўдалае,
Да няхай устае.
Па сенечках хаджу, я спаці хачу,
Да клоніць маю да галовачку
Да на мамчыну пасцелечку,
Як лягу, так сплю.
Мамачка ідзе, як пчолка гудзе:
— Да спіць мае ўдала дзіця,
Да на работу паспешнае,
Да няхай шчэ яно паспіць.

## 150. А УЧОРА МЯНЕ СВЯКОР НАБІУ

А ўчора мяне свякор набіў,
Ой, ля-лёй, рана свякор набіў.

Набіўшы мяне, сам у пір пайшоў.
Ой, ля-лёй, рана сам у пір пайшоў.

У піру седзячы, выхваляецца,
Ой, ля-лёй, седзячы, выхваляецца.

Майму татульку наругаецца,
Ой, ля-лёй, татачку наругаецца.

Ой, добра піці піва п'яное,
Ой, ля-лёй, піці піва п'яное.

Ой, добра біці дзіця чужое,
Ой, ля-лёй, біці дзіця чужое.

Піва п'яное не співаецца,
Ой, ля-лёй, п'яное не співаецца.

Толькі слёзкамі abліваецца,
Ой, ля-лёй, слёзкамі abліваецца.

Уватрэцца рукаўком — слёзкі ручайком,
Ой, ля-лёй, слёзкі ручайком.

Уватрэцца рукою — слёзкі ракою.
Ой, ля-лёй, слёзкі ракою.

## 151. УЧОРА ЗВЯЧОРА МЯНЕ СВЁКАР БІЎ

Учора звячора мяне свёкар біў,
Набіўшы мяне, сам у свет пайшоў.

Па свеце ходзе, пахмяляецца,
Усё майму роду насміхаецца:

— Ой, добра, добра сіроту біці —
Яна не просіцца, не адбіваецца,

Толькі слёзкамі заліваецца,
Тонкім рукаўком выціраецца.

Яна рукаўком — слёзкі ручайком,
Яна рукою — слёзкі ракою.

## 152. А ЎЖО ВЕТРЫКІ РАСШУМЕЛІСЯ

А ўжо ветрыкі расшумеліся,[1]
І вароцекі расскрыпеліся.
І ўчора звячора мяне свёкар біў.
Пабіўшы мяне, сам у пір пайшоў.
А ў піру сядзіць, выхваляецца
Дый майму роду наругаецца:
— І біў я нявестачку, яшчэ біць буду.
Харашо біць чужое дзіця —
Яно не сварыцца й не ругаецца,
Толькі слёзкамі абліваецца.

## 153. КАБЫ ЧАРАЧКА ГАРЭЛКІ

Кабы чарачка гарэлкі,
Я бы п'яна напілася,
Удоль па вуліцы прайшлася,
Люлюшкі-люлі.

Мяне дома не бывала,
У мяне ў двары шкода стала,
Люлюшкі-люлі.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

У мяне ў двары шкода стала:
Свёкар з печкі зваліўся,
За калоду заваліўся,
Люлюшкі-люлі.

За калоду заваліўся,
За калоду заваліўся —
Вятчызнаю падавіўся,
Люлюшкі-люлі.

## 154. ОЙ, У САДУ КАЛІНА

Ой, у саду каліна
Стаіць чырвоная.
Кажуць, матка, людзі,
Што я маладая.

Я не маладая,
Така мая ўрода,
У майго свякоркі
Добрая выгода.

Калодзезь на двары,
Вядзерца на ключы,
То мне весяленька
Па ваду йдучы.

## 155. ОЙ, БЕДНАЯ МАЯ ГАЛОУКА

Ой, бедная мая галоўка,
Што не пускаюць гуляці,

Што не пускаюць гуляці
Ад малога дзіцяці.

А хоць пусцяць,
Ды вяляць скора прыходзіць.

Куры пяюць, а я гуляю,
Другія пяюць, а я і не дбаю,

А трэція пяюць — пасланца шлюць.
Першы пасланец — дзевяратка.

— Ах ты, нявестка, ідзі дадому,
К свайму дзіцяці малому.

— Ах, свёкар — бацька мой,
Дарагая твая паходка, шаўковая барадка.

— Ах ты, нявестка, гуляй сабе да сонца,
Не скажу табе ні слоўца.

Гуляй сабе, нявестка, да абеду,
Я па цябе прыеду.

## 156. НЕ ПЕЙЦЕ, КУРЫ, І Ў СТАДОЛЕ

Не пейце, куры, і ў стадоле,
Не будзіце свёкра і ў каморы.

А мой свёкарка не свой татка,
Узбудзе мяне рана-ранюсенька

Да й шлець па вадзіцу цямнюсенька.
Я ж, маладзенька, слухмяненька,

Свайго свёкаркі паслухала,
Узяла вядзерцы пастукала:

— Не ліха робіш — і сам сходзіш,
Не трасцу трасеш — і сам прынясеш.

## 157. ПУСЦІ, ПУСЦІ, СВЕКАР-ТАТУЛЬКО

— Пусці, пусці, свёкар-татулько,
Мяне, маладзеньку, на вулку.
На вуліцы дзевачкі скачуць,
А ў мяне дзяціна плачыць.
Татулька пускае: «Ідзі, ідзі,
Па дзяціне не задумляйся
І дадому не спяшайся».
А я пайду сціха да ойца,
Падзіўлюся, гляну ў аконца:
Ажно свякруха ў печы паліць
І вячэраці варыць,

А свёкар белы лісты піша
І малу дзяціну калыша:
— Люлі, люлі, дзяціна малая,
Няхай твая маці пагуляе,
Няхай пагуляе маладая.
Як мая галоўка схіснецца,
Так яе гулянне мінецца.

## 158. ЧЫЙ СВЁКАР БЛАГІ

Чый свёкар благі,
А мой свёкар добры,
Ён мяне не судзіць,
Раненька не будзіць.
Ён сам устаніць,
А мяне накрываіць:
— Спі, спі, нявехначка,
Спі, маё дзіцятка.
Тваё дзіця мала,
Ночкі недаспала,
Ўсю ночку сядзела,
Свечачка гарэла.

9. Зак. 262

## 159. АЙ, АРЭШУ МОЙ, АРЭШУ

Ай, арэшу мой, арэшу,
Ўвесь у белым цвеце.
Бедна мая галовачка —
Адна я у свеце.

А хаджу ж я па святліцы,
Як сонейка ў крузе:
Няма к каму прыхіліцца,
Маё сярдзечка ў тузе.

А хаджу я па святліцы,
Як заблудная оўца,
А некаму мне прамовіць
Ды вернага слоўца.

Не аддаваў мяне татка,
Не аддавала маці —
Сама сабе спалюбіла,
Не на каго жалкаваці.

— Ці ты, мая матулечка,
Каля рэчкі не хадзіла?
Ці ты мяне маленькую
На ручках не насіла?

Ці ты мяне маленькую
На ручках не насіла?
Чаму мяне, матулечка,
У Дунай не ўтапіла?

— Утапіла б, дзіця маё,
Дык баялася бога.
Я ж гэтага не ведала,
Што твая горка доля.

## 160. ПАРАДЗІЛА МЯНЕ МАЯ МАМ(Ы)КА*

Парадзіла мяне мая мам(ы)ка
Ў святую нядзелю,

Ў нядзелю.
Да дала мне гор(ы)кую долю,
Дзе я яе дзену?

Я дзену.
— Чаго ты, родная мама,
Долечку не дала?

Не дала.
Чаму мяне, родная мамка,
Ў вадзе не ўтапіла?

Не ўтапіла.
— Да тапіла, дзіця маё роднае,
Да ты не ўтанула.

Не ўтанула.
— Ці ты, мая родная мамка,
Горку долю чула?

## 161. А У ЛУЗЕ КАЛІНА

А у лузе каліна
Усе лугі ўкрасіла.
Несаборная ты, дружыначка,
Маё сэрца ссушыла.

Як пайду я да броду,
Ды да броду па воду.
Вот я глянуся, вот я глянуся,
Ці харошага роду.

А я роду харошага,
Маё лічка прэкрасна.
За ліхім мужам, за нядбайнічкам,
Мая доля няшчасна.

Ой, каб я гэта знала,
Ды што замужам ліха,
Ой, часала б я русы валасы
У матулечкі ціха.

А замуж не йшоўшы —
Ды людская памоўка.
За ліхім мужам, за нядбайнічкам —
Ды бедная галоўка.

## 162. ЧЫРВОНА КАЛІНА*

Чырвона каліна
У лузе стаяла,
Чаму смутная, невясёлая
Са мной раз(ы)маўляла? [1]

Што не ветрыкі веюць
Да лісце калыша —
Мая мамачка, мая родная
Ка мне лісты піша.

Адзін напісала, другі прачытала.
Долю горкую, нешчаслівую
Яна век праклінала.

Ці я не такая,
Як тая другая:
І харошая, і прыгожая,
Толькі доля ліхая.

Пайду я ў камору:
Ні хлеба, ні солі,
Ой, за п'яніцай, за нядбайніцай
Я навекі прапала.

Пайду я ў Малекаў,
Стану пад дзвярымі:
Людзі моляцца, людзі клоняцца,
Я зальюся слязіма.

---

[1] Апошні радок кожнай страфы паўтараецца.

## 163. ОЙ, УГАВАРЫЛІ Ж МЯНЕ ЛЮДЗІ

Ой, угаварылі ж мяне людзі:
Пойдзеш замуж — добра табе будзе.
Я чужую волечку ўчыніла:
Пайшла замуж — галоўку ўтапіла.
Утапіла галовачку ў воду —
Папаўся муж паганага роду.
Ой, не знаю, як яму гадзіць,
Ой, не знаю, як яму гадзіць —
Ўстану рана дый пайду будзіць,
Устану рана дый пайду будзіць:
— Уставай, уставай, мой дружочак,
Ужо ж табе вада ў кубочку,
Ужо ж табе рушнік на кручочку.

## 164. МАМКА Ж(Ы) МАЯ, ШТО Ж ТЫ НАРАБІЛА *

Мамка ж(ы) мая, што ж ты нарабіла,
Нашто ж(ы) маю галоўку ўтапіл(а)?

А ўтапіла галовачку ў воду —
Пашла замуж к паганаму ж(ы) род(у).

Утапіла галоўку ў крыніцу —
Папалася за горкую п'яніц(у).

Я ж не ўмею п'яніцы гадзіці,
Як ляжа спаць, не смею будзіц(і).

А як стане п'яніца ўставаці,
Я ж, малада, за дзверы ўцякац(і).

— Чаго ж, міла, за дзверы ўцякаеш,
Ці ж ты маіх наравоў не знаеш?

— Знаю ж, мілы, твае наравочкі,
Беражу ж я сваёй галовачкі.

## 165. АРЭШАНЬКА-ЦЯРЭМШЫНКА

Арэшанька-цярэмшынка
Без ветру завяла.
Няўдалае замужжайка
Мне свет завязала.

Каму вечар не за вечар,
А мне — вечарышча.
Чый муж добры, не лянівы,
А мой — гультаішча.

Скрыпучыя вароцейкі
Не магу адперці.
Загневаўся мой міленькі
Да самай жа смерці.

— Ты гневайся не гневайся —
Прасіці не буду.
Ой, выйду ж я на вуліцу —
Другіх любіць буду.

## 166. ПАЙДУ, МОЛАДА, У ДУНАЙ ПА ВАДУ

Пайду, молада, у Дунай па ваду,
Па халодную, па сцюдзёную.
Знайду, молада, стаду гусачак,
Стаду шэранькіх, стаду беленькіх.
— Піце, гусачкі, хоць да вечара,
А я, молада, у чужой старане —
Ані татачкі, ані мамачкі,
Ані брацяткі і з сястрыцаю.
Толькі есціка адзін міленькі,
Чарнабрывенкі, чарнамазенькі.
Як раздобрыцца — лепей татачкі,
Як рассердзіцца — горай ведзьмішчы,
Чарадзейнішчы, мая мамачка.
У істопку іду — за мяне таўкач,
За мяне і млён, мая мамачка.
З істопкі іду — міл на печы сядзіць,
Міл на печы сядзіць, з-пад рукі глядзіць —
Хочыць укусіць, мая мамачка.

## 167. ОХ, ІЗВІУСЯ ПАЛЫН І З ТРАВОЮ

Ох, ізвіўся палын і з травою,
Ажаніўся стары з маладою.

Ой, ідуць людзі ў поле араці,
А мой мілы да карчмы гуляці.

Ідуць людзі з поля з гарання,
А мой мілы з карчмы і з гуляння.

Яшчэ мілы на парог ступае,
А міленька праз акно уцякае.

Паконд міла жарты распазнала,
Ні адну ноч ў лесе начавала,

Ні адну ноч ў лесе начавала,
З калінаю ладна размаўляла:

— Ты, каліна, ты, ружовы цвеце,
Парадзь жа мне, як жыці на свеце?

Як я была ў айца дзяўчынаю,
То не чула ножак пад сабою,

А як вышла за ліхога мужа,
То я стала за рачок нядужа.

Падай, татку, паўбочкі пшаніцы,
Выкуп мяне ад тае п'яніцы!

— Хоць я прадам паўбочкі, другую,
Не выкуплю цябе, маладую.

— Прадай, татка, каня варанога,
Выкуп мяне ад друга ліхога!

— Хоць я прадам коніка, другога,
Не выкуплю ад друга ліхога.

## 168. ОЙ, ЗВІУСЯ БАРКУН І З ТРАВОЮ

Ой, звіўся баркун і з травою,
Ажаніўся стары з маладою.

Стары ідзе ў поле араці,
Маладая ў карчомку гуляці.

Стары ідзе з поля з гарання,
А маладая з карчомкі з гуляння.

Стары на парог ступае,
Маладая акном уцякае.

— Ці ты, маладая, жартунькаў не знаеш,
Што праз акно ад мяне уцякаеш?

— Прадай, татку, карову рабую,
Выкуп, выкуп мяне, маладую!

— Каб я прадаў другую такую,
Не выкуплю цябе, маладую.

— Прадай, татку, паўбочкі жыта,
Выкуп, выкуп ад ліхога жыцця!

— Каб я прадаў другую такую,
Не выкуплю цябе, маладую.

— Прадай, татку, паўбочкі пшаніцы,
Выкуп, выкуп ад мужа п'яніцы!

— Каб я прадаў другую такую,
Не выкуплю цябе, маладую.

— Прадай, татку, паўбочкі і грэкі,
Выкуп, выкуп ад мужа Мікіты!

— Каб я прадаў другую такую,
Не выкуплю цябе, маладую.

— Прадай, татку, каня варанога,
Выкуп, выкуп ад мужа ліхога!

— Каб я прадаў другога такога,
Не выкуплю ад мужа ліхога.

## 169. ОЙ, СЫШОУСЯ СПОРЫШ І З ТРАВОЮ

Ой, сышоўся спорыш і з травою,
Ажаніўся стары з маладою.

Пайшоў стары ў поле араці,
Маладая — у карчму гуляці.

Ідзе стары із поля з арання,
Маладая — з карчомкі з гуляння:

— Ідзі, стары, у лес па каліну,
Не наломіш, ей-богу, пакіну!

Пайшоў стары каліну ламаці,
Маладая — у карчму гуляці.

## 170. А Й ТОНКАЯ, НЕВЫСОКАЯ ЛЯШЧЫНА

А й тонкая, невысокая ляшчына,
Маладая неразумная дзяўчына.

Палюбіла ды казачаньку старога,
А вядзець яго з карчомачкі п'янога.

Палажыла спаці ў цясовай краваці,
Сама пайшла салавееньку ўцішаці:

— А й цішыце, салавеенькі, ў даліне,
Няхай жа спіць ды казачанька ў пярыне.

А ён жа спіць ды ўсё гэта чуіць,
Нагаечку-дратаваначку гатуець.

Нагаечка-дрытаваначка — жоўты цвет,
Як ударыць, дык нялюбы белы свет.

## 171. ОЙ, ПАМРЫ, СТАРЫ, ПАМРЫ

Ой, памры, стары, памры,
За маладога пайду.
А ці лепшую, а ці горшую
Сабе долечку знайду?
А памёр стары, памёр,
За маладога пайшла.
А не лепшую, але горшую
Сабе долечку знайшла.
Як пайду я блудзіці
Ды старога будзіці:
— Ой, устань, стары, устань,
Паглядзі маё цела.

Ды ўжо ж маё цела
Ад нагаек скіпела,
Мая белая ўся кашулечка
Ад крыві ўзмакрэла.
Як за старым я ела
Пірагі ды баранкі,
А за маладым, за п'яніцаю —
Канчукі ды нагайкі.

## 172. НА ВУЛІЦЫ ДЗЕУКІ ГУЛЯЛІ

На вуліцы дзеўкі гулялі,
Мяне, маладзеньку, гукалі.
А ў мяне дома муж ліхі —
На вуліцу не пускае.
А хоць пусціць, дык позненька:
Усе дзевачкі — розненька.
Выйду на вуліцу, запяю —
Усіх дзевачак сабяру.
А дамоў ісці баюся,
Ў дзевяратачкі прашуся:
— Дзевяратачка, меншы брат,
Давядзі мяне дадому,
Дам табе хустку шаўкову,
Тонкую кашулю да долу.
А зачуў тое муж ліхі:
— Я табе, шэльма, бок наб'ю,
Шаўкову хустку ў склад складу,
Тонку кашулю сам знашу.

## 173. ОЙ, У МЯНЕ, МАЛАДОЙ *

Ой, ў мяне, маладой,
Муж маленькі.

Муж маленькі.
Ой, не ўмее муж маленькі
Абувацца.

Абувацца.
Толькі ўмее муж маленькі
Наругацца.

Наругацца.
Як вазьму я, маладая,
Ў рукі вожкі.

Ў рукі вожкі.
Да звяжу я недаростку
Ручкі-ножкі.

Ручкі-ножкі.
Ці не будзе недаростак
Наругацца.

Наругацца.
Ўперак мае краваці
Спаць лажыцца,
Спаць лажыцца.

## 174. ОХ, АДДАЛА МЯНЕ МАЦІ ДА ЗА НЕДАРОСТКА

Ох, аддала мяне маці да за недаростка,
А я таго недаростка знаку не любіла,
Папрасіла недаростка ў гасціну ехаць:
— Залож, залож, недаростку, каня варанога,
Мы паедзем у гасціну да ойца мілога.
Ой, едзем да едзем мілю, ой, едзем другую,
На трэццю сталі спачываць, ой, сталі спачываць,
Стала яна недаростка ў лесе пакідаць.
Увяжу я недаростка да сосны ачыма,
Ой, да сосны ачыма, да сябе плячыма.
— Да што ж ты, да недаростак, ой, спіш да драмаеш,
Спіш, да спіш усё, драмаеш да думку думаеш?
— Ой, я не сплю, не драмлю, да думку думаю,
Ой, што мае ногі, ногі нажылі трывогі,
Ой, што мае вочы, вочы не даспалі ночы,
Ой, што мае рукі, рукі да зажылі мукі.

## 175. АДДАЛА МЯНЕ МАЦІ ДА ЗА НЕДАРОСТКА

Аддала мяне маці да за недаростка,
А я таго недаростка змалу не любіла,
Чатыры нядзелькі да не гаварыла,
Пяту нядзельку стала гаварыці,

Недаростка ў гасціну да бацькоў прасіці:
— А ты, недаростку, закладай кабылу,
Паедзем да бацька ў гасціну.
Заехалі ў густу пушчу,
Узяла да прывязала да бору ачыма,
Да бору ачыма, да сосны плячыма,
А сама паехала да бацькі ў гасціну.
Нямножка бавілася, чатыры нядзелькі,
На пяту нядзельку стала выязджаці,
Стала недаростка свайго спамінаці:
— Чы ты спіш, чы драмаеш?
Чы ты мяне, маладое, з гасціны чакаеш?
— Я не сплю, не драмлю,
Але цябе, маладое, з гасцей жду.
Дай ты мне, мілок, хоць вады напіцца.
— Не дам, недаростку, будзеш маці хваліцца.
Як не будзеш казаць, то я табе, недаростку, рукі развяжу.
— Не буду, не буду, навек твае гасціны не забуду!

## 176. ЯК АДДАУ МЯНЕ БАЦЬКА ЗА ТАКОГА*

Як аддаў мяне бацька за такога,[1]
Як аддаў мяне бацька за малога,
За такога за малога недаростка.

Ды не ўмеў недаростак адзявацца,
Толькі ўмеў недаростак наравацца.

Як вазьму я, малада, новы вожкі,
Завяжу я недаростку ручкі-ножкі.

Панясу я недаростка ў чыста поле,
Не бачыла недаростка тры нядзелі,
А ўжо майго недаростка ваўкі з'елі.

## 177. ОЙ, АДДАЛА МЯНЕ МАЦІ

Ой, аддала мяне маці
Дый за невыростка,
А я таго невыростка
Змалку не любіла.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

А я таго невыростка
Змалку не любіла,
Тры, чатыры нядзелечкі
Дый не гаварыла.

На пятую нядзелечку
Стала гаварыці,
Стала свайго невыростка
Ў гасціну прасіці:

— Запрагай ты, невыросце,
Сівую кабылу
Ды сядзема і паедзем
Да роду ў гасціну!

Прыязджаю я да лесу:
— Станьма, супачыньма!
Прывязала невыростка
Да сасны плячыма,

Прывязала невыростка
Да сасны плячыма,
Сама села, паехала
Да роду ў гасціну.

Ой, жыву я там нядзельку,
Жыву і другую,
А на трэцюю нядзелечку
Еду я дадому.

Прыязджаю я да лесу
Ды стала гукаці,
Стала свайго невыростка
Дадому клікаці,

Стала свайго невыростка
Дадому клікаці:
— Ой, ці ты, мой невыросце,
Ці спіш, ці драмаеш?

— Ды не сплю я, мая міла,
Не сплю, не драмаю,
Ды цябе я, мая міла,
З гасцей паджыдаю!

Ой, дай жа мне, мая міла,
Вадзіцы умыцца,
То я буду пра гасціну
Людзям гаварыці!

— Не дам табе, невыросце,
Вадзіцы напіцца,
Бо ты будзеш пра гасціну
Людзям гаварыці!

— Дальбог, дальбог, мая міла,
Не буду казаці,
Буду тваю гасціначку
Праз век спамінаці.

Ды ўжо ж мае ясны вочкі
Недаспалі ночкі,
Ды ўжо ж мае белы ручкі
Дый зажылі мучкі!

## 178. З-ПАД ДУБА ДАРОЖАНЬКА, З-ПАД ДУБА

З-пад дуба дарожанька, з-пад дуба,
Не даў мне пан бог, каму я была люба.

З-пад вішні дарожанька, з-пад вішні,
Не даў мне пан бог, каму я была ў мыслі.

Ой, то не тая дарожанька, не тая,
Аддалі мяне за Ясеньку-гультая.

Як канапельку ў балоцечка ўтапталі,
Так вы мяне за нялюбага аддалі.

Як каноплі цяжка ў балоце гніці,
То яшчэ мне цяжэй за нялюбым жыці.

## 179. ОЙ, КАРАВАЦЬ МАЯ Ж(Ы) ЦЯСОВАЯ *

Ой, каравацъ мая ж(ы) цясовая,
Долечка невясёлая(й),

Ой, долечка невясёлая(й).
Над табою, караватачка,

Ой, над табою, караватачка,
Адну ночачку п(ы)растаяла.

Ой, адну ночку п(ы)растояла,
А другую п(ы)рап(ы)лакала.

Ой, а другую п(ы)рап(ы)лакала,
Свайго мілага п(ы)росячы.

Ой, свайго мілага просячы:
— Прашу, мілы, ты не гневайся.

Ой, прашу, мілы, ты не гневайся,
Мне за цябе не хацелася.

Ой, мне за цябе не хацелася,
Хацелася мне ж за іншага.

Ой, хацелася мне за іншага,
За іншага да й за леп(ы)шага.

А, ой, за іншага да й за леп(ы)шага,
За лепшага да за рум(ы)янага (эй).

Ой, за лепшага да за рум(ы)янага,
Малойчыка разудалага.

## 180. У МАЙГО ТАТАЧКІ ДВОР НАД ВАДОЮ

У майго татачкі двор над вадою,
Аддаў татачка замуж далёка,
Замуж далёка за нялюбага.
Зорачка ўзышла — я спацькі пайшла,
Другая ўзышла — я ачнулася,
Ад нялюбага адвярнулася.
Адвярнуўшыся, цяжка ўздыхнула.
— Чаго, мілая, цяжка ўздыхаеш?
Ці хлеба-солі ў хаце не маеш?
— Мне хлеба-солі — ўсяго даволі,
Ад нялюбага слоўца не чую.

О дай жа, божа, цёмную ночку —
Ад нялюбага пайду упрочку.
Іду я поле, іду другое,
На трэцяе поле я наступаю
І смерць-матухну я сустракаю.
— Смерць, мая маці, куды ты ідзеш?
— Іду ад бога па нялюбага.
— Смерць, мая маці, не бяры яго,
Не бяры яго, а бяры мяне.
Ўсе людзі знаюць, што я не любіла,
Ўсе людзі скажуць, што я атравіла.

## 181. ВЫП'Ю ЧАРУ ДЫ ПАСТАЎЛЮ *

Вып'ю чару ды пастаўлю,[1]
А сама пайду пагуляю.

А сама пайду пагуляю,
Як(ы) рыбін(ы)ка па Дунаю.

(і) Туды-сюды ўстрапянуся,
Я ж(ы) нікога не баюся:

А ні свёкра, ні свякроўкі,
Ні дзевера, ні залоўкі.

Тол(ы)кі аднаго баюся —
І з кім спаці кладуся.

Уздобрыцца — й вады прынясець,
А ўсердзіцца — у бок наб'ець.

## 182. НЕ УГАДАЛА МАЦЬ

Не ўгадала маць,
Ох, не ўгадала маць,
За каго й аддаць.

Аддала мяне маць,
Ох, аддала мяне маць
Не за людскага,

[1] Кожны радок паўтараецца.

Не за людскага,
Ох, не за людскага,
За дурацкага.

Ён кравацъ мосціць,
Ох, ён кравацъ мосціць
З адной достачкі,

А ён спаць ляжа,
Ах, ён спаць ляжа
Не па-людскаму.

Ён ка мне плячмі,
Ох, ён ка мне плячмі,
А к сцяне вачмі.

Между нас ляжыць,
Ох, между нас ляжыць
Змяя лютая,

Змяя лютая,
Ох, змяя лютая,
Ўсё й разлучніца.

Разлучыла нас,
Ох, разлучыла нас
З добрым малайцом.

У нагах нашых,
Ох, у нагах нашых
Сугроб снегу.

У галавах нашых,
Ой, у галавах нашых
Кацёл жару.

У галавах нашых,
Ох, у галавах нашых
Кацёл жару.

## 183. ОЙ, НЕ ХОЧАЦЦА ДЫ МНЕ, МОЛАДЗЕ

Ой, не хочацца ды мне, моладзе,
Ні піці, ні есці —
Толькі хочацца ды мне, моладзе,
Каля мілага сесці.

Ляжыць мілы ў краватачцы,
Слоўца не прамовіць,
А яна ж сядзіць, маладзенькая,
Белы ручанькі ломіць.

А яго матка ды старэнькая
Бярэ разважае:
— Не плач, дзеўка, не плач, красна,
Ты яшчэ маладая.

Перагаруеш, перабядуеш,
За другога пойдзеш.
— А матуленька ды старэнькая,
Што ж ты мне гаворыш?

А матуленька ды старэнькая,
Што ж ты мне гаворыш?
Я й свет прайшла ды назад прыйшла,
Ды такога не знайшла.

## 184. ОЙ, Я САД ПАСАДЗІЛА

Ой, я сад пасадзіла
І віном палівала,
Не судзіў жа мне пан бог,
Каго верна кахала.

Каго я любіла,
То той стаіць за плячыма,
А каго я знаць не знала,
З тым на шлюбе стала.

Ой, шлюбе мой, шлюбе,
Горкае маё шлюбаванне,
Ой, бог знае, бог ведае,
Якое будзе прабыванне.

— Ой, стара маці,
Ты парадніца ў хаце,
Парадзь жа мне, мая маці,
Як мне нелюба называці.

— Пасадзі, мая доню,
Ды за цясовым сталом,
Назаві, мая доню,
Ясным пракрасным сакалом.

— Луччай буду, мая маці,
Круты горы капаці,
Нежлі таго гіда-брыда
Саколічкам называці.

Круты горы капаючы,
То я сяду, спачыну,
З няверпаю дружынаю
Куды пайду, то загіну.

## 185. АЙ, КОЦІЦЦА, КОЦІЦЦА СОНЦА ЗА ЛЯСОК

Ай, коціцца, коціцца сонца за лясок,
Ой, хочацца, хочацца к мамцы на часок.
— Пусці, пусці, міленькі, у вішнёў сад гуляць.
— Ай, не пушчу, мілая, вішнёў сад ламаць.
Ой, вышчыпну, выламлю вінаградачку,
Занясу мамачцы на парадачку.
— Парай, парай, мамачка, як з нялюбым жыць?
Лепей было ў мамачкі тры гары капаць,
Як з нялюбым міленькім ночку начаваць.
Тры гары капаючы — сяду аддыхну,
Як з нялюбым таварышам жыць я не магу.
Лепей было ў мамачкі горкі палын есці,
Як з нялюбым таварышам за стол сесці.

## 186. ОЙ, КОЦІЦЦА, КОЦІЦЦА СОНЦА ЗА ЛЯСОК

Ой, коціцца, коціцца сонца за лясок,
Ой, хочацца, хочацца к мамцы на часок.

— Пусці, пусці, міленькі, у сад пагуляць,
Я не буду, міленькі, вішанек шчыпаць.

Ай, выламлю, выламлю вінаградачку,
Пайду к роднай мамачцы на парадачку,

Пайду к роднай мамачцы на парадачку.
— Парай, парай, мамачка, як з нялюбым жыць.

Лепей было, мамачка, тры гары капаць,
Як з нялюбым дружочкам век векаваць.

Лепей было, мамачка, горкі перац есці,
Як з нялюбым дружочкам за столік сесці.

— Жыві, жыві, дачушка, жыві, нябога,
Гэта табе, дачушка, доля ад бога.

Тры гары капаючы, сядзеш адпачнеш,
І з нялюбым дружочкам веку дажывеш.

## 187. КАЛІНА, КАЛІНА, ЧЫРВОНА ЖУРАВІНА

— Каліна, каліна, чырвона журавіна.
Што ты думала, маладая дзяўчына?
— Я тое думала — сваю горкую долю.
Ай, мамка мая, ты мая парадніца,
Парадзь жа ты мне, як нямілага звацї.
— Навары, дзіцятка, рыбачкі з юшкай,
Назаві, дзіцятка, хоць нямілага, дружкай.
Навары, дзіцятка, рыбачкі з перцам,
Назаві, дзіцятка, хоць нямілага, сэрцам.
Нікому не лепей, як той перапёлцы —
Куды захацела, туды і паляцела:
Ці ў бор па ягады, ці ў луг па калінкі.
У бару ягодкі — буйныя, салодкі,
У лугу калінка — яна вельмі горка.

## 188. ЖЫЛА Я У ТАТАЧКІ НА ВЫГОДЗЕ

Жыла я ў татачкі на выгодзе,
Садзіла арэшкі ў агародзе.[1]

Расціце, арэшкі, вышэй плоту,
Аддаў мяне татачка за блазноту.

А ўсе малойчыкі п'юць, гуляюць,
А маю блазнотачку не прымаюць.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Пайду я да татачкі, папрашуся:
Калі прыміць татачка, дык вярнуся.

Аж там мяне татачка не прымаіць,
Няроднай дачушачкай называіць.

Пайду я да мамачкі, папрашуся:
Калі прыміць мамачка, дык вярнуся.

Аж там мяне мамачка не прымаіць,
А ўсё да блазнотачкі адпраўляіць.

Пайду я да рэчачкі, папрашуся:
Калі прыміць рэчачка — утаплюся.

## 189. ЗАШУМЕЛА ЎСЁ ЗЯЛЁНА ДУБРОЎКА

Зашумела ўсё зялёна дуброўка,[1]
Забалела мая буйная галоўка.

Ой, балець табе, галовачка, давеку,
Прызасталася худому чалавеку.

Не такому было дурню мяне браці,
Было браці мяне першаму дружочку,

Каторага я ў дзевачках любіла,
З правай ручкі калечка падарыла.

А за тое мяне матка браніла,
Што я далёка свайго друга правадзіла,

А за тыя за горачкі за крутыя,
За пралесачкі за тыя за зеляныя.

## 190. ЯК Я Ў СВАЙГО БАЦЮШКІ ГУЛЯЮ, ГУЛЯЮ

Як я ў свайго бацюшкі гуляю, гуляю,
Як я ў свайго радзімага гуляць не ўнімаю.

Цяпер мяне сунімае чужая дзяціна,
Бадай яго сунімала ліхая гадзіна.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

Цяпер мне не хадзіці, куды я хадзіла,
Цяпер мне не любіці, каго я любіла.

Цяпер трэба таго любіць, і з кім ручачкі звяжуць,
Цяпер трэба туды хадзіць, куды людзі скажуць.

### 191. МАЛАДЗІЦА, ЯК БРУЧНІЦА

Маладзіца, як бручніца,
На пясочку зрасла.
Нешчаслівая яе доля,
Што за блазна пашла.

А ў тога блазна
Дубовая лазня.
А я тае лазні
Не буду тапіці,

А я тае лазні
Не буду тапіці,
А я таго блазна
Не буду любіці.

Не тапіўшы лазні,
Бруды завядуцца,
Не любіўшы блазна,
Людзі насмяюцца.

Буду лазню тапіць,
Буду умывацца,
Буду блазна любіць,
Буду абнімацца.

### 192. ГУЛЯЎ, ГУЛЯЎ КАЗАЧАНЬКА ТРЫ ДНІ, ТРЫ НАЧЫ

Гуляў, гуляў казачанька тры дні, тры начы,
Тры дні, тры начы, у двор не йдучы.
Што першую ноч гуляў — коніка прайграў,
Коніка прайграў вараненькага.
А другую ноч гуляў — сядзельца прайграў,
Сядзельца прайграў залаценькае.
А трэцюю ноч гуляў — жоначку прайграў,
Жоначку прайграў маладзенькую.
— Калі б табе, казачанька, бог долі не даў,
Як ты мяне, маладую, ды ў карты прайграў.

## 193. ЗЯЛЁНАЯ БЯРОЗАНЬКА

— Зялёная бярозанька,
Чом не гарыш, ды ўсё курыш?
Гэй, гэй! Маладая малоданька,
Чом не робіш, да ўсё тужыш?

— Каб я была падпалёна,
То гарэла б, не курэла б,
Гэй, гэй! Каб папала ў добру сям'ю,
То рабіла б, не тужыла б.

Ой, у полі крынічанька,
Вецер воду вывявае,
Гэй, гэй! Маладая малоданька
Сваё жыццё праклінае:

— Не віннае маё жыццё,
Да вінная мая маці,
Гэй, гэй! За каго я не хацела,
Было мяне не аддаці.

Як я была дзеванькаю,
То ўсе людзі мяне зналі,
Гэй, гэй! А цяпера маладзіцаю
На мяне ворагі ўсталі.

Ой, ворагі, варажэнькі,
Адступіце мне з дарогі,
Гэй, гэй! Асудзілі мяне людзі,
Ой, ды з ножак да галавы.

Панясу я ліху долю
Ды на рынак прадаваці,
Гэй, гэй! Знаюць, што ліхая,
То й не хочуць купляці.

## 194. ЯК У ПОЛІ ВЕЦЕР ВЕЕ, МАЯ ДОЛЯ Ў ГОСЦІ ЕДЗЕ

Як у полі вецер вее, мая доля ў госці едзе.
— Ах ты, доля, мая доля, гдзе ты забарылася?
Чы ты ў полі жыта жала, чы ты ў лузе грыбы брала?
— Ой, я ў лесе заблудзіла і на цябе забыла.

— Як ішла я улачкамі, жывуць людзі парачкамі,
Ой, я, малада, жыву адна, не бачыла сабе дабра.
Як ішла я па падгор'ю, плачуць людзі па бяздоллю.
Па харошым чалавеку плачце, вочачкі, давеку,
Па дурному, па ліхому не вялю плакаці я нікому.

## 195. ЗОРАЧКА УЗЫШЛА, Я СПАЦІ ЛЯГЛА

Зорачка ўзышла, я спаці лягла,
Другая ўзышла, я прачнулася,
Ад нялюбага адвярнулася,
Цяжка мне, важка ўздыхнулася.
У мяне нялюбы праўды пытае:
— Чаго, мілая, цяжка ўздыхаеш?
Ці ты за мною хлеба не маеш?
— Я хлеб-соль маю і ўсё панімаю —
За нялюбым жыць не маю.

## 196. ЗОРАНЬКА ЗЫШЛА, Я АГНЮ НЕ ТУШЫЛА

Зоранька зышла, я агню не тушыла,
Другая зышла, я спаці пашла,
Трэцяя зышла, я прачнулася.
— Чаго, мілая, так рана ўстаеш?
Так рана ўстаеш, так цяжка ўздыхаеш,
Ці ў хаце хлеба-солі не маеш?
— Ой, я хлеб маю, солі прыдбаю,
А мілога жыцця ўсё не маю.
Ой, пайду я ў прочкі з цёмнае ночкі,
Ці не спаткаюся смертухны ідучы?
Ой, спаткала смерць у паўдарожанькі,
А ўпала, да ўпала ёй на ножанькі.
— Смертухна, матухна, не бяры яго,
Не бяры яго, а вазьмі мяне,
Бо людзі скажуць, што я ў проч хадзіла,
А я ў проч хадзіла, яго атруціла.

## 197. У МАЙГО БРАТА САД НАД РАКОЮ

У майго брата сад над ракою,
Сад над ракою, двор над вадою.

А ў тым садочку птушачкі пелі,
Птушачкі пелі і паляцелі.

Мяне, моладу, замуж аддалі,
Аддалі замуж за нялюбага.

Я нялюбаму пасцельку слала,
Пасцельку слала, цяжка ўздыхала.

— Чаго, мілая, цяжка ўздыхаеш?
Ці ж ты, мілая, хлеба не маеш?

А пайду я лугам-далінаю,
Сядзіць смертухна пад калінаю.

— Смертухна-маці, куды ты йдзеш?
— Іду, нябога, па нялюбага.

— Смертухна-маці, не бяры яго,
Не бяры яго, а бяры мяне.

Не бяры ўдзень, а бяры паўночы,
Каб не бачылі ясныя вочы.

Людзі гаворадь, што не любіла,
А тады скажуць, што загубіла.

## 198. ОЙ, ГОРА, ГОРА, ГОРА ГОРКАЕ

Ой, гора, гора, гора горкае,
Каб цябе, гора, пераламіла,
Я ж цябе, гора, усё знаравіла.
Зоранька ўзышла — я спаткі пайшла,
Другая ўзышла — абачхнулася,
Я ад нялюбага адвярнулася
Да цяжанька ж мне ўздыхнулася.
Нялюб пытае: — Чаго ўздыхаеш?
— Нашто пытаеш, калі не знаеш?
Пайду, малада, я дарогаю,
Я дарогаю, я шырокаю.
Спатыкалася я з смертухнай:
— Смяротка мая, куды ж ты ідзеш?
— Іду, нябога, па нялюбага.

— Смертухна ж мая, не руш яго,
Не руш ты яго, вазьмі мяне.
Да ў нялюбага радзінкі многа,
У мяне, маладзе, нету ж нікога.
Суседзі скажуць, што я загубіла,
А дзеткі скажуць, што я атруціла.

### 199. ЗЯЛЕНАЯ ДУБРОВАЧКА

Зялёная дубровачка,
Ты ж не гарыш, толькі курышся.
Маладая малодачка,
Ты не жывеш, толькі журышся.

Каб дуброўцы буен вецер —
Гарэла б, не курылася.
Каб малодцы мужык добры —
Жыла б, не журылася.

### 200. БЕЛАЯ БЯРОЗАЧКА ВАДУ ЗАМУЦІЛА

Белая бярозачка ваду замуціла,
Чаго ж мяне, маладую, замуж пакруціла?

Ні я піла, ні я ела, ні бела хадзіла,
Толькі свае маладыя леты патраціла.

Ёсць у майго татулькі коні вараныя,
А паеду даганяці леты маладыя.

Ачаліся мае леты, на каменным мосце,
Прыйдзіце ка мне, мае леты, хоць раз у госці.

Аддаў мяне мой татулька замуж далёка,
Замуж далёка, за сіняе мора,

За сіняе мора, ў вялікае гора,
Ў вялікае гора, за нямілага мужа.

### 201. ГОРА МАЁ, ГОРА*

(і) Гора маё, гора,
А я ўсё смяюсь,

(і) Бо я свайму гору
Да й не паддаюсь.

Ой, пайду я ў поле,
Ў поле нараблюсь,
Прыйду я дадому —
Слязьмі абальюсь.

Ой, выйду я ў сені,
Сяду на парозе.
Як здумаю гора,
Так абальюсь слёзьмі.

Не я нажылася,
Не я набылася,
Да за ліхім мужам
Роду выраклася.

А мая радзіма,
Дзе йдзе, там ўсё скач(а),
А я, маладая,
Дзе йду, там ўсё плачу.

Ой, плачу я, плачу,
Леты свае трач(у),

Леты мае, леты,
Леты малады(я),
І патраціла я вас
За часы малы(я).

Запрагай, мілы, коні,
Коні вараны(я),
Паедзем даганяці
Леты малады(я).

Даганялі лет(ы)
На калінавым мосце.
— Вярніцеся, леты,
Хоць да мяне ў госці.

— Цяпер не вернемся,
Было шанаваці,
Было шанаваці,
Як былі мы ў хаце.

## 202. ЦЕРАЗ МОЙ ДВОР ЗЯЛЕНЕНЬКІ

Цераз мой двор зялёненькі
Цяцерка ляцела,
Не аддаў мяне татулька,
За каго хацела.

Я й хацела, я й жадала
За пісара-пана,
Ды аддаў мяне татулька
За мужыка п'яна.

Не захацеў мой татулька,
Каб я панавала,
Ды захацеў мой татулька,
Каб я гаравала.

Не захацеў мой татулька,
Каб грошы лічыла,
Ды захацеў мой татулька,
Каб нуду карміла.

## 203. АХ, БОЖА МОЙ, БОЖА

Ах, божа мой, божа,
Гора ж мяне з'ела,
Не аддаў мяне мой татанька,
За каго я хацела.

Я хацела, маладзенька,
За пісара-пана,
Аддаў мяне мой татанька
За мужыка-хама.

Я думала, маладзенька,
Буду панаваці,
Аж прышлося, маладзенькай,
Век свой гараваці.

Я думала, маладзенька,
Ў золаце хадзіці,
Аж прышлося, маладзенькай,
Торбы валачыці.

## 204. ОЙ, БЕЛАЯ БЯРОЗАЧКА

Ой, белая бярозачка,
Бялей майго цела,[1]
Не аддаў мяне мой татачка,
За каго хацела.

Аддаў мяне мой татачка —
Каго я не знала,
Усё за тыя пераборы,
Што перабірала.

Я думала, я мысліла,
Буду панаваці,
Аддаў мяне мой татачка
Навек гараваці.

Я думала, я мысліла,
Буду добра жыці,
Аддаў мяне мой татачка
Горкі слёзкі ліці.

Я думала, я мысліла,
Што выйду за пана,
Аддаў мяне мой татачка
За мужыка-хама.

## 205. БЯРОЗКА, БЯРОЗКА КАРАНІСТАЯ

Бярозка, бярозка караністая,
Даў мне бог мужыка наравістага.

Пакул(і) я наровы ўсе разведала, (2)
Не раз(ы) я слёзкамі паабедала. (2)

Не раз я пад аконцам настаялася,
Рукаўцом слёзачак націралася.

## 206. КАЛЯ РЭЧКІ, КАЛЯ БРОДУ

Каля рэчкі, каля броду
П'юць галубы сіню воду.

---

[1] Другі і чацвёрты радкі паўтараюцца.

Напіліся, паляцелі,
Крылайкамі маханулі,

Крылайкамі маханулі,
Бацьку з маткай спамянулі.

Цяпер гора трэба знаць:
Позна легчы, рана ўстаць,

Ўсю дружынку абудзіць,
Дзяжу хлеба замясіць.

Хлеб мясіла — рукі ў цесце,
Дзіця плача ў калысачцы.

Ручанькамі размахнула,
Калысачку ўскалыхнула.

— Ці ты, мілы, спіш, не чуеш,
Ці ты мяне не шкадуеш?

— А я не сплю, усё чую,
Цябе, шэльма, прамуштрую.

## 207. ПОЗНА-ПОЗНА ЗВЕЧАРА СЯДЖУ

Позна-позна звечара сяджу,
Тонкі, белы кужалёчак праду.

У аконца часта пазірала,
Сваю мамку на моры ўвідала.

Я думала, гэта вутка плывець,
Аж там мая родна мамка ідзець.

Кіну, кіну праснічку пад лаўку,
Сама пайду пераймаці мамку.

Правай ручкай мамачку вітаю,
Левай ручкай слёзачкі ўціраю.

— Знаць, дачушка, ты ў вялікім горы,
Відзіш мамку аж на сінім моры.

Знаць, дачушка, сям'і не ўгадзіла,
Ні з работкай, ні з сваей паходкай,

Ні з адзежкай, ні з сваей пабежкай.
— Усе добры, адзін муж нядобры,

Ён жа мяне штодзянёк караіць,
Ён жа маю радзінку ругаіць.

## 208. НЕ ДДАВАЛА МЯНЕ МАТКА

Не ддавала мяне матка,
Не ддаваў мяне бацька.
Сама, млода, замуж вышла
За горкага за п'яніцу.
Як топне нагою:
— Гавары, шэльма, са мною!
— А рада б я гаварыці,
Дык ён будзе больна біці.
А як топне другою:
— Гавары, шэльма, са мною!
Вазьму вёдры — пайду за вадою,
Кіну вёдры пад гарою.
Услыхала мяне маці,
Што горкая мая доля.
— Не кліч, не кліч, мая донька,
А горкая твая долька.
— Завяжы-ка белым платком вочы,
Вядзі мяне, утапі мяне
Проці цёмнае ночы.
Вазьмі мяне, мая маці,
Завяжы белым платком вочы,
Вядзі мяне, утапі мяне,
Штоб людзечкі не званалі,
Штоб сабакі не брахалі.

## 209. ОЙ, ЧЫРВОНА КАЛІНА

Ой, чырвона каліна
На ўвесь лес чырванела.
Аддала мяне мая маманька,
Дзе вяліка дружына.

У вялікай дружыне
Прывыкаці я мушу:
І старэнькаму, і маленькаму
Дагаджаці я мушу.

Ой, пайду і зламлю я
Да чырвону каліну.
За ліхім мужам, за разбойнікам
Я навекі загіну.

Не ўважай мяне, мама,
Што я ў цябе адненька.
Завядзі мяне, утапі мяне,
Дзе вадзіца чысценька.

Не ўважай мяне, мама,
Што я слаўнага роду.
Завядзі мяне, утапі мяне
У глыбокую воду.

## 210. ОЙ, ЧЫРВОНА КАЛІНА

Ой, чырвона каліна
Роўна поле ўкрыла,
За няверную ўсё дружыначку
Маё сэрца ссушыла.[1]

А я гэту каліну
Заламаю й закіну,
За ліхім мужам, за нядбайліцам,
Дзе пайду, там загіну.

Ой, пайду да каморы —
Ні крупы, ні саломы.
Не ўсцярэглася я, маладзенька,
Сваё горкае долі.

## 211. ЧЫРВОНА КАЛІНА

Чырвона каліна
У полі стаяла,
Чаму смутная, невясёлая
Ты са мной размаўляла?

---

[1] Два апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Чырвона каліна,
Пад калінай маліна.
Як не ўбачу я свайго мілага,
Невясёлая міна.

Пайду той дарожкай,
Дзе ўпершыню я хадзіла.
Ці не ўвіджу я, ці не ўбачу я,
Каго верна любіла.

Не ўвідала мілога,
А ўвідала яго брата:
— Раскажы ты мне, укажы ты мне,
Дзе міленькага хата.

Ой, пайду да каморы —
Ані хлеба, ні солі.
Уцякаць буду, праклінаць буду
Нешчаслівую долю.

Ой, зайду да адрынкі,
А мукі — ні пылінкі,
Гэта ўся бяда ад нявернае,
Ад няшчаснае дружынкі.

## 212. ЧЫРВОНА КАЛІНА

Чырвона каліна
Увесь свет засмуціла.
— Чаму смутная, невясёлая,
Ці не маці пабіла?

— Мяне маці не біла,
Толькі я засмуціла,
Да не даў мне бог, не судзіў мне бог,
Каго верна любіла.

Пайду я да броду,
Да броду па воду,
Нахілюся я, прыглянуся я,
Ці харошага роду.

Я і роду хароша,
Маё ліца прыгожа.
Да не даў мне бог, не судзіў мне бог,
Мая доля няшчасна.

Я і коніка маю,
І дарожаньку знаю.
За ліхім мужам, за нядбайнікам
Я радню забываю.

Коні мае, коні,
Коні вараныя,
Ды ляціце ж вы, прынясіце ж вы
Мае лета маладыя.

## 213. РАСПУСЦІЛАСЯ КАЛІНА

Распусцілася каліна
На чатыры лісты,
Зрабілі мне, маладой,
Чатыры бяды.

Адна тая бяда,
Што чужая старана,
А другая бяда —
Толькі мамкі няма,

А трэцяя бяда,
Што конь лянівы,
А чацвёртая бяда,
Што таварыш нямілы.

У чужой старане
Буду жыць, прывыкаць,
Айца-мамкі няма,
Буду іх забываць.

А лянівага каня —
Ці замяніць, ці прадаць,
Нямілага таварыша
Не змяніць, не прадаць,
Не задарма аддаць.

## 214. ОЙ, У БАРУ СОСНА

Ой, у бару сосна
Зверху кудравая,
Са споду сухая.
Пад ёю вада крынічная,
Вада крынічная,
А трава шаўковая.

Гуслі звончасты,
Не грайце галосна,
Зайграйце жалосна,
Няхай міла чуе
Да вячэру гатуе,
Рыбку ясятрыну
Перцам пасыпае,
Пасцель белу сцеле,
Шоўкам вышывае.

Да калі б жа я знала,
Што нялюб мой будзе,
Рыбкі не варыла б,
Перцу не губіла,
Пасцельку б не слала,
Шоўку б не псавала.

## 215. О, НЕ КУКУЙ, ЗЯЗЮЛЕНЬКА, РАНА

О, не кукуй, зязюленька, рана,
Гэй, гэй, зязюленька, рана.

Ды не кажы, што ночанька мала,
Гэй, гэй, што ночанька мала.

Я, молада, ўсю ночаньку не спала,
Гэй, гэй, ўсю ночаньку не спала.

Міленькага з дарожанькі чакала,
Гэй, гэй, з дарожанькі чакала.

Мой міленькі прыехаў так позна,
Гэй, гэй, прыехаў так позна.

Параскідаў падушачкі розна,
Гэй, гэй, падушачкі розна.

— А на каго ж, мой міленькі, злуеш?
Гэй, гэй, мой міленькі, злуеш.

Што ты мае падушачкі псуеш?
Гэй, гэй, падушачкі псуеш.

— Злую на тваю мамку старую,
Гэй, гэй, на мамку старую.

Што аддала цябе, маладую,
Гэй, гэй, цябе, маладую.

— Было не сеч зялёнага дуба,
Гэй, гэй, зялёнага дуба.

Было не браць, калі я не люба,
Гэй, гэй, калі я не люба.

О, не кукуй, зязюленька, рана,
Гэй, гэй, зязюленька рана.

## 216. А НЕ КУКУЙ, ЗЯЗЮЛЕЧКА, РАНА

А не кукуй, зязюлечка, рана,
А не кажы, што ночачка мала.[1]

А я ж, молада, усю ночку не спала,
Свайго мілога з дарожкі ждала.

А прыехаў мой міленькі позна,
Параскідаў мае пярыначкі розна.

— За што, за што, мой мілы, злуеш?
Нашто мае пярынкі бузуеш?

Ці на мяне, жану маладую,
Ці на сваю матулю старую?

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Ці на сваю матулю старую,
Ці на свае дзеткі маленькія?

— Ні на цябе, жану маладую,
Ні на сваю матулю старую.

Ні на сваю матулю старую,
Ні на сваіх дзетак маленькіх.

А я ж на тую зязюлю рабую,
Што ў маім садзе рана кукавала.

Што ў маім садзе рана кукавала,
Мне, маладому, спаць не давала.

## 217. А У ПОЛІ ВЕРБАЧКА РАСШУГАЛАСЯ

А ў полі вербачка расшугалася,
А я ў госцейкі прыбіралася,
Трыма мыламі умывалася:
Адным мылам, каб бела была,
Другім мылам, каб румяная,
Трэцім мылам, каб харошая.
Па коўнаце йду памалюсеньку,
Коўнату адчыняю паціхусеньку,
Каб мая свякроўка не пачула,
Каб майму мілому ды не сказала.
А мой міленькі — надта ж ён ліхі,
А мяне, маладу, ды ён біць будзіць,
А я, малада, уцякаць буду,
У зялёным саду начаваць буду,
Горкае замужжа праклінаць буду.

## 218. ЦВІЦЕЛА МАКОЎКА НА БАБОВІШЧЫ

Цвіцела макоўка на бабовішчы,
Пераспаў мой мілы на саломішчы.
Ці ён ліх, ці ён ліх, ці я нядобра?
Паслала пасцельку — сама не лягла.
Таўкучы, мелючы, я ўмарылася,
Сеючы мучыцу, упылілася.
Выйшаўшы на вулку, абтрасалася,
З чужым мужыком паругалася.

Чужыя мужыкі жонак шануюць,
А мой дурнішча кіі гатуець.
Я і ў той кут, я і ў той кут —
Ува ўсіх кутах усё кіі стаяць,
А тыя кіёчыкі ўсё дубовыя
Ды на мае плечыкі на здаровыя.

## 219. ОЙ, ТАМ ПАД ГАРОЮ

— Ой, там пад гарою
Ды пад каліною,
Не па праўдзе, мой міленькі,
Ты жывеш са мною:

Сцялю табе, мілы,
Падушку-пярыну —
А ты лаеш маю матку,
Ўсю маю радзіму.

Сцялю табе, мілы,
Пасцелю-паперу,
Ты ж рыхтуеш нагаечку
З сырога раменю.

Рыхтуй ці не рыхтуй —
Дый не будзеш біці:
Ёсць у мяне бацька, маці —
Будуць бараніці.

## 220. ЦІ Ж Я ТАБЕ, МАЯ МАМКА, НЕ КАЗАЛА

Ці ж я табе, мая мамка, не казала,
Каб ты мяне да за ўдаўца не аддавала.

А ў удаўца, мая мамка, ды тры наравы —
Ды не хопіць, мамка, беднай галавы.

Ён жа будзе, мая мамка, біць, караці,
Ён прывяжа мяне косачкай к каравaці.

Ён прывяжа мяне косачкай к каравaці,
Будзе мяне першай жонкай дакараці:

«Як у мае першай жонкі белы лаўкі,
А ты ў мяне, негадзяйка, шчэ й караўка.»

## 221. САДЗЕЦЕСЯ, ГОСЦІКІ, ЗА СТОЛ

— Садзецеся, госцікі, за стол,
Ці не будзе мой міленькі вясёл?

Пасадзіліся госці ўсе за стол,
А мой міленькі, смутны, невясёл.

Лёг спаці ў белую каравадь,
Мне сказаў у канцы ложка стаяць.

А я, маладзенька, ўсю ночку стаяла,
Белай хустачкай мушкі адганяла.

— Устань, мой міленькі, мілюсенькі,
Бо ўжо на дварэ дзень бялюсенькі,

Стаіць вада ў крышталёвым кубку,
А рушнічок тонкі на калочку.

Устань, міленькі, ўстань, маё каханне,
Ужо гатова для цябе сняданне.

Як пачаў мой міленькі уставаці —
Стала над ім пасцель бела лятаці.

Стала над ім пасцель бела лятаці,
А я, маладзенька, праз акно ўцякаці.

— Чаго ты, міла, праз акно ўцякаеш,
Ці ты, міла, нароваў не знаеш?

— А я знаю, мілы, тваё наровы.
Вісіць бізун на сцяне, дротам віты:
Будуць мае плечайкі біты.

## 222. МІЖ КРУТЫМІ БЕРАГАМІ

Між крутымі берагамі
Стаіць хата край сяла,
Нејак выйсці дзеўцы за варота
За ліхімі варагамі.

Я тыя варогі
Патапчу пад ногі,
Круту гору пераскачу,
Аддай мяне, мая мілая матка,
За каго я сама хачу.
Ой, аддала мяне
Мая родная матка,
За каго я не хацела,
Шуміць, гудзіць едвабна нагайка
Каля маго белага цела.
Я тую нагайку
Падкіну пад лаўку,
Няхай яна там аддыша,
Няхай мае беленькія плечкі
Буйны вецер пакалыша.

## 223. А ТАМ, ЗА ДВАРОМ, БРАЛА ДЗЕЎКА ЛЁН

А там, за варом, брала дзеўка лён
Да забыла павязаці,
Вярнуся назад да павяжу лён
Хоць сырою дубінаю,
Свайму бацюхну накажу паклон
Хоць чужой чужынаю.
Ой, прыбудзь, прыбудзь, родны бацюхна,
Хоць лужкамі-беражкамі,
Не магу пражыць за лютымі ворагамі.
Ты аддаў мяне, радной бацюхна,
За каго я не хацела —
Да шуміць, гудзе да нагаечка
Кала майго белага цела.
Тую нагайку кіну пад лаўку,
Няхай нагайка аддыша.
Пайду я ў садок, спушчу рукавок,
Няхай вятрок пакалыша.

## 224. ОЙ, ТАМ, ЗА ГАЕМ, БРАЛА ДЗЕЎКА ЛЁН

Ой, там, за гаем, брала дзеўка лён,
Забылася павязаці.
Ой, як вярнуся зноў да павяжу лён
Хоць сырою бузіною,

Ой, накажу я свайму татку
Хоць чужою чужыною.
Хоць, мой татка, хоць каня збудзь,
А ка мне прыбудзь,
Да ўсё лужкамі, беражкамі.
Да тыя лужкі стапчу пад ножкі,
Крутыя горкі пераскочу,
Аддай мяне, татачка,
За каго сама я хочу.
Да й аддаў мяне, мой родненькі,
За каго я не хацела,
Што шуміць, гудзе нагаечка
Кала майго бела цела.

## 225. МУЖЫК ЖОНКУ КАТУЕ

Мужык жонку катуе,
Ніхто яе не ратуе.
— Свякровачка-мамачка,
Паратуй ты мяне, маладу!
А свякроўка ўстае,
Сыну качалку падае:
— Бі, сынок, бі, бі, навучай —
На свой абычай пераварачай.

Мужык жонку катуе,
Ніхто яе не ратуе.
— Свёкарка-татачка,
Паратуй ты мяне, маладу.
А свёкарчык устае,
Сыну палку падае:
— Бі, сынок, бі, бі, навучай —
На свой лад пераварачай.

Мужык жонку катуе,
Ніхто яе не ратуе.
— Дзевярочак-браточак,
Паратуй ты мяне, маладу.
Дзевярочак устае,
Брату рэмень падае:
— Бі, браток, бі, бі, навучай —
На сваё пераварачай.

Мужык жонку катуе,
Ніхто яе не ратуе.
— Залувічка-сястрычка,
Паратуй ты мяне, маладу.
Залувіца устае,
Брату ў ногі падае:
— Кінь, браток, біць, кінь навучаць —
Мне самой гэтага не мінаваць.

### 226. ДОБРЫ ВЕЧАР, ДА СУСЕДКА МАЯ

— Добры вечар, да суседка мая,
Ці здарова да сямейка твая?

— Не пытайся ты сямейкі мае,
А пытайся мужа журлівага,

А пытайся мужа журлівага,
Што ён мяне журыць, маладую.

Да я яму кашулю шыю,
А ён мяне кулаком у шыю.

Я яму вячэру гатую,
А ён мяне журыць, маладую:

— Пайдзі, міла, да каня знайдзі,
Як не знайдзеш, так дахаты не йдзі.

Выйду на высоку гару,
Зірну я да пад ясну зару:

— Узыйдзі, мая ясная зара!
Да ўтапіла мяне матка мая.

### 227. ДОБРЫ ВЕЧАР, ГАСПАДЫНЬКА МАЯ

— Добры вечар, гаспадынька мая,[1]
Ці здарова сямеечка твая?

— Не пытай пра сямеечку маю,
А пытай пра няўдалага мужыка.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

Я ж яму ды абед гатую,
А ён мяне журыць, маладую,

Я ж яму кашыцу з маслам,
А ён мяне палонікам ляснуў.

Я ж яму слова ні паўслова,
А ён мяне палоўнікам знова.

Я ж яму ды кашуліцу мыю,
А ён мяне кулаком у шыю.

Я ж яму рэчы ні паўрэчы,
А ён мяне кулаком у плечы.

Я ж яму ды пасцелю сцялю,
А ён мяне кулаком у сцяну.

Я ж яму бела-разбела,
Каб у ету пасцель ды мне дзева.

Я ж яму на тарэлцы пірог,
А ён мяне із пасцелі на парог.

## 228. ДОЛЯ Ж МАЯ ПРАГОРКАЯ

Доля ж мая прагоркая,
За п'яніцу замуж вышла.
П'е п'яніца нядзелю,
Яшчэ п'е і другую,
На трэцюю запівае,
Мяне, маладую, забівае.
— Чаго ж мяне б'еш, караеш,
Ці я ў цябе не хадзяйка:
Я ў гародзе палола,
Я ў полі ўсё пажала,
Я вячэры наварыла,
Пасцелечку пераслала,
Падушачкі перабіла.

## 229. ЧАГО ТЫ, ДОНЬКА

Чаго ты, донька,
Так смутна сядзіш?

Ці табе, донька,
Маё дзіцятка,
Свёкарка ліха?

— Ой, не, мамка, не,
Не ўгадала, мне
А мой свёкарка,
То як бацэнька,
Ды доля ліха!

— Чаго ты, донька,
Так смутна сядзіш?
Ці табе, донька,
Маё дзіцятка,
Свякрухна ліха?

— Ой, мамка, не,
Не ўгадала, мне
Мая свякрухна,
То як мая маценька,
А доля ліха!

— Чаго ты, донька,
Так смутна сядзіш?
Ці табе, донька,
Маё дзіцятка,
Дзевярок ліхі?

— Ой, не, мамка, не,
Не ўгадала, мне
А мой дзевярок,
Так як брацэнька,
Да доля ліха!

— Чаго ты, донька,
Так смутна сядзіш?
Ці табе, донька,
Маё дзіцятка,
Залвухна ліха?

— Ой, не, мамка, не,
Не ўгадала, мне
Мая залвухна,
Так як сястрычка,
А доля ліха!

— Чаго ты, донька,
Так смутна сядзіш?
Ці табе, донька,
Маё дзіцятка,
Твой мілы ліхі?

— Ой, так, мамка, так,
Адгадала, так:
Ой, як я яму
Кашулю шыю,
Ён мяне — ў шыю!

## 230. ОЙ, Я ЎЧОРА ДА П'ЯНЕНЬКА БЫЛА

Ой, я ўчора да п'яненька была,
Да баліць мая после хмелю галава.

Ой, дайце мне хоць чарачку віна,
Ці не перастане балець мая галава?

Дайце мне хаця чарачак дзве,
Ці не перастане шумець у галаве?

Дайце мне хоць чарачак пяць,
Ці не перастане маё сэрца дрыжаць?

Да наехаў повен двор мужыкоў
І ўзялі маго мужыка ў няволю.

Да не жаль жа мне, што яго і ўзялі,
Але жаль мне, што не моцна звязалі.

Барані, божа, ён уцячэ, уцячэ,
Ён маю галаваньку патаўчэ.

## 231. А У САДОЧКУ БЕЛА ВІШНЯ РАСЦВІЛА

А ў садочку бела вішня расцвіла,
Мяне маці за п'яніцу аддала.

Ой, я п'яніцу зроду не люблю,
Я п'яніцу ў гарнізоры запішу.

Наехала гарнізораў поўны двор,
Бяруць майго міленькага на выбор.

Не жаль жа мне, што міленькага ўзялі,
Да жаль жа мне, што слабенька звязалі.

Крый божа, ў поўдарожанькі ўцячэ,
То ён маю галаваньку натаўчэ,

Да ён мае русы косы разаўе,
Да мае дробны слёзанькі разалье.

Не раз, не два праз акенца ўцякала,
Не раз, не два суседанькі збуджала.

## 232. ОЙ, ВІШАНЬКА, ЦЯРЭШАНЬКА ЗАЦВІЛА

Ой, вішанька, цярэшанька зацвіла,
Ой, мяне маці за п'яніцу аддала.

Ой, я ж п'яніцы не любіла, не люблю,
Ой, я п'яніцу ў салдаты запішу.

Ой, наехалі паборчыкі на мой двор,
Ой, да ўзялі п'янічку на свой воз.

Ой, паборчыкі, не вязіце лугамі,
Ой, бо возмецца за лозанькі рукамі.

Бо возмецца, развяжацца, уцячэ,
Ой, тады ж мяне, маладую, ў галаваньку натаўчэ.

## 233. ОЙ, НЕ РАЗ, НЕ ДВА ПРАЗ АКЕНЦА УЦЯКАЛА

Ой, не раз, не два праз акенца ўцякала
Да й не раз, не два пад страхою начавала.

Барані ж, божа, арабейка сцярушыць,
Ой, ён маё вочкі парушыць.

Ой, пакачу арэшачка па ляду,
Урадзілася я, няшчасная, ў раду,

Мяне маці за п'яніцу аддала,
Я п'яніцу не любіла нікагда.

Я п'яніцу не любіла і не люблю,
Я п'яніцу ў салдаты запішу.

Наехала ізвозчыкаў повен двор,
Да бяруць, бяруць п'янічаньку ў дабор.

Не вязіце п'янічаньку лугамі,
Бо ўхопіцца за каліну рукамі.

Ухопіцца, развяжацца і ўцячэ —
Ой, ён мае бела ліцо пасячэ.

Да вязіце п'янічаньку тым шляхом,
Штоб загнала чорны очы пяском.

Ой, не жаль жа мне, што п'яніцу ўзялі,
Ой, жаль жа мне, што нямоцна звязалі.

Баронь, божа, развяжацца, уцячэ,
Ен жа мае бела ліцо пасячэ.

— Ох, не думай, мая міла, што ўжо мяне ўзялі,
Не баіцца п'янічанька, што так моцна звязалі.

Ой, надзеюсь, што хоць з войска ўцяку,
Такі твае ўража цела на капусту пасяку.

## 234. ГЭЙ, У БАРЫ СОСНА

Гэй, у бары сосна
Тонкая вырасла,
А я, маладзенька,
Сем лет не дарасла.

Ой, выйшла я замуж,
Замуж маладая,
Ой, спаткала мяне
Долечка ліхая.

Ой, спаткала мяне
Долечка ліхая,
Долечка ліхая,
Сямейка чужая.

Ой, вырасла коска
Роўна паясочка,
Выдраў мне міленькі
Што да валасочка.

А я па той жалі
Пайшла ў сад гуляці,
Па саду гуляла,
У паўдарожкі пала.

## 235. З РЭЧКІ У РЭЧКУ ЧАУНОЧАК ПЛЫВЕ

З рэчкі ў рэчку чаўночак плыве,
З рэчкі ў рэчку чаўночак плыве.

У тым чаўночку ўдалы маладзец
Чэша галоўку рыбім грабянцом,

Чэша галоўку рыбім грабянцом,
Пушчае валосікі ціхім Дунайком:

— Плывіце, валоскі, к таму беражку,
Дзе мая міла вадзіцу бярэ,

Дзе мая міла вадзіцу бярэ,
Пытайце ў яе, ці тужыць па мне.

— Няхай па ім тужыць агонь ды вада,
Не я буду тужыць па ім, малада!

Часаў ён вяроўкі з маіх белых плеч,
Віў ён вяроўкі з маіх русых кос,

Віў ён вяроўкі з маіх русых кос,
Спускаў ён рэкі з маіх дробных слёз!

— Мілая мая, няпраўда твая,
Часаў я сошкі з белай бярозкі,

Віў я вяроўкі з мочанай пянькі,
Пускаў я рэкі з крынічнай вады!

## 236. ЦІ, ЗЯЗЮЛЕЧКА, ЗРОДУ Ў ЛЕСЕ НЕ БЫЛА

Ці, зязюлечка, зроду ў лесе не была,
Што не выбрала сабе дрэва добрага,
Толькі выбрала асіну горкую?
Ці, дзяўчыначка, зроду ў людзях не была,
Што не выбрала сабе хлопца добрага,
Толькі выбрала п'яніцу-старыка?
Ой, пашоў старык у зялёненькі лужок
Ды касіў старык траву-муражок.
Ой, касіў, касіў ды і перастаў,
Ладну косачку у траве зламаў.
— А згінь, прападзі, ладна косачка,
Ой, ёсць у мяне малада жоначка.

## 237. У ЦЁМНЫМ ЛУЗЕ КАЛІНА СТАЯЛА

У цёмным лузе каліна стаяла,
Пад той калінай дзяўчына гуляла.

— Скажы, скажы, чырвона каліна,
Ці ісці замуж за ўдавінага сына?

— Скажу ж табе, красна дзяўчына,
Не йдзі замуж за ўдавінага сына.

А ўдавін сын — горкая п'яніца.
У карчомку ідзе — як мак зацвітае,

З карчомкі ідзе — як мак ападае,
Дамоў прыйдзе — сям'ю разганяе.

«Нашто, маці, маладога жаніла?» —
«Я ж цябе, сынку, харашэнька вучыла:

Вазьмі, сыньку, драцяны вожкі,
Звяжы жане ручкі ды ножкі».

Пайшла свякроў нявехну будзіць.
Ляжыць нявехна, як бела папера,
На ёй кашуля ўся ў крыві скіпела.

## 238. ЧУЦЬ, МАТУЛЬКА, ЧУЦЬ

— Чуць, матулька, чуць,
Дзе малойцы п'юць.
Ай, стучыць, гручыць тая вулачка,
Дзе яны ідуць.

Рай, матулька, рай,
Дачку замуж дай.
Не аддавай жа за п'янічаньку:
Будзець табе жаль.

— Дачушка мая,
Родная мая,
Выбірай сабе, выглядай сабе:
Яшчэ малада.

— Мамачка мая,
Мілая мая,
Я й выбірала, я й выглядала —
Нядоля мая.

## 239. ЦІ СВЕТ, ЦІ СВІТАЕ

Ці свет, ці світае,
Ці на зоры займае,
Ці мой міленькі, голуб сівенькі,
Коніка сядлае.

Сядлай, мілы, коня,
Каня варанога,
Прыязджай, мілы, не кідай, мілы,
Мяне, маладую.

Ці ж я не такая,
Як тая другая.
Я й харошая, я й прыгожая,
Мая доля ліхая.

Каб я гэта знала,
Што замужам ліха,
Я б сядзела бы, бульбу ела бы
У матулечкі ціха.

Пайду да каморы —
Ні хлеба, ні солі.
Галасіць буду, праклінаць буду
Сваю горкую долю.

Пайду я да студні,
Пры студні вядзерца.
Прыйдзі, міленькі, чырнабрывенькі,
Успакой маё сэрца.

Пайду я да броду,
Да броду па воду.
Я й сама знаю, людзі кажуць мне,
Што харошага роду.

Я й роду харошага,
Я й ліцом прэкрасна,
За ліхім мужам ды за п'яніцам
Мая доля няшчасна.

## 240. ЦІ ДЗЕНЬ, ЦІ СВІТАЕ

Ці дзень, ці с(і)вітае,
Ці на зорку займае,
А мой мілен(і)кі, голуб сізан(і)кі,
Коніка сядлае.[1]

— Сядлай, мілы, каня,
Сядлай варанога,
Прыязджай, мілы, не кідай, мілы,
Мяне, маладую.

Пасеяла руту —
Мая рута не ўсходзіць.
Я сама з(ы)наю, людзі мне кажуц(і),
Ка м(ы)не мілы не прыходзіць.

Пайду я на воду,
Пайду каля броду,
Я й прыстану, я й прыгляну,
Ці харошага роду.

---

[1] Два апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Я й роду харошага,
Я й таткі багатага,
За ліхім мужам, за нядбайліцам,
Мая доля ліхая.

Каб я ж гэта з(ы)нала,
Што замужам ліха,
Ад(ы)няла ж бы я касу русую
У мамулечкі ціха.

## 241. ОЙ, КАБ Я ГЭТА ЗНАЛА

Ой, каб я гэта знала,
Што мая доля злая,
Не пайшла б жа я за п'яніцу
Гэткая маладая.

Ой, замуж не пайшоўшы —
Ад людзей пагаворка,
За ліхім мужам, за п'яніцам,
Ой, баліць мая галоўка.

Ой, каб я гэта знала,
Ой, ды гэткае ліха,
Ой, часала б я русу косачку
У матуленькі ціха.

## 242. ОЙ, БЯДА Ж МАЯ

Ой, бяда ж мая, бяда ж мая,
Бяда ж мая не вядзецца!
Гэй, а пад вішняю пад зялёнаю
Там бядулька спаць кладзецца.

Палажу бяду ў вішнёвым саду
На пярыначцы спаці,
Гэй, сама пайду, маладзенькая,
На ўсю ночку піць-гуляці!

Ой, каб я знала, каб я ведала
Сваё горкае замужжа,
Гэй, не пайшла ж бы я ні за п'яніцу,
Ні за праклятага мужа!

## 243. ГЫЛЯ-ГЫЛЯ, ШЭРЫ ГУСІ

Гыля-гыля, шэры гусі,
На жоўценькі пясок.
Завязала свет-галоўку,
Я ж думала — на часок.

Гыля-гыля, шэры гусі,
На раннюю пшаніцу.
Завязала свет-галоўку
Праз горкую п'яніцу.

Гыля-гыля, шэры гусі,
На ціханькі Дунай.
Завязала свет-галоўку,
Цяпер думай ды гадай.

## 244. АХ ВЫ, ДЗЕВАЧКІ, ВЫ, ПАДРУЖАЧКІ *

Ах вы, дзевачкі, вы, падружачкі.
Ай, люлі-люлі, вы, падру(жачкі),[1]
Лепша ў дзеўках жыць, чым замуж ісці,
Чым замуж ісці за няўдаліцу,
Ай, за горкую да за п'яніцу.
Па двару хаджу — ручачкі ламлю,
У сені выйду — галава баліць,
У хату вайду — сардэчка дрыжыць,
За сталом сяджу — аж ліцо гарыць,
Як мне з нялюбым слова згаварыць.
Пайду к татачку на парадачку:
— Парай, татачка, як з нялюбым жыць,
Як з нялюбым жыць, слова згаварыць.
— Сядзь, мая дачушка, ты за столікам,
Назаві нялюбага ты саколікам.
— Лепша, татачка, ком зямлі з'есці,
Чым з(ы) нялюбым за сталом сесці.
Лепша, татачка, бел камень падняць,
Чым нялюбага сакалом назваць.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 245. ЯК ПАЙДУ Я ДАРОЖАНЬКАЙ

Як пайду я дарожанькай,
Бегучы, бегучы:
Ці не ўбачу п'янюсенькі,
Ідучы, ідучы.

Аж мой горкі п'янюсенька
П'яны йдзе, п'яны йдзе,
Набок сваю галовачку
Ён нясе, ён нясе.

— А што ж ты, мая мілая,
Думала, думала,
Як на гэту вузку кладку
Ступала, ступала?

— Я думала, мой міленькі,
Утануць, утануць,
Каб з табой, мой міленькі,
Век не жыць, век не жыць.

## 246. А НА ГАРЭ БЫЧКІ У ЯРМЕ

А на гарэ бычкі ў ярме,
А мой мілы ў новай карчме.

Прыйшоў дамоў напіўшыся,
Прасіў есці не мыўшыся.

— А мой любку, вада ў кубку,
А мой каханы, у клеці смятана,
А мой мілы, на стале бліны.

## 247. ОЙ, ЗАПІЎСЯ МАЛОЙЧЫК, ЗАГУЛЯЎСЯ

Ой, запіўся малойчык, загуляўся
Да й запіў сваю галоўку буйную,
Зажурыў сваю жану маладую.
Ён па чыстаму полю паязджае,
Ён частых карчомачак не мінае.
Ён па поўнай чарачцы выпівае,
Маладых шынкарак падмаўляе.

## 248. ВЫБІРАЛА МНЕ МАЦІ

Выбірала мне маці
За харошага аддаці,
Як выбрала мне маці
Ды горкага п'яніцу.

П'е п'яніца нядзелю,
П'е п'яніца другую.
На трэцюю нядзелю
Выпраўляе мяне маці:

— Ідзі п'яніцу шукаці.
Як выйду я на вулку —
Ідзе п'яніца дамоў.
А не сам ён ідзе —
Вядуць яго таварышы.

Дзе, п'янічанька, бываў,
А дзе ночку начаваў?
А ці дома, ці ў дарозе —
У шынкаркі на парозе?

Прапіў штаны, сарочку,
А сам голы ў шыночку.
А дзе бралася кума,
Штаны, сарочку дала.
А йдзі, кумка, дадому
І не кажы нікому.

## 249. Я Ж У ГОРЫ НЕ РАДЗІЛАСЯ

Я ж у горы не радзілася —
Ка мне гора прыкацілася.

Я у горы не кахалася —
Ка мне гора прыкасалася.

Я ад гора ў роўна поле —
За мной гора з капачамі.

Я ад гора ў цёмны лясы —
За мной гора йдзець з свячамі.

Я ад гора за сіняе мора —
За мной гора ў чаўне плывець.

Мне не гора ні на хлеб, ні на соль,
Толькі гора, што мой муж п'яніца.

А ён жа п'ець штонядзелечку
І журыць мяне, маладзенечку.

Назаўтрае пахмяляіцца,
Яшчэ горай наругаіцца.

Пашлюць мяне, маладу, па ваду,
Каля таткавага двору іду.

[Каля таткавага двору іду,]
Каля мамчыных вароцечак.

Рада была б я забегчыся,
Дык баюся, што забаўлюся.

Забаўлюся, загукаюся,
Расплачуся і разжалюся.

## 250. Я Й НА МОРЫ РАДЗІЛАСЯ

Я й на моры радзілася,
На Дунаі расла,
Я й за пана манілася,
За беднага зайшла.

Я ж думала, маладзенька,
Буду панаваці,
Аддаў мяне мой татачка
Гора гараваці.

Я ж думала, маладзенька,
Па саду хадзіці,
Аддаў мяне мой татачка
П'яніцу гадзіці.

А п'яніца-нядбайліца
Штодзень выпіваіць,
А як прыдзіць дахатачкі,
Мяне выганяіць.

Стаю, стаю пад акошцам,
Мне ж холадна ў ножкі,
Знаць жа, табе, мой міленькі,
Не шкода ні крошкі.

А як праспіцца п'яніца,
Завець тады ў хатку:
— Ідзі, ідзі, мая міла,
Няма ў нас парадку.

## 251. А ШТО Ж ГЭТА ЗА КАЛІНА БЫЛА

А што ж гэта за каліна была,
А што ж гэта за чырвоная?
Ў лузе расла, ды не вырасла,
Толькі ж яна распусцілася.
А што ж гэта за дзяўчына была,
А што ж гэта ды за красная?
Ў горы расла, ў горы вырасла,
У горы і замуж пайшла.
«Я ж думала, мне палепшае,
Работачкі мне паменшае,
Аж мне, моладзе, пагоршала,
Работачкі мне пабольшала.
П'е п'яніца, распіваецца,
Прыдзе дамоў — разбіваецца.
Перак маёй каравацi ляжыць,
Мне, моладзе, разуваці вяліць.
А мне, моладзе, не хочацца
Каля п'яніцы варочацца.
Ручкі мае ўсе беленькія,
Пярсцёначкі залаценькія.
Ручкі мае памараюцца,
Пярсцёначкі паламаюцца».

## 252. ЗАРАСЛА МАЯ ПАЛОСАЧКА

Зарасла мая палосачка
Дробным ельнічкам, бярэзнічкам,

Дробным ельнічкам, бярэзнічкам,
Горкім дзераўцам, асіннічкам,

Дзе я молада пахажывала,
Шэрых гусачак папасывала.

А я гусак не напасцілася,
Толькі ўволечку наплакалася,

Што мой мужык горкі п'яніца,
Ходзіць у карчму напіваецца,

Ходзіць у карчму напіваецца,
Прыдзіць дамоў разбіваецца.

Загадаіць разуваць, раздзяваць,
Дробны гузікі расшпіляваць.

А мне, маладзе, не хочацца
З горкім п'яніцам валочыцца.

Мае ручачкі бяленькія,
Пярсцёначкі залаценькія.

Мае ручкі памараюцца,
Пярсцёначкі паламаюцца.

## 253. ЯК, БЫВАЛА, Я У МАМАЧКІ ЖЫЛА

Як, бывала, я у мамачкі жыла —
Піла, ела ўсё гатовенькае,
А насіла ўсё бялёвенькае.
Русу косу перачэсвала,
Чорным шоўкам пераплётывала,
Плетучы, дый прыгаварывала:
— Ты, касіца мая русая,
Ой, каму ж ты прыдастанешся:
Ці вольніку, ці нявольніку,
Ці горкай п'яніцы-разбойніку?
Ой, ці тому, хто у полі арэ,
Ой, ці тому, што ў карчоманьцы п'е?
У карчомцы п'е, валяецца,
Прыйдзе дамоў — наругаецца.
Перак маёй каравапі ляжыць,
Мне, маладой, разуваці вяліць,
Разуваці, распяразаваці,

Дробны гузічкі расшпіліваці.
А мне, маладой, не хочацца
Каля п'яніцы варочацца.
Ручкі мае ды бяленькія,
Пярсцёначкі залаценькія,
Ручкі мае памараюцца.
Пярсцёначкі паламаюцца.

## 254. А Ў ЕЛЬНІЧКУ, У БЯРЭЗНІЧКУ

А ў ельнічку, у бярэзнічку,
Дзе я молада пахаджывала,
Дзе я молада пахаджывала,
Шэры гусачкі напасывала.
— Гыля-гыля, шэры гусачкі, дамоў,
Гыля-гыля, мае шэранькія.
Ці вы яшчэ не наплаваліся?
Я ўжо, молада, наплакалася.
А мой мілы — горкі п'яніца,
У карчомцы напіваецца,
У карчомцы напіваецца,
Прыдзе дамоў — разараецца.
Загадаіць раздзяваці, разуваць,
Дробны гузічкі расшпільваці.
А мне, моладзе, не хочацца
Каля п'яніцы валочыцца:
Белы ручкі памараюцца,
Сіні вочкі застыдаюцца.
— А божа ж ты мой мілюсенькі,
Вядзі мяне да татусенькі.
Не вядзі мяне у сад-вінаград,
Вядзі мяне да матуленькі назад.
Не вядзі мяне па пожаньцы,
Вядзі мяне па дарожаньцы.
Па пожаньцы мае ножкі не йдуць,
Па дарожцы яны самі бягуць.

## 255. ПА САДОЧКУ Я Й ПАХОДЖВУЛА

Па садочку я й паходжвула,
Шары гускі я й папасывала.
— Гіля-гіля, шары гускі, на ваду!
Ці ж вы, гускі, не наплаваліся?

Я й, малада, не наплакалася?
Гіля-гіля, шары гускі, із вады!
Спадабаўся да мне казак малады.
На казаку ўсё й жупан зеляной,
На жупане ўсё гузікі зіхацяць.
Вілась жа мне да й казак раздзяваць,
Да валаць мне белы ручкі марать,
Да валаць мне злоты пярсцёнкі цярать.
А мне, маладой, усё не хочацца
Каля п'яніцы варочацца.
От ён і ўзяў да раменную плець,
Як мяне па заплечайку сесць.
Буду, буду п'янічаньку разуваць,
Буду, буду белы ручанькі марать,
Буду, буду злоты пярсцёнкі цярать.

## 256. КАБ Я ЗНАЛА, КАБ Я ВЕДАЛА

Каб я знала, каб я ведала,
Та б я замуж і павек не пашла,
Піла б, ела б што смачненькае,
Убіралася б усё ў бяленькае.
Умывалася б што й суботанькі,
Часала б штонядзеленькі:
Чашу косу, чашу русую
І да касы прыгаворваю:
— Каса мая, каса русая,
Каму жа ты будзеш, мілая?
Ці годнаму, ці нягоднаму,
Ці п'яніцу да нядбайніцу?
А п'яніца на парозе ляжыць,
А мне, маладой, разуваці вяліць.
Як жа мне не хочацца
Каля п'яніцы варочацца.
Ускочыў мілы да ў каморачку,
Узяў нагайку, узяў раменную.
— Мой мілы, да мілюсенькі,
Буду цябе павек разуваць,
Буду свае белыя ручкі марать,
Буду свае дробны слёзкі раняць.
Мае слёзкі ні рака, ні вада,
Прапала я за табою, малада!

## 257. КАБ Я ЗНАЛА, КАБ Я ВЕДАЛА

Каб я знала, каб я ведала
Сваё горкае замужайка,
То б я замуж дык навек не йшла,
Я б у мамкі як жыла, так жыла:
Піла б, ела б гатовае,
Насіла б плацце ўсё сабалёвае,
Штосуботы умывалася,
Штонядзелі і ўбіралася,
Русу косу да й зачосывала,
Чырвонай лентай да й заплётывала.
Касе русай прыгаварывала:
— Каса ж мая, да й русенькая,
Каму ж будзеш да й міленькая?
Ці п'яніцы, ці нядбаліцы,
Ці звозчыку, ці палкоўнічку,
Ці таму сей карчомнічку,
Што дзень пры дні ў карчомцы п'е?
У карчомцы і напіваецца,
Прыдзе дамоў —разуваецца,
Мне, моладзе, разуваць вяліць.
Мне, моладзе, да й не хочацца
Каля п'яніцы варочацца.
Пашоў мілы да ў новую клець,
Да й узяў раменную плець,
Да й пачаў сваю мілу грэць.
— Буду, буду, мой міленькі, разуваці,
Буду свайго здаровейка шанаваці.

## 258. ОЙ ТЫ, ЕЛЬ МАЯ ЗЯЛЁНАЯ

Ой ты, ель мая зялёная,
Старана мая вясёлая,
Не магу я прызабыціся,
Уночы спячы, а днём ходзячы,
Уночы спячы, а днём ходзячы,
З зязюлькаю гаворачы.
— Ой, зязюлька, дробна пташачка,
Чаму раненька запяваеш,
Мяне, маладу, разжаліваеш?
Я, маладзенька, разжалёвая,
Ад мамачкі адвязёная,

Ад мамачкі адвязёная,
Да свякроўкі прылучоная.
Каб я знала, каб я ведала
Сваю горкую нядолечку,
Лепей бы я ў матулі была,
Па падворайку пахаджывала,
Русу косу ўсё расчэсывала.
Ох ты, руса мая косанька,
Да каму ты прызастанешся?
Ці мачру, ці палкоўнічку,
А ці таму ўсё разбойнічку?
Пойдзе ў карчму — распіваецца,
Прыдзе дамоў — разбіваецца,
Кажыць яго раздзяваць, разуваць,
Бела ліца абмываць, цалаваць.
А мне, маладой, усё не хочацца
Каля п'яніцы варочацца.

## 259. ОЙ, НА ДВАРЭ ДОЖДЖЫК, А У СЕНЯХ ВАДА

Ой, на дварэ дожджык, а ў сенях вада,
У мяне, маладой, усяляка бяда.

Ой, выду я, выду на крутую гару,
Ой, гляну я, гляну на быстру ваду.

А я думала, што Дунай дудзе,
Ажно мой міленькі з карчмы п'яны ідзе.

А я, малада, да збаялася,
У новую карчому да схавалася,

Дробнымі слёзкамі абліваласся,
Белым палаценцам уціралася,

У сінюю адзежу прыбіралася,
У залатое люстэрка ўсё ўзіралася,

З свайго бела лічка дзівавалася,
У свайго бела лічка ўсё пыталася:

— Лічка маё, лічка ты беленькае,
Чаму не такое, як упярод было?

Ці я цябе прапіла, ці прагуляла,
Ці я це ад сонца не закрывала?

Ці я це ад ветру не закрывала?
Ці я це прапіла, ці прагуляла?

— Ой, ты не прапіла, не прагуляла,
А ты ад сонейка да й закрывала,

А ты ад ветрыку да й затуляла,
А за ліхім мужам лічка цярала.

## 260. АХ ТЫ, РЭЧКА, БЫСТРА РЭЧАНЬКА

Ах ты, рэчка, быстра рэчанька,
Каля рэчанькі бярэзнічак,

Каля рэчанькі бярэзнічак,
Там плавала шэра гусачка.

Яна плавала, наплавалася,
А я, малада, наплакалася,

Ды што мой муж — горкі п'яніца,
Прыйдзе дамоў — разбіваецца,

Кажа: «Мяне разувай, раздзявай,
Дробны гузічкі расшпілявай!»

А мне, маладой, не хочацца
Каля п'яніцы варочацца.

Мае ручанькі бяленькія,
Пярсцёначкі залаценькія,

Мае ручкі памараюцца,
Пярсцёначкі пасціраюцца.

## 261. ОЙ, ТАМ, ПРЫ ДАРОЗЕ

Ой, там, пры дарозе,
Стаіць дзве бярозы,
Хто ідзе — не мінае:
Бярозу ламае.[1]

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Гора таму жыці,
Хто жынкі не мае,
А шчэ горай жыці,
Хто на дзве кахае.

Ідзе дзень беленькі,
Ідзе мой міленькі,
Кладовіцца спаці
На белай кроваці.

Кладовіцца спаці
На белай краваці
Да сцяны ачыма,
Да мяне плячыма.

— Устань, мой міленькі,
Я цябе разую,
Ў твае бело лічка
Сем раз пацалую.

— Я не хочу, міла,
Штоб ты разувала,
Ў мае бела лічка
Сем раз цалавала.

Есць у мяне міла,
Што мяне разуе,
Ў мае бела лічка
Сем раз пацалуе.

## 262. ГЫЛЯ-ГЫЛЯ, ШЭРЫ ГУСІ, ДАМОЙ

Гыля-гыля, шэры гусі, дамой,
А ці вы шчэ не наплаваліся вадой,
А я, малада, не наплакалася слязой,
За нялюбым мужам жывучы?
У карчомку ідзе ён радусенькі,
А з карчомкі ідзе ён п'янюсенькі.
Дамой прыдзе, на пасцельку ляжа,
А мне, моладзе, разуваці вяліць,
А мне, моладзе, распаясываці,
Русы кудзеркі расчэсваючы.
А мне, моладзе, ды не хочацца

Каля п'янага ды варочацца.
Як пайшоў жа мой мілы ў бакавую клець,
Як узяў жа ён рамянную плець
Ды пачаў ён мне палосы ганяць —
То сінія, то зялёныя,
Паміж імі ды чырвоныя.
— Буду, буду, мой міленькі, разуваць,
Буду, буду распаясываць,
Русыя кудзеркі расчэсываць.

## 263. ЗЯЗЮЛЕНЬКА, ДРОБНА ПТАШАЧКА

Зязюленька, дробна пташачка,
Што так рана запяваеш,
Мяне, маладу, расхвальваеш?
Я, малада, разжалёна,
Ад сямейкі аддалёна,
За ціхі Дунай завязёна.
А мой мілы, горкі п'яніца,
У карчомцы напіваецца,
Прыдзе дамоў — разбіваецца,
Вяліць, вяліць раздзяваць, разуваць,
Сіні гузічкі расшпіляць.
А мне, маладой, разуваць не хочацца,
Каля п'яніцы варочацца.
А як пойдзе ж ён у новую клець,
А як возьме раменную плець
Ды стане па плечках сеч.
— Буду, буду раздзяваць, разуваць,
Сіні гузічкі расшпіляць.

## 264. ЯК ПАЙДУ Я Й ДА ЛУЖКОМ-БЕРАЖКОМ

Як пайду я й да лужком-беражком,
Ды гусі ганяючы.
— Ці вы, гусі, не наплаваліся?
А я, малада, наплакалася,
За п'яніцам-мужыком жывучы.
А ў карчомку ён ідзе ранюсенька,
А з карчомкі ён ідзе п'янюсенькі,
Прыйшоўшы ў двор, разуваць вяліць,
Разуваці, распаясываці,

Русы кудзеркі расчосаваць.
А мне, моладзе, не хочацца
Каля п'яніцы варочацца,
Мае ручкі беленькія,
Мае кольцы залаценькія.
Як пайшоў жа ён у новую клець,
Як узяў жа ён раменную плець,
Як пачаў мне па плячах сеч.
— Ці будзеш мяне разуваць, абуваць,
Разуваць, распаясываць,
Русы кудзеркі расчосываць?

## 265. ОХ, МНЕ ГЭТА НЕ НАРАВІЦЦА

Ох, мне гэта не наравіцца,[1]
Што мой мілы горка п'яніца.

Дамоўісці — упіраецца, не йдзе,
Прыдзе п'яны, мне галовачку саб'е.

З русых кос маіх вяроўку ён саўе
І з горкіх слёз маіх ручаёк цячэ.

Вяровушку на маіх плячах саб'юць,
Горкі слёзкі мае дзеткі сап'юць.

Ручкі сатруць, уціраючы
Ды слоўцамі прыгукаючы.

Родна мамка не свякровачка,
Твая балючая галовачка.

## 266. САЛАВЕЙКА МОЙ РАЗМАЛЮСЕНЬКІ

— Салавейка мой размалюсенькі,
Галасочак твой растанюсенькі,

Не лятай-ка ты рана на зары,
Не збівай-ка ты ранішняй расы.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Саб'е расіцу мая сястрыца,
У госці йдучы, каня ведучы,

У госці йдучы, каня ведучы,
Каня ведучы, долю кленучы:

— Бог дай, долечка, на агні згарэла,
Як ты, долечка, замуж хацела.

Бог дай, долечка, на агні спылала,
Як я, маладая, замуж папала.

Як я, маладая, замуж папала.
Замуж папала за п'янічаньку...

А ён, п'яніца, ды ўвесь дзень жа п'е,
Прыдзе дворачку — жонку сваю б'е.

## 267. ЕЙ, СКАРАЛА МЯНЕ МАТКА, СКАРАЛА

Ей, скарала мяне матка, скарала —
За п'яніцу-нядбайліцу аддала.

А п'яніца-нядбайліца ў карчме п'е,
А прышоўшы дадоманьку, жонку б'е.

Ой, прыехаў мой ойчанька з Албова,
Пытаецца:— П'янічанькі ці ўдома?

— Сціха, мой ойчанька, гавары,
Бо п'яніца-нядбайліца спіць у каморы.

А хто тую п'янічаньку абудзіць,
То ён маю галаваньку натрудзіць.

— А што ж ты, маё дзіця, думала,
Як на тую зыбку кладку ступала?

— Ох, я думала, мой ойчаньку, утануць,
За такую п'янічаньку ідучы.

— Прывыкай, маё дзіця, прывыкай,
Як забачыш, што нядобра, да суседа уцякай.

## 268. У ЦІХІМ ЛУЗЕ КАЛІНАЧКА РАСЦВІЛА

У ціхім лузе каліначка расцвіла,
Мяне мама за п'яніцу аддала.

Горка тую каліначку ядучы,
Яшчэ горай за п'яніцай жывучы.

Ой, прыехаў мой татачка да мяне,
Пытаецца:— П'янічка ці дома?

— Паціханьку, мой татачка, гавары,
Хаця ж майго п'янічку не збудзі!

— Ой, узбуджу, маё дзіця, узбуджу
Ды я яго, п'янічку, навучу!

— Не навучыш, мой татачка, не навучыш,
Толькі мяне, маладзеньку, разлучыш!

— Ой, прывыкай, маё дзіця, прывыкай,
Праз кутняе акенечка умыкай!

— Ліха ж яго, мой татачка, уцячэ,
Як дагоне — мае плечыкі абсячэ,

Як дагоне — мае плечыкі абсячэ
Да ён маю косу абарве!

## 269. ОЙ, У ЛЕСЕ КАЛІНАНЬКА ЗАЦВІЛА

Ой, у лесе калінанька зацвіла,
Мяне маці за п'яніцу аддала.

Ой, п'яніца-лядашчыца ў карчме п'е,
А прыйшоўшы дадоманьку, жонку б'е.

Браток кажа:— Сястрычачка, прывыкай,
Да суседа праз акенца уцякай!

— Ой, чорт яго, мой браценьку, уцячэ,
Калі пойме п'янічанька за плячо!

## 270. А СТАЯЛА КАЛІНАЧКА У ЛУЗЕ

А стаяла каліначка ў лузе,
Цяпер жа я, маладзенька, у тузе.

А прыехаў мой татачка да мяне,
А прыехаў мой родненькі да мяне.

Пытаецца мой татачка ў мяне,
Пытаецца мой родненькі ў мяне:

— А ці дома п'янічка, ці дома,
А ці дома п'янічанька, ці дома?

— Гуляй, гуляй, мой татачка, памалу,
Каб не пачуў п'янічанька ў каморы.

Бронь жа божа, п'янічанька пачуе,
Ён жа маю галаваньку стурбуе,

Ён жа мае косы русы растрасе,
Ён жа мае белы плечы абаб'е!

Ён жа маіх бедных плечак не наб'ецца,
Ён жа маіх горкіх слёзак не нап'ецца.

А дзевачкі-падружачкі, патужыце,
За п'яніцу хаця замуж не ідзіце,

Бо п'яніца ў карчомку пойдзіць піць,
Як нап'ецца, звар'юецца, будзіць біць.

## 271. ОЙ, МАМАЧКА МАЯ СТАРАЯ

— Ой, мамачка мая старая,
А ты ж нашто мяне скарала?

— Скарала, доньку, скарала
Дый за п'яніцу аддала.

Не то п'яніца, што дзень п'е,
А то п'яніца, што дні трэ,

А то п'яніца, што дні трэ,
Прыйдзе і з шынку — жану б'е.

А ты, донечка, прывыкай,
У акошачка паглядай,

У акошачка паглядай
Да ў зялёны садок уцякай.

А ў зялёным саду каліна,
На каліначцы зязюля.

Яна раненька кукуе,
Ніхто зязюлі не чуе.

Чула-пачула нявехна,
Ў ліхія свякрухі жывучы.

Ў ліхія свякрухі жывучы,
Рана па вадзіцу ідучы.

З гары на гару ступае,
Яе міленькі стракае.

Яе міленькі стракае,
Праз здароўейка пытае.

Праз здароўейка пытае:
— Чаго ж ты, мілая, худая?

— І ад таго ж я худая,
Што твая мамка ліхая.

Ніхто горачкі не змые,
Ніхто долечкі не зменя.

Змые горачку вадзіца,
Зменіць долечку сястрыца.

## 272. ОЙ, КАРАЛА МЯНЕ МАЦІ, КАРАЛА

Ой, карала мяне маці, карала,
Ой, за нядбайнічку замуж аддала!

Мой муж, нядбайнічка, ў карчме п'е,
Прыдзе, прыдзе дадоманьку — мяне б'е.

Прыязджае мой ойчанька з Вільвова,
Пытаецца: — П'янічанькі ці ўдома?

— Ой, паволі, мой ойчаньку, гавары,
Не збудзі п'янічанькі ў каморы.

Як ты тую п'янічаньку абудзіш,
То ты маю галаваньку натужыш...

— Як я тую п'янічаньку абуджу,
То я яго на свой гонар навяду.

Прыязджае мая матуля з Вільвова,
Пытаецца: — П'янічанькі ці ўдома?

— Ой, паволі, мая матка, гавары,
Не збудзі п'янічанькі ў каморы,

Бо як яе, мая матка, абудзіш,
То ты маю галаваньку натрудзіш...

— Як я тую п'янічаньку абуджу,
То я яе на свой гонар навяду.

## 273. А У ЛУЗЕ КАЛІНАЧКА РАСЦВІЛА

А ў лузе каліначка расцвіла,
За п'яніцу мяне мама аддала.[1]

А ў лузе каліначка красуе,
За п'яніцам маё дзіця гаруе.

Перастань ты, каліначка, красаваць,
Перастань ты, маё дзіця, гараваць.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

А прыехаў мой татачка са Львова,
Пытаецца: — П'янічэнька ці дома?

— Паціхоньку, мой татачка, гавары,
П'янічанька спіць ў каморы — не будзі.

— Буду, буду, маё дзіця, пабуджаць,
Буду твайго п'янічан(і)ку навучаць.

— А чорт яго, мой татачка, навучыць:
Ён жа мяне з белым светам разлучыць.

Ён жа маіх русых косак нарвецца,
Ён жа маіх дробных слёзак нап'ецца.

## 274. ЛІСТОМ, ЛІСТОМ ДАРОЖАНЬКА ЗАПАЛА *

Лістом, лістом дарожанька запала,
А сястронка да брацейка паслала.[1]

— Хутчэй, хутчэй, мой браточак, да мяне,
Ёсць у мяне бяседанька да цябе.

Прыйшоў, прыйшоў мой брацейка да мяне,
Пытаецца: — П'янічэнька ці ўдома?

— Сціша, сціша, мой брацейка, гавары,
Спіць п'яніца-нядбайліца ў каморы.

Як ты яго, мой брацейка, разбудзіш,
Так ты маю галованьку натрудзіш.

Ох, апое, мая матка, апое,
Няма снопа жыта ні ў полі, ні ўдома.

А п'яніца-нядбайліца ў карчме п'е,
А як прыйдзе дадоманьку — жонку б'е.

Ой, прапала, мая матка, прапала —
За п'яніцу-нядбайліцу папала.

А п'яніца-нядбайліца ў карчме п'е,
Ой, як прыйдзе дадоманьку — жонку б'е.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

## 275. ОЙ, МАТКА МАЯ СТАРАЯ

— Ой, матка мая старая,
Да за што ж мяне скарала,

Да за што ж мяне скарала
Ды за п'яніцу аддала?

То ж тэй п'яніца штодзень п'е,
Прыдзе дадому — мяне б'е.

— Прывыкай, доню, прывыкай
Да ад дзверачак адступай,

Да ад дзверачак адступай,
Да ў аконечка уцякай.

— Чорт яго, матка, уцячэ,
Хваціць ўражы сын за плячэ.

Хваціць ўражы сын за плячэ
Да ў галованьку натаўчэ!

Рыкнула карова ў полі,
Плача дзяўчына без долі,

А цялушка ў хляўцэ,
Плача матачка па дачцэ.

## 276. ШТО Я ТАБЕ, МАЯ МАМКА, ЗАНЯЛА

— Што я табе, мая мамка, заняла,
Што ты мяне за п'яніцу аддала?

Да п'яніца-нядбайліца штодзень п'е,
Да прыдзе дадому ды жонку б'е.

— Да прывукай, маё дзіцятка, прывукай,
Праз новае акенца да ўцякай.

— Да хто ж яго, мая мамка, уцячэ —
Да п'яніца-нядбаліца за плячэ,

Да ён мяне ў каморачку заваўчэ,
Ён жа маю галовачку патаўчэ.

Вот табе, мая мамка, зяць малады:
Напілася да гарачых слёз, як вады.

## 277. ЗАСВЯЦІЛА ЦЕМНА НОЧКА

Засвяціла цёмна ночка
Яснымі зарамі,
А мой мілы п'е-гуляе
З чужымі жанамі.

Каля яго я стала,
Яго не чапала,
Тошна майму сэрцу стала,
Шо я не чапала.

Пайду ж ■ пажалюся
Сваёй роднай мамцы:
— Ці мне жыці, ці мне быці,
Ці мне валачыцца?
— Жыві, жыві, дзіця маё,
Сэрца дарагое.

## 278. ВОЙ, ЗАЦВІЛА РУЖА, ВОЙ, ЗАЦВІЛА РУЖА *

(і) Вой, зацвіла ружа, вой, зацвіла ружа,
Вой, зацвіла ружа край ак(ы)на.

Край акна.
Вой, любіла мужа, вой, любіла й мужа,
Вой, любіла мужа дурака.

Дурака.
Ой, нічога не робіць, ой, нічога не робіць,
Ой, нічога не робіць, тол(і)кі п'е.

Толькі п(ы)е.
Як(ы) прыдзе дадому, як прыдзе дадому,
Як прыдзе дадому, жон(ы)ку б(ы)е.

Жонку б'е.
— Не бі мяне, мужу, не карай,
Не бі мяне, мужу, не карай.

Не карай.
Бо дзяцей пакіну, я цябе пакіну,
А сама паеду ў чужы к(ы)рай.

Ў чужы край.
— Ой, вяр(ы)ніся, жонка, дадому,
Ой, вярніся, жонка, дадому.

Дадому.
Ложачкі не мыты, а гаршкі набіты,
Дзеці галодны на печы сядзяць.

## 279. БЫЎ У МЯНЕ МУЖЫЧОК З КУЛАЧОК

Быў у мяне мужычок з кулачок
Ды хадзіў ён да чужых жанок,

Яшчэ ўнадзіўся ў карчомку хадзіць,
Мяне ж гоніць на тачок малаціць.

Дамоў жа ідзе дый напіўшыся,
А я іду натаміўшыся.

Загадае мне вячэру гатаваць,
Па вячэры — сіва коніка шукаць:

— Калі знойдзеш — дамоў вядзі,
А не знойдзеш — сама не йдзі.

Выйду, выйду пад крутую гару,
Зірну, гляну я на ясну зару.

— Свяці, свяці, мая ясна зара,
Аддала мяне сюды мамка сама.

## 280. НА ГАРЭ ЖЫТА, НЕ ЯРЫЦА

На гарэ жыта, не ярыца,
Казалі, мой муж не п'яніца.

Казалі, мой муж не п'яніца,
Прапіў коніка — не хваліцца.

Прапіў коніка варанога,
Прышоў дамоў па другога:

— Вазьмі, жонка, трубку з намёткаю,
Выкуп коніка з аброткаю.

Калі выкупіш — дамоў вядзі,
А не выкупіш — сама не йдзі.

Калі выкупіш — люблю цябе,
А не выкупіш — паб'ю цябе.

А мне, маладзе, не первы раз
У ваконечка уцякаць,

У ваконечка уцякаць,
Салавейчыкам шчабятаць.

Салавей у лазе ча-чу, ча-чу,
А я, малада, плачу, плачу,

Салавеюшка на радасці,
А я, малада, на жаласці.

Салавеюшка з ахвотушкі,
А я, малада, з няволюшкі.

Няволя мая жаноцкая,
Красата мая дзявоцкая.

Нямножачка жыла — пажыла,
Нямножачка піла — папіла.

## 281. ВЯРБА, ВЯРБА

Вярба, вярба, дзе ж ты расла?
Ужо ж тваё лісцё вада знясла.

А я, млода,— як я жыла,
Што мая краса дарма прайшла?

Не йшла замуж ні год, ні два
І на трэці год не думала.

Аддалі замуж на пятаму
Ды п'янічаньку праклятаму.

Прапіў каня варанога
Ды ідзе дамоў па другога.

А я, млода, проці яго:
Нясу рубліка залатога.

Нясу рубля залатога,
Выкупляць каня варанога.

Не раз, не два выкупляла,
Ў вішнёвым саду начавала.

Салавейкі цяху-цяху,
А я, молада, цярплю муку.

## 282. КАЗАЛІ, ЯЧМЕНЬ НЕ ЯРЫЦА

Казалі, ячмень не ярыца,
Казалі, мой муж не п'яніца.

Прапіў коніка варанога
І прышоў дамоў па другога.

Прапіў коніка з аброткаю,
Прышоў дамоў за намёткаю.

— А жана, жана, выкупі каня,
Калі выкупіш — люблю цябе,
А не выкупіш — паб'ю цябе.

А мне, маладзе, не першыня
Па-за стрэшкаю начаваці,

Па-за стрэшкаю начаваці,
З птушкамі шчабятаці.

Птушачкі кажуць ча-чу,
А я, маладая, плачу.

## 283. КАЗАЛІ, ЖЫТА НЕ ЯРЫЦА

Казалі, жыта не ярыца,
Казалі, мой муж не п'яніца.

Казалі, мой муж не п'яніца,
Прапіў коніка — не хваліцца.

Прапіў коніка з аброцькаю,
Дахаты прышоў пяхоткаю.

— Жоначка мая дарагая,
Бяры ключы залатыя,

Бяры ключы залатыя,
Адмыкай куфры дубавыя,

Бяры трубачкі бялёвыя,
Выкупі каня варанога.

Як выкупіш — люблю цябе,
А не выкупіш — заб'ю цябе.

## 284. ОЙ, ТАМ ЗА ГАРОЮ ДЫ ЦЯЦЕРА ГРАЧА

Ой, там за гарою ды цяцера грача,
Ой, там на чужбіне сіраціна плача.[1]

Ой жа, а ці даўна сіратою стала,
Ой жа, а ці мала горачка зазнала?

Ой жа, ды казалі мне добрыя людзі:
А выйдзеш ты замуж — табе добра будзе.

Стапіла галоўку ў глыбоку крыніцу,
Як выйшла я замуж за горку п'яніцу.

А горка п'яніца толькі п'е, гуляе,
Як прыйдзе дадому — яшчэ б'е і лае.

Ой, кладзецца спаці на белай карваці,
Мяне застаўляе галубоў ганяці.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Ой жа, не лятайце, галубы, па хаце,
Ой жа, не будзіце мілага ў карваці.

А я сама знаю, калі прабудзіці,
Ой, як стане сонца яснае ўсхадзіці.

А як стала сонца яснае ўсхадзіці,
Ой, стала мілая мілага будзіці:

— Ой, ды уставай жа, маё мілаванне,
Ужо ж ды гатова табе умыванне.

А ўжо ў садочку вада ў тазочку,
Белы ўціральнічак вісіць на калочку.

Як стала мілая мілага ўзбуджаці,
Дык стала пасцелька па хаце лятаці.

Як стала пасцелька па хаце лятаці,
Ой, стала мілая ў аконца ўцякаці.

— Чаго ж ты, мілая, ў аконца ўцякаеш?
Ці ты маіх шутачак к сабе не прымаеш?

— Каб я твае шутачкі к сабе прымала,
Я б даўно ў магіле ў сырой ляжала.

## 285. ОЙ, КАЖУЦЬ ЛЮДЗІ, МОЙ МУЖ НЕ П'Е

Ой, кажуць людзі, мой муж не п'е,
Вячор на вячор з карчомкі йдзе,[1]

Вячор на вячор і шторанку,
Прапіў коніка і нагайку,

Прапіў коніка варанога,
А сам дадому — па другога.

А жана яго проці яго.
— Ідзі, мілая, выкуп каня!

— Ой, не раз, не два выкупляла,
Праз акеначка уцякала,

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

У вішнёвым саду начавала,
З салавейкамі размаўляла.

Салавеюшка чэ-чу, чэ-чу,
А я, малада, плачу, плачу.

Салавеюшкі на галіне,
А я, малада, на чужыне.

Салавеюшка о так, о так,
А ў мяне слёзкі, як дробны мак.

— Ой ты, вербанька кудравая,
Ой, хто на табе кудры павіў?

— Павіла на мне густа лаза,
Пад белы корань быстра вада!

## 286. КАЖУЦЬ ЛЮДЗІ, МОЙ МУЖ НЕ П'Е

Кажуць людзі,
Мой муж не п'е,
Штовечара
З карчомкі йдзе,

Штовечара
І шторанку,
Прапіў коніка
І нагайку.

Прапіў каня
Варанога,
Йдзе дадому
Па другога:

— Міла мая,
Выкуп каня,
Як выкупіш —
Люблю цябе.

Як выкупіш —
Люблю цябе,
Не выкупіш —
Заб'ю цябе!

— Не раз, не два
Выкупляла,
У акенечка
Уцякала,

У акенечка
Уцякала,
З птушачкамі
Размаўляла.

Зязюленька
Ку-ку, ку-ку,
Я, малада,
Плачу, плачу.

Я, малада,
Плачу, плачу,
Што так свае
Леты трачу.

## 287. КАЗАЛІ, МОЙ МУЖ НЕ П'ЯНІЦА

Казалі, мой муж не п'яніца,
Прапіў коніка — не хваліцца,

Прапіў коніка варанога,
А прышоў дамоў па другога:

— Жана, жана, выкуп каня,
Калі выкупіш — любіць буду,
А не выкупіш — дык біць буду.

— А не раз, не два выкупляла,
Шаўковы платок застаўляла,

У зялёным саду начавала,
З салавейкам начавала.

Салавейчык чачу-чачу,
Я ж, маладзенька, плачу, плачу.

## 288. ОЙ, ВЯРБА, ВЯРБА КУДРАВАЯ

— Ой, вярба, вярба кудравая,
Хто табе, вярба, кудры развіў?
— Развілі кудры буйны ветры.
— Хто ж табе, дзеўка, слёзкі разліў?
— Разлілі слёзы ўражы людзі.
Ой, кажуць людзі, мой не п'е,
Ой, не п'е, не п'е, з карчмы не йдзе,
Та прапіў каня варанога,
Та йдзе дадому па другога:
— Ой, мая міла, выкуп каня!
Калі выкупіш — люблю цябе,
А не выкупіш — заб'ю цябе.
Ой, заб'ю, заб'ю, замардую
Та й чужую жонку пацалую.
Жана каня выкупляла
Та па сто рублёў закладала,
Та й у акенечка ўцякала,
У вішнёвым садочку начавала
Да з салавеечкам размаўляла.
Салавей пяе з ахвотанькі,
А я, маладая, з няволенькі.

## 289. САСОНКА, САСОНКА КУДРАВАЯ

— Сасонка, сасонка кудравая,
Хто ж цябе, сасонку, скудравіў?
— Скудравіў мяне буйны вецер.
— Малодка, малодка маладая,
Хто ж цябе, малодка, састарыў?
— Састарыў мяне горкі п'яніца,
Ён п'е не п'е, з карчмы не ідзе.
Ён прапіў каня варанога
Да й прыйшоў шчэ па другога:
— Жыначка мая, мілая мая,
Ты выкуп каня варанога,
Калі выкупіш — люблю цябе,
А не выкупіш — уб'ю цябе.
— Я ж не раз, не два выкупляла,
Шаўковы платкі застаўляла,
Пад акошачкам сядзела
І ў зялёны сад глядзела:

От мой мілы з корчмы ідзе,
Ён мяне цяпер уб'е;
Я ваконца адчыняла,
Ў зялёны сад уцякала.

## 290. СУХА ЛОЗА БЕЗ МАРОЗА

Суха лоза без мароза,
Да на табе кудры пануць,
Маё лічка як яблычка.
Ой, выйду я на гулачку,
Стану я да на ганачку —
Ідуць мае таварышкі,
Таварышкі-калпанушкі.
Гавораць яны — мой муж добры,
Бадай яму такі век доўгі!
Як дзень, так ноч у карчомцы п'е,
Прапіў каня варанога,
Едзе ён па другога:
— Жана мая маладая,
Выкуп каня варанога.
Як выкупіш — любіць буду,
Не выкупіш — біці буду.
— Не раз, не два выкупала,
Па сто рублёў аддавала.

## 291. ВЯРБА, ВЯРБА, ДЗЕ ТЫ РАСЛА?

Вярба, вярба, дзе ты расла?
Зялён лісток вада знясла.

Зялён лісток вада знясла,
Я малада замуж пайшла.

Замуж пайшла за пятага,
За п'яніцу праклятага.

Прапіў каня варанога,
Мяне паслаў па другога.

Прапіў каня і гнядога,
Яшчэ і вала палавога.

— Ідзі, жонка, выкуп каня,
А выкупіш — дамоў вядзі,

А выкупіш — дамоў вядзі,
Не выкупіш — сама не йдзі!

— Не раз, не два выкупляла,
Шаўкоў платок застаўляла,

У вішнёвым садзе начавала,
З салавейкамі размаўляла:

— Салавейка, дробна пташка,
Як з п'яніцай мне жыць цяжка!

## 292. ВЯРБА, ВЯРБА, ДЗЕ ТЫ РАСЛА

Вярба, вярба, дзе ты расла,
Ой, куды, вярба, лісток нясла?

Пайшла замуж за пятага,
Ой, за п'яніцу праклятага.

Прапіў каня варанога,
Потым прышоў па другога.

— Жана мая, выкуп каня,
Як не выкупіш — заб'ю цябе.

— Не раз, не два выкупляла,
Шаўковы платок пакідала,

Не раз, не два ў цёмным лесе спала,
Разам з пташачкай уставала.

## 293. ТЫ, САСНА КУДРАВАЯ

— Ты, сасна кудравая,
Чаго рана зашумела?

Ты, дзяўчына маладая,
Чаго хутка пастарэла?

— Я ў сваe маткі ў дабры жыла,
За п'яніцу замуж пашла.

Мой міленькі п'яніца
У карчомцы п'е, не каецца.

Прапіў каня варанога,
Шле мілую па другога:

— Як прывядзеш — любіць буду,
Не прывядзеш — забуду.

— У вішнёвым саду начавала,
Усіх пташачак пазбуджала.

Ты, салавейка, як цёх, так цёх,
Маё сэрца як ох, так ох.

## 294. ШТО ТЫ МНЕ, МАМКА, НАРАБІЛА

Што ты мне, мамка, нарабіла,
Чаму раненька не ўзбудзіла?

Усе дзеўкі раней усталі
І луччу долю разабралі,

Я ж, малада, спазнілася —
Горкая доля мне судзілася.

Пасеяла лён за гарою,
Да зарос мой лён лебядою.

Да не жалка мне, што мой лён зарос,
А жалка мне, што мой род атрос.

Прайшоў мой век, як макаў цвет,
Пашлі мае леты за ніпашто.

Кажуць людзі, мой муж не п'е,—
Не п'е, не п'е, з шынку ідзе.

Прапіў каня варанога
Да ідзе па другога.

## 295. ЗАХАЦЕЛА МЯНЕ МАЦІ

Захацела мяне маці
За харошага аддаці,

Аддаў мяне бацюшка
За горкую п'яніцу.

П'е п'яніца нядзелю,
П'е п'яніца другую,

На трэцюю паступае —
Мяне маці пасылае.

Пасылае мяне маці:
— Пайдзі п'яніцу шукаці.

— Радзімая мая маць,
Дзе ж мне п'яніцу шукаць?

Ці мне ў лозе, на дарозе,
Ці ў шынкаркі на парозе?

— А ні ў лозе, на дарозе,
А ў шынкаркі на парозе.

Спіць п'яніца, не чуе,
Што пад лаўкаю начуе.

Там казакі іграюць,
А бурлакі гуляюць.

Я ж не біла, не казніла,
Адно слоўца прамолвіла:

— А прапою мой, прапою,
Прапала я і з табою.

Прапіў каня і сядло,
Прапіў ўсё сваё дабро,

Прапіў хату і святліцу,
Ссушыў мяне, маладзіцу.

Прапіў каня і карову,
Прыбіў мяне, чарнаброву,

Прапіў грошы, серабро,
Прапіў ўсё маё дабро.

Прапіў штаны і сарочку,
А сам стаіць у куточку.

Абабралася кума —
Штаны й сарочку дала,

Штаны й сарочку дала,
Вывела із сарама.

— Ідзі, кумок, дадому,
Не хваліся нікому.

### 296. ОЙ, Я ТАМУ РАДА, РАДА

Ой, я таму рада, рада,
Гэй, вядзе мілога з карчмы грамада.

Вядуць яго сялом-вуліцаю,
Гэй, завязаўшы ручкі сырыцаю.

Скора мілы на парог ступае,
Гэй, мілая ў аконца ўцякае.

— Ці ты, міла, жартаў не знаеш,
Гэй, я на парог — ты ў акно ўцякаеш?

— Знаю, мілы, ўсё знаю,
Гэй, ты на парог — я ў акно ўцякаю!

Я ў ажыне ноч начавала,
Гэй, з ажынаю ўсю ноч размаўляла:

«Ты, ажына зеляненькая,
Гэй, прапала я, маладзенькая!

Ты, ажына, жоўценька цвеце,
Гэй, прапала я з гультаём на свеце!

Ты, ажына, і з ягадкамі,
Гэй, прапала я з малымі дзеткамі!»

## 297. ОЙ, НА МАЕЙ ГАЛАВЕ

Ой, на маёй галаве
Да й чатыры кручыны:

Ой, первая кручына —
Малада замуж пашла;

Ой, другая кручына —
Маленькая дзяціна;

Ой, трэцяя кручына —
Што свякруха ссушыла.

Чацвёртая кручына —
За п'янічэньку пашла.

П'е п'яніца нядзелю —
Ён дадому не йдзе,

П'е п'яніца другую —
Я, малада, гарую,

На трэцюю ўступае —
Ідзе п'яніца дадому.

Ой, не сам жа ён ідзе,
Вядуць яго бурлакі,

Вядуць яго бурлакі
Да й пад белыя рукі.

Ой, вялела яго маць
У вароцях сустракаць.

Я ж, малада, не успела —
На парозе сустрэла.

Як ударыў мілы раз —
Пакаціліся слёзы з глаз,

Як ударыў мілы два —
Зашумела галава,

Як ударыў мяне тры —
Я ж, малада, гавару:

— За што, мілы, мяне б'еш?
Ці ты жалі не маеш?

— Ой, я жалі не маю,
Я цябе біці думаю.

## 298. ЛІХ МОЙ МУЖ, ЛІХ МОЙ МУЖ

Ліх мой муж, ліх мой муж,
І я не дабра:
Паслаўшы пасцельку,
З ім спаць не лягла.
А лягла спатанькі сама з сабою,
Белыя ручанькі пад галавою,
Дробныя дзетачкі кругом са мною.
А дзеткі маленькі
На работу ідуць,
А мой муж-п'яніца
У карчомцы п'ецъ,
Прыйшоўшы дадому,
Ні за што наб'ецъ.
Саўецъ вожжачкі вашчоныя
На мае плечачкі расчоныя,
Саўецъ пужачку дратаваную
На мае плечыкі гадаваныя.

## 299. ОЙ, «ДОБРА» МНЕ, «ДОБРА» ЗА МАІМ ДЗЕДАМ

Ой, «добра» мне, «добра» за маім дзедам:
Пойдзіць ў карчомку — я за ім следам.

Ён садзіцца піць за сталом пышна,
Не відзіць жа ён, што і я прыйшла.

Налівaіць чарачкі, ды ўсё поўныя,
А ў мяне слёзачкі цякуць буйныя:

Прапіваіць грошыкі нашы трудныя,
А ў нас жа дзетачкі дома малыя.

## 300. Я НА МОРЫ РАДЗІЛАСЯ

Я на моры радзілася,
На Дону расла.
Я за папа малілася,
А за п'яніцу пайшла.

А п'яніца-няўдаліца
Штодзень прапіваецца,
А як вернецца ў хату,
З хаты выганяе.

Я стала пад аконца,
Мне сцюдзёна ў ножкі.
Няўжо ж табе, міленькі,
Не шкода ні крошкі?

## 301. ГЭЙ, ГЭЙ, БЕЛАЯ БЯРОЗАЧКА

Гэй, гэй, белая бярозачка,
Як табе не цяжанька,
Гэй, гэй, як табе не цяжанька,
У ціхім лузе стоячы,
Гэй, гэй, у ціхім лузе стоячы,
Сваё лісце роняючы?
Гэй, гэй, малада маладачка,
Як табе не цяжанька,
Гэй, гэй, як табе не цяжанька,
З благім мужам жывучы,
Гэй, гэй, з благім мужам жывучы
Ды на добрых гледзячы?
Гэй, гэй, пайшоўшы ў карчомку — п'е,
Прыйшоўшы — б'е!

## 302. РАСЦВІЛАСЯ РОЗА НА ПАРОЗЕ

Расцвілася роза на парозе,
Забавіўся мой мілы ў дарозе.

Як прыехаў мой міленькі позна,
Параскідаў пасцель маю розна.

— На каго ты, мой міленькі, злуеш,
Нашто маю белу пасцель псуеш?

Ці на свайго каня варанога,
Ці на свайго ойчанька старога?

Ці на сваю матулю старую,
Ці на мяне, жану маладую?

Не спявайце вы, курачкі, рана,
Не рабеце мне ночанькі мала,

Не гудзеце, галубкі, на хаце,
Няхай засне мой міленькі ў пярняце.

А я буду тады разбуджаці,
Як снеданне на стале стаяці.

## 303. ЯКАВО ТАБЕ, БЕЛА БЯРОЗАЧКА

— Якаво табе, бела бярозачка,
Дый у лузе стаяці?
Канюшкі вядуць — аброткі кладуць
На табе, зялёненькай,
Пастушкі гоняць — дубочкі ломяць
На табе, зялёненькай.
— Якаво табе, маё дзіцятка,
За п'янюшанькай жыці?
— Да жыву, жыву, мая мамачка,
Духу не ўзываю,
Штонядзелечку, штомінутачку
Смерці дажыдаю.
— Ды ляжы, ляжы, мой зяцёк мілы,
Ды каб жа ты не ўстаў,
Як ты майму роднаму дзіцяці
Белы свет завязаў.

## 304. А ЗАПІУСЯ МАЛОЙЧЫК

А запіўся малойчык,
Загуляўся, загуляўся,
А запіў сваю галоўку,
А буйную, а буйную.
Зажурыў сваю жану
Маладую, маладую.

— Ай, жана мая, жана
Маладая, маладая,
Дзе ты сваё бела ліцо
Спацірала, спацірала?
— Я й па цёмненькіх ночках
Не хадзіла, не хадзіла,
Я й вінныя карчомкі
Абмінала, абмінала.
Я не знаю, дзе лічанька
Спацірала, спацірала.
Мусіць, праз мужычковы
Дрэнны справы, дрэнны справы.

## 305. ОЙ ТЫ, НОЧКА МАЯ ДА НЯВІДНАЯ

Ой ты, ночка мая да нявідная,
Галовачка мая да ты бедная:
Дзе ж мы будзем да начаваці?
Што ж мы будзем да вячэраці?
Ой, ці ў лузе да пры калузе?
Ці ў шынкарачкі да пры дарозе?
У шынкарачкі — мёд, віно, гарэлка
Да яшчэ і прыгожая дзеўка.

# ЗДРАДА

## 306. ЗАШУМЕЛА ЯЛУШАЧКА У ЗЯЛЁНЫМ БАРУ

Зашумела ялушачка ў зялёным бару,
Пагневаўся мой міленькі — не знаю чаму.

Ёсць у полі асоцінка — не буду касіць,
Пагневаўся мой міленькі — не буду прасіць.

Як палію я вулачку зялёным вінам:
Ці не прыйдзе мой міленькі сягоння дамоў?

## 307. АДЗІН ГОЛУБ СЕЎ НА ДУБЕ

Адзін голуб сеў на дубе,
Другі на бярозе, другі на бярозе.
Усе мужы усе дома,
А мой у дарозе, а мой у дарозе.

Ой, спусціся, галубочак,
З бярозкі да долу, з бярозкі да долу,
Ой, вярніся, мой міленькі,
З дарожкі дадому, з дарожкі дадому.

## 308. ОЙ, ЛЯЦЕЛІ ГУСІ

Ой, ляцелі гусі
З далёкага краю,
Замуцілі воду
На ціхім Дунаю.

— Пачакайце, гусі,
Я вас папытаю,—
Ці не з таго краю,
Дзе мілога маю?

Ці ён там запіўся,
Ці ён загулёўся,
Ці з вялікай журбы
Ў чужы край заброўся?

Дадому не едзе,
Пісемца не шле мне,
Толькі шле бумажку,
Чорную рубашку.

Сама не згадаю,
Сама не здумаю,
Дзе рубашку мыці,
Дзе суха сушыці.

На Дунаі мыла,
На дубе сушыла,
Ў ручках валкавала
І к міламу слала.
А мне, маладзенькай,
Так цяжанька стала.

## 309. ШКОДА, ШКОДА ВЕЧАРОЧКА

Шкода, шкода вечарочка,
Што не была на вуліцы —
А ні ўчора, ні сягоння,
А ні ў гэту нядзельку
Да самага панядзелку.
— Скажы, скажы, мой міленькі,
Чым я табе не ўгадзіла:
Ці хадою, ці ядою,
Ці работаю сваёю?
Хоць я мала, ды румяна,
На работу хаджу рана,
Хлеба-солі бяру мала.
На рабоце прыпазнюся,
Прыду дамоў — нараблюся.

## 310. СПАРАДЗІЛА МЯНЕ МАМКА

Спарадзіла мяне мамка
Харошую-прыгожую,

Красную-няшчасную.
Дала мужа нялюбага,
Што па свету валачыўся,
Мне, маладзе, прыгадзіўся.
Дай божа вясны даждаці —
Я, молада, разлучуся,
Па Дунаю разыйдуся.
— А Дунаю мой сіненькі,
Дзе ж мой мілы, красівенькі?

## 311. ПАЕХАЎ МІЛЕНЬКІ ПА ЖУРАВІНЫ

Паехаў міленькі па журавіны
Ды згубіў коніка, божа ж мой мілы.
А ні сцежачкі, ні дарожачкі,
Пайшла мілая да варожачкі.
Варожка варожа — праўды не кажа:
З кім жа мой міленькі спатанькі ляжа?
А ці з паняю, ці з паненкаю?
Ой, ці са мною дый з міленькаю?

## 312. НЕ СПІЦЦА МНЕ, МОЛАДЗЕ, І НЕ ЛЯЖЫЦЦА

Не спіцца мне, моладзе, і не ляжыцца,
Саснілася моладзе мілага рука,
Ачнулася молада — мілага няма.
А пайду я, молада, ў святолачку,
А тая святолачка на ключ замкнёна,
Мілага пасцелечка, як лёд, сцюдзёна.
А пайду я, молада, у зялёны сад,
А там мой міленькі шчыпіць вінаград.
— Шчыпі, шчыпі, міленькі, і мне, і сабе.
— Шчыплю, шчыплю, мілая, сабе — не табе.
Ёсць у мяне, мілая, лепшая за цябе:
Пасцеліць пасцелечку мякчэй за цябе,
Згатовіць вячэрачку смачней за цябе,
Прытуліць да сэрцайка цяплей за цябе.

## 313. НЕ СПАЛАСЯ МОЛАДЗЕ, НЕ ДРАМАЛАСЯ

Не спалася моладзе, не драмалася,
Эй, не спалася моладзе, не драмалася.

Прыснілася моладзе мілага рука,
Эй, прыснілася моладзе мілага рука.

Прачнулася молада — мілага няма,
Эй, прачнулася молада — мілага няма.

А пайду я, молада, у сад гуляючы,
Эй, а пайду я, молада, у сад гуляючы.

Віджу, віджу, міленькі шчыпіць вішанькі,
Эй, віджу, віджу, міленькі шчыпіць вішанькі.

— Шчыпі, шчыпі, міленькі, і сабе, і мне,
Эй, шчыпі, шчыпі, міленькі, і сабе, і мне.

— Шчыплю, шчыплю, мілая, сабе — не табе,
Эй, шчыплю, шчыплю, мілая, сабе — не табе.

Есць у мяне, мілая, лепша за цябе,
Эй, ёсць у мяне, мілая, лепша за цябе.

Як сівыя голубы гняздзечка вілі,
Эй, як сівыя голубы гняздзечка вілі,

Тады з табой, мілая, хораша жылі,
Эй, тады з табой, мілая, хораша жылі.

Як сівыя голубы на зямлю палі,
Эй, як сівыя голубы на зямлю палі,

Тады з табой, мілая, разлуку мелі,
Эй, тады з табой, мілая, разлуку мелі.

## 314. ЗНАЮ, ЗНАЮ, МОЙ МІЛЕНЬКІ, ЗНАЮ

— Знаю, знаю, мой міленькі, знаю,
Што ты мяне пакінуць мусіш.

Рана, позна да стаенькі ходзіш,
Шчыра-верна з конікам гаворыш

Да па сем раз каню аброк даеш,
А па трэйчы да Дунаю водзіш.

Да не едзь, мой міленькі, не едзь —
Перасцялю дарожку хваростам.

— Ой, есць ў мяне конік вараненькі —
Launch Пераскочыць твой гай зеляненькі.

— Да не едзь, мой міленькі, не едзь —
Ой, хто табе вячэру згатуе?

— Ой, у гаю зязюлька кукуе —
Да яна мне вячэру згатуе.

— Ой, не едзь, мой міленькі, не едзь —
Да хто табе пасцельку пасцеле?

— Ой, у полі трава пуховая —
Да там жа мне пасцель гатовая.

— Ой, не едзь, мой міленькі, не едзь —
Да хто тваю галоўку аплача?

— Ў цёмным лесе чорны воран грача —
Да ён маю галоўку аплача.

## 315. ЛЯТАЛА ПАВАНЬКА ПА САДУ, САДУ

Лятала паванька па саду, саду,
Раняла пер'ейка ў зялёну траву.
Не жаль мне паванькі, ні пер'я яе,
А жаль мне мілога ў чужой старане.
Я свайго мілога тры гады ждала,
Тры гады, тры гады, тры нядзелечкі,
Прыехаў мой мілы неўспадзевачкі.
Я й піва варыла, я й мёд саладзіла —
А свайму мілому усё не ўгадзіла.
Я каню сена, я каню аброк,
А свайму мілому пярыну пад бок.
— Спі, мой міленькі, бадай ты не ўстаў,
Як ты маладзенькай мне свет завязаў.

## 316. ОЙ, ПАЛЫН, ПАЛЫН, ТРАВА ГОРКАЯ

Ой, палын, палын, трава горкая,
Долечка мая яшчэ горшая.

Знаю, мой мілы не любіць мяне.
Робіць ён кравацъ адзінокую,
Кладзе дошчачку нешырокую,
Спаці кладзецца — к сцяне горнецца.
Сцяна нема — не гаворыць,
Сэрца ж маё без нажа кроіць.
Пайду ж я ў садок дый сарву цвяток,
Сарву кветачку-адналетачку,
Пушчу кветачку ў быстру рэчачку.
— Плыві, кветачка, к маёй мамачцы.
Мамка ваду брала, кветку спаймала.
— Чаму, кветачка, на вадзе звяла?
Мусіць, маё дзіцятка сем лет ляжала.
— Не ляжала я ні дня, ні гадзінкі,
А ссушылі ж мяне чужыя краінкі.

## 317. ВЫЙДУ ЗА ВАРОТЫ — МАХІ ДЫ БАЛОТЫ

Выйду за вароты — махі ды балоты,
Выйду за другея — вадзіца лялее.

Вадзіца лялее, маё сэрца млее,
Таго яно млее, што мілага нету,

Як нету, дык нету да белага свету.
— А дзе, мілы, шляўся, а дзе валачыўся

Начною парою з чужою жаною?
— Чужа жана міла — галоўку памыла,

Галоўку памыла, кудры расчасала,
Кудры расчасала, з сабой спаць паклала,

З сабой паклала, блізка прыгарнула,
Блізка прыгарнула, цяжанька ўздыхнула.

## 318. УСТАНУ Я РАНЮСЕНЬКА

Устану я ранюсенька,
Умыюся бялюсенька.
Гляну я туды-сюды
У чатыры староначкі:
Ўсе мілыя з вайны едуць,

А мой мілы пяшком ідзець,
За сабою каня вядзець.
Я міламу рада стала,
Вароцечкі адчыняла.
Я коніка за аброцейку,
А мілага за ручачку.
Я коніку аброку, сянца,
А міламу коўш мядца.
Яго конік і есць, і п'ець,
А мілы мой не есць, не п'ець,
А мой мілы не есць, не п'ець,
Са мной жыці не думаець.
— Запрагайце, брацці, клячу,
Каб не чуў я жаны плачу.
Едуць поле і другое,
На трэццяе ўз'язджаюць.
— Стойце, братцы, паслухаем:
Што ў небе за звон звініць?
Што ў бару за шум шуміць?
Ці не мая жана плачыць
І з дзеткамі з маленькімі?
І з дзеткамі з маленькімі,
З сіроткамі вярненькімі?

### 319. А НА ГАРЫ СОУНЕЙКА

А на гары соўнейка,
У даліне туман,
А на маім сэрцайку
Журба ды пячаль.

Ой, паехаў міленькі
Аж у белы свет,
А я, маладзенькая,
Дый за ім услед.

— Вярніся, мой міленькі,
Вярніся назад!
Ой, да сваіх дзетачак,
Ой, да дробненькіх,

А да свае хатанькі,
Ой, да новае.
А калі не вернешся —
Прападу адна.

— Адступ, адступ, мілая,
Не нада ты мне:
Есць у мяне мілая,
Лепша за цябе.

А звара вячэрачку —
Смачней за цябе,
Пасцеле пасцелечку —
Мякчэй за цябе,

Скажа яна словачка —
Вярней за цябе,
Ляжа яна спатачкі —
Бліжэй за цябе.

## 320. А Ў БАРЫ САСНА ТОНКА ВЫРАСЛА

А ў бары сасна тонка вырасла,
А я, малада, сем лет недарасла.
Пайшла я замуж маладзенькая,
Спаткала мяне доля няшчасная.
А я сваёй долі нікому не зычу:
Ні брату радному, ні звяру лясному.
А божа мой мілы, якое мне гора,
Што мой міленькі дома не начуе.
Адходзе — змяркае, прыходзе — світае,
Стучыць у аконца: адчыні, мілая!
Мілая выходзе, за ручаньку ўводзе,
А мілы не дбае, ён другую мае.
Ён кладзецца спаці ў адной карвацi —
Да сцяны вачыма, да мяне плячыма.
— Адвярніся, мілы, я цябе разую,
Тваё ліцо бела сем раз пацалую.
— А бадай ты, міла, таго не даждала,
Каб ты маё ліцо сем раз цалавала.

## 321. ОЙ, ВЫЙДУ Я Й НА ГОРАЧКУ

Ой, выйду я й на горачку,
Гляну я й пад зорачку,
Гляну я й пад зорачку —
Мой мілы з вайны едзе,

Мой мілы з вайны едзе,
Коніка ў руках вядзе,
Коніка ў руках вядзе.
Я ж яму рада стала,
Вароцейкі адчыняла,
Коніка — за ўздэчачку,
Мілага — за ручачку.
Конік мой не п'е і не есць,
Міленькі не гавора.
Коніку — аўса, сена,
З міленькім сама села.
Конік мой не п'е і не есць,
Міленькі не гавора.
Конічак тужыць па коніках,
Міленькі — па дзевачках,
Конічак тужыць па коніках,
Міленькі — па дзевачках.

## 322. ОХ, ВЫЙДУ Я, ВЫЙДУ Ж(Ы) *

Ох, выйду я, выйду ж(ы)
На гору крутую,
Стану, падзіўлюся
На рэчку ж(ы) быструю.

Аж мой мілы едзе
Ціхаю(й) вадою,
Ціхаю вадою
З чужою і жаною.

Ох, я ж, маладая ж(а),
Да(й) задзівілася,
За ніцыя ж(ы) лозы
Да(й) захілілася.

Вы ж, ніцыя лозы,
Вы ж(ы) рас(ы)хініцеся,
Гарачыя с(ы)лёзы,
Вы ж разаліцеся.

Гарачыя слёзы,
Вы ж(ы) разаліцеся,
Вочкі ж(ы) мае ж(ы) кары,
Вы ж(ы) надзівіцеся.

Вочкі ж(ы) мае кары,
Не даў жа бог пары,
Лічка ж маё к(ы)расна,
Долечка ж(ы) няшчасна.

## 323. ОЙ, НІКОМУ НЕ ТАКОМУ

Ой, нікому не такому,
Як мне маладзе.
Расплылася горка доля,
Як ліст па вадзе.

Цешыліся ўсе суседзі
Па маей бядзе,
Што мой мілы, чарнабрывы
Не ў праўдзе жыве.

Ён з чужымі з харошымі
Мёд-віно ўсё п'е,
А мне, беднай бяздольніцы,
Горку водку шле.

— Ой, абсадзі, мой міленькі,
Вярбою мой двор,
Будзеш піці і гуляці,
Міленькі, з другой.

— Я не хачу, я не хачу
Вярбы саджаці,
Я не буду, я не буду
Мілу ўнараўляці.

## 324. ДА НА ГАРЫ СОНЕЙКА, У ДАЛІНЕ ТУМАН

Да на гары сонейка, ў даліне туман,
А на маім сэрданьку — журба ды пячаль.

А што ж за пячалюшка? — Дружка дома нет,
Да паехаў міленькі далёка на свет.

Да паехаў міленькі далёка на свет,
А я, маладзенькая, да за ім услед.

— Ой, вярніся, міленькі, вярніся дамоў,
А калі не вернешся, дык бог жа з табой.

Запрагу калясачку муляваную
Дый паеду вулачкай мураванаю.

А у той жа вулачцы мой мілы сядзіць,
Ён сабе саперніцу другую дзяржыць.

А я, маладзенькая, дый спужалася,
За крутую горачку дый схавалася,
Тады маё сэрданька разарвалася.

## 325. ХУДА, ХУДА ДА НЕ З МІЛЫМ МУЖАМ ЖЫЦЬ

Худа, худа да не з мілым мужам жыць,
Прыйдзе вечар — да суседачкі бяжыць.

Ды пайду я да суседачкі агню,
Ды пазнаю свайго мілага па следу,

Што мой мілы ў суседачкі сядзіць,
Ён на мяне дрэнны сказы гаварыць:

— Чужа жонка не ўмыта, не прыбрана — хараша.
Свая жана і ўмыта, і прыбрана — не душа.

## 326. ОЙ, П'ЯНА Я, П'ЯНА

Ой, п'яна я, п'яна,
Не зайду я дадому.
Ой, не кажыце таму салаўю,
Што ў вішнёвым(ы) садочку.

Верабейка шчабеча,
А зязюля кукуе,
Ой, бог ведае да бог знае,
Дзе мой мілы начуе.

Ой, калі пры рабоце,
Прынясі яго, божа,
А калі ля дзеўчыны,
Пакарай яго, божа,—

Да маімі слязамі,
Да маімі дзяцямі,
Што ён паехаў, мяне пакінуў
І з(ы) малымі дзяцямі.

## 327. ОЙ, Я П'ЯНА, Я П'ЯНА *

Ой, я п'яна, я п'яна,
Што дадому не зайду,
Накажыце вы таму салаўю,
Што ў вішнёвенькім саду.[1]

Салавейка шчабеча,
А зязюлька кукуе,
Да бог знае, да бог ведае,
Дзе мой мілы начуе.

Ой, як ў дальняй дарозе,
Прынясі яго, божа,
Як у мілачкі на пярынаццы,
Пакарай яго, божа.

Пакарай яго, божа,
За маімі слязкамі,
Да што ён уехаў, да мяне кінуў,
Да з малымі дзяткамі.

Ой, чырвона каліна
Увесь свет закрасіла,
Несуверная да дружыначка
Маё сэрца ссушыла.

Ой, чырвону каліну
Зламлю дый пакіну,
За ліхім мужам, за нядбайліцам
Я навекі загіну.

## 328. ГОРА МАЁ ДА Й БЯЗДОЛЕЙКА МАЁ

Гора маё да й бяздолейка маё,
Ой, гора маё да й бяздолейка маё.

---
[1] Два апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Скарацiла я здароўейка сваё,
Ой, скарацiла я здароўейка сваё,

За лядашчым чалавекам жывучы,
Ой, за лядашчым чалавекам жывучы,

Штовечар пасцелечку сцелючы,
Ой, штовечар пасцелечку сцелючы.

Спаць лажуся на ўсю ночачку адна,
Ой, спаць лажуся на ўсю ночачку адна:

Майго мiлага з вячорачак няма,
Ой, майго мiлага з вячорачак няма.

Як пайду я да к суседачцы цяпла,
Ой, як пайду я да к суседачцы цяпла,

Аж мой мiлы у суседачкi сядзiць,
Ой, аж мой мiлы у суседачкi сядзiць

Да й суседачку за ручку дзяржыць,
Ой, да й суседачку за ручку дзяржыць,

Мяне, младу, абгаварываець,
Ой, мяне, младу, абгаварываець:

— Суседачку пацалую й абдыму,
Ой, суседачку пацалую й абдыму,

Сваёй шэльме я з плеч галаву знiму,
Ой, сваёй шэльме я з плеч галаву знiму.

## 329. ОЙ ТЫ, ГОРА, ГАРАВАННЕЧКА МАЁ, ДА ГЭЙ *

Ой ты, гора, гараваннечка маё, да гэй,
Пацярала ўсё здароўечка сваё.

Пацярала з лiхiм мужам жывучы, да гэй,
Ўсё да слонца пасцель белу сцелючы.

Сама пайду да суседачкi агню, да гэй,
А ў суседкi ўсё мой мiленькiй сядзiць.

А ў суседкі ўсё мой міленькій сядзіць, да гэй,
Ён на мяне ўсё няпраўду гаворыць.

Ён на мяне ўсё няпраўду гаворыць, да гэй,
Што да мяне трох казакоў прыходзяць,

Што да мяне трох казакоў прыходзяць, да гэй,
Што яны мне мёда-віна прыносяць.

А я таго мёду-віна не піла, да гэй,
Толькі ўзяла за вароты правяла.

## 330. ГОРА, ГОРА, ГАРАВАНЕЧКА МАЁ

Гора, гора, гараванечка маё,
А гей, пацярала я здароўечка сваё,

За ліхім мужам, мужам жывучы,
За слонкам пасцель белу сцелючы.

А мой мілы да ў суседачкі сядзіць,
Суседачку за праву ручку дзяржыць,

Суседачку за праву ручку дзяржыць
Да на мяне ўсю няпраўду гаварыць,

Што да мяне трох малойчыкаў ходзіць,
Што яны мне мёду, віна прыносяць.

Я таго мёду, віна не піла,
Толькі я за варота правяла,

Толькі ім сарамону задала —
Пасыпала гарэшанькі па лёду.

А хто тыя гарэшанькі падбярэ,
То той мяне на мёд, віно зазаве.

Суседанька гарэшанькі пабрала,
Яна мяне на мёд, віно зазвала.

## 331. О ГОРА Ж МАЕ, ГАРАВАНЕНЬКА МАЕ

О гора ж маё, гараваненька маё,
Расцярала я ўсё каханейка маё,

Па чужыне да ўсё ходзячы,
І старому, і малому да ўсё годзячы,

І старому, і малому да ўсё годзячы,
Міленькаму пасцель сцелючы.

Рана, позна пасцель белу пасцялю,
От яе да ўсю слязамі абалью,

От яе да ўсё слязамі абалью.
Ой, пайду я да суседанькі агню,

А ў суседанькі да мой міленькі сядзіць,
От на мяне ўсё няпраўду гаварыць.

— Добры вечар, мой міленькі, дзе ты быў?
Чаму ўчора і звячора не прыбыў?

— Ой, як жа мне, міла, прыбываць,
Чы я чую няславеньку па сабе,

Чы я чую няславеньку па сабе,
Во што ходзяць кавалеры да цябе.

— Ох, пастаў жа і вартаньку ў жыце,
Перастануць кавалеры хадзіці.

Заскрыпелі вароцейка на дварэ,
От мне, маладой, кавалеры не на ўме.

## 332. ГІБКА КЛАДАЧКА, ДА НЕ ЛОМІЦЦА

Гібка кладачка, да не ломіцца,
А мне, маладой, сэрца кроіцца,
Ды за ліхім мужыком жывучы,
Штовечара на вячоркі ідучы,
Мяне, младу, адну кідаючы.
Адну ночку пераседзела,

Другу ночку перадумала,
На трэцюю ўзяла спаць лягла.
Прачнулася свет беленькі зара —
Майго мілага з вячорак няма.
Ой, пайду я да суседкі пагляджу,
А ў суседкі на ўсю печ жар гарыць,
А мой мілы ў суседкі сядзіць,
З суседачкай разгаварывае.
— Не абгаварывай, мой мілы, мяне,
Не хацела я ісці за цябе.
Я хацела ісці за лепшага,
За лепшага ды бяднейшага,
Як за цябе багацейшага.

### 333. НЕ ЕДЗЬ, НЕ ЕДЗЬ, МОЙ МІЛЫ, ГАРОЮ

— Не едзь, не едзь, мой мілы, гарою,
Дадуць людзі разлуку з табою.

А едзь-паедзь, мой міленькі, нізам,
Зарасла там дарожачка хмызам.

— Ёсць у мяне конік вараненькі,
Пераскочыць той гай зеляненькі.

Як пайду я ў новую камору,
Выб'ю, выб'ю з кватэры абылону,

Выб'ю, выб'ю з кватэры абылону,
Гляну, гляну на места, на рынак:

А мой мілы па рыначку ходзіць,
У левай руцэ ён коніка водзіць,

У правай руцэ ён шапачку носіць,
Сваю паню мілюсенька просіць:

— Пусці, пані, дамоў пагуляці.
— Цябе, шэльму, ў палацы ўкаваці.

— Не куй, пані, ў каменным палацы,
Прыкуй, пані, к шынкарчынай хаце:

У шынкаркі ёсць мёд і гарэлка,
А яшчэ к таму — прыгожая дзеўка.

## 334. ОЙ, У ПОЛІ, У ПОЛІ, БЫЛІНАЧКА У ПОЛІ

Ой, у полі, у полі, былінaчка ў полі,
Ніхто не разважыць мяне, маладое.

Ой, я тую вагу адна пераважу,
Пасцялю пасцельку, адна спаці лягу.

Ой, у нядзелю раненька слоненька не ходзіць,
Да ўсё мой міленькі па рыначку ходзіць.

Да ўсё мой міленькі па рыначку ходзіць.
Чужую мілую пад ручаньку водзіць,

Чужую мілую цалуе, мілуе,
А мною, маладою, за шыю мардуе.

Як вечар гарою, сонца даліною,
Да так ён ганьбуе мною, маладою.

Ой, у быстрай вадзіцы рыбанька ўвецца,
А з нашай маладосці кожны насмяецца.

## 335. ОЙ, ПАЙДУ Я Ў ЧЫСТА ПОЛЕ

— Ой, пайду я ў чыста поле,
Куда мяне нясе доля,
Не начуець мой міленькі ў доме.
— А як жа мне начаваці,
Не з мілаю размаўляці,
Ты не ўмееш мне пасцеленькі слаці.
— Ой, пасцялю пасцель белу,
Сама стану ў ваконечку,
Анно ж ходзіць мой мілы па мясцечку,
Чужой мілай чаравічкі ён купуе,
Знаю добра, што ён у свет памандруе.
Мандравалі яны поле,
Мандравалі і другое,
На трэцце сталі ноч начаваці.
— Ці ж я, мілы, не хароша,
Ці ж я, мілы, не ўрадліва,
А ці ж мая доленька не шчаслівa?
— Ой ты, міла, мне хароша,
Ой ты, міла, мне ўрадліва,
Анно твая доленька нешчаслівa.

## 336. КАБ Я ГЭТА ЗНАЛА

Каб я гэта знала,
Што мая доля злая,
Не пайшла ж бы я замуж
Гэтакая маладая.
Не купляла б я таго
Вянка руцвянога,
Да купіла б я тое
Крылцо залатое,
Паляцела б далёка,
Дзе мой мілы гуляе,
Дзе мой мілы гуляе,
Сабе іншую мае.
Сколькі ў рэшаце вады —
Столькі ў мілага праўды,
Сколькі ў ячмені восці —
Столькі ў мілага злосці,
Сколькі на грушы грушаў —
Столькі ў мілага душаў.

## 337. ШТО Б Я ЗНАЛА, МАЛАДАЯ

Што б я знала, маладая,
Не пашла б замуж, да гуляла б,
Да скавала б я тое
Да ўсё крылечка залатое.

Паднялася б, паляцела б,
Дзе мой мілы п'е, гуляе,
Дзе мой мілы п'е, гуляе,
З чужой жонкай размаўляе.

А я, млода-маладзенька,
Пад акенечкам стаяла,
Пад акенечкам стаяла,
Дробны слёзы раняла.

Ой вы, слёзы, мае слёзы,
Вы не падайце на землю,
Ой, вы падайце на тую,
На разлучніцу чужую.

Яна ж мяне разлучыла,
Ды такую маладую.
Колькі на небе зорак,
Столькі ў міленькага жонак.

## 338. КАБ Я ТОЕ ЗНАЛА

Каб я тое знала,
Што мая доля ліхая,
Не пайшла ж бы я замуж —
Я такая маладая.

Не купляла б я тога
Кальца залатога,
Не губляла б я тога
Вянка руцянога.

Маю мужа ліхога,
Ды люблю і такога,
А ён з іншай гуляе,
Пра мяне забывае.

Я іх разам спаткала,
Як каліну ламала,
Пад калінай стаючы,
Горкі слёзы ліючы.

Ой вы, мае слёзы,
Не упадзьце нікуды,
А упадзьце на тую —
На саперніцу злую.

Колькі ў рэшаце вады,
Столькі ў міленькага праўды,
Колькі ў стручку бобу,
Столькі ў міленькага ўпробу.

## 339. ЦІ НЕ БЫСТРАЯ РЭЧКА

— Ці не быстрая рэчка
Ваду памуціла?
Ой, чаго плачаш, дзяўчынач(ы)ка,
Ці не матуля біла? [1]

---

[1] Два апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца.

— Ой, біці не біла,
Ой, ругаці не ругала —
За нялюбага, нехарошага
Замуж аддавала.

Ты пойдзеш гарою,
А я даліною,
Я й сама знаю, людзі гавораць,
Што не быць мне з табою.

Каб я гэта знала,
Што доля ліхая,
Я б не шла да і замуж(ы)
Гэтакая маладая.

Не купляла бы сабе
Вянка руцвянога,
А купіла ж бы да я сабе
Кальцо залатое.

Паляцела ж бы туды,
Дзе мой мілы п'е, гуляе,
Дзе ж(ы) мой мілы п'е, гуляе,
Другіх намаўляе.

Пад акенцам стаяла,
Дробны слёзкі раняла,
Ох вы, слёзачкі вы мае,
Не падзіце на мяне.

Ох вы, слёзачкі мае,
Не падзіце на мяне,
А падзіце вы на тую —
На разлучніцу злую.

### 340. А ПАЙДУ Я КАЛЯ РЭЧКІ

А пайду я каля рэчкі
Ды злаўлю я ліна,
Не з кім сесці, ліна з'есці —
Няшчасна гадзіна.
Няшчасная гадзіначка
Замуж пакруціла:

Ні я ўпіла, ні я ўела,
Хораша ўхадзіла,
А ні ў дзеле, ні ў пасцеле,
Ні ў цяжкай рабоце —
Цяпер мая галовачка
Штодзень у клапоце.
Запалю я ясну свячу,
Пайду у камору —
Аж мой мілы п'ець, гуляіць
З другою жаною.
Каля яго блізка ішла,
Яго не чапала,
Толькі цяжка сэрцу стала,
Што з ім прысягала.
А я ж і з ім прысягала,
Белу ручку даўшы,
А ён мяне пакідаіць,
Са мной шлюб узяўшы.
Любіліся, кахаліся,
Каб мама не знала,
Цяпер жа мы расходзімся,
Як чорная хмара.
Любіліся, кахаліся,
Як ластаўкі ў стрэсе,
Цяпер жа мы расходзімся,
Як ягадкі ў лесе.
Любіліся, кахаліся,
Як ліст на капусце,
Цяпер жа мы расходзімся
Па тваёй распусце.

## 341. Я ГАРОДЫ ГАРАДЗІЛА

Я гароды гарадзіла,
Капусту садзіла.
У маёй жа капусціцы
Качаннейка ўецца,
Чужы мужы добра жывуць,
А мой са мной б'ецца.
Чужы мужы п'юць, гуляюць,
А мой усё ў дарозе.
Як пайду я даліною,
Высокай гарою,

Стаіць мілы пад гарою
З чужою жаною.
Я ж каля іх абышла,
Я ж іх не чапала,
Толькі сэрцу цяжка стала,
Што з ім прысягала.
Стаіць човен вады повен,
Каб ён не разліўся,
А хто любіць чужых жонак,
Каб ён не разжыўся.
Стаіць човен вады повен,
Каб ён скалыхнуўся,
А хто любіць чужых жонак,
Каб ён захлынуўся.

## 342. БЯДУ ВЯДУ, ОЙ, БЯДУ ВЯДУ

Бяду вяду, ой, бяду вяду —
Бяда не вядзецца,
Пад вішняю, пад чарэшняю
Бяда спаці кладзецца.

Ой, ляж, бяда, ой, засні, бяда,
На ўсю ночаньку спаці,
А я, малада-маладзюсенька,
Пайду мілага шукаці.

Сядзіць мілы ды над вадою,
Падпёршыся рукою,
Лісты пішыць, сам цяжка дышыць,
Не гаворыць са мною.

Ой, каб з табой, ды мой міленькі,
Бяда ліхая стала,
Як я, млада-маладзюсенька,
За табою прапала.

## 343. ЗАЖУРЫЎСЯ БЕЛ МАЛОЙЧЫК, ЗАЖУРЫЎСЯ

Зажурыўся бел малойчык, зажурыўся,
Што са мной, малой дзяўчынкай, ажаніўся.

Не журыся, бел малойчык, бог з табою,
Я выpасту маладзенька за табою,

У шаўковенькі платок убяруся,
З усімі, міленькі мой, параўнюся.

Не ўмееш, мой міленькі, мілаваці,
Толькі ўмееш, мой міленькі, ругаці.

Толькі ўмееш, мой міленькі, ругаці,
Упоперак пасцелькі спаць кладзешся,

Пуховыя падушачкі раскідаеш,
Леці мае маладыя ўсе цяраеш.

А каб табе, мой міленькі, сцерла косці,
Як ты мяне сушыш, губіш з маладосці.

Я ж у тваіх вароцейках не стаяла,
Да цябе усіх харошых я пушчала.

## 344. ЯК ПАЙДУ Я КАЛЯ ЛУГА

Як пайду я каля луга,
Шукаючы свайго друга.

— Скажы, лужок зеляненькі,
Ці тут дружок мой міленькі?

А ён стаіць ўслухаецца,
З любоўніцай кахаецца.

Схаваў мілку за бярозку,
А сам выйшаў на дарожку.

— А хто гэта тут гукае?
Ці не мяне жонка шукае?

Чаго, жонка, ты тут сядзіш?
Чаго дома дзяцей не глядзіш?

— А я дзетак пакарміла
I спатанькі палажыла.

А каб цябе не жалела,
Маё б сэрца не балела.

## 345. З ГОРА НОЖАЧКІ НЕ ХОДЗЯЦЬ*

З гора ножачкі не ходзяць,
Ручкі дзелачка не робяць.

Сон галовачку кланяе,
Дружок верны пакідае,

Дружок верны пакідае
З дробненькімі ж дзетачкамі.

— Дзеткі ж мае дробныя,
Вы нашто мяне зжурылі?

Вы нашто мяне зжурылі,
Красату з ліца змянілі?

Красата мая пракрасная,
Толькі долечка няшчасная.

## 346. ОЙ, НА ГАРЫ СОНЕЙКА

Ой, на гары сонейка,
У даліне туман,
Да на маім сэрданькі
Вялікая журба.

Паехаў міленькі
У далёканькі край,
Да паехаў, паехаў,
Вярніся назад.

А я, маладзенька,
Пад аконцам сяду,
На тую журбоньку
Глядзеці буду,

Што мой міленькі
З карчомкі ідзе,
Сваю палюбоўначку
Пад ручкі вядзе,

А мне, маладзенькай,
Гасцінчык нясе.
О, што за гасцінчык —
Драцяная плець!

Да ўжо тая плётанька
Пастрапалася,
Яго палюбоўнічка
Нагулялася,
А я, маладзенька,
Наплакалася.

## 347. ОЙ, НА ГАРЭ СОНЕЙКА, У ДАЛІНЕ ТУМАН

Ой, на гарэ сонейка, у даліне туман,
Ой, кала майго сэрданька вяліка туга.

Ой, вяліка туга, што не даў бог долі,
Ой, не даў бог долі і вернага друга.

Што то, што то за дружочак, што ў карчомцы п'е,
А мне, маладзюсенькай, гасцінчык нясе,

Што то, што то за гасцінчык — няхай драцяны.
Ой, мая нагаечка да растрапаная,

Ой, мая нагаечка да растрапаная,
Сядзіць да мая міла да заплаканая.

А я ж, маладзюсенька, ой, дагадалася,
У новую каморачку, ой, схавалася.

Ой, краса мая, красанька, дзе ж удзялася?
Ці я цябе прапіла, ой, ці прагуляла,

Ці я цябе прапіла, ой, ці прагуляла,
Ці за ліхім мужыком прамандравала?

Не я цябе прапіла і не прагуляла
Да за ліхім мужыком прамандравала.

## 348. ВЫЙДУ Я, ВЫЙДУ НАПРОЦІЎ НОВАГА ДВАРА

Выйду я, выйду напроціў новага двара,
Стану я, стану напроціў новага стала.

Ці дождж ідзе, ці мяцеліца мяце,
Ці мой мілы сам па вуліцы ідзе?

Не дождж ідзе, не мяцеліца мяце,
А мой мілы сам па вуліцы ідзе.

Чужую жонку абнімаў бы, цалаваў бы,
Сваю нялюбу раскідаў бы, расстраляў бы.

## 349. ЯК ВЫЙДУ Я ЗА ВАРОТЫ

Як выйду я за вароты,
Усе махі і балоты,

Уся траўка зелянее,
Маё сэрцайка млее.

Яно млее, замлявае,
Што мілога не мае.

А мой мілы у карчомцы,
Ён п'е і гуляе.

Ён п'е і гуляе
Начною парою,

Начною парою,
З чужою жаною.

А ён дзвер адкрывае,
А ён шапачку здымае:

— Добры вечар, мая жонка,
Добры вечар, маё сэрца.

— Я не раз табе казала,
Што я слова не прымоўлю.

Аблілося сэрца кроўю,
Аблілося рацявае.

Ці чужыя жоны лепшы,
Ці чужыя жоны крашы,

Ці на лічанька бялее,
Ці на сэрца рацявее?

— Так, чужыя жоны лепшы,
І чужыя жоны крашы,

І на лічанька бялее,
І на сэрца рацявее.

## 350. КУДЫ Ж ТЫ ПАЕДЗЕШ

— Куды ж ты паедзеш,
Мой мілы дружочак,
А й без мяне, маладое?
— Туды я паеду,
Куды конь мой пойдзець.
Адстоп, жана нялюбая.

— Дзе ж ты заначуеш,
Мой мілы дружочак,
А й без мяне, маладое?
— Там я заначую,
Дзе ночка абоймець.
Адстоп, жана нялюбая.

— А што ж ты пасцелеш,
Мой мілы дружочак,
А й без мае падушачкі?
— Ёсць ў полі гарушка —
То мая падушка.
Адстоп, жана нялюбая.

— Чым жа ты накрыешся,
Мой мілы дружочак,
А й без мае дзяружачкі?
— Ёсць ў полі ялушка —
То мая дзяружка.
Адстоп, жана нялюбая.

— Чым жа ты памыешся,
Мой мілы дружочак,
А й без мае вадзічкі?
— Ёсць у полі крынічка —
То мая вадзічка.
Адстоп, жана нялюбая.

— Чым жа ты абатрэшся,
Мой мілы дружочак,
А й без майго ручнічочка?
— Ёсць у мяне рукавок —
А то мой ручнічок.
Адстоп, жана нялюбая.

## 351. ЛЯЖЫЦЬ КАМЕНЬ НА ВУЛІЦЫ

Ляжыць камень на вуліцы,
Ён не разаб'ецца,
Стаіць мужык з чужой жаной,
Ён не разыйдзецца.

А я, малада, тудою ішла,
Я іх не чапала,
Жаль жа майму сэрцу стала,
Што я прысягала...

## 352. У КАНЦЫ ГРЭБЛІ СТАЯЦЬ ВЕРБЫ

У канцы грэблі стаяць вербы,
Явар не сцянецца.
Стаіць любы з чужой жонкай
І не разайдзецца.

Я, малада, воду брала,
Я іх не чапала,
Вайшла ў сені, вайшла ў хату —
Моцна заплакала:

— Мамка мая родненькая,
Што ж ты мне зрабіла?
Нашто мяне, бяздольнечку,
На свет ты пусціла?

Як варыла ячну кашу,
Чаму ж не ўдавіла?
Нашто мяне, бяздольнечку,
На свет ты пусціла?

Нясла мяне край Дунаю,
Чаму ж не ўтапіла?
Нашто мяне, бяздольнечку,
На свет ты пусціла?

## 353. У САДУ СТАІЦЬ СТУДНЯ ПІЛАВАНА

У саду стаіць студня пілавана,
А ў ёй вада зімавая,

А ў ёй вада зімуе,
А мой мілы п'е, вандруе.

Не распрануўся, не раздзеўся
І так спаці палажыўся.

— Чакай, мілы, я разую,
Я распрану, пацалую.

— Адхіліся, нялюбая,
Ёсць у мяне другая.

— Хоць у цябе тры, чатыры,
Я найстарша над імі:

На каберцы стаяла,
Накрыж ручанькі трымала,

Пану богу прысягала,
Злоты персцень мяняла.

## 354. СТАІЦЬ СТУДНЯ ДЫ НОВАЯ

Стаіць студня ды новая,
У ёй вада зімовая,
Зімушчая, кіпушчая.

Закіпела сэрца ва мне —
Ні на каго на чужога,
Як на свайго на мілога,
Што ён дома не бывае,
З страмён ножак не вымае.
Як прыедзе ён дадому —
Не па-людску спаць кладзецца:
К сцяне вачмі, ка мне плячмі.
— Адступіся, жана мая,
Жана мая нялюбая,
Ёсць у мяне тры-чатыры.
— А мой мілы, чарнабрывы,
Май жа сабе тры, чатыры —
Я старшая над усімі:
На каберцы я стаяла,
Там я богу прысягала,
Сваю веру зламала,
Сыгнэцікі памяняла.

## 355. ВОТ У ПОЛІ КРЫНІЧАНЬКА

Вот у полі крынічанька,
У крынічаньцы вадзічанька
Кіпюшчая, гарушчая.
Баліць маё добра сэрца
Да на свайго нялюбага,
Што ён дома не начуе.
Хоць начуе — не разуты,
Не разуты, не раздзеты,
Ясны гузічкі зашпілены.
— Устань, мілы, я разую,
Я разую, я раздзену,
Ясны гузічкі расшпілю.
— Адступіся, нялюбая,
Ой, ёсць у мяне другая,
Харошая, маладая.
— Ой, хоць у цябе тры, чатыры,
Я старшая над усімі:
На каберцы я стаяла,
Накрыж ручанькі трымала,
Верна богу прысягала
І табе, дурню маладому.

## 356. А БЕЛАЯ БЯРОЗАЧКА

А белая бярозачка,
Чырвоная сосна,
А я пяю, весялюся,
Майму сэрцу млосна.

Не думае мой міленькі
Са мной веку жыці,
Ён бажыўся, прысягаўся
Другую любіці.

Да звару я вячэраньку —
Не йдзець мілы есці,
Пасцялю пасцеленьку —
Не ідзе мілы спаці.

Да пайду я, маладзенька,
Ў новую камору,
Аж мой мілы п'е, гуляе
З другою жаною.

Каля яго блізка йшла,
Яго не чапала,
Толькі майму сэрцу трудна,
Богу прысягала.

## 357. А БОЖА МОЙ, БОЖА

А божа мой, божа,
Нешчаслівa доля,
Бо мой жа міленькі
Не начуе дома.

Пойдзе на змярканні,
Прыйдзе на світанні,
А кладзецца спаці
Сярод каравацi.

— Павярніся, мілы,
Я цябе разую,
Тваё бела лічка
Сем раз пацалую!

— А чорт цябе хоча,
Каб ты разувала,
Маё бела лічка
Сем раз цалавала!

А ёсць у мяне жонка,
А ёсць у мяне дзеці,
На такую шэльму
Не хачу глядзеці!

## 358. ОЙ, БОЖА МОЙ МІЛЫ, ЯКОЕ МНЕ ГОРА

Ой, божа мой мілы, якое мне гора,
Што мой мілюсенькі не начуе дома.

Цямнее — адходзіць, віднее — прыходзіць,
Стучыць у акенца, каля хаты ходзіць.

Міла адчыняе, за ручку сціскае:
— Ой, ціха, міленькі, матуля ліхая.

Кладзецца ён спаці у паўкараваці,
Да сценкі вачыма, да жонкі плячыма.

— Адвярніся, мілы, я цябе разую,
Тваё бела ліца сем раз пацалую.

— Ой, чорт цябе просіць, каб ты разувала,
Маё бела ліца сем раз цалавала.

Ёсць у мяне жонка, ёсць у мяне дзеці,
Ёсць каму разуці, ёсць каму раздзеці.

## 359. У ПОЛІ БЯРОЗА, У ПОЛІ КУДРАВА

У полі бяроза, у полі кудрава,
Ой, тую бярозу, хто хоча, рубае,
Мяне, маладую, хто хоча, ругае.
Нашто было, маці, замуж аддаваці:
Муж мяне не любіць, са мной не гаворыць,
Да іное ходзіць, позненька прыходзіць.
Ён лажыцца спаці ўпоперак караваці,

І к сценцы ачамі, і ка мне плячамі.
Ой, я, маладая, ўсю ночку не спала,
Ў нагах прастаяла, свайго мілага пабуджала:
— Устань, мой міленькі, устань, даражэнькі,
Я цябе разую, сем раз пацалую.
— Адступісь, мярзаўка, адступісь, паганка,
Ёсць у мяне палуччэ каханка,
Та мяне разуе, сто раз пацалуе.

## 360. БЕЛАЯ БЯРОЗА, ДА НЕ СТОЙ ПРЫ ДАРОЗЕ *

Белая ж бяроза, да не стой пры дарозе,
Ой, цябе, бяроза ж(ы), хто йдзе, той рубае,
Ой, мяне ж, маладую ж, усякі чорт ругае.

Мяне, маладую, усякі чорт ругае,
Ой, што мой міленькі дома не бувае.

На вячоркі ходзіць, поз(і)ненька прыходзіць,
Ой, лажыцца спаці ўперак каравалі,

Да лажыцца спаці да ўперак каравалі,
Ой, к сцяне ж вачыма, на хату плячыма.

Ой, ўстань жа мілы, да ўстань, чарнабрывы,
Я ж цябе разую, я цябе раздзену.

Я ж цябе разую да я цябе раздзену,
Я цябе раздзену, лічка пацалую.

## 361. У ЧЫСТЫМ ПОЛІ СТУДНЯ СТАІЦЬ

У чыстым полі студня стаіць [1]
Шырокая, глыбокая,

Шырокая, глыбокая,
У ёй вада халодная.

Там мой міленькі гаруе,
Нігды ў хаце не начуе.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Не напіты, не наеты,
Не разуты, не раздзеты.

— Паджджы, мілы, я разую,
Я разую, я раздзену,

Я разую, я раздзену,
Пасцялю я пасцель белу!

— Адхіліся ты, нялюба,
Ёсць у мяне лепша друга!

— Каб у цябе тры, чатыры,
Я старэйша над усімі:

Бо табе я прысягала
І з табою шлюб я брала!

Давалі мне крыж у рукі,
Каб не мела век разлукі,

Давалі мне залатога,
Каб не мела век другога.

## 362. А У САДУ, У САДУ, У САДОЧКУ

А у саду, у саду, у садочку
Стаіць студня кляновая.

Стаіць студня кляновая,
А ў ёй вада халодная.

А хто ў тую студню гляне,
Яму сэрданька завяне,

Хто на мяне, младу, гляне,
То каждаму жалка стане.

Дзе ж мой мілы п'е, гуляе,
Ён дадоманьку не дбае.

За гарою сонца сходзіць,
Там мой мілы п'яны ходзіць.

Там мой мілы п'яны ходзіць
І з таварышам гаворыць:

— Таварышу, родны браце,
Дай мне стрэльбу набітую,

Заб'ю жану нялюбую,
Вазьму сабе маладую.

— Што ж ты мяне з света збавіш,
То другое не абманеш,

Хоць у цябе тры, чатыры,
А я старша над усімі:

Я з табою прысягала
І за злоты крыж дзяржала,

Давалі нам крыж у рукі,
Каб не мелі век разлукі.

### 363. У ПОЛІ САДОЧАК

У полі садочак
Зялёненькі, вішнёвенькі,

А ў том садочку
Стаіць студня да й новая,

Да й новая, кляновая,
Да й вадзіцы зімовае.

Да й кіпіць маё сэрданька
Да й па свайму міленькаму,

Што ён дома не днюе,
Не днюе, не начуе.

Прыехаў мой міленькі
Да й позненька, не рана,

Не разуўся, не раздзеўся
Да й так спаці палажыўся.

— Устань, міленькі, я й разую,
Я й разую, я й раздзену,

Я й разую, я й раздзену,
Я з табою спаці лягу.

— Адступіся, нямілая,
Ёсць у мяне другая!

— Хоць у цябе тры, чатыры,
Я старшая над імі:

Я й на ручнічку стаяла,
Я й пярсцёначкі мяняла,

Я й пярсцёначкі мяняла,
Пану богу прысягала,

Нізенька, пакорненька,
Пану богу прыемненька.

## 364. ЗЯЛЁНЫ ДУБОЧАК, ШЫРОКІ ЛІСТОЧАК

Зялёны дубочак, шырокі лісточак,
Як паехаў мой міленькі, дык трэці дзянёчак.

Адзін панядзелак, а другі аўторак —
Я думала, мой міленькі, што нядзелек сорак.

Як прыехаў мой міленькі ў цёмную ночку,
Пусціў каня да стаенкі, а сам да святолкі.

— Ці спіш, ляжыш, мая міла, ці ты гэта чуеш?
І з кім, і з кім, мая мілая, ў святліцы начуеш?

— А сплю, ляжу, мой міленькі, усё гэта чую,
Сама з сабой і з дзеткамі ў святліцы начую.

— А мне людзі кажуць, а мне ўсе гаворацць,
Што да цябе, мая міла, другія прыходзяць.

— Няхай сабе людзі кажуць, няхай і гавораць,
Тады мяне укараеш, калі сам дазнаеш.

## 365. А ЧАГО ТЫ, ЯЛІНАЧКА

— А чаго ты, яліначка,
Не зялёна, не зялёна?
— А як жа мне, яліначцы,
Быць зялёнай, быць зялёнай?
А пада мной тры купчыкі
Начавалі, начавалі,
Яны мае карэннейкі
Патапталі, патапталі,
Зялёнае ды веццейка
Паламалі, паламалі.
— А чаму ж ты, малодачка,
Невясёла, невясёла?
— А як жа мне, малодачцы,
Быць вясёлай, быць вясёлай,
Калі мяне мой міленькі
Зневіраіць, зневіраіць,
У істопку-каморачку
Замыкаіць, замыкаіць?
А я ў яго ды ключыкі
Украдзіла, украдзіла,
А бочачку гарэлачкі
Нацадзіла, нацадзіла,
А ўсю сваю радзіначку
Напаіла, напаіла.

## 366. А У РОЎНЫМ ПОЛІ ПШАНІЧКА РАСЛА

А ў роўным полі пшанічка расла,[1]
А ў пшаніцы ліпавы кусточак.

На кусточку салавейка свішчыць,
А свёкарка нявестачку клічыць.

— Хоць кліч не кліч, я не адклікнуся,
Без мілога дамоў не вярнуся.

А мой мілы дома не начуіць,
Як дзень, так ноч на кані гарцуіць.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

## 367. ОЙ ТЫ, ДУМУШКА-ДУМА

Ой ты, думушка-дума,
Звяла молайца з ума.
Ён не ў долю ўрадзіўся,
Не па волі жаніўся.
Ажаніла яго маць,
Да не знала, дзе ўзяць.
Да ўзяла мне жану
Не па сэрцу майму:
Не магу я з ёю жыць.
Ой, вазьму я жану
Ды за правую руку,
Да і павяду я жану
К ціхаму Дунаю.

## 368. БАЛІЦЬ МНЕ, МОЛАДЦУ, ГАЛОЎКА

Баліць мне, моладцу, галоўка —
Жэніць мяне татачка нялоўка.

Жэніць мяне татачка нялоўка,
Бярэ мне жоначку нялюбу.

Нялюбай жаны пасцелечка не мякка
І вячэрачка не смачна.

Нялюбай жаны абніманейка не міла,
Нялюбай жаны цалаванейка праціўна.

## 369. ОЙ ТЫ, САД, ТЫ, МОЙ САД

— Ой ты, сад, ты, мой сад,
Сад зялёненькі,
Чаму ж рана цвіцеш,
Асыпаешся?

Чаму рана цвіцеш,
Асыпаешся?
Куды, мілы дружок,
Сабіраешся?

Ой, ці ў ход, ці ў паход,
Ці ў дарожаньку?
Паначуй, міл дружок,
Хаця ночачку.

— Начаваў бы я,
Ой, не ноч, не дзве,
Начаваў бы я
Ўсю нядзелечку,

Ўсю нядзелечку
З панядзелачка,
Ой, мне злосць на атца,
На атца свайго.

Ажаніў ён мяне
Малалетняга,
Малалетняга,
Неразумнага.

Да й узяў мне жану
Не хадзяечку,
Ні снапа звязаць,
Ні слаўца сказаць.

Як звяжа снапок —
Сноп развяжацца,
Як скажа слаўцо —
Не наравіцца.

Ой, пайду я, молад,
У Кітай-горад,
Куплю карабель
За сто дваццаць рублёў.

Куплю карабель,
Шчэ й з палцінаю,
Пасаджу я жану,
Шчэ й з дзяцінаю.

Карабель плыве —
Аж вада раве,
А жана сядзіць,
Як свяча гарыць.

— Дзяціначка,
Як былiначка,
Міла душачка,
Падай ручаньку.

— Не падам, міл-кохан,
Не падам рукі,
Ой, ты біў мяне
Ўсё нагайкаю.

Ой, ты біў мяне
Ўсё нагайкаю,
Называў мяне
Не хазяйкаю.

Ох, і біў ты мяне
Да й дубінаю,
Называў ты мяне
Не гаспадыняю.

## 370. АЖАНІЛІ МЯНЕ, МАЛАЛЕТНЯГА

Ажанілі мяне, малалетняга,
Ох, далі мне жану-недалёжачку.

Ой, далі мне жану-недалёжачку —
Да ні спеч, ні зварыць, ні з людзямі гаварыць,

Ні славечка сказаць, ні снапочка звязаць.
Як і звяжыць снапок, дык(ы) развяжацца,

Як і звяжыць снапок, дык развяжацца,
Як і скажыць слоўца, дык(ы) не ўразіцца.

## 371. НІ НА КАГО ТАК НЕ ЖАЛЬ

— Ні на каго так не жаль,
Як на атца сваего,

Як на атца сваего,
На радзіцеля,

Што ажаніў ён мяне,
Малалетняга,
Малалетняга
І малавумнага,

Што ўзяў я жану
Не па любові,
Што не бела ліцо,
Не чорныя бровы,

Што не спекць, не зварыць,
Ні з народам гаварыць,
Што ні жыцечка жаць,
Ні снапочка звязаць.

А як і звяжа снапок,
Дык развяжацца,
А як скажа слаўцо —
Не нравіцца.

— Ой ты, сукін сын,
Да ты ж сам такі:
Ні грабель зрабіць,
Ні касы набіць.

— Як пайду я, молад,
У Кітай-горад,
Закажу карабель
За сто дваццаць рублей,

За сто дваццаць рублей,
Шчэ й з палцінаю,
Пасаджу там жану
І з дзяцінаю.

Што жана сядзіць,
Як свяча гарыць.
А дзяцінанчка,
Як жарыначка.

## 372. АЖАНІЛІ МЯНЕ

— Ажанілі мяне,
Эй, малалетняга,
Малалетняга
Ды малавумнага.

Та й далі мне жану,
Эй, ды не па любові,
Што не белае ліца,
Што не чорны бровы.

Ды не ўмее жана,
Эй, ані жыта жаць,
Ані жыта жаць,
Ні снапа звязаць.

Як і звяжа сноп,
Эй, раскідаецца,
Як і скажа слаўцо,
Заікаецца.

— Ой, нягодны ты муж,
Эх, да ты сам такі:
Ні араць, ні касіць,
Ні грабель зрабіць.

Як і зробіць граблі,
Эх, раскідаюцца,
Як наб'е касу,
Каса лапочацца.

Як наб'е касу,
Эх, залапочацца —
Мне з такім мужыком
Жыць не хочацца.

## 373. АЙ, УЖЭ МНЕ ДАКУЧЫЛА

Ай, ужэ мне дакучыла
У горы жывучы,
На чужыя да харошыя
А да ўсё глядзеці.

Ой, чужыя да харошыя,
Як ружовы цвет,
А мая — няўдалая,
Завязала свет.

## 374. ОЙ, ХАДЗІЎ, ГУЛЯЎ МАЛОЙЧЫЧАК

Ой, хадзіў, гуляў малойчычак
Па гары крутой
Ды часаў ён русы кудзеркі
Праваю рукой.

Ой, абрыдла, надакучыла,
Завіваючы,
На чужыя, на харошыя
Пазіраючы.

Бо чужыя — ўсе харошыя,
Як ружовы цвет,
Мая ж жонка — няўдаліца,
Завязала свет...

Ой, вазьму ж я ды няўдаліцу
Пад праву руку,
Павяду ж я ды няўдаліцу
Пад быстру раку.

## 375. АЙ, ПАСЕЮ КАНАПЕЛЬКІ

Ай, пасею канапелькі
На распаханай зямельцы,
Ай, люлі, ай, люлі.
На распаханай зямельцы.[1]

Ай, расціце, канапелькі,
Вы не густы і не рэдкі.

Карэнейкам караністы,
Галоўкамі галавісты.

---

[1] Прыпеў «Ай, люлі, ай, люлі» спяваецца пасля кожнай страфы з паўторам другога радка.

Як на тыя канапелькі
Наляцелі верабейкі.

Наляцелі верабейкі,
Паклявалі канапелькі.

Каб я знаў ды каб я ведаў
Сваю горкую долю,

Сваю горкую долю,
Нешчаслівую жаніцьбу,

Я б не сеяў канапелькі,
Я ж бы век не ажаніўся,

Халастым бы валачыўся,
Кудзяркамі апусціўся.

## 376. САЛАВЕЙ МОЙ МАЛЕНЬКІ

Салавей мой маленькі,[1]
У цябе голас тоненькі,

Пашчабячы-ка ты мне,
Што я ў чужой старане,

Няма радзіны пры мне,
Няма роду пры мне,

Няма роду, радзімы,
Няма мае дружыны.

Няма мацеры, атца —
Некаму пажаліцца.

Пажуруся я, мальчык, сам,
Што не ў нораў жонку ўзяў.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

## 377. ШТО ПРЫ ПІРУ, ПРЫ БЯСЕДЗЕ ДА ДВА БРАТОЧКІ СЯДЗЕЛІ

Што пры піру, пры бяседзе да два браточкі сядзелі,
І сядзелі, і гаварылі пра жаніцьбачку сваю.
— Ці ўдалася, ці ўдалася, брат, жаніцьбачка твая?
— Не ўдалася, не ўдалася, брат, жаніцьбачка мая,
Напасалась, навязалась мне няўдалая жана.

## 378. ПРЫ ДАЛІНЕ ПРЫ ЗЯЛЁНАЙ ДВА ДУБОЧКІ СТАЯЦЬ

Пры даліне пры зяленай два дубочкі стаяць,
Па дарозе па шырокай два брацíткі ідуць.
Яны ідуць і гаворац пра жанібаньку сваю:
— Ці ўдалася, ці ўдалася, брат, жанібанька твая?
— Не ўдалася, не ўдалася, брат,— нялюбая жана!
Ох, вазьму ж я, павяду ж я да й на быструю раку,
А сам выйду, пагляджу я на высокую гару.
— Ох, вярніся, ох, вярніся, хоць нялюбая жана!
— Не вярнуся, не вярнуся, бо нялюбая была.
— Хоць не для мяне, хоць не для мяне,
То для дзетак малых.

## 379. ЯК НА СТАЙНІ ДВА КОНІКІ СТАЯЦЬ

Як на стайні два конікі стаяць,
А ў бяседзе два брацелкі сядзяць.
— Ці ўдалася, брат, брат, жаніцьбачка твая?
— Не ўдалася, брат, брат, жаніцьбачка мая,
Накасалась, навязалась, брат, нялюбая жана.
— Мы пойдзем, брат, у новыя гарады,
Мы скуём, брат, вострыя тапары,
Мы пойдзем, брат, у цёмныя лясы,
Мы высякем, мы вырубім, брат, новенькі чаўнок,
Мы і ўсадзім, мы і ўсадзім, брат, нялюбую жану,
Мы пусцім, брат, брат, у быструю раку,
Мы пойдзем, брат, брат, на высокую гару,
Мы глянем, брат, брат, на яркую зару:
— Ці высока ясная зоранька ўзышла,
Ці далёка, брат, нялюбая жана?
— Не высока, не высока ясная зоранька ўзышла,
Не далёка, не далёка, брат, нялюбая жана.

— Ты вярні, брат, брат, нялюбую жану.
— Хоць вярнуся, хоць не вярнуся — не радзі цябе, дурака,
Хоць вярнуся я радзі дробненькіх дзетачак,
Я і горкіх сіротачак.

## 380. ПАБІЎ ЖОНКУ, ПАЕХАЎ АРАЦІ

Пабіў жонку, паехаў араці,
Прызабыўся хлеба, солі ўзяці.
Арэ, арэ, на шлях пазірае,
Ці не нясе жонка абеду.
Відно, шэльма, абеду не мае,
Відно, шэльма, ў шынку загуляла,
Загуляла да й забушавала.
Адпрагу я каня варанога
Да й паеду да дому новага.
Пад'язджаю да дому новага —
Ажно жонкі дамавіну чэшуць.
Уваходжу я ў нову святліцу,
Я ж думаю, што пчолкі гудуць,
Ажно дзеткі па мамачцы плачуць.

## 381. ОЙ, БЯДА Ж МАЯ

Ой, бяда ж мая
Непазбытая:
Пайшла жонка прэч
Ненабітая,
Ай-я-яй, а-яй,
Ненабітая!

Ды шчэ, шэльмішча,
Наругаецца:
Села сабе ў варатах —
Абуваецца,
Села сабе ў варатах —
Абуваецца.

На маім двара
Штодзень ваду бярэ,
Маё сэрцайка,

Як сахой, арэ.
Ці маўчы, ці крычы,
А як брала, так бярэ.

Не хадзі, не кары
На маім двары,
А бярэш — дык бяры
Упацёмку, да зары,
Пакуль людзі не прачнуцца —
Да світанку, да зары.
Я сваю бяду
Пальцам развяду
І табе на злосць
Да другой пайду,
Усё дома кіну-рыну,
Да Марыны пайду!

## 382. ХАДЗІЦЕ, ХЛОПЦЫ, ПІЦІ ДА ГУЛЯЦІ

Хадзіце, хлопцы, піці да гуляці,
Час вам, малойцы, да дому ступаці.

Ой, е ў мяне дома прапышная жана,
Стаіць у вароцях у чырвоных чабоцях,

Дзяржыць яна чары на белых ручках.
Ці мне чары піці, ці мне жонку біці?

Напіўшыся чары, не быці жывому,
Набіўшы жонку, не ісці дадому.

Ой, прывяжу жонку к канёваму хвасту,
Пушчу каня ў чыстае поле.

Няхай мой конік нагуляецца,
Няхай мая жонка да пакаецца.

## 383. ОЙ, ПОЛНА, БРАТЦЫ, ПЕЦЬ І ГУЛЯЦЬ

Ой, полна, братцы, пець і гуляць,
Э-э-эй, пець і гуляць,

А трэба ўжо дадому ступаць,
Э-э-эй, дадому ступаць.

А ў мяне дома, ай, нет нікога,
Э-э-эй, нет нікога,

Толькі адна шэльмачка-жана,
Э-э-эй, шэльмачка-жана.

А стаіць яна на канец стала,
Э-э-эй, на канец стала,

А дзяржыць яна чарачку віна,
Э-э-эй, чарачку віна.

Чарачка віна пачаравана,
Э-э-эй, пачаравана.

Ці чару піць, ці жану біць,
Э-э-эй, ці жану біць?

Я й чару не піў, я й жану не біў,
Э-э-эй, я й жану не біў.

Ай, пойдзем, братцы, у нову стаенку,
Э-э-эй, у нову стаенку,

Выберам каня найсівейшага,
Э-э-эй, найсівейшага,

Прывяжам жану к конскаму хвасту,
Э-э-эй, к конскаму хвасту,

А пусцім каня ў чыстае поле,
Э-э-эй, у чыстае поле.

Няхай конічак хоць напляшацца,
Э-э-эй, хоць напляшацца,

Шэльмушка-жана хай наплачацца,
Э-э-эй, хай наплачацца.

Хай конічак нагарцуецца,
Э-э-эй, нагарцуецца,

Шэльмушка-жана намуштруецца,
Э-э-эй, намуштруецца.

Няма каня ані дзень, ані два,
Э-э-эй, ані два,

На трэці дзянёк прыбягае канёк,
Э-э-эй, прыбягае канёк.

У сівага каня ні паўсцінаечкі,
Э-э-эй, ні паўсцінаечкі,

У шэльмачкі-жаны няма сілачкі,
Э-э-эй, няма сілачкі.

## 384. ТЫ, ЗІМА, ЗІМА

Ты, зіма, зіма
Маразяная!
Баюся цябе,
Не змарозь мяне,

Паходам ідучы,
Маршыруючы,
У правай ручаньцы
Ружэ несучы,

А ў левай ручаньцы
Каня ведучы,
Матцы роднай
Шубу несучы,

А сястры радной —
Персцень залатой,
А шэльме-жане —
Нагай драцяной.

Шэльма-жана
Няверна жыла.
Прывяжу жану
К конскаму хвасту.

Пушчай жа мой конь
Прагуляецца,
А шэльма-жана
Прамуштруецца.

А ўжэ майму каню
Аброку нясуць,
А шэльму-жану
Да гробу вязуць.

Бо шэльма-жана
Няверна была,
Мёд-віно піла,
З панамі жыла.

Майго каня
Да стайну вядуць,
А шэльму-жану
Да гроба кладуць.

## 385. АХ ТЫ, ЗІМАНЬКА, ТЫ, МАРОЗЛІВА

Ах ты, зіманька, ты, марозліва,
Баюся цябе, замарозіш мяне!
Замарозіш мяне, з паходу ідучы,
У правай ручаньцы шаблю несучы,
У левай ручаньцы каня ведучы.
Паставіў каня да ў стоенцы,
А сам уходзіць да да святліцы,
А ў святліцы яго мілая,
Яго мілая з кавалерамі.
А ўвяжу мілу каню да хваста,
Пражану каня ў чыстае поле,
Няхай конік прашатруецца,
Няхай міла прамудруецца!

## 386. АЙ, МАРОЗ, МАРОЗ, НЕ ЗМАРОЗЬ МЯНЕ

Ай, мароз, мароз, не змарозь мяне,
Ой, рана, рана, не змарозь мяне,[1]
Не змарозь мяне, ні жаны мае.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка з другой яго часткай.

Ля цябе, мароз, я й кажух маю,
Я й кажух маю і з сярмяжкаю,
Ай, на ручанькі — рукавічанька,
Ай, на ножанькі — я й сапожанькі.
Ай, жана, жана, не журы мяне,
Ля цябе, жана, я й бізун маю,
Я й бізун маю з сяму плёткамі.
Як удару раз — дык і сем значкоў,
Як удару два — дык чатырнаццаць,
Як удару тры — дык адзін-дваццаць.

## 387. ЗІМУШКА, ЗІМА МАРАЗЯНАЯ

— Зімушка, зіма маразяная,
Прашу я цябе, не марозь мяне,

Ды марозь таго мілага майго,
З паходу йдучы, каня ведучы,

Мілага майго, з паходу йдучы,
З правай стараны каня ведучы,

З правай стараны каня ведучы,
З левай стараны стрэльбу несучы.

— А ў каня грыва шоўкава,
У мяне, малайца, кудрацы ўюцца,

У мяне, малайца, кудрацы ўюцца,
За мяне, малайца, дзеванькі б'юцца.

Ах вы, дзевачкі, вы не біцеся,
За мяне, малайца, пагадзіцеся.

Пайду на кірмаш ды куплю сабе,
Ды куплю сабе тры пакупачкі:

Матачцы радной — кубак дарагі,
Сястрыцы радной — сігнет залаты,

Жонцы маладой — рамень плецены,
Рамень плецены ды расплецены.

Жонка малада здагадаецца —
За то, што на другіх заглядаецца.

### 388. ШТО Й ПА МОРЫ ПЕНА ЗАКІПЕЛА

Што й па моры пена закіпела,
А ў казака сэрца забалела
Што па той жа жане маладзенькай.
А ўсе жоны ў полі рабатаюць,
Мая шэльма ўсё п'е да гуляе,
Прыдзе дамой — сям'ю разганяе.
Калі б знаў бы, мальчык, не жаніўся,
З таго гора пашоў бы ў салдаты,
Заслужыў бы чына афіцэра
Да і ўзяў бы дачку капітана.
А за яе прыданага многа —
700 рублей дзенег, каня варанога.
Сеў бы ды паехаў да двара раднога.

### 389. НЕ ШУМІ ТЫ, ЁЛКА

Не шумі ты, ёлка,
Бо мне жыці горка,
Не хілісь ты, голька,
Бо мне жыці горка.

Не хілісь ты, голька,
Бо мне жыці горка.
Як пайду я з таскі
У цёмныя ляскі.

Што ў цёмным лесе
Чорны воран крача,
То не чорны воран,
То мой мілы плача.

— Не плач, не плач, мілы,
Па харошых жонках,
А плач па сваёй старонцы,
Па няўдалай жонцы.

— Што к гнілой калодзе
Агню не раскласці,
І к няўдалай жонцы
Слова не прыкласці.

І к гнілой калодзе
Агонь не кладзецца,
І к няўдалай жонцы
Мой дух не гарнецца.

## 390. БЯДА САЛАУЮ, БЯДА

Бяда салаўю, бяда,[1]
Што халодная вясна:

Ні яму гнязда звіці,
Ні яму яйка знясці.

Гняздзечка завівае,
Яечка замярзае.

Бяда малайцу, бяда,
Што нялюбая жана:

Ні яму з сабою браці,
Ні яму пакідаці.

У доме пакінуўшы —
Матуля журлівая,

Матуля журлівая,
Жана бедурлівая.

Матуля журыць будзе,
Жана бедаваць будзе.

## 391. ДА Й У ЛУЗЕ ДВА ДУБОЧКІ

Да й у лузе два дубочкі —
Да абодва галістыя,
Сабраліся мы з міленькім —
Да й абое наравістыя.

Ён жа мяне біць так біць,
А я яму не каруся:
Як выйду на вуліцу —
З харошымі абнімуся.

---

[1] Першы радок паўтараецца.

Яго мамка старэнькая
У аконца пазірае:
— Як нядобра, мой сыночак,
Маладому не прыдаўшыся,

Як нядобра, мой сыночак,
Маладому не прыдаўшыся,
Стаіць жонка на вуліцы,
З харошым да й абняўшыся.

— Няхай стаіць, няхай стаіць,
Няхай яны абнімаюцца,
Няхай яна тое знае,
Што ёй дарам не мінаецца.

Вісіць пужка драцяная,
Срэбрам, злотам пазлачона,
Будзе табе, мая міла,
Штодзень шкура памалочана.

Нагаечка драцяная
Срэбрам, злотам да й паліта,
Будзе табе, мая міла,
Штодзень шкура пабітая.

## 392. АЖАНІЎСЯ НАШ КАЗМЕРКА

Ажаніўся наш Казмерка
Да ўзяў жонку-багатырку,

Да ўзяў жонку да работы,
Што носіць жоўты чаботы,

Жоўты чаботы-летніцы
І каралі, заўшніцы.

Ад карчмы да карчмы ходзіць
І хлопцы пад рэнцы водзіць.

А як жа прыдзе дахаты,
То не смееш палаяці,

Бо ты ўбогі, я багата,
Мая праўда, мая хата!

## 393. А Ў ЛУЖКУ, Ў ЛУЖКУ КАЛІНА Ў КРУЖКУ

А ў лужку, ў лужку каліна ў кружку,
На той каліне семсот салаўёў.
Семсот салаўёў калінку клююць,
Маладому малайцу весці падаюць:
— Маладзец малады, белы, удалы,
Нешчаслівая жаніцьба твая:
Нехарошую жану сабе ўзяў.
А з благой жаной кепска й дома быць,
Кепска й дома быць, кепска ў пір пайсці.
А у пір пайсці — пасварыўшыся,
А дома быці — ды пабіўшыся.
А ў лужку, ў лужку каліна ў кружку,
На той каліне семсот салаўёў.
Семсот салаўёў калінку клююць,
Маладому малайцу весці падаюць:
— Маладзец малады, белы, удалы,
А шчаслівая жаніцьба твая:
А харошую жану сабе ўзяў.
А з добрай жаной добра й дома быць,
Добра й дома быць, добра ў пір пайсці.
А ў пір пайшоўшы — нагуляціся,
Дамоў прыйшоўшы — накахаціся.

## 394. САЛАВЕЙ, САЛАВЕЙ

— Салавей, салавей,
Пташка ранняя,
А папей, салавей,
Песні разныя.

— Не буду, не буду
Песенек пяяць,
А буду, а буду
Ўсю праўду гукаць:

А ў каго, а ў каго
Жонка першая,
А ў таго, а ў таго —
Слоўца вернае.

А ў каго, а ў каго
Жонка другая,
У таго, у таго —
Праўда худая.

## 395. ОЙ, БЯДА Ж МАЯ ДЫЙ НЯМІЛАЯ

Ой, бяда ж мая дый нямілая,
Жонка проч пайшла — мужа кінула.

На чужым дварэ абувалася,
Над Дунайчыкам умывалася.

— А дзе, мілая, начаваць будзеш,
А з кім, мілая, размаўляць будзеш?

— Начаваць буду я у татачкі,
Размаўляць буду я і з мамачкай.

Я у вас была, ўсё рабіла —
Табе, міламу, не ўгадзіла.

## 396. Я У ГАРОДЗЕ ПШАНІЧАНЬКУ ЖАЛА

Я ў гародзе пшанічаньку жала,
Маё дзіця ў калысцы крычала.[1]

А кіну, рыну дзіця ў крапіву,
А сама пайду на Русь, на Ўкраіну.

На Украіне скрыпкі, дудкі йграюць,
А там жа мяне ніхто не пазнаіць.

Адзін не пазнаў — гуляць з сабой ўзяў,
Другі не пазнаў — паненкай назваў,

А трэці пазнаў — красавіцкай назваў:
— Ты, красавіца, у карагодзе скачаш,

Ты, красавіца, у карагодзе скачаш,
А тваё дзіця ў крапіве плачыць.

## 397. АХ ТЫ, ДОЛЯ МАЯ

Ах ты, доля мая,
Дзе ты дзелася?
Ці ты ў агні ізгарэла,
Ці ўтапілася?

---

[1] Кожны другі радок паўтарасцца.

Калі ў агні ізгарэла,
Ляжы папяльцом,
Калі ў моры ўтапілася,
Ляжы камянцом.

А я, маладая,
Пайду піць, гуляць,
Ці не прыйдуць суседачкі
Мне завідаваць.

Першы певень заспявае,
А я ў карчме п'ю.
Другі певень заспявае,
Я й не думаю.

Трэці певень заспявае,
Я дадому йду.
Сустракае мяне дома
Дзевер малады:

— Братавая маладая,
Жалка мне цябе,
Бо гатуе твой міленькі
Нагай на цябе!

— Дзевяратка, родны братка,
Барані мяне,
Есць у мяне шоўкаў платок —
Падару табе!

Ой, пачуў жа мой міленькі
Тую размову:
— А як я той шоўкаў платок
Ды сам панашу?

А як я той шоўкаў платок
Ды сам панашу?
А я тваё цела
Нагаем спішу?!

— А бадай ты, мой міленькі,
Таго не дождаў,
Каб ты маё бела цела
Нагаем пісаў!

## РАЗМОВА З МАЦІ

### 398. КАЦІЛАСЯ ГАРОШЫНКА

Каціласяа гарошынка
З гары у падоллейка,
Аддала мяне мамачка
З роскашы ў бяздоллейка.
Ой, рада б я к мамцы пайсці,
Ды вяляць мне рэчку плысці —
Шырокую ды глыбокую,
Да мамачкі далёкую.
А я плыла дый каціласяа,
Да пояса абмачыласяа,
Ледзьве к мамцы прыбіласяа.
А брацейка ды ўпыняе,
Братавая ў вочы лае.
— Не лай, не лай, братавенькая,
Маладая, маладзенькая:
Пакуль мамка будзе жыва —
Датуль мне гасціна міла,
А, брунь божа, мамка памрэ —
То ўся мая гасціна міне,
Да зарастуць дарожанькі
Шчытнічкам да ракітнічкам
І белымі бярозкамі,
Абаллюся я слёзкамі.

### 399. ЦЕРАЗ ШЧЫРЫЯ БАРЫ

Цераз шчырыя бары
Шэры гусі ляцелі,
Шэры гусі ляцелі,
Летучы, гаварылі:
— Дзе будзем начаваці?
Што будзем вячэраці:
Ці ў бару брусні̣чаньку,

Ці ў мяжы сунічаньку?
— Няма лепшай ягадзінкі,
Як у бару брусьнічанька,
А ў мяжы сунічанька.
Няма лепшай госцейкі,
Як дачушка ў матулькі.
— Гасці, мая дачушачка,
За маей галавою,
А за сваей красатою.
А як мамкі не будзіць,
Гасціці недзе будзіць,
А як мамачка памрэць,
Дарожачка зарасцець.
Ой, пайшла б я лясамі —
Ўсе лясы паваляны
Дуб'ікам, бярэзнічкам,
Маладым алешнічкам.
Ой, пайшла б я лугамі —
Ўсе лугі пакошаны
Густымі пракосамі.
Ой, пайшла б я й палямі —
Ўсе палі папаханы
Ўсякаю сяўбіцаю,
Ячмянём, пшаніцаю.
Зараслі ўсе пуці —
Куды к мамачцы ісці?

## 400. ОЙ, ЛЯЦЕЛІ ГУСАЧКІ

Ой, ляцелі гусачкі,
Летучы гаварылі:
— Любая гасцінaчка —
Дачушка ў мамачкі.
А як памрэ мамачка,
Мінецца гасцінaчка,
Зарастуць дарожачкі
Ельнічкам, бярэзнічкам,
Ельнічкам, бярэзнічкам,
Зялёненькім арэшнічкам,
Колкаю шыпшынкаю,
Горкаю калінкаю.
Будзе дачка к матцы йсці,
Будзе калінку ламаці,

Будзе калінку ламаці,
Будзе цяжанька ўздыхаці:
«Ты, калінка, ты, горкая,
Мая доля ты бяздольная.
Ты, калінка, ты, красная,
Мая доля ты няшчасная».

## 401. ОЙ, ПРАЗ ЛЯСЫ-БАРЫ

Ой, праз лясы-бары
Шэры гусі ляцелі,
Летучы, гаварылі:
— Няма лепшай ягадкі,
Як сунічка ў лугу,
Няма лепшай госціцы,
Як дачушка ў мамачкі.
А як мамачка памрэ,
Дарожачка зарасце
Ельнічкам, бярэзнічкам,
Зялёным чупчыннічкам.
— Я ельнічак пасяку,
Бярэзнічак паламаю,
Чупчыннічак патапчу
Да й у госцейкі схаджу.



## 402. ОЙ, ДАЎНО-ДАЎНО Я Ў МАМКІ БЫЛА

Ой, даўно-даўно я ў мамкі была,
Тая ж дарожанька травой зарасла,

Травой зарасла, шоўкам заплыла,
Чырвонаю калінаю пазавісла.

Куплю я касу, траву пакашу,
Чырвоную каліначку ў пучкі павяжу,

Ў пучкі павяжу, ў вяночкі паўю,
Я да свае роднай мамкі ў госцікі пайду.

Я да мамкі ішла — як пчолка гула,
А да цябе, мой міленькі,— усё слёзкі ліла.

Як да мамкі ішла, то ўсё скачучы,
А да цябе, мой міленькі,— то ўсё плачучы.

Бадай у тым бару вада карэнні змыла,
Як ля цябе, мой міленькі, я не міла.

## 403. ОЙ, ДАЎНО-ДАЎНО

Ой, даўно-даўно я ў мамы была,
А ўжо ж мая дарожанька чабром зарасла,

Чабром зарасла, цветам зацвіла,
Чырвонаю калінаю нахілілася.

А як захачу, той чабор парву,
Чырвоную калініцу набок пахілю,

Чырвоную калініцу набок пахілю,
А да свае матуленькі ў гасціну схаджу.

А мілы чуе дый не пускае:
— Не йдзі, не йдзі, мая міла, работка чакае.

## 404. ОЙ, ДАЎНО-ДАЎНО

Ой, даўно-даўно
Я ў мамкі была,
А ўжо тыя сцежачкі
Травой зараслі,

Травой зараслі,
Лісцем запалі,
Чырвонай калініцай
Завесіліся.

Калі захачу —
Траву патапчу,
Чырвоную калініцу
У пень высеку.

У пень высеку,
У корань вырву,
А ў роднай мамачкі
Ў гасцях пабуду.

Буду я ляцець,
Буду кукаваць —
Свaëй роднай мамачцы
Голас падаваць.

## 405. ОЙ, ДАЎНО-ДАЎНО

Ой, даўно-даўно
У сваёй мамкі не была,
Усе мае сцежачкі
Да травой зараслі,

Травой зараслі
Да пылом прыпалі,
Чырвонаю калінаю
Дый панавісалі.

Дый вазьму касу
Ды травачку пакашу,
Чырвоную каліначку
Ды ў пень парублю.

Дый у пень парублю
І ў пучочкі павяжу,
Я к сваёй мамачкі
Дый пташкай палячу.

Дый буду лятаці
Дый кукаваці,
Ці не выдзе мая мамачка
З новае хаты,

І з новае хаты
Мяне вітаці.
Ажно мая мамачка
У палажачку спіці.

Вышла нявехна нязваная
І стала будзіць:
— Да й устань, мамачка, устань, родная,
Нешта ў нашым садочку жалосна пяе.

— То ж не зязюлька, то ж не пташачка,
А то маё дзіцятка параджонае,
І дзе радзілася, і дзе хрысцілася,
На чужой старонцы знадабілася.

## 406. ПАШЛА ДЗЕВАЧКА Ў ЛЕС ПА КАНЯ

Пашла дзевачка ў лес па каня,
Там яе цёмная ночка абняла,
Яна пад калінкаю спаць лягла.
Прыляцела зязюлька, стала кукаваць,
У ме, маладое, праўданькі пытаць:
— На каго ты, дзевачка, жаль маеш,
На каго ты, маладзенькая, вялікі?
— Маю я вялікі жаль на ўвесь род.
На родную мамку — наўпярод,
Што далёка замуж аддала,
Вялікага пасагу не дала,
Не вяліць у госці часта хадзіць...
Стала мая мамка паслы слаць:
— Едзь, маё дзіцятка, ў госці к нам:
Да ўсё маё падвор'е здрамнела,
Да ўся мая сямейка спахмурнела,
Чабаром сцежачкі зараслі —
Без цябе к нам хлопцы гуляць не пашлі.

## 407. А Ў БАРУ САСНА КАЛЫВАЛАСЯ

А ў бару сасна калывалася,
Ой, улі-улі, калывалася.

Я да матулі прыбіралася,
Ой, улі-улі, прыбіралася,

Трыма мыламі ўмывалася,
Да й адным мылам бялюсенькім,

А другім мылам жаўцюсенькім,
А трэцім мылам белым, румяным.

Іду праз пакой паціхусеньку,
А праз сені іду да памалюсеньку,

Штоб мая свякруха да не пачула,
Майму міламу да не сказала.

## 408. А Ў БАРУ САСНА КАЛЫХАЛАСЯ

А ў бару сасна калыхалася,
Дачка к мамушке сабіралася,
Трыма мыламі ўмывалася.
Каторае мылечка бялей мыліцца?
Ці Калужскае, Драгабужскае,
Ой, ці тое ды Смаленскае?
Родная паб'е ды пажалее,
Свякроўка паб'е ды са двара сашле:
— Ты ідзі, шэльма, з майго двара!
Ты майму двару не работніца
Та й і дзецям маім не прыглядчыцца,
Ты і гасцям маім не прыветчыцца.

## 409. БЕЛАЯ БЯРОЗКА ЎСКАЛЫХНУЛАСЯ

Белая бярозка ўскалыхнулася,
Люлі, ускалыхнулася.

К мамцы ў госці я збіралася,
Люлі, я збіралася.

Трыма мыльцамі ўмывалася,
Люлі, умывалася.

Адно мыльца румянейшае,
Люлі, румянейшае.

Другое мыльца ружавейшае,
Люлі, ружавейшае.

А трэцяе найбялейшае,
Люлі, найбялейшае.

Я ў мамкі госця наймілейшая,
Люлі, наймілейшая.

Па пакою хаджу паціхусеньку,
Люлі, паціхусеньку.

Каб свякровачку не пабудзіць,
Люлі, не пабудзіць.

Бо свякровачка — то журба мая,
Люлі, то журба мая.

А як праснецца, то журыць будзе,
Люлі, то журыць будзе.

Майму міламу падвадзіць будзе,
Люлі, падвадзіць будзе.

А мой міленькі мяне біць будзе,
Люлі, мяне біць будзе.

А я, маладзенька, уцякаць буду,
Люлі, уцякаць буду.

У вішнёвым садзе начаваць буду,
Люлі, начаваць буду.

З зязюлькамі кукаваць буду,
Люлі, кукаваць буду.

З салавейкамі спяваць буду,
Люлі, спяваць буду.

## 410. А БЯРОЗАНЬКА КАЛЫХАЛАСЯ

А бярозанька калыхалася,
Я да маменькі выбіралася,
Трыма мыдламі вымывалася.
Першае мыдла ды чырвонае,
Другое мыдла ды белае,
Трэцяе мыдла найбялейшае.
А бярозанька караністая,
А свякроў мая наравістая.
Пакуль норавы пераведала,
Не раз слёзкамі паабедала.

## 411. ДЫ УЖО СОНЕЙКА

Ды ўжо сонейка за лес коціцца,
Мне да матанькі ў госці хочацца.

Дзе мяне мама спатыкаць будзе,
Чым мяне мама частаваць будзе?

Частуе мяне мёдам ды віном:
— Якаво ж табе за чужым сталом?

— Ці ела, мамка, рэдзьку з палыном?
Такаво ж і мне за чужым сталом.

Я ў канцы стала настаялася,
Лічаных кускоў наглыталася.

Цераз хату йду — думу думаю,
Цераз сені йду — слёзанькі лію,

Цераз сені йду — слёзанькі лію,
Як на двор выйду — свету не віджу.

## 412. ЗА БОР СОНЕЙКО ЗАКАЦІЛАСЁ

За бор сонейко закацíласё,
Мне да мамачкі захацеласё.
Дзе ж яна мяне сустракаць будзе,
Чым яна мяне частаваць будзе?
Сустракаць будзе пад новым дваром,
Частаваць будзе віном ды мядом.
Частаваць будзе, усё пытаць будзе:
— Ці добро, дзіця, за чужым сталом?
— Ой, добро не добро — трэба прывыкаці,
Сваю мамачку трэба забываці.
Я ў канцы століка настаялася,
Лічаных кусочкаў накусалася,
Дробных слёзачак нараняласа.

## 413. ЗА БОР СОНЕЙКА ЗАКАЦІЛАСЯ

За бор сонейка закацілася,
Мне да матулькі захацелася.

— Дзе ж мяне, матка, сустракаць будзеш,
Чым мяне, матка, частаваць будзеш?

— Сустракаць буду за новым дваром,
Частаваць буду і пытаць буду,

Частаваць буду і пытаць буду:
Ці добра табе ў чужой старане?

— Ці ела, матка, рэдзьку з палыном?
Так жа мне добра з чужым чужанцом.

У канцы століка настаялася,
Лічаных кускоў накусалася.

Лічаных кускоў накусалася,
Дробных слёзачак нараняласе.

— Ой, дзіця маё, ідзі дадому!
— Матулю родна, не пайду адна!

Ой, пашла маці ўпярод дзіцяці,
Ой, ішла да аглянулася,

Ой, ішла да аглянулася:
— Дзе ж маё дзіця прызасталася?

Ці буйных вятроў да збаялася,
Ці ў густым лесе прыблукалася?

— Ой, я буйных вятроў не баялася,
У густым лесе не блукалася.

## 414. ОЙ, ДАУНО-ДАУНО

Ой, даўно-даўно
Я ў мамкі была,
Ды тая дарожка
Чабром зарасла,

Чабром зарасла,
Лістком запала.
Чырвонай калінаю
Пазавісала.

Чабор падарву,
Лісток падыму,
Да роднае мамкі
Ў гасціну пайду.

Дзе ж мая мамка
Сустрачаць будзе,
А чым мяне мамка
Частаваць будзе?

Сустрачаць будзе
За новым дваром,
Частаваць будзе
Мёдам і віном.

Сустрэне мамка,
Запытаецца:
— Ці добра табе, донька,
Жыць на чужыне?

— Ці ела, мамка,
Рэдзьку ў палыне?
Такаво мне жыць
У чужой старане.

Я ў канцы стала
Настаялася,
Дробнымі слёзкамі
Умывалася.

## 415. ОЙ, ДАЎНО-ДАЎНО У МАТУЛІ БЫЛА *

Ой, даўно-даўно ў матулі была,
А ўжо тая да й дарожан(і)ка
Травой зарасла.[1]

Травой зарасла, вадой заплыла,
Чырвонаю да й калінаю
Пазавесілася.

Як вазьму касу — ўсю траву скашу,
Чырвонаю калінаю
Пучочкі звяжу,

Пучочкі звяжу, на воду пушчу.
Я й да сваёй роднае матулі
У гасціну пайду ж.

---

[1] Два апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца.

— Дбай, матуля, дбай, дачку замуж дай.
Не дай яе добрая кола
Майго роду жаль.

### 416. ЗОРКА ДА ЗОРКІ

Зорка да зоркі
З гары коціцца,
Гэй! Мне да маценькі
Ў госці хочацца.

— Дзе мяне мамка
Спатыкаць будзеш?
Гэй! Чым мяне, родна,
Частаваць будзеш?

— Спатыкаць буду
За новым дваром,
Гэй! Частаваць буду
Мёдам ды віном!

Частуе мамка
Ды пытаецца:
— Гэй! Як табе, донька,
Прабываецца?

— Ці ела, мамка,
Рэдзьку з палыном?
Гэй! Так мне трудненька
Між чужым людом.

Ці ела, мамка,
Не пасаліўшы?
Гэй! Так мне трудненька,
Не дагадзіўшы!

Рэдзька горкая,
Палын гарчэйшы,
Гэй! Свякроў ліхая,
Свёкар гаршэйшы.

Вару вячэру,
Не хочуць есці,
Гэй! Сцялю пасцельку,
Не хочуць легчы.

Мая вячэра
Паразлівана,
Гэй! Мая пасцелька
Параскідана.

## 417. ОЙ, ЗА БОР, ЗА БОР

Ой, за бор, за бор
Сонца коціцца,
Мне да матанькі
Ў госці хочацца.

Да мужа звярнусь,
Часам здарыцца,
Папрашу яго,
А ён сварыцца.

За бор сонейка
Закацілася,
А я ў маманькі
Нагасцілася.

У канцы століка
Настаялася,
Горкіх слёзак я
Наўлівалася.

І за столікам
Насядзелася,
З палыном рэдзькі
Там наелася.

## 418. ЗА БОР СОНЕЙКА ЗАКАЦІЛАСЯ

За бор сонейка закацілася,
Мне да мамы ў госці захацелася.

Дзе ж мяне мама сустракаць будзе,
Чым мяне мама частаваць будзе?

Сустрэла мама за новым дваром,
Частавала мама півам і мёдам.

Частавала мама півам і мёдам.
— Як табе, дачушка, пражываецца?

— Ці ела, мама, рэдзьку з палыном?
Так мне, маладой, за чужым сталом.

Ў канцы століка настаялася,
Лічаных кусочкаў наглыталася,

Саломкаю печкі напалілася,
Гаршчочкам вадзічкі нанасілася.

Устану я рана печачку паліць —
Ліхая свякроўка ўсё мяне журыць.

Як пайду я ў хлеў кароўку даіць —
Ліхая залоўка за мною бяжыць.

Ваду несучы — разліваецца,
Маё сэрца з жалю разрываецца.

## 419. ОЙ, ЗА БОР, ЗА БОР СОНЦА КОЦІЦЦА

Ой, за бор, за бор сонца коціцца,
Мне да мамачкі ў госці хочацца.

Мяне мамачка чакаць будзе,
За новым дваром спатыкаць будзе.

За новым дваром спатыкаць будзе,
Маю долю ўсё пытаць будзе:

— А якаво ж табе, мая дочанька,
А якаво ж табе за чужым сталом?

— Ці ела, маці, рэдзьку з палыном?
Так мне, маладой, за чужым сталом.

Канцы століка настаялася,
Дробнымі слёзьмі наблівалася,

Белых ручанькаў наламалася,
Лічаных кускоў наглыталася.

## 420. ЯСНА ЗОРКА З НЕБА КОЦІЦЦА

Ясна зорка з неба коціцца,
Мне да маткі ў госці хочацца.

Дзе ж мяне матка сустракаць будзе,
Чым жа мяне матка вітаць будзе?

Сустракаць будзе за новым дваром,
А вітаць будзе зялёным вінам.

Матка вітае, праўды пытае:
— Ці добра, дзіця, між чужых людзей?

— Ой, ці ела, матка, рэдзьку з часнаком?
Так мне, моладзе, між чужых людзей.

Пасеяў братка гарох між дарог,
Хто тудою ідзе — ушчыкне,
Мяне, моладу, хто захоча, наб'е.

## 421. ЗА БОР СОНЕЙКА ЗАКАЦІЛАСЯ

За бор сонейка
Закацілася,
К мамцы ў госцейкі
Захацелася.

Мая мамачка
Жыве за дваром,
Жыве за дваром,
За цясовым сталом.

Жыве за дваром,
За цясовым сталом,
Сустракае дзіця
Мёдам і віном.

Сустракаецца
Ды пытаецца:
— Чаго, дзіцятка,
Ты спазнілася?

Ці ты з дзеламі
Не ўхадзілася,
Ці ты з мужыком
Пасварылася?

— А я з дзеламі
Ухадзілася,
А я з мужыком
Не сварылася.

Ён мяне не біў,
За мяне гаварыў:
— Чужое дзіця
Не спрачаецца,

Чужое дзіця
Не спрачаецца,
За ўсякім дзелам
Увіхаецца,

Толькі слёзкамі
Абліваецца,
Тонкім рукаўцом
Уціраецца.

## 422. ОЙ, КОЦІЦЦА, КОЦІЦЦА

Ой, коціцца, коціцца
Сонейка з гары.
Ой, хочацца, хочацца
У госці да радні.

— Пусці, пусці, міленькі,
У садзік пагуляць,
Я не буду вішанек
У садзіку зрываць.

Адну толькі ветачку
Вінградачку
Занясу да мамачкі
На парадачку:

— Парадзь, парадзь, мамачка,
Як мне цяпер быць,
Парадзь, парадзь, родная,
Як мне цяпер жыць.

— Насі, дзіця, золата,
Не хіні к грудзям,
Цярпі, дзіця, горачка,
Не кажы людзям.

Насі, дзіця, золата,
Не хіні к сабе,
Цярпі, дзіця, горачка,
Не кажы і мне.

А носячы золата,
Яно зможацца,
А носячы горачка,
Яно скаржыцца.

## 423. МАТКА ПА ДОЧЦЫ ЗАБЕДАВАЛА

Матка па дочцы забедавала:
— Дзе ты, дачушка, заначавала?

— У роўным полі, пад каліною,
Белыя ручкі пад галавою.

Думала, маці, не збудзеш мяне?
Ой, збыла, збыла за адзін дзянёчак,
Цяпер не ўбачыш цэлы гадочак.

Лячу лясамі, лячу барамі,
Не бачу сцежкі я за слязамі.

Лячу да хаткі, да роднай мамкі,
Пытаю ў мамкі, што за парадкі.

Вось каб я мела саколлі вочы,
Я прылятала б і сярод ночы.

А каб я мела саколле крылле,
Я б прылятала і сярод тыдня.

## 424. ЦЕРАЗ БОР ЗЕЛЯНЕНЬКІ

Цераз бор зеляненькі [1]
Шэры гусі ляцелі,

Шэры гусі ляцелі,
Летучы, гаварылі,

Што няма ў бары ягад
Пад гэту бруснічаньку,

Што няма ў маткі гасцей
Пад родну дачушачку.

— Так гасці, маё дзіця,
Ад ранку да вечара,

Ад ранку да вечара,
Да позняга ўлягу.

Як матулі не будзе,
Тут гасціць не будзеш.

Зарастуць усе сцёжкі,
Зарастуць дарожкі.

Ой, зарастуць дарожкі
Калючым шыпшыннікам,

Калючым шыпшыннікам
І горкім асіннікам.

## 425. НА НОВЫМ ДВАРЫ

На новым двары
Стаяць два дубкі,
А на тых дубках
Сядзяць галубкі.

Сядзелі яны
І варкавалі,
Маяму жыццю
Завідавалі.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Ой ты, зязюлька,
Ранняя птушка,
Ты не шчабячы,
Праз сад летучы,

Ты не шчабячы,
Праз сад летучы,
Ты не атрасай
Ранняй расіцы.

Няхай атрасе
Мая маценька,
Мая маценька,
Да мяне йдучы,

Мая маценька,
Да мяне йдучы,
Маяму жыццю
Завідуючы.

## 426. Я ДУМАЛА РАНЕНЬКА

Я думала раненька —
Сонца ўзыходзіць,
Аж вароцейкі адчыняюць,
Аж мая мамачка ка мне ідзе ў госці.
— Хадзі, мая мамачка, хадзі, мая родная,
Сядзь, мая родная, у мяне на куце.
Што ёсць у мяне — усё для цябе:
Чарачка віна зелянюсенькага,
Кубачак мёду саладзюсенькага,
Я ж табе, мамачка, усё раскажу.
— Дачушка мая, не расказывай,
Маеш золата — не развязывай,
Гаруеш гора — не расказывай.
— Мамачка мая, маю золата —
Трэба развязаць,
Гарую гора — трэба расказаць.

## 427. СОНЦА ЯСНА ЗА ЛЕС КОЦІЦЦА

Сонца ясна за лес коціцца,
Уся бяседачка расходзіцца,

Мая мамка дамоў строіцца,
Сваю мамку прапушчаць пайду —

Праз тры бары, бары частыя,
Праз тры рэчкі серабрыстыя,

Праз тры рэчкі серабрыстыя,
Праз тры лугі беражыстыя.

Пушчу мамку ўсё далінаю,
Сама стану пад калінаю.

Калiначка ўскалыхнулася,
Мая мамка аглянулася,

Мая мамка аглянулася:
— Чаго, дзіця, застаялася?

Ці ў травінку ўкрыпалася,
Ці ў расінку замачылася?

— Ні ў травінку укрыпалася,
Ні ў расіцу замачылася.

Укрыпала чужая старана,
Замачылі дробны слёзачкі.

— Дзіця маё, дзіця роднае,
Май галоўку пакорную,

Май галоўку пакорную,
А сэрданька адваротнае.

Будзе табе чужа старана,
Будзе ясна, вясёлая.

Будзе табе свёкар татулька,
А свякроўка матулька.

Будзе табе дзевер брацітка,
А заловіца родна сястрыца.

— Крывая вулачка, як па ёй хадзіць?
Ліхая свякроўка, як ёй угадзіць?

Крывую вулачку сяк-так перайду,
Ліхой свякроўцы ніяк не ўгаджу.

## 428. ПА ЗАХАДЗЕ СЛОНЦА

Па заходзе слонца
Ціхі вецер вее,
Там матуля ў госці
Да мяне едзе.
— Ой, едзе, ой, едзе,
Вязе падарунак,
Аддала мяне замуж
За лясы, за горы,
Каб я не хадзіла
У гасціну ніколі.
— Ой, хадзі, маё дзіця,
Адчыню вароты,
Бо па маёй смерці —
Вечная сірота.
Сіротанька робіць
Ад ночы да ночы,
А на яе людзі кажуць:
Заспаныя вочы.

## 429. ПРЫЕХАЛА МАЦІ ПРАВЕДАЦЬ ДЗІЦЯЦІ

Прыехала маці праведаць дзіцяці
Да прывезла голку і маточак шоўку:
— Шый, маё дзіцятка, як у мяне вышывала.
— Да некалі, маці, тут вышываці,
Трэба рана ўстаці да валы пагнаці,
А валы прагнаўшы, да па воду ісці,
А вады прынёсшы, да ў печы паліці,
Чужую сямейку карміці.

## 430. ШТО НЕ СНЕДАЛА, НЕ АБЕДАЛА

Што не снедала, не абедала,
Сваёй мамачкі не адведала.
Яшчэ сонейка не ўсходзіла,
Сваёй мамачкі не праводзіла.
Правяду я сваю мамачку
За два бары, бары шчырыя,
За два лясы, лясы цёмныя.
Сама стану пад бярозкамі,
Абаллюся горкімі слёзкамі,

Ці не агляне́цца мая мамачка.
— Чаго плачаш, мая донечка,
Ці расічка вочкі выбіла,
Ці нужда табе высушыла?
— Не расічка вочы выбіла,
Не нужда мяне высушыла,
Іссушыла мяне няверна дружына.

## 431. ДА ЎЖО СОНЦА ЗАКАЦІЛАСЯ

Да ўжо сонца закацілася,
Да ўжо мамка ў дачкі загасцілася.
Праваяду я сваю мамачку
За тры лясы, лясы цёмныя,
За тры лужочкі зялёныя.
Сама сяду я пад лозкаю,
Абальюся горкаю слёзкаю.
Аглянулася мая мамачка:
— Чаго, дзіцятка, рыдаеш?
Ці травіца ножкі спутала,
Ці расіца вочкі выбіла?
— Спутала ножкі замужайка,
А выбіла вочкі заружайка,
Што няверная падружайка.

## 432. СОНЕЙКА ЗА ЛЕС ЗАХАДЗІЛА

Сонейка за лес захадзіла,
Матуля дачушку правадзіла.

Матуля дачушку правадзіла,
А правадзіўшы, гаварыла:

— Дачушка маяродненькая,
Скажы мне слоўца верненькае:

Ці цябе сонейка ссушыла,
А ці цябе хмара забіла?

— Мамачка мая родненькая,
Скажу я слоўца верненькае:

Ні мяне сонейка ссушыла,
Ні мяне хмарачка забіла.

Ссушыла мяне чужая мамка,
А забіў мяне чужы татка.

Забіў жа мяне чужы татка,
А яшчэ к таму муж наравісты.

### 433. ЗАЙШЛО СОНЕНЬКА, ЗАКАЦІЛАСЯ *

Зайшло соненька, закацілася,
Мне дадоманьку захацелася.

Жыву я рачок, жыву я другі,
Трэці ступае — матка пытае:

— Ай, доню, доню, пойдзем дадому.
— Матуля родна, не пайду адна,

Матуля родна, не пайду адна,
Падвядзі мяне хоць пад гараньку,

Хоць пад гараньку пад круценькую,
Хоць пад рэчаньку пад быстрэнькую.

Ой, ішла маці ўперад дзіцяці,
Ой, ішла, ішла, аглянулася,

Ой, ішла, ішла аглянулася:
— Чаго ж ты, доню, прызасталася?

Ці ты ветрыку ізбаялася,
Ці ў дуброваньку заматалася?

— Я не ветрыку ізбаялася,
Не ў дуброваньку заматалася.

Заматала мяне чужа старана,
Чужа старана, чужы ойчанька.

Ён і зняў, і зняў з лічанька красу,
Як буйны ветрык з травіцы расу.

Сонейка зайшло, раса апала,
А я, малада, навек прапала.

## 434. СОЎНЕЙКА ЗА ЛЕС ЗАХАДЗІЛА*

Соўнейка за лес захадзіла,[1]
Матка дачушку правадзіла,
А правадзіўшы, папытала:
— Чаго, дачушка, з ліца спала?
— Мамачка родненькая мая,
Да не пытайся майго ліца,
Да папытайся майго жыцця.
Ўчора звяроча не вячэрала,
Сягоння рана не снедала.

## 435. Я У ГОРЫ НЕ БЫЛА, НЕ ЖЫЛА

Я ў горы не была, не жыла,
Я ў горы не радзілася,
Ка мне гора прыкацілася.
Ужо сонейка за лес коціцца,
Бяседанька раз'яжджаецца,
Мая маманька дамоў ладзіцца.
Я матульку прапушчаць пайду —
Праз два полі чыстыя,
Праз два лугі, лугі зялёныя,
Праз дзве гары камяністыя,
Праз дзве ракі, ракі быстрыя,
Праз два лясы, лясы цёмныя.
Толькі з маменькай распрашчалася,
Аж матулька аглянулася,
Як дзіцятка паваліласся:
— Дзіцятка маё роднае,
Чаго ж ты паваліласся?
Ці ў травіцы заплуталася,
Ці ў расіцы замачылася?
— Не ў травіцы заплуталася,
Не ў расіцы замачылася.
Заплутала вялікае гора,
Замачылі дробны слёзанькі.

## 436. ЯСНА СОНЦА ЗА ЛЕС КОЦІЦЦА

Ясна сонца за лес коціцца,
Уся бяседачка расходзіцца,

[1] Кожны радок паўтараецца.

Уся бяседачка расходзіцца,
Мая мамка дамоў просіцца.

Мая мамка дамоў просіцца,
Я ж, малада, праводзіць пайду —

Праз тры польцы, праз тры чыстыя,
Праз тры рэчкі серабрыстыя.

Ды стану ж я пад бярозкаю,
Ды стану ж я пад кудраваю.

Бярозачка ці скалыхнецца?
Мая мамка ці аглянецца?

Бярозачка ўскалыхнулася,
Мая мамка аглянулася:

— Ды маё ж ты дзіцятачка,
Да чаго ж ты засталася?

Ці ў травіцы закрыпалася?
Ці ў расіцу замачылася?

— Закрыпала чужая старонка,
Замачылі дробныя слёзачкі.

## 437. ЯК ПРАВЯДУ Я СВАЮ МАМАЧКУ

Як правяду я сваю мамачку
За два лясы, за два цёмныя,
За тры бары, за тры шчырыя,
А сама стану я пад яварам.
Азірнулася мая мамачка:
— Чаго стаіш, мая донька?
Ці травічка ножкі спутала,
Ці расічка вочкі выбіла?
— І спужала мяне, мамачка,
Няшчасная мая долечка,
Шчэ чужая мне дамовачка
І няверная дружыначка.
Самі сядуць вячэраць,
Мяне, маладу, шлюць па ваду,

Па вадзіцу халодную
У крыніцу бяздонную.
А бачыла, пабачыла
Мяне мамачка, на высокім
Цераме седзячы
І гарачыя слёзы ронячы.

## 438. А НЕ КУКУЙ, ЗЯЗЮЛЕНЬКА

А не кукуй, зязюленька,
Як мне тошна,
А не кукуй, баравая,
Як мне бедна.
Даўно матухна ў госці
Не бывала,
А ўчора звячора
Прыехала,
А сягоння ранюсенька
Ад'язджала.
А я сваю матуленьку
Правадзіла —
Чэраз шчырыя бары
Са свячамі,
Чэраз чыстыя паля
Са слязамі.
А матулька да мяне
Гукала:
— А вярніся, дачушка,
Вярніся!
Будзе цябе свёкарка
Журыці,
Дзевер і залоўка
Паджыгаці.
— А я й свякрову журбу
Перабачу,
А я свякроўчыну сварку
Пераплачу,
Дзевяроў і заловак
Я й не гляджу,
А з табой, мая мамуленька,
Далі прайду.
А гдзе я з маёю мамкай
Гукала,

Там стаяла ябланька
Садавая.
На ябланьцы два яблычкі
Краснабочкі,
А я ў сваёй матуленькі
Адна дочка.

## 439. А Ў ПОЛІ, У ПОЛІ РАСЦЕ ДУБ ЗЯЛЕНЫ

А ў полі, у полі расце дуб зялёны,
А пад тым дубочкам стаіць карчомачка,
А ў тэй карчомачцы радзіна гуляе,
Радзіна гуляе, сястру ўспамінае:
— Недзе наша сястра не п'е, не гуляе,
Не п'е, не гуляе, ў радні не бывае.
— А я к свайму роду пайду цераз воду,
Хоць кладачка гібка і рэчка глыбока,
Хоць я намачуся, дык прасушуся,
А з сваей радзінай не разгаваруся.

## 440. МАЯ Ж ТЫ МАМКА, МАЯ Ж ТЫ МІЛА

Мая ж ты мамка, мая ж ты міла,
Нашто ж ты мяне на свет радзіла?

На свет радзіла і гадавала,
Долі не дала, замуж аддала.

Замуж аддала ды кату ў рукі,
А мне, маладой,— такія мукі.

Іду я лесам, іду барамі —
Не віджу сцежкі я за слязамі.

А каб я й мела саколле крылле,
Я б прыляцела хоць сярод тыдня.

Прыйшла да хаткі, да роднай маткі,
Мамка пытае:— Што за парадкі?

— Мая ж ты мамка, ў мяне парадкі:
Не маю хлеба, ні сваей хаткі.

## 441. ОЙ, ЦІ ЧУЛА, МАЯ МАМКА

Ой, ці чула, мая мамка,
Як я у цябе была,
Пад акенцам стаяла,
Як пчолка, гула?

— Каб я чула, маё дзіцятка,
То я б адчыніла,
Дала б табе піць і есці,
Што я наварыла.

Дала б табе піць і есці,
Што я наварыла,
Села б з табою, дзіцятка,
Дый пагаварыла:

— Ці ты сыноў пажаніла,
Дочкі пааддавала?
Чаму ж ты, мая дачушка,
Так старэнька стала?

— Сыноў, мамка, не жаніла,
Дачок не аддала.
Стрэсла мяне ліха доля —
Так старэнька стала.

Не глядзі ж ты, мая мамка,
Што я ў цябе адна —
Вядзі мяне утапіці
Да рэчанькі без дна.

Завяжы хусцінкай вочкі,
Не дай мне крычаці:
Як учуюць суседачкі —
Будуць ратаваці.

## 442. ПАЙДУ, ПАЙДУ У ДУНАЙ ПА ВАДУ

Пайду, пайду ў Дунай па ваду.[1]
Я ў Дунайчыку вадзіцу бяру,
Здалёку я й на мора гляджу.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

Я ж думала, шэра вутка плывець,
Аж там мая родна мамка ідзець,
Здалёку «добры дзень» мне даець,
Пра жыцейка маё пытаіць:
— Чаго, дачушка, рана ўстаеш?
— Мамачка мая, пабуджаюць мяне,
Да зары выпраўляюць мяне.
Пад акном і вячэрка мая,
Пад тынком і пасцелька мая,
Слёзкамі умыванне маё,
Рукаўцом уціранне маё.

## 443. ДОЛЯ МАЯ — ЦЯЖКІЯ ЗАЛЁТЫ

Доля мая — цяжкія залёты:
Ай, ні да людзей, ні да работы.
Пайду, пайду ў зялёны садочак,
Сарву, сарву раманаў цвяточак
Ды пасаджу ў таткі пад ваконцам.
Буду хадзіць часта паліваці,
Буду сваю долю дажыдаці.
Ай, ждала я долі, не даждала,
А толькі даждала матку родну.
— Ах, мамачка, родная ты мая,
А горкая долечка ды мая.
— Ці я табе, дочка, не казала:
Не хадзі на кірмашовы ігрышча,
Будзіць табе ліхі мужычышча.

# РАЗМОВА З БАЦЬКАМ

## 444. ІШЛА, ІШЛА ДАРОГАЮ

Ішла, ішла дарогаю,
А ўсё сталбавою,
Стаіць мілы чарнабрывы
З чужою жаною.

Куды ішла, туды пайшла,
Яго не чапала,
А жаль жа мне бела лічка,
Што з ім павянчала.

Не так лічка, не так лічка,
Як белага цела,
Не аддаў мяне мой татка,
За каго хацела.

Я хацела, [redacted] хацела
За пісара-пана,
Аддаў мяне мой татулька
За мужыка Яна.

Пісар піша, лёгка дыша,
Пяром налягае,
Яго жонка ў святліцы
Песні распявае.

## 445. ЯК ПАЙДУ Я КАЛЯ ЛУГА

Як пайду я каля луга,
Каля луга, гукаючы,
Свайго шчасця шукаючы.
Іду поле і другое,
На трэцяе паступаю,
Я татачку спатыкаю.
— Куды ідзеш, дзіцятачка?
— Іду ў прочкі, мой татачка.

— Ад каго йдзеш, дзіцятачка?
Ад свёкра ці ад свякроўкі,
Ад дзевера ці ад залоўкі?
— Ад свёкара, ад свякроўкі,
Ад дзевера, ад залоўкі.
Свёкар кажа: «Парыйніца».
Свякроў кажа: «Памыйніца».
Дзевер кажа: «Палятушка».
А залоўка: «Памятушка».
— Ой, вярніся, дзіця маё,
Ой, вярніся, дарагое,
І сумей ім адказаці:
Ў хлеве свіння — парыйніца,
Ў хаце ражка — памыйніца,
Ў полі птушка — палятушка,
Ў таку мятла — памятушка,
А ў хаце гаспадыня:
І натаўкла-намалола,
І ў агародзе апалола,
І бацьвіння наварыла,
І сямейку накарміла.

## 446. УЗЫШОЎ МЕСЯЦ, УЗЫШОЎ МЕСЯЦ

Узышоў месяц, узышоў месяц
І ясныя зоры,
І ясныя зоры,
Узяў мяне друг няўдалы —
Разліў мае слёзы,
Разліў мае слёзы.

Слёзы мае да гарачыя —
Дарам не мінаюць,
Дарам не мінаюць,
Як успадуць на бел камень —
Камень прабіваюць,
Камень прабіваюць.

Як папрашу к мамцы ў госці —
Дык ён не паедзе,
Дык ён не паедзе.
Хоць паедзе — не заедзе:
У дарозе начуе,
У дарозе начуе.

Явар сячэ, агонь кладзе —
Вячэру гатуе,
Вячэру гатуе.
Як уз'еду на таткаў двор —
Пальюць з мяне слёзы,
Пальюць з мяне слёзы,
Пальюць, пальюць з мяне слёзы,
Як з белай бярозы,
Як з белай бярозы.

## 447. ОЙ, ПАЙДУ Я Ў ЛУГІ, ЛУГІ

Ой, пайду я ў лугі, лугі,
Наламаю смыродыны,
Пакідаю на дарогу.
А йшоў тудой мой татанька.
— Шкода, шкода смыродынькі,
Што зелена паламана,
На дарогу пакідана.
— А татачка мой родненькі,
Не жалей ты смыродынькі,
Пажалей ты сваё дзіця,
Што молада замуж аддаў.
Я й замужам нажылася:
Стала тонка, як былінка,
Стала бела, як ліпінка,
Стала чорна, як смырода.

## 448. ЧАМУ, ЧАМУ, МОЙ ТАТАЧКА

— Чаму, чаму, мой татачка,
У мяне не бываеш?
Ці ты ка мне, мой татачка,
Дарожкі не знаеш?

Дарожанька ў вароцейкі,
Сцежачка ў ваконца.
Прыедзь, прыбудзь, мой татачка,
Як яснае сонца.

А я ж табе, мой татачка,
Вячэрку згатую,
А я ж табе, родненькаму,
Пасцельку мяккую.

Ты думаеш, мой татачка,
Што я тут не плачу?
Як выйду я за вароты,
Дык свету не бачу.

Ты думаеш, мой татачка,
Што я не нуджуся?
Як выйду я за вароты,
Ад ветру валюся.

## 449. У ТОМ НОВЫМ ДА КАЛОДЗЕЗІ

У том новым да калодзезі
Дзевачка воду брала,
Дзевачка воду брала,
У свой край пазірала.

Дзевачка воду брала,
У свой край паглядала,
У свой край паглядала
Да з сакаламі размаўляла:

— Вы, мае два саколікі,
Паляцеце ў старану маю,
Паляцеце ў старану маю
Да накажэце бацьку майму:

Калі мяне запрадае,
Няхай едзе выкупляе.
Калі мяне навек дае,
Няхай едзе пераведае.

— А дзіцятко маё маладое,
А рад бы я пераведаці,
А рад бы я пераведаці,
Да некудой пераехаці.

— А бацюхно мой родненькі,
Каб ты хацеў пераведаці,
Каб ты хацеў пераведаці,
Знайшоў бы, як пераехаці:

А зімою да ў вазочку,
А вясною да ў чаўночку,
А лецечкам да ў нядзелечку —
Парабіўшы усё дзелачко.

## 450. ДА ПАЙДУ Я КАЛЯ ГАЮ

Да пайду я каля гаю,
Выжану сакала з гаю.
Не сакала выгнала,
Але свайго ойчанька.

— Ойчанька мой родненькі,
Ружовы квеце,
Пабывай у мяне
Хацяя раз у леце.

— Дзіцятка маё дарагое,
Як жа мне ў цябе пабываць —
Улетку за пяскамі,
Зімою за снягамі,

А вясною за вадою!
— Улетку ў карэце,
А зімою ў вазочку,
А вясною ў чаўночку.

## 451. ОЙ, УСТАНУ РАНА-РАНЮСЕНЬКА

Ой, устану рана-ранюсенька,
Памыюся бела-бялюсенька.

А пайду я ў ціхі Дунаёчак,
А сяду я ў новенькі чаўночак.

Вецер веець, валну падымаець,
Новы човен вада занімаець.

Я, молада, ратунку прашуся,
Я, думала, што я утаплюся.

А мой татка на беражку косіць,
І сам не йдзець і людзей не просіць.

— Плыві, дзіця, ты з гэтай вадою,
Хоць не будзець мне гора з табою.

Ты не будзеш ў парозе стаяці
Да не будзеш брахнам дакучаці.

## 452. ОХ, ПАЙДУ ДАДОМУ, ДЫ БЯДЫ БАЮСЯ*

Ох, пайду дадому, ды бяды баюся,
Калі добра будзе, то там астанусь.

Калі добра будзе, то там ас(ы)танусь,
А нядобра будзе, то назад вяр(ы)нусь.

— Ты прымі мяне, татачка, і з кусоч(ы)кам хлеба.
— Ды мая дачушка, ты ўжо м(ы)не не трэба.

## 453. АДДАЎ МЯНЕ МОЙ ТАТАЧКА

Аддаў мяне мой татачка —
Ў наўколіны жыці,
Ў вясёлую сямеечку —
Не буду тужыці.

Я ж, здаецца, татка, родны,
Не тужу, не плачу,
За дробнымі я слёзкамі
Дый свету не бачу.

Я ж, здаецца, татка родны,
Ў тугу не ўдаюся,
А як выйду на вуліцу —
Ад ветру валюся.

Чаму ж, чаму ж, татка родны,
На мяне забыўся?
Ці дарожкі не ведаеш,
Ці сцежкі не знаеш?

Дарожачка ў вароцейкі,
Сцежачка ў ваконца,
Прыйдзі, прыйдзі, татка, ў госці,
Як яснае сонца.

## 454. А НА ГАРЫ ЯЛУШАЧКА

А на гары ялушачка,
Пад гарою стаіць сосна,
Ой, я пяю, весялюся,
А на маім сэрцы тошна.

Поле ж маё шырокае
Не арана, не пахана,
Лугі мае зялёныя
Не кашоны, не сушоны.

Дзеткі мае дробненькія,
Яны вельмі засмучоны.
Запражыце, закладзіце
Мне коніка варанога.

А я сяду дый паеду
Да татачкі да раднога.
Запражыце, закладзіце
Мне коніка варанога.

— Парадзь, парадзь, родны татка,
Як мне гора гараваці,
Як мне гора гараваці,
Дробных дзетак гадаваці.

— Гаруй, гаруй, маё дзіця,
Пакуль не нагаруешся,
Гадуй, гадуй сваіх дзетак,
Пакуль не нагадуешся.

— А я й дзетак гадавала,
А я й гора гаравала.

## 455. ОЙ, ПАЛЫН, ПАЛЫН

Ой, палын, палын —
Трава горкая,
А доля мая
Яшчэ горшая.

Ой, пайду ў садок-
Вінаградачак,
К свайму татачку
На парадачку:

— А мой татачка,
Ды дарадзь ты мне,
Што мой міленькі
Не любіць мяне.

Робе краватку
Адзінокую,
Кладзе дошчачку
Нешырокую!

— Ой, гаруй, гаруй,
Маё дзіцятка,
Спацькі лажыся —
К сценцы хініся!

Гаруй горачка —
Не кажы людзям,
Насі золата —
Не хіні к грудзям!

— Маё золата
Перавязана,
Маё горачка
Ўсё расказана!

### 456. ДЫ АДДАЎ МЯНЕ МОЙ ТАТАЧКА

Ды аддаў мяне мой татачка
У тое сяло, сяло невясёлае,

У тое сяло, сяло невясёлае,
У тую сям'ю, сям'ю ды нядобрую.

Самі сядуць да й вячэрацї,
Мяне, маладу, пасылаюць па ваду.

Як я пайду да й па сыры бор,
Да па сырышчы бор, ды поўз таткаў двор.

Мой татачка і ў вароцях стаіць,
Мая мамачка і ў акошка глядзіць:

— Не баішся, дзіця, воўка серага,
Воўка серага, снегу белага?

— Ой, тады, мой татка, баялася,
Як я ў цябе жыла, красавалася.

— Ходзі, доня, ты ка мне вячэраці.
— Пашлі, татка, па воду да двух чэлядзей,

Прыкажы, ды штоб не барыліся,
Штоб на мяне сям'я не сварылася.

Як была я да краснаю дзеўкаю,
Палівалі хлопцы слядочкі гарэлкаю,

Як стала я горкай маладзіцаю,
Ніхто не палле мне слядочкаў вадзіцаю.

## 457. АДДАУ МЯНЕ МОЙ ТАТАЧКА

Аддаў мяне мой татачка
За сіняе мора,
У вялікую сямеечку,
У вялікае гора.

Жыву гадок, жыву другі,
Трэці наступае,
Ніхто ў мяне з радзіначкі
У гасцях не бывае.

Я ж думала, маладая,
Што сокал сакоча,—
Майго ж таткі, майго роднага
Конічак гагоча.

Я ж думала, маладая,
Што рой высыпае,
Аж да мяне родны татка
На парог ступае.

Не пытае мой татачка,
Ці жыва, здарова,
А пытае мой татачка,
Ці добрая доля.

Я ж яму, маладая,
Не ўмела сказаці,
А ночачка маленькая,
Не магу саспаці.

— А дачушка, а родная,
Ты ж таго хацела,
А мы ж цябе не аддавалі,
Сама паляцела.

— Мой татачка, мой родненькі,
Каб я гора знала,
Я і замуж не ішла бы,
Дзеўкаю гуляла.

## 458. ОЙ, ТАТАЧКА-ЦВЕТ

Ой, татачка-цвет
Завязаў мне свет,
А мамка-зара
Замуж аддала —

У новую дзярэўню,
У ліхую сям'ю.
Лютая сям'я
Вячэраць села,

А мяне, маладу,
Да шлюць па ваду.
Па воду я йшла —
Нарыдалася,

На парог узышла —
Засмяялася,
— Ой, чаго, нявехна,
Нарыдалася?

— Не з крынічанькі
Вада бралася.

## 459. А МІЖ ДУБА, МІЖ БЯРОЗЫ

А між дуба, між бярозы
Глыбокае мора,
Аддаў мяне мой татачка
У вялікае гора.

— Завяжы мне, татачка,
Хоць платочкам вочы,
Вядзі мяне, мой татачка,
Тапіць мяне ўночы.

А не дай жа мне, татачка,
Моцненька крычаці,
Як пачуюць суседачкі,
Прыдуць ратаваці.

— Шкода, шкода, суседзечкі,
Шкода затапляці,
У яе дзетачкі маленькія,
Няродная маці.

## 460. ПАХІЛІЦЕСЯ, ЛОЗЫ, АД ДУБА ДА БЯРОЗЫ

Пахіліцеся, лозы, ад дуба да бярозы,
Каб мне было відно да ойчанька майго.
Лозанькі схіліліся. да хмаркі явіліся,
Такі мне не відно да ойчанькі майго.
Такі ж мне не відненька да ойчанька
Майго родненькага.

## 461. ТЫ, БЕЛАЯ БЯРОЗАЧКА

Ты, белая бярозачка,
Бялей майго цела,
Не аддаў мяне мой татачка,
Куды я хацела.

Аддаў мяне татачка
За сіняе мора —
У вясёлую сямейку,
У вялікае гора.

Жыву гадок, жыву другі,
Трэці наступае,
Ніхто з маёй радзіначкі
У гасцях не бывае.

## 462. КАЦІЛАСЯ ЖУРАВІНКА

Каціласся журавінка
К татку ў госці,
Мая рыбінка.
Ні піць, есці мне не хочацца,
З родным таткам пасядзець хочацца.
Сядзім, сядзім мы, бяседуем —
Хай нам людзі пазавідуюць,
Што мы з родных харашэнька жывём.
Як сойдземся — павітаемся,
Расходзімся — папрашчаемся,
Пра здаровейка папытаемся.

## 463. ГЭЙ, ВЫСОКА, ВЫСОКА

Гэй, высока, высока [1]
Клён-дзераўца ад зямлі.

Ды хоць жа ён высока,
Вецер лісток абарвець.

Вецер лісток абарвець,
На зямельку ападзець.

Гэй, далёка, далёка
Мой татулька ад мяне.

Ды хоць жа ён далёка,
Ён часценька ўспамянець
І цяжанька уздыхнець:

— А як маё дзіцятка
У чужой дальняй старане?

---

[1] Кожны першы радок паўтараецца.

У чужой дальняй старане,
У чужога татулькі,

Ды ў чужога татулькі,
Ды і ў чужой матулькі,

Ды ёсць каму загадаць,
Ды некаму спагадаць.

## 464. ОЙ, ВЫЙДУ Я, ВЫЙДУ

Ой, выйду я, выйду
Пад новы вароты,
Куды я ні гляну,
То кругом сірота!

З-пад усход сонейка
То ветрычак вее,
З-пад захад сонейка
Мой баценька едзе.

Выдаў мяне татка
За лясы, за горы,
Каб я не хадзіла
У гасціну ніколі.

— Ой, дзякуй, баценька,
Што мяне адведаў,
А толькі не дзякуй,
Нашто замуж выдаў.

— Прыйдзі, донька, прыйдзі
За маёй галавы,
Ой, бо як я умру,
Не прыйдзеш ніколі!

## 465. НА ГАРЫ КАРЧМА

На гары карчма, карчма новая, ясянёвая,
У той карчомцы мой татухна п'е.
І вось ён п'е, п'е, пахмяляецца,
Ён сваёй дачкой выхваляецца,

Што аддаў дачку не ў худобачку,
Чаравічкі з ног не разуваюцца,
Сукеначкі з ног не знімаюцца.
Як учула ягона дзіця,
І прайшла к татку яна, плачучы:
— Не хваліся ты мной, татухна,
Учора звячору ў нас журба была —
Ліхі свёкарка — ён журыў мяне,
Журыў, журыў, набіць хацеў.
На двор выйшаўшы, пахваляецца,
Што добра біці чужое дзіця:
Нікому яно не пажаліцца,
Толькі слёзкамі ўмываецца
І рукавічкамі ўціраецца.

## 466. ОЙ, ПАЙДУ Ж БО Я

Ой, пайду ж бо я
Гарою, далінаю,
Ой, найду ж бо я
Вербачку з калінаю.

Як стала ж бо я
Каліναньку ламаці,
То сталі ж мяне
Слёзанькі абліваці.

Ой, стала ж бо я
Йшчэ вышэй даставаці,
То сталі ж мяне
Йшчэ гарэй абліваці.

Ой, вырву ж бо я
Што найвышшу кветку,
Занясу яе
Пад баценькаву клетку.

Ой, мой баценька
Вялікі банкет мае,
Госці частуе
І мяне ўспамінае:

— Дзесь маё дзіця
Ліхую долю мае,
Што яно ў мяне
У гасцях не бывае!

— Ой, каб я, татку,
Ліхую долю мела,
То я б да цябе
Штонядзелькі ляцела.

А то я, татку,
Добрую долю маю,
То я ў цябе
Раз на гадок бываю.

## 467. ЯК ЗАКУРЫУСЯ ДРОБНЕНЬКІ ДОЖДЖЫК

Як закурыўся дробненькі дождж,ык,
Як затужыўся мой родны татулька
Па маёй горкай долі.
— А не курыся ты, дробны дожджык,
Ай, не тужыся, мой родны татулька,
Ай, не ты даў мне горкую долю,
Нялюбага дружка,
А бог жа даў мне горкую долю,
Нялюбага дружка.

## 468. А НЕ КУКУЙ, ЗЯЗЮЛЕЧКА, РАНА

А не кукуй, зязюлечка, рана,
А не кажы, што ночанька мала.

Сягоння ўсю ночаньку не спала,
Мілых, любых гасцей паджыдала.

Мілыя госці — татулька з матулькай,
А другія — брацішка з сястрыцай.

— Прыедзь, прыедзь, мой татулька, ка мне,
Не будзець жа зняважанькі табе.

Тады ж табе зняважачка будзе,
Калі ў мяне ў госціках не будзеш.

Ужо на дварэ чорная хмара пала,
На мяне, маладу, няславачка стала.

Я тую хмару хустачкай размахаю,
А няславу розумам раздумаю.

Ужо на дварэ сонейка ўзыходзіць,
Мой татулька каля варот ходзіць,

Ка мне, маладзе, у госцікі не заходзіць.
Устану я рана, ранюсенька,

Умыюся бела, бялюсенька,
А пайду я ў вішнёвенькі садок,

Сяду, паду каліначку есці,
Ідуць, ідуць, ад татулькі весці.

Бадай мяне каліна ўдавіла,
Чым я свайго татульку ўгнявіла?

Ёсць у садзе ягадачка агрэс,
Перапрашу свайго татульку: заедзь.

Ёсць у садзе чырвоная вішня,
Знаю, знаю татулькавы мыслі.

Ёсць у садзе бялюсенькі гарох,
Паду, паду свайму татульку да ног.

## 469. УЧОРА У МЯНЕ ЛЮБЫ ГОСЦІК БЫУ

Учора ў мяне любы госцік быў,
Любы госцік, родны татухна.
Правадзіла я свайго татухну
За тры полі за шырокія,
За тры моры за глыбокія,
За тры лясы, лясы цёмныя,
За тры садзікі зялёныя.
Правадзёмшы, я прастаяла,
Ці аглянёцца ды мой татухна,
Ці аглянёцца ды мой родненькі?

Вот аглянуўся ды мой татухна,
Аглянуўся ды мой родненькі:
— Ты чаго, дзіця, прастаяла?
Ці трава цябе прыпутала,
Ці раса цябе прырасіла,
Ці лозы цябе прытрымалі?
— Не, нічога мяне не прытрымала,
А прытрымаў горкі п'яніца,
Горкі п'яніца, няўдаліца.
Прыдзе дамой — б'ецца, сварыцца,
Мне, маладой, разуваць вяліць.
А мне, моладзе, не хочацца
Каля п'яніцы варочацца.

## 470. ЗА ЛЕС СОНЦА ЗАКАЦІЛАСЯ, ЭЙ*

За лес сонца закацілася, эй,
Дачка ў бацькі загасцілася.

Дачка ў бацькі загасцілася, эй,
На дворачку прыпазнілася.

— Ты, татачка, ты, мой родненькі, эй,
Праводзь мяне дворачку —

Цераз тыя лясы цёмныя, эй,
Цераз тыя палі шырокія,

Цераз тыя палі шырокія, эй,
Цераз тыя рэкі глыбокія.

Ідзе дачка, спатыкаецца, эй,
А татачка аглядаецца.

А татачка аглядаецца, эй,
Чаго дачка спатыкаецца.

Ці травачка ножкі спутала, эй,
Ці расіца вочкі вымыла?

— Трава ножачкі не спутала, эй,
Раса вочачкі не вымыла.

А спутала мае ножачкі, эй,
Ўсё гаручае горачка.

А вы, мае вочачкі, эй,
Ўсё гаручыя слёзачкі.

## 471. ДОБРА ТАМУ, ДОБРА

Добра таму, добра,
У каго свая маці:
Галоўка ўчасана,
Ночанька даспана.

У мяне, маладое,
Ды чужая маці,
Мне галоўка баліць,
Яна кажа ўстаці.

Яна кажа ўстаці,
Работу зрабіці,
А я, маладая,
Не ўмею гадзіці.

— Ідзі да аборы
І падой каровы;
Як падоіш мае,
То падой і свае.

Як падоіш мае,
То падой і свае,
Каторы нагнала
Ад мамкі роднае.

— Ці ты мяне, мамка,
Дзеўкаю не знала,
Нашто ты да мяне
Свайго сына слала?

— Я яго не слала,
Яму не казала,
А яму самому
Ахвота прыпала.

А яму самому
Ахвота прыпала,
Ды яшчэ да таго
Ты прычаравала!

— Ой, каб так ты дайшла
Із сяней да хаты,
Ой, колькі я знаю,
Як то чараваці.

Ой, мае чаронькі —
Чорныя брывонькі,
Мая прынадонька —
Сама маладзенька!

Ой, выйду я, выйду
Пад новы вароты,
Куды я ні гляну,
То кругом сірота!

Выдаў мяне татка
За лясы, за горы,
Каб я не хадзіла
У госцінку ніколі.

З-пад усход сонейка
То ветрычак вее,
З-пад заход сонейка
Мой баценька едзе.

— Ой, дзякуй, баценька,
Што мяне адведаў,
А толькі не дзякуй,
Нашто замуж выдаў.

— Прыдзі, дочка, прыдзі
За маёй галовы,
Ой, бо як умру,
Не прыдзеш ніколі.

### 472. У ВІШНЁВЫМ САДЗЕ

У вішнёвым садзе
Зязюлька кукуець,
Па мне, маладзе,
Мамачка бядуець.

— Пакінь, мамачка,
Па мне бедаваці,
Ужо наўчылася
Гора гараваці.

Па бару хаджу
Босымі ножкамі,
Пад зару гляджу
Яснымі вочкамі.

А мой татачка
Вялікі банкет маець,
Па двару ходзіць,
Мяне ўспамінаець:

— Ой, ўзыйдзі, ўзыйдзі,
Вячэрняя зара,
Ой, уз'едзь, уз'едзь,
Гаротнае дзіця!

Зорка ўзышла —
Увесь свет асвяціла,
Дочка ўз'ехала —
Увесь двор разжаліла.

Увайшла ў сені —
Сені затапіла,
Увайшла ў хату —
Сям'ю асляпіла.

— Чаму, дачушка,
У гасцях не бываеш?
Ці ты, дачушка,
Дарожанькі не знаеш?

— А мой татачка,
Я й дарожку знаю,
А мой татачка,
Я й коніка маю,

А мой татачка,
Я й конічка маю —
За сваім горам
У гасцях не бываю!

## 473. БРАЛА ВАДУ КАЛЯ БРАДУ

Брала ваду каля браду,
Не выбрала да дна,
Была ў бацькі не год, не два,
Не зажыла дабра.

Я думала, у бацькі ліха —
У свёкра пагуляю,
А цяпера горша ліха —
Свету не відаю.

Як я была ў баценькі,
То й была хароша,
А цяпера ў свёкаркі,
Як бела бяроза.

Як я была ў баценькі,
Спала на падушках,
А цяпера ў свёкаркі —
Мякчэй на камушках.

Як я была ў баценькі,
Спала на пярыне,
А цяпера ў свёкаркі —
Мякчэй на палене.

Як я была ў баценькі,
Штодня на музыках,
А цяпера ў свёкаркі
Штодня на языках.

Ой, хоць крычы, хоць не крычы,
То будзеш гукаці,
Тут чужая старонaчка —
Мусім прывыкаці.

## 474. ПОЗНА-ПОЗНА Я ЗВЯЧОРА СЯДЖУ

Позна-позна я звячора сяджу,
Тонкі белы кружалёчак праду.
Часта, часта ў аконца гляджу:
Ой, ці высак ясен месяц свеціць?

Ой, ці блізка мой татачка едзіць?
Ой, пайду ж я яго пераймаці,
Левай ручкай варотцы адчыняю,
Правай ручкай слёзкі выціраю.

— Чаго, чаго, мая дачка, плачаш?
Чаго, чаго, мая дарагая?
А ці ў цябе залвіцы ліхія,
А ці ў цябе дзеверы благія?
— Ой, няпраўду, татачка, гаворыш:
Мае дзеярочкі — як родны браточкі,
А залвіцы — як родны сястрыцы.

— Чаго ж, чаго, мая дачка, плачаш?
Чаго ж, чаго, мая дарагая?
А ці ў цябе свякроўка ліхая?
А ці ў цябе свёкарка ліхенькі?
— Ой, няпраўду, татачка, гаворыш:
Мой свёкарка — як родны татачка,
А свякроўка — як родна мамачка.

— Чаго ж, чаго, мая дачка, плачаш?
Чаго ж, чаго, мая дарагая?
А ці ў цябе міленькі ліхенькі?
— Праўду, праўду, татачка, гаворыш:
Мой міленькі — як вецер ліхенькі.
Вот я яму кашулечку шыю,
А ён жа мне кулаком у шыю.

Вот я яму вячэрачку гатую,
А ён жа мяне журыць, маладую.
Вот я яму пасцельку сцялю,
А ён мяне галоўкай аб сцяну.
Позна-позна я звячора сяджу,
Тонкі белы кужалёчак праду.

## 475. ЯШЧЭ НАШАЙ ДЗЕВАЧЦЫ ГОДУ НЯМА

Яшчэ нашай дзевачцы году няма,
Да яе татулька паслы шле:

— А прыбудзь, дзіцятка, да мяне —
Заўныла падвор'е без цябе:

Сізыя галубы не гудуць,
Дробныя пташачкі не пяюць,

Вясёлыя музыкі не йграюць,
Красныя дзевачкі не гуляюць.

Калі маё дзіцятка прыбыло,
Стала маё падвор'е, як было:

Сізыя галубы загулі,
Дробныя пташачкі запелі,

Вясёлыя музыкі зайгралі,
Красныя дзевачкі загулялі.

## 476. А Ў БАРЫ, У БАРЫ ТАМ ЗЯЗЮЛЯ КУКУЕ

А ў бары, ў бары там зязюля кукуе,
Па мне, маладой, мая мамка бядуе.

— Пакінь, перастань, зязюля, кукаваці,
Пакінь, перастань, мамачка, бедаваці.

Пакінь, перастань, мамачка, бедаваці,
Я навучылася, як гора гараваці:

Па вадзіцу йду босенькімі ножкамі,
Заліваюся гарачымі слёзкамі.

Узыйду, пайду на высокую гару
Дый зірну, гляну пад ясну зару.

Я ж думала, што зара перагарае,
Аж мой татачка вялікі банкет мае,

Па дварэ ходзіць і мяне ўспамінае:
«Недзе маё дзіця шчасця-долі не знае.

Узыйдзі, узыйдзі, вячэрняя зорка,
Прыедзь, прыбудзь, бяздольная донька».

Зорачка ўзыйшла — ўвесь свет засвяціла,
Донечка прыйшла — слёзкамі двор змачыла.

Донечка прыйшла — слёзкамі двор змачыла,
У хату ўвайшла — сямейку засмуціла.

— Не ведала, мамка, дзе малую падзеці,—
Ці добра, мамка, на слёзы глядзеці?

Хадзіла, мамка, к сіняму броду па ваду,
Было ўтапіць мяне, малую, у ваду.

## 477. СЯРОД БОРУ ДЫ КАЛІНКА-МАЛІНКА

Сярод бору ды калінка-малінка.
— Куды едзеш, мая журавінка?
— Еду, еду я к татачку ў госці.
Я ж не хачу ні піці, ні есці,
Толькі хачу каля татачкі сесці.

Сярод бору ды калінка-малінка.
— Куды едзеш, мая журавінка?
— Еду, еду я к мамачцы ў госці.
Я ж не хачу ні піці, ні есці,
Толькі хачу каля мамачкі сесці.

Сярод бору калінка-малінка.
— Куды едзеш, мая журавінка?
— Еду, еду я к братачку ў госці.
Я ж не хачу ні піці, ні есці,
Толькі хачу каля братачкі сесці.

Сярод бору ды калінка-малінка.
— Куды едзеш, мая журавінка?
— Еду, еду я к сястрыцы ў госці.
Я ж не хачу ні піці, ні есці,
Толькі хачу каля сястрыцы сесці.

## 478. ЯК Я ЖЫЛА Ў ТАТАЧКІ НА ВЫГОДЗЕ

Як я жыла ў татачкі на выгодзе,
Садзіла арэшанькі у гародзе.

— Расціце, арэшанькі, вышэй плота,
Аддаў мяне татачка за блазнота.

Усе мае падружачкі п'юць, гуляюць,
А майго блазнотачку не прымаюць.

А пайду да татачкі папрашуся,
Можа, прыміць татачка — я вярнуся.

А татачка родненькі не прымаіць,
Нялюбай дачушачкай называіць.

А пайду да мамачкі папрашуся,
Можа, прыміць мамачка — я вярнуся.

А мамачка родная не прымаіць,
Усё да блазнотачкі адпраўляіць.

А я да блазнотачкі не вярнуся,
Пайду ў быстру рэчаньку ўтаплюся.

Як да быстрай рэчанькі падхадзіла,
На мяне ўсё сонейка засвяціла.

Аж тут родна мамачка падскачыла,
За белыя ручанькі падхапіла.

А як мяне мамачка ратавала,
Ўсё маё замужжайка праклінала.

## АДНОСІНЫ ПАМІЖ СЯСТРОЙ І БРАТАМІ

### 479. А У САДЗЕ, САДЗЕ

А у садзе, садзе
Зязюля кукавала,
Па мне, маладой,
Матуля бедавала.

— Пакінь, перастань,
Зязюля, кукаваці,
Пакінь, перастань,
Матуля бедаваці.

Пакінь, перастань,
Матуля, бедаваці —
Я навучылася,
Як гора гараваці.

Па лесе хаджу
Ўсё босымі нагамі,
У свой бок гляджу
Ўсё быстрымі вачамі.

Там мой брацятка
Вялікі банкет мае.
Мяне, маладу,
Ніхто не ўспамінае.

А ўзышла, узышла
Вячэрняя заранка,
Ўспомніла мяне
Мая родная мамка.

Да ўзыйдзі, ўзыйдзі,
Ранняя зарыца,
Успомніць мяне
Мая родна сястрыца.

## 480. У САДУ ЗЯЗЮЛЬКА КУКУЕ

У саду зязюлька кукуе,[1]
Ніхто зязюлькі не чуе.

Чула зязюльку нявестка,
У браду ваду беручы,

У браду ваду беручы
Ды пад гараньку ідучы.

Ніхто гараньку не змые,
Ніхто горушка не зменіць.

Змые гараньку расіца,
Зменіць горушка сястрыца.

Міл пад гараньку бяжае,
З плеч вядзёрачка знімае,

З плеч вядзёрачка знімае,
У свае мілае пытае:

— Чаго, мілая, змарнела,
Белае ліцо змяніла?

— Ці ж ты, міленькі, не знаеш,
Аб ліхой долі пытаеш!

Ой, я дзень раблю, ноч не сплю,
Тваёй матулі не ўгаджу.

Каб я хадзіла дзень і ноч,
Хіба ёй ўгодзіць злая моц.

## 481. ГОРАЧКА МАЯ КРУТАЯ

Горачка мая крутая,
Долечка мая ліхая.

Ніхто горачкі не змые,
Ніхто горачка не зніме.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Змые горачку вадзіца,
Зніме горачка сястрыца.

Змые горачку дробен дождж,
Зніме горачка гасподзь бог.

Тая вадзіца рачная,
Сястрыца мая радная.

## 482. У БАРЫ ЗЯЗЮЛЯ КУКУЕ

У бары зязюля кукуе,[1]
Ніхто зязюлю не чуе.

Ніхто зязюлю не чуе,
Толькі зачула нявеста,

Ваду ў броду беручы,
Пад круту гару несучы.

— Гарыца ж мая крутая,
Долечка мая худая.

Ніхто гарыцы не змыець,
Ніхто долечкі не зменіць.

Змые гарыцу вадзіца,
Зменіць долюшку сястрыца.

— Што ж ты, мілая, такая,
Як дзень, так ноч смутная?

— Што ж ты, міленькі, пытаеш?
Ці ты сваёй маткі не знаеш?

Пасцелеш пасцелю — не ляжыць,
Хату падмяту — не пойдзець,

Хату падмяту — не пойдзець,
Вады прынясу — не возьмець.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

## 483. АХ ТЫ, САЛАВЕЙ

Ах ты, салавей, ранняя птушка,
Ты не шчабячы, на луг летучы,
Ты зашчабячы, ў садзе седзячы.
Ты не абівай ранняй расіцы,
Няхай абаб'ець мая сястрыца,
Ка мне ідучы, адведваючы:
— Ці жыва, сястра, ці здаровая?
— А ці я жыву, ці я гарую,
Бо людзі кажуць, што я паную.
Я не гарую і не паную.
А каб у мяне родны татка быў,
Не сядзела б я у канцы стала,
А сядзела б я ды за столікам,
Налівала б я віна кубачкі,
Выпівала б я да міленькага:
— Ах ты, міленькі, ты журба мая,
Пашто мяне звёз, дзе радні няма,
Няма дзе выйсці, пагаварыці,
Папалам журбу ды падзяліці!

## 484. А ЯК ВЫЙДУ Я ЗА ВАРОЦІКІ

А як выйду я за варацікі —
Ды трава зелена,
А як выйду я ды за другія —
Ды чужая старана,
А як выйду я ды за трэція —
Дзве сястрыцы ідуць.
— А куды ж вы, мае родныя,
Куды вы ідзіцё?
— А ідзём жа мы ў зялёны сад
Вішанькі шчыпаці.
— А пашчыпіце ж вы сваё,
Пашчыпіце й маё,
Панясеце ж к атцу, к матухне,
Занясіце ж і маё.
А пасыпеце вы па століку,
Дык пасыпце ж і маё.
Як запілі ж вы, загуляліся,
Празабылі на мяне.
Адна матухна мая родная

На мяне ўспамянула:
— А дзе ж мая гарушачка,
Што гора гарое?
А сядзіць яна пад акошачкам,
Як ружовенькі цвет,
А пяе яна тыя песенькі,
А што долінькі нет.

## 485. ОЙ, ВЫЙДУ Я НА ВУЛАЧКУ *

Ой, выйду я на вулачку —[1]
Трава-мурава,
Туды гляну, сюды гляну —
Чужа старана.
Як гляну я ў свой бачок —
Вішнёвы садочак.
А ў тым садзе-вінаградзе
Сястрыцы мае.
— Шчыплюць вішні салодкія,
Шчыпіце ж мае.
Панясіцё татку з мамкай,
Нясіце ж мае.
Як будзіце піць-гуляці,
Ўспомніце мяне:
«А дзе ж наша гаротніца
Ў чужой старане?
Ці гаруіць, ці пануіць,
Ці мёд-віно п'е,
Ці, гледзючы ў ваконца,
Слёзачкі ліе?»

## 486. А ЯК ВЫЙДУ Я ЗА ВАРОЦЕЧКІ

А як выйду я за вароцечкі —
Усё чужа старана,
А я туды гляну, і я сюды гляну,
Адкуль я сама.

Ой, не відаць ды ні чалавечка,
Адкуль я сама.
Ой, толькі відаць татулечкаў сад,
Майго роднага.

---
[1] Кожны радок паўтараецца.

А ў татулечкавым садзе
Вішэння цвіце.
Ой, там мае тры сястрыцы
Вішанькі шчыплюць.

— Сястрыцы ж мае, родныя мае,
А як будзеце піва варыць — наварыце вы мне.
А як будзеце выпіваці —
Памяніце мяне:

«А як наша там сястрыца на чужой старане?
Ой, ці гора яна гаруе, ці бяду бядуе?
Ай, ні гора не гаруе, ні бяду бядуе,
Ой, яна тама з сваімі суседзямі ў піру гуляе».

## 487. РАСПЛЫЛАСЯ МАЯ РАДЗІНА

Расплылася мая радзіна,
Як ліст на вадзе,
Нікому так не тошненька,
Як мне, маладзе.

Выйду, выйду за вароцечкі —
Чужая старана,
Туды-сюды павярнуся —
Нікога няма.

Туды-сюды павярнуся —
Нікога няма,
Толькі недзе дзве сястрыцы
Шчыплюць вінаград.

— Вы, сястрыцы, вы, родныя,
Нашчыпіце і мне,
Як пойдзеце к бацьку ў госці,
Пазавіце і мяне.

Як будзеце за стол садзіцца,
Кіньце месца мне,
Як будзеце водку піці,
Наліце і мне.

— А дзе ж наша гаротная,
Дзе ж яна гаруе?
Ці гаруе, ці пануе,
Ці ходзіць жабруе?

А сядзіць яна пад акошачкам,
Горкі слёзы лье,
З невядомай дарожачкі
Свайго друга жджэ.

## 488. ІШЛІ-ПРАЙШЛІ ТРЫ ДАРОЖКІ

Ішлі-прайшлі тры дарожкі,
Трэцяя паўз сад, трэцяя паўз сад.

Ішлі-прайшлі тры сястрыцы,
Трэцяя назад, трэцяя назад.

А як сталі расхадзіцца,
Стала гаварыць, стала гаварыць:

— Як будзеце яблыкі шчыпаць,
Шчыпіце і мне, шчыпіце і мне.

Як будзеце мёд-віно піць,
Успомніце мяне, успомніце мяне.

— А дзе ж наша гаротніца?
— У чужой старане, у чужой старане.

— Ці гаруіць, ці пануіць,
Ці мёд-віно п'ець, ці мёд-віно п'ець?

— Не пануіць, а гаруіць
І мёду не п'ець, і мёду не п'ець,

А як выйдзіць на вулачку —
Слёзачкі ліець, слёзачкі ліець.

— А я ж выйду на вулачку —
Трава-мурава, трава-мурава,

Сюды гляну, туды гляну —
Чужа старана, чужа старана,

Анікога знакомага,
Толькі я адна, толькі я адна.

## 489. ЕДЗЕ СЯСТРА ДА СЯСТРЫ У ГОСЦІ

Едзе сястра да сястры ў госці,
Вязе голку ды маточак шоўку.
— Табе, сястрыца, шыць ды вышываць,
Табе, родная, тут век каратаць.
— Не вяляць, сястрыца, шыць і вышываць,
Ды вяляць у поле сівы валы гнаць,
Ў поле валы гнаць, пташачак будзіць:
— Хіба ж вы, пташачкі, цяпер паснулі,
Што мяне, малодзеньку, не чулі?
Пташачкі, ўставайце, да росаў спявайце,
Каб я, маладзенька, не ўрасілася,
Каб па мне свякроўка не журылася.

## 490. СТАРАНА МАЯ, ТЫ СТАРОНАЧКА

Старана мая, ты староначка,
Старана мая развясёлая,

Старана мая развясёлая,
Не магу цябе я забыці,

Уночы сплючы і ўдзень ходзячы,
З салавейкамі гаворачы.

Салавейка — не родны татачка,
Зязюлька — не родна мамачка.

Прашчай, прашчай, уся радзіначка,
Прашчай, сястра-сіраціначка.

У нас у полі не пасеяна
І ў гародзе не пасаджана,

І ў гародзе не пасаджана,
Вінаградзічкам не абсаджана.

## 491. ОЙ, ЕЛЬ МАЯ ДА ЗЯЛЁНАЯ

Ой, ель мая да зялёная,
Старана твая вясёлая!
Ой, не мушу прызабыці цябе,
Уночы сплючы,
А ўдзень ходзячы,
З салавейкамі гаворачы.

— Салавей, мая пташачка,
Ці бываў ты ў маёй старане
Да ці бачыў айца, матку маю?
— Бываў, бываў у тваёй старане,
Бачыў, бачыў атца, матку тваю,
Бачыў, бачыў усю радзіну тваю.

Трава з ветрам пахілілася,
Сястра з братам пасварылася.
Ох, нашто ж нам дваім сварыціся,
Час жа нам пагадзіціся.
Што нас толькі адно двоечка
Да родненькія абоечка.

## 492. СТАРАНА МАЯ, ТЫ СТАРОНАЧКА

Старана мая, ты староначка,
Старана мая незабытая,

Не магу цябе прызабыціся,
Ні ўночы сплючы, ні ўдзень ходзячы.

Ды ўночы сплючы, прачынаюся,
А ўдзень ходзячы, размышляюся,

Да ўночы сплючы на пасцеліцы,
А ўдзень ходзячы на работаньцы.

Выду, выду я за вароцеткі,
Выду, выду я за цясовыя,

Там трава з травой сувіваецца,
Да там брат з сястрой разлучаецца.

— Ты мой брацетка, салавеечка,
Пажывем з табой харашэнечка.

А не нас палі насяёныя,
А не нас сады пасадзёныя —
Толькі брат з сястрой парадзёныя.

### 493. ТЫ КАЛІНА, ТЫ ЧЫРВОНАЯ

Ты каліна, ты чырвоная,[1]
Старана ж мая вясёлая,
Як мне цябе прызабыціся,
Ноччу сплючы, а днем ходзячы,
Ноччу сплючы, а днем ходзячы,
З чужынаю да й гаворачы.
Мне чужына да не радзіна,
Штоб я з ёю да й гаварыла.
Ой, выйду я на юлачку,
Ой, стану я на прымурачку,
Зірну, гляну на зялёны сад.
Ой, што ў садзе парабляецца?
Сад вішнёвы развіваецца,
Трава з травой увіваецца,
Брат з сястрою распрашчаецца.
— Прашчай, прашчай, сястрыца родна,
Нас нямножка, толькі двоечка,
Разлучымся абоечка.

### 494. У ПОЛІ МУШКА ЗЯЛЁНАЯ

У полі мушка зялёная,
Старана мая вясёлая,
Не магу я прызабыціся,
Ноччу сплючы, а ўдзень ходзячы,
З салаўюшкамі гаворачы.
— Салавейка, родны брацечка,
Нас на свеце небагацечка,
Нас на свеце ўсяго двоечка
Да й жывем мы харашэнечка.
У нашым полі не пасеяна,
У нашым садзе не насыпана,
У садзе траўка савіваецца,
Брат з сястрою распрашчаецца.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

## 495. ОЙ ТЫ, ЕЛЬ МАЯ ЗЯЛЁНАЯ

Ой ты, ель мая зялёная,
Старана мая вясёлая,
Як мне цябе пазабыць будзе,
Ноччу сплючы, а ўдзень ходзячы,
З салавейкам гаворачы?
— Салавейка, салавейка, ранняя пташачка,
Да ці быў ты на маёй старане?
Да ці тужыць ацец, мамка па мне?
— Тужыць, плача, не знімаецца,
Слёзачкамі абліваецца.
Да ў садзе траўка пашаталася,
Сястра з брацеткам прашчалася:
— Прашчай, братка, прашчай, родненькі,
Нас нямножка, толькі двоечка,
Разлучыла нас няволечка,
Чужа дальняя старонaчка.

## 496. АДДАЙ МЯНЕ, БРАТКА

Аддай мяне, братка,
У новую дзярэўню,
У новую дзярэўню,
У вялікую сям'ю.

У вялікай сям'і
Люблю парабляці,
Дзе заловак многа,
Люблю жыта жаці.

Дзе заловак многа,
Люблю жыта жаці,
Дзе дзевяроў многа,
Люблю жартаваці.

Жыве сястра гадок,
Жыве сястра другі,
На трэці гадочак
Едзе брат у госці.

Едзе брат у госці,
Ды не заязджае,
Пра сваю сястрыцу
У людзей пытае.

— Не пытайся, братка,
Ці жыва, здарова,
А пытайся, братка,
Яка мая доля!

— Не крыўдуй, сястрыца,
Болей ні на кога:
У новай дзярэўні
Любі пахаджаці,

Дзе заловак многа,
Любі жыта жаці,
Дзе дзевяроў многа,
Любі жартаваці.

### 497. КРУТА БЕЛА БЯРОЗАЧКА ВАДУ ЗАМУЦІЛА, ВАДУ ЗАМУЦІЛА

Крута бела бярозачка ваду замуціла, ваду замуціла,
Нядолечка, няшчасцейка замуж пакруціла.
Аддаў мяне мой татачка на Украіну жыці,
Вялікае сямеечка — не буду тужыці.
Вялікая сямеечка са мной не гаворыць,
А татачка мой родненькі ў госці не просіць.
Я думала, малодая, што рой выступаіць,
Аж брацятка мой родненькі хатку адчыняіць.
Пытаецца мой брацетка, ці жыва, здарова.
— Не пытайся, мой брацетка, ці жыва, здарова,
А пытайся, мой брацетка, а якая доля.

### 498. ДА У ЧЫСТЫМ ПОЛІ КАРЧОМКА СТАІЦЬ

Да ў чыстым полі карчомка стаіць,
Да ў той карчомцы там мой брацетка.
Ён п'ець, гуляець, выхваляецца,
Што аддаў сястру не ў худобачку,
Да ў хатачку у багатую,

У сямеечку ў разумную.
Яе свёкарка ўсё журыць, журыць,
Яе свякроўка да й паджурываець,
Яе дзеверка яе біць вядзець,
Яе залвіца яе плець нясець.
Яе міленькі па сянёх ходзіць,
Па сянёх ходзіць, ручанькі ломіць,
Ручанькі ломіць, слёзанькі роніць,
Слёзанькі роніць, татульку просіць:
— Да мой татулька, да мой родненькі,
Лёганька біці чужое дзіця:
Нікому яно не пажаліцца,
Толькі слёзкамі абліваецца,
На работку ідзець, не спрачаецца.

## 499. БРАТАЧКА З СЯСТРОЮ

Братачка з сястрою
Па бяседзе ходзяць,
Па бяседзе ходзяць,
Хораша гавораць:

— Аддай мяне, братка,
У гэтым гаду замуж,
У нову дзеравеньку,
У вясёлу сямейку.

Па той дзеравеньцы
Я люблю хадзіці,
У вясёлай сямейцы
Люблю размаўляці.

З маладымі троўкамі
Люблю жыта жаці,
З маладымі дзевярамі
Люблю жартаваці.

Прыедзь ка мне, братка,
Прыедзь, каласочак,
Прыедзь, каласочак,
Хоць раз у гадочак.

Ждала сястра, ждала,
Сталы засцілала,
Сталы засцілала,
Братка дажыдала.

Выйду за вароты —
Няма майго брата,
Выйду за другія —
Слязьмі абальюся,

На трэці гадочак
Едзе мой браточак.
— Здароў, сястра, здароў!
Ці жыва, здарова?

— Не пытай жа, братка,
Ты майго здароўя,
Да пытай жа, братка,
Якая мне доля.

На плячах кашуля
Уся кроўю ўскіпела.
— Сястра мая родна,
Ты ж таго хацела.

Па новай дзярэўні
Любіла пахаджаці,
З маладымі ятроўкамі
Любіла жыта жаці.

З маладымі ятроўкамі
Любіла жыта жаці,
З маладымі дзевярамі
Любіла жартаваці.

## 500. ПА ВІШНЁВЫМ САДУ

Па вішнёвым саду
Сястра з братам ходзіць,
Сястра з братам ходзіць,
Ходзячы, гавора:

— Аддай мяне, браце,
У вялікую вёску,
У вясёлую сямейку,
У багату хату.

У багатай хаце
Люблю пахаджаці,
У вялікай вёсцы
Люблю жыта жаці.

У вялікай вёсцы
Люблю жыта жаці,
У вясёлай сямейцы
Люблю жартаваці.

Жыве сястра гадок,
Жыве сястра другі,
А на трэці гадок
Шле брату лісточак.

Брат лісток чытае,
Слёзы пралівае:
— Вось табе, сястрыца,
Багатая хата.

Вось табе, сястрыца,
Багатая хата,
Вялікая вёска,
Вясёлая сямейка.

Чорная нагайка
Каля плеч свісцела.
Белая кашуля
Ад поту счарнела!

## 501. НЕ ШУМІ ТЫ, САСНА

Не шумі ты, сасна,
Бо мне жыці тошна,
Не хіліся на мора,
Бо мне жыці гора.

Гора мне, гора,
Не маючы роду,
Толькі мне і роду,
Што два браткі з роду.

Пайду я ў шынок,
Набяру гарэлкі на тры капейкі,
Зазаву к сабе госця,
Госця дарагога,
Братку роднага.

Мой братка ўпіўся,
З ножачак зваліўся,
Не з кім жа мне стаці,
Славечка сказаці.

— І ўстань жа ты, братка,
Развесяліся,
З сваёю сястрою
Нагаварыся.

## 502. НЕ ШУМІ-КА, СОСНА *

Не шумі-ка, сосна(і),
А мне й так з гора тошна.[1]

Не шумі, зялёна,
А мне й так невясёла —

Аддаў мяне бацька й
А далёкен(і)ка замуж,

Далёка-далёка,
А ў чужую дзярэўню,

У чужую дзярэўню
І ў вялікую сямейку.

А ў вялікай сямейцы
А свёкар да свякрова,
А дзевер да залоўка.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Мой двор на памосце,
А прашу я брата ў госці.

— Прыедзь-ка, брахненька,
А прыедзь-ка, родненькі.

Брат ночку начуе,
А нічога не чуе,

Другую начуе,
А зязюля кукуе.

Не кукуй, зязюля,
Ды не задавай жалю,

Сама пару знаю,
А брата пабуджаю:

— Устань-ка, брахненька,
Ты ўстань-ка, радненькі,

Устань-ка, радненькі,
Ты памыйся бяленька,
А ўтрыся харашэнька.

## 503. А Ў САДОЧКУ ДЗВЕ СЦЕЖАЧКІ

А ў садочку дзве сцежачкі,
Трэцяя — мяжа.
Ішлі, прайшлі два брацяткі,
Трэцяя — сястра.
— Куды йдзеце вы, брацяткі,
Родныя мае?
Калі ў садок па яблычкі —
Сарвіце і мне.
Панясеце тату і маме —
Нясіце і мой.
Паложыце на століку —
Кладзіце і мой.
Як сядзеце піці, есці —
Успомніце й мяне.
Як паселі піці, есці —
Забылі мяне.

Адна мая родна мама
Ўспомніла мяне.
— А дзе ж наша гаротніца
Ў чужой старане?
Ці гаруіць, ці пануіць,
Ці мёд-віно п'ець,
Ці, седзячы ў акенцы,
Горкі слёзкі льець?
— Я гарую, не пануюю,
Мёд-віно не п'ю,
Толькі сяджу у акенцы,
Слёзачкі лію.
Ах, выйду я на вулічку —
Трава-мурава,
Нігдзе маёй радзіначкі —
Кругом я адна.
Ах, выйду я на вулічку —
Там жоўты пясок,
Нігдзе маёй радзіначкі —
Адзін мой слядок.

## 504. ОЙ ТЫ, БЕЛАЯ ТЫ БЯРОЗАЧКА

Ой ты, белая ты бярозачка,
Да ў садочку расла,
Да ў садочку расла,
Нешчаслівая мая доленька,
Што я замуж пайшла,
Што я замуж пайшла.

А ні я ўпіла, а ні я ўела,
Ні харашо ўхадзіла,
Ні харашо ўхадзіла,
А я ж свае маладыя гадкі
Марна патраціла,
Марна патраціла.

Дый прыляцелі ды два галубы
Ягодкі клюваці,
Ягодкі клюваці,
Дый прыехалі ды два браточкі
Да сястрыцы пытаці,
Да сястрыцы пытаці.

— Якаво ж табе, наша сястрыца,
У чужым баку жыці,
У чужым баку жыці?
— Якаво было б, такаво было б —
Каб мой муж не п'яніца,
Каб мой муж не п'яніца.

Цепярусенька, недаўнюсенька
Ён з карчоменькі прыйшоў,
Ён з карчоменькі прыйшоў,
На падушачкі на пуховыя
Ён галоўку палажыў,
Ён галоўку палажыў.

— Каб з падушачак, каб з пуховенькіх
Ён галоўкі не падняў,
Ён галоўкі не падняў,
— Мае брацікі, мае родныя,
Не кляніце вы яго,
Не кляніце вы яго.

Ой, кляніце ж вы, праклінайце вы
Да й ураднічкаў маіх,
Да й ураднічкаў маіх,
А што ўраілі, а што ўгаварылі
Мяне, млоду, за яго,
Мяне, млоду, за яго.

## 505. ОЙ, У ЛЕСЕ ДЗВЕ БЯРОЗАЧКІ

Ой, у лесе дзве бярозачкі,
А у полі дзве дарожачкі,

А у полі дзве дарожачкі.
Да тудою йшлі да два брацейкі.

А яны йшлі да гаварылі:
— Як нам сястру пераведаці?

Ці нам гукаць-перагукваці,
Ці нам свістаць-перасвістваці?

А іх сястра да дагадліва,
Яна рано да па воду йдзе,

Яна рано да па воду йдзе,
У правай руцэ да вядро нясе,

А леваю да размахвае,
На дарожачку да паглядвае.

— Да дзень добры, да сястра наша!
Да ці дома ўся сям'я ваша?

— А свякруха да на Валыні,
Залувіцы да на Украіне.

Яна пашла памалюсеньку,
Ступаючы паціхусеньку.

— Уставай, мілы, к нам госці прыйшлі:
Швагры твае, а браты мае.

— Як няміла да ты, жонка, мне,
Так нямілы мне й браты твае.

— А йдзеце ж вы, браткі, дадому,
Да не кажэце ж вы там нікому,

Што ў сястры да ў гасцях былі,
Хлеба-солі да не спыталі,

Хлеба-солі да не спыталі,
Швагра ў вочы да не відалі.

## 506. ОЙ, З-ПАД ЛЕСУ, ЛЕСУ ЦЁМНАГА

Ой, з-пад лесу, лесу цёмнага,
З-пад бярэзнічку зялёнага
Выбягае ды два конікі,
Ды два коні, ды два модныя,
Ды два браты, ды два родныя.
Прыязджаюць к сястрыцы на госці.
— Кланім, кланім, наша родная.
А ці дома ды твой п'яніца,
А ці дома твой нядбайніца?
— Дома, дома да мой п'яніца,
Дома, дома мой нядбайніца,

А ляжыць ён у каморачцы
Ды на беленькім жа ложачцы.
— А ці можна нам яго будзіць,
Ці можна нам яго навучыць?
— А вы ж яго не пабудзіце,
Толькі маё сэрца нудзіце.
Да пайду ж я да сама будзіць,
Да дзверцамі не заскрыпнуці,
Чаравічкамі не застукаці,
Сукеначкай не зашастаці.
— Устань, устань, да мой міленькі,
Устань, устань, чарнабрывенькі,
Прыехалі да два госцікі,
Да два браты мае родныя.
— Адступіся, мая мілая,
Адступіся, чарнабрывая,
Твае браты — табе родныя,
А мне швагры апастылыя.
Вышла сястрыца з каморачкі,
Пала браточкам на ножачкі:
— Едзьце, браткі, да сваёй хаткі,
Не кажыце маёй мамачцы,
Што мне жыці так трудненька.
Да скажыце маёй мамачцы,
Што хаджу я харамуханька
Да хаджу я весялюсенька.
Прыехалі браткі да сваёй хаткі:
— Кланім, кланім, наша мамачка,
Упала ў гора наша сястрыца:
Не нам яе адтуль выкупіць,
Не нам адтуль яе выручыць,
Ні за даляры бяленькія,
Ні за золата чырвоненькае.

## 507. ПАЙДУ, МАЛАДЗЕНЬКА, У ВІШНЕВЫ САДОЧАК

Пайду, маладзенька, у вішнёвы садочак,
Найду, маладзенька, брацяткаў слядочак.

Найду, маладзенька, брацяткаў слядочак,
У брацяткавым следзе лілеечка расла.

Расла, расла дый набок схілілася,
На мяне, маладу, радня забылася.

А мой брацятка вялікі банкет маіць,
А па двару ходзіць, мяне не ўспамінаіць.

Толькі ўспомніла мяне родная маці:
— А няма ж майго роднага дзіцяці.

Узыдзі, узыдзі, да вячэрняя зорка,
А прыйдзі, прыйдзі, да гаротная дочка.

А зорка ўзышла — увесь свет асвяціла,
А дочка прыйшла — ўсё радню засмуціла,

А засмуціла жалоснымі славамі,
А залілася гарачымі слязамі.

## 508. МІЖЫ ГОР БЯРОЗКА, МІЖЫ ГОР СТАЯЛА

Міжы гор бярозка, міжы гор стаяла,
Тонка да высока, лісцікам шырока.

Аддалі сястрыцу так замуж далёка:
Ні самі не ходзяць, ні яе не просяць.

Выправілі брата самага малога,
Самага малога, розуму нямнога.

Увайшоўшы ў хатку, шапачкі не здойміць,
Шапачкі не здойміць, галоўкі не склоніць.

Не пытаіцца ж ён, ці здарова сястра,
А пытаіцца ж ён, ды ці ўсім гадзіла.

Свякроўцы гадзіла — вадзіцу насіла.
Свёкарку гадзіла — ножкі разувала.

Дзеварку гадзіла — конікі паіла.
Залоўцы гадзіла — коскі заплятала.

Міламу гадзіла — болей дагаджала,
Міламу гадзіла — пасцелечку слала.

## 509. ВЫЛЕЦЕЛА ЛАСТАЎКА З-ПАД ЯСНАЕ ЗАРЫ

Вылецела ластаўка з-пад яснае зары,
Прыехала сястрыца із чужой стараны.
— Годзі, годзі, ластаўка, з-пад гары вылятаць,
Годзі, годзі, сястрыца, плакаць да рыдаць.
Пойдам жа мы ў карчомачку піці да гуляць,
Скінемся па дзенежцы, скінемся па другой,
Возьмем па кварточцы, возьмем па другой.
Над трэйцяю квартаю песні запяём,
Запяём песеньку распракрасную,
Развяселім сястрыцу ўсё няшчасную.
А ці добра, рыбачка, пад каменем быць,
А ці добра, сястрыца, служачы, гадзіць?
— Гаспадару гажу, гаспадыне — не.
Гаспадар дазволіць, гаспадыня — не,
Гаспадар заплоціць, гаспадыня — не.

## 510. НЕ ХІЛЯЙСЯ, ВОЛЬКА

Не хіляйся, волька,
Бо мне жыці горка,
Не хіляйся, сосна,
Бо мне жыці тошна.

Як той жа каліне
У зялёным лугу,
Так мне, сіраціне,
Без вернага другу.

Няма ў сіраціны
Ні айца, ні маткі,
Толькі ў сіраціны
Два родныя браткі.

Браткі ж мае, браткі,
Да два родненькія,
Прыедзьце ў госці
У нядзелю рана.

Хоць не ўмываўшыся,
Хоць не ўціраўшыся,
Так к майму абеду
Прыспасабляўшыся.

Кубочак, вядзерка,
Вадзіцы поўненькі,
Кубачак вядзерца,
Мыйся, братка, сэрца.

Ручнік на калочку,
Вазьмі ўватрыся,
Богу памаліся,
Абедаць садзіся.

Прынясла гарэлкі
У зялёнай флясцы.

Браткі мае, браткі,
Гарэлка не п'ецца,
Каля майго сэрца
Як вяроўка ўецца.

Ой, едзьце, браткі,
Да ад сястры дадому.
Заехалі браткі
У новую карчомку.

Карчомка новая,
Шынкарка млода!

Давай піва, мёду,
Давай і гарэлкі!
Будам напівацца,
Сястры забывацца.

## 511. ПАД БЕЛАЮ БЯРОЗАЮ

Пад белаю бярозаю [1]
Сядзіць браток і з сястрою.

Сястра брату наракае,
Што ліхую долю мае:

— Не бяры, брат, суседачкі,
Вазьмі мяне, сястрыначку.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

— У цябе, сястра, дзетак многа,
У мяне, брата, ніводнага.

Як я сяду абед есці,
Твае дзеткі будуць лезці.

— Не бойся, браток, не лякайся
І з абедам не хавайся.

Як ты сядзеш абед есці,
Мае дзеткі пойдуць з хаты.

Ой, сеў браток абед есці,
Мае дзеці пайшлі з хаты.

Ой, сеў браток і дзівіцца,
Яму ў роце становіцца.

Кінуў браток абед есці,
Пайшоў дзетак заклікаці:

— Ідзіце, дзеткі, дахаты,
Кажу я вам абед есці.

Ці вас, дзеткі, маці ўчыла,
Ці вы самі розум мелі?

— Ой, нас маці не вучыла,
А мы самі розум мелі.

А мы самі розум мелі,
Хоць хацелі, ды цярпелі!

### 512. ОЙ, АСІНА ВІЛАВАТАЯ

Ой, асіна вілаватая,
Не шумі ты нада мной,
Над маею галавой.
Ніхто ж так не вінаваты,
Як мой татачка родны:
Аддаў замуж далёка,
У гасцях не бывае,
Брацейкаў не пускае.

А на пятым гадочку
Прыехалі браты ў госці,
З возу не ссядаюць,
Аб сястрыцы ўсё пытаюць:
— Ці здарова сястра наша?
Чаму на двор не выходзіць?
Ці работкі не зрабіла,
Ці свякроўцы не ўгадзіла?
— Я й работачку зрабіла,
Я й свякроўцы ўгадзіла,
Я й свякроўцы пасцель слала,
Я й свякроўку разувала.
Ідзіце, брацейкі ў хату,
Не сядайце за столікам,
А сядайце процiў печы,
Процiў печнага аконца,
А я пайду у каморку,
Пабуджу сваю свякроўку:
— Устань, устань, свякровачка,
Устань, устань, матулечка,
Прыехалі да нас госці,
Твае сваты, мае браты.
— Адступіся, нявестачка,
Не любая ты ў мяне,
Не любыя й госцейкі твае.
Я й, малада, схілілася,
Дробнай слёзкай залілася.
— Едзьце, брацейкі, дадому,
Забірайце маю долю,
Пасейце у роўным полі,
Каб дзевачкі не хадзілі,
Гэтых красак не шчыпалі,
Каб вяночкаў не звівалі,
На галованькі не клалі —
Горкай долі не зазналі.

### 513. АЙ, К УТРУ У БЯСЕДЗЕ

Ай, к утру ў бяседзе
Двое братцы гаварылі,
Гаварылі, раду бралі,
Сястру замуж аддавалі:

— У сястры ў гасцях не бывалі.
Сядлай, брацец, пару коней,
Паедзем к сястрэ ў госці.
Едзем поле і другое,
На трэцяе ўз'язджаем,
Адзін у аднаго пытаем:
— Як нам сястру загукаці?
Ці ў свісцёлы засвістаці,
Ці голасам загукаці?
Прыязджаем кы варотам,
Аж вароцечкі адчыняты
І замочкі адамкнуты.
Прыязджаем кы ганачку —
Наша сястра сені мяце,
Сені мяце, сільна плача:
— Здароў, здароў, сястра наша!
Ці ў доме сям'я ваша?
— Свёкар-бацька на таржочку,
Свякроў-матка ў бяседзе,
Дзевярочкі ў лясочку,
Заловейкі на супрадках,
А мой мілы ў каморы,
У каморы ў белай ложы.
Пайду я галасіці,
Свайго мілага будзіці:
— Устань, устань, мой міленькі,
А прыехалі к нам госці,
Твае швагры, мае братцы.
— Адступ, адступ проч, нялюба,
Сама ж ты мяне не любіла,
Радня твая спастылела.
Пайду галасіці,
З сваімі братцамі гаварыці:
— Едзьце, паедзьце, братцы,
У сястры ў гасцёх пабывалі
І з конікаў не злязалі,
З струмен ножкі не вымалі,
За столікам не бывалі,
Хлеба-солі не ядалі.
Выйду я за вароты,
Як гляну пад балоты,
Мае братцы ў лес ўязджаюць,
Толькі шабелькі мялькаюць.

## 514. ПРЫ ДАРОЖАНЬКІ ДЗВЕ БЯРОЗКІ

Пры дарожанькі дзве бярозкі,
Туды ехалі два брата.
Стуку-груку ў вароцекі,
Стуку-груку ў часовыя:
— Адчыніся нам, сястрыца,
Адчыніся, гаратніца!
— Не 'дчынюся, не 'дчынюся!
Маёй сям'і дома нету:
Ані свёкра, ні свякроўкі,
Ні дзевяра, ні залоўкі,
А мой мілы ў церамочку
Ды за белым палажочкам.
— Расчыніся, церамочак,
Распахніся, палажочак,
Абачхніся, міл дружочак!
Наехалі к табе госці,
Мае родныя два брата.
— Годзе, адстань, мая міла!
Твая радня мне пастыла.
— Едзьце ж, брацетка, дадому,
Не хваліцеся ж нікому,
Што паелі хлеба-солі,
Павідалі мае долі,
Што папілі віна, піва,
Наглядзеліся майго дзіва.
Наглядзеліся майго дзіва.

## 515. ВЫЙДУ Я НА ВУЛІЦУ

Выйду я на вуліцу,
Стану на прыгорачак,
Да гляну я да сюды-туды,
Да гляну я пад гай зялёны.
Лятуць, бягуць да два конікі,
Да два конікі, да два людныя,
Прыехалі да на падворайка.
— Да здраствуй, сястра!
Да ці дома твая п'яніца?
— Дома, дома, у каморцы спіць,
Да я баюся яго йсці будзіць.
Увайду ж я ў каморачку

Да вазьму ж яго за галовачку:
— Да ўстань, устань, мой міленькі,
Прыехалі да нас госцейкі.
— Увайдзі, жана нялюбая,
Тваё браты табе мілыя,
Мае швагры мне пастылыя.
— Да сядзьце, мае брацейкі,
Не кажыце маёй мамачцы,
Што ў мяне не былі,
Не кажыце, што я гарую,
А кажыце, што я паную.
Не кажыце, што я слёзкі лью,
А кажыце, што я песні пяю.

## 516. РАМОН БЕЛЫ, РАМОН БЕЛЫ

Рамон белы, рамон белы
Траву пабяляе,
Радня мая багатая —
Мяне забывае.[1]

Ходзіць сястра па гароду,
А брат — па садочку:
— Хадзі, сястра родненькая,
Нап'ёмся мядочку.

— Пі, брацейка, пі, родненькі,
Табе павялося,
А мне, беднай гаротніцы,
А мне не ўдалося.

## 517. ХОДЗЕ СЯСТРА ПА ВУЛІЦЫ

Ходзе сястра па вуліцы,
Братка — па садочку:
— Хадзі, сястра, хадзі, родна,
Вып'ем мы мядочку.

— Выпі, братка, выпі, родны,
Табе павялося,
А мне, братка, а мне, родны,
З доляй не ўдалося.

---

[1] Два апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Табе, братка, жыць прыйшлося,
Дзе мамка радзіла,
А мне, братка, жыць прыйшлося,
Дзе судзьба судзіла.

Ў цябе, братка, ў цябе, родны,
Жыта з невывер'я,
У мяне, беднай, бяздольнай,
Няма ані зерня.

Ў цябе, братка, ў цябе, родны,
Жыта і пшаніца,
У мяне, беднай, бяздольнай,
Гуголь і мятліца.

## 518. ОЙ, СЯДУ Я У РАМОНУ

Ой, сяду я ў рамону,
Мой брат — у садочку: [1]

— Хадзі, сястра, хадзі, родная,
Нап'ёмся мядочку.

— І пей, братка, гуляй, братка,
Табе павялося,

А я буду гараваці,
Бо мне не ўдалося.

Ох, выйду я за вароты —
Рассыпаны карты.

А дзе ж мае падзеліся
Дзявочыя жарты?

Ох, выйду я за вароты —
Рассыпаны дулі.

А дзе ж мае падзеліся
Дзявочыя гулі?

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

## 519. АДДАЎ МЯНЕ МОЙ ТАТАЧКА

Аддаў мяне мой татачка
На Украіну жыці [1]

У вялікую сямеечку —
Не буду тужыці.

Вялікая сямеечка
Са мной не гаворыць.

Ніхто са мной не гаворыць —
Ні бацька, ні маці.

Баліць мая галовачка,
Няма чым звязаці.

Ой, звяжу я галаваньку
Беленькім платочкам.

Накажу я татуленьку
Шэрым сакалочкам:

— Ляці, сокал, ляці, сокал,
Нідзе не садзіся,

Прыляцеўшы да хатачкі,
Нізенька скланіся!

Ляцеў сокал, ляцеў сокал,
Сеў вады напіцца,

Прыляцеўшы да татачкі,
Забыўся скланіцца.

Я думала, маладзенька,
Што сокал сакоча,—

Майго брацейкі раднога
Сівы конь рагоча.

Я думала, маладзенька,
Што рой выступае,—

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Мой брацетка, мой родненькі
На парог ступае:

— А сястрыца, як маешся?
А ці ты здарова?

— Не роўная, мой брацетка,
У нас з табой доля.

Адна маці нас радзіла,
Адна гадавала,

Не роўную, мой брацетка,
Нам долечку дала!

## 520. НІХТО ТАГО НЕ ВЕДАЕ

Ніхто таго не ведае,
Па чым я бядую,
Уся радня добра жыве,
Адна я гарую.

Усе людзі бары аруць,
А я роўна поле,
Усе людзі жыта сеюць,
А я сваё гора.

Усе людзі бога просяць,
Каб жыта ўрадзіла,
А я прашу пана бога,
Каб гора не ўсхадзіла.

Як абышло маё гора
Густымі кустамі,
Як зацвіло маё гора
Рознымі цвятамі.

Усе цвяты пустацветы —
Адзін васілёчак,
Сядзіць братка за столікам,
П'е віно, мядочак.

Кліча сястру, кліча родну
Піць, есці, гуляці:
— Хадзі, хадзі, сяструшачка,
Мядку папіваці.

— Пі, брацечка, пі, родненькі,—
Гэта ж твая доля.
А я буду гараваці —
Гэта ж маё гора.

Адна мамка нас радзіла,
Адна гадавала,
Няроўную нам, брацечка,
Долечку давала.

Табе дала, мой брацечка,
Піць, есці, гуляці,
А мне дала, мой брацечка,
Гора гараваці.

Табе дала, мой брацечка,
Долю медавую,
А мне дала, мой брацечка,
Долю слезавую.

Табе дала, мой брацечка,
Навек мядок піці,
А мне дала, мой брацечка,
Навек слёзы ліці.

## 521. НЕ ШУМІЦЕ, ЗЯЛЕНЫЯ ЛУГІ

Не шуміце, зялёныя лугі,
Не задавайце майму сэрцу тугі,
Бо маё сэрца і так тугу мае,
Што мой брацятка вялік банкет мае,
Па садзе ходзіць і мяне ўспамінае:
— Чаму, сястрыца, у гасцях не бываеш?
Мусі, сястрыца, дарожкі не знаеш?
— Мой ты брацетка, дарожку я знаю,
За сваім горам у гасцях не бываю.
— Узыйдзі, узыйдзі, вячорная зора,
О, прыедзь, прыедзь, бяздольная сястра!
Зорачка ўзышла — ўвесь свет асвяціла,
Сястра ўз'ехала — ўвесь свет аслязіла.

## 522. А Ў ЛУЗЕ КАЛІНА-МАЛІНА

— А ў лузе каліна-маліна,[1]
Куды едзеш, малада дзяўчына?

— Ой, я еду да брацеткі ў госці,
А брацетка да й не пераймае,

А брацетка да й не пераймае,
Вароцечак да й не адчыняе.

Ой, пад'еду к брату пад аконца,
Зачыняе братова аконца.

Ой, пад'еду к брату пад другое,
Зачыняе братова і тое.

Ой, пад'еду пад новыя сені,
А ўжо брацеткі на вячэру селі.

Ой, пайду ж я ў вішнёвы садочак,
Выламлю ж я каліны цвяточак.

Бадай жа ты каліна-маліна,
Як ты майго брата ўгнявіла.

## 523. ЦЯЧЭ РЭЧКА

Цячэ рэчка, цячэ,
Беражок разносіць,
А мой браток раднюсенькі
У гасціну просіць.

У гасціну просіць,
Хораша вітае,
Сядзіць братавая,
Скрыва паглядае,

— Братавая міла,
Не глядзі ты скрыва,
Бо ў майго браточка
Не штодзень гасціна.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

Як матуля жыла,
Часценька гасціла,
Матуленька схібнулась —
Гасціна мінулась.

## 524. СУСТРЭЎ БРАТ СЯСТРЫЦУ

Сустрэў брат сястрыцу
Сярод чыстага поля:
— А ты, младшая сястрыца,
Чаго старая стала?
Ці ты сыноў жаніла,
Ці дачок замуж аддавала?
— Састарылі мяне леці
Й дробныя дзеці.
Сустрэў брат сястрыцу
Сярод чыстага поля:
— Калі табе, сястра, гора,
Памірай з гора скора.
— Рада б памерці,
Не дае мне бог смерці.
Запрагай, брацец, каня варанога
Да паедзем долі шукаці.
І коніка перагналі,
І долі не дагналі.

## 525. СІВАЯ ЗЯЗЮЛЬКА, ДА НЕ КУЙ РАНЕНЬКА

Сівая зязюлька, да не куй раненька,
Не будзі майго госця дарагога,
Брацейка раднога.
Сама пару знаю, калі пабудзіці.
— Устань, брацейка, устань, прахадзіся,
Вадзіца ў кубу, брацейка, умыйся,
Ручнік на калочку, брацейка, утрыся,
За цясовы столік снедаці садзіся.
— Я мыцца ўмыюсь, ручніком ватруся,
За цясовы столік снедаць не саджуся.
Чаго, менша сястра, скора старылася?
Ці сыны жаніла, ці дочкі аддавала,
Ці большага брата ў войска выпраўляла?
— Ой, старыла мяне чужая старонка,

Няшчасная долька:
Белы кужаль прала — у чужу скрыню клала,
Хлеб-соль зарабляла — дзеткі гадавала,
Такі ж сваіх дзетак да не акідала.

## 526. ОЙ, ВЫП'Ю, ВЫП'Ю ЧАРАЧКУ ВІНЦА

Ой, вып'ю, вып'ю чарачку вінца,
Ой, паслухаю ў садзе салаўца.
Салавеюшка — адна пташачка,
Ў мяне, маладой,— адзін брацейка,
Адзін брацейка дый той далёка —
Да мяне у госцейкі не едзе.
— Ой, прыедзь, прыедзь, родны брацейка,
Як жа я табе буду радзенька,
Ў вішнёвым садзе сустракаць буду,
Ў шчырыя бары праважаць буду.
Як мы з брацейкам сустракаліся —
Шчырыя бары разлягаліся.
Як мы з брацейкам распрашчаліся —
Сухія лугі разліваліся.

## 527. У НАШАЕ СЯСТРЫЦЫ

Ў нашае сястрыцы
Хата на памосце,
Прыехаў брацeнька
Да сястрыцы ў госці.

Дала яму піці
Мёду, гарэліцы,
Палажыла спаці
У новыя кравaці.

Палажыла спаці
У новыя кравaці,
А сама я выйшла
Зязюльцы казаці:

— Не кукуй, зязюлька,
У вішнёвым садочку,
Ох, не збудзі майго
Госця дарагога.

Ох, не збудзі майго
Госця дарагога,
Госця дарагога,
Брацельку раднога,

Бо сама я знаю,
Як яго будзіці,
Як будзе раненька
Сонейка схадзіці.

Як стала сонейка
Раненька схадзіці,
То пайшла сястрыца
Брацельку будзіці:

— Уставай, брацелька,
Госцю дарагенькі,—
У вішнёвым садочку
Вадзіца ў кубочку.

У вішнёвым садочку
Вадзіца ў кубочку,
А ў новай святліцы
Ручнік на калочку!

— Ой, пажджы, сястрыца,
Яшчэ не ўмыўся,
На цябе, радная,
Я не надзівіўся.

Чаго ты, сястрыца,
Такая старая?
Ці сыноў жаніла,
Дачок аддавала?

— Сыноў не жаніла,
Дачок не аддавала —
Тонкі кужаль прала,
У чужу скрыню клала!

## 528. ОЙ, ГЛЫБОКІЯ ДЫ КАЛОДЗІСІ

Ой, глыбокія ды калодзісі,
Кароткія ключы,
Палюбіла я прайдзісветаньку,
Рана па воду йдучы.

Палюбіла ж я, палюбіла я
Да і спадабала,
Не паслухала той праўданькі,
Што мне мама казала.

А як выйду я на вуліцу —
Вецер дрэвы калыша,
А мой брацейка, а мой родненькі
Ка мне пісьмо піша:

— Чаму, сястрыца, чаму, родная,
У гасцях не бывае?
— Як мне, брацейко, як мне, родненькі,
У гасцях ў вас бываці?

Як мне, брацейко, як мне, родненькі,
У гасцях ў вас бываці?
Пазарасталі сцежкі-дарожкі —
Не магу пратаптаці.

— Наймі, сястрыца, наймі, родненька,
Скрыпкі, цымбалы,
Каб пратапталі сцежкі-дарожкі
Да зялёнага гаю.

— Табе, брацейко, табе, родненькі,
Усё скрыпкі, цымбалы,
А мне, сястрыцы, беднай сіротцы,
Усё смуткі і жалі.

Каб была я ды шэрай зязюлькаю
Да каб умела лятаці,
Паляцела б на родну староначку
Сваю маці шукаці.

Я прыляцела б на магілачку
І сказала б: ку-ку!
Падай, родная матулечка,
Хоць правую руку.

— Рада была б я, маё дзіцятко,
Хоць абедзве даці:
Сырая зямля, саснова дошка —
Не магу узняці.

## 529. ОЙ, ГАЮ МОЙ, ГАЮ

Ой, гаю мой, гаю,
Гаю мой зялёны,
Ды праз цябе, гаю,
Ветрык не павее.

Ветрык не павее,
Лісткоў не скалыша,
А брат да сястрыцы
Часта лісты піша.

Ой, піша ён, піша,
З паўночы чытае:
— Ой, чаму, сястрыца,
У гасцях не бываеш?

Ой, ці ты, сястрыца,
Коніка не маеш,
А ці ты, сястрыца,
Дарожкі не знаеш?

— Ой, браце мой, браце,
Я й коніка маю,
Я й коніка маю,
Я й дарожку знаю!

Я й коніка маю,
Я й дарожку знаю,
Ды за сваім горам
У гасцях не бываю!

## 530. НА УСХОД СОНЦА ВЕТРЫК ВЕЕ

На ўсход сонца ветрык вее,
Былінку калыша,
Мой брацетка, мой родненькі
Ка мне лісты піша,
Вечарам чытае:
— Чаму ж, мая сястрычанька,
У гасцях не бываеш?
Ці ты ж, мая сястрычанька,
Коніка не маеш,

Ці ты, мая сястрычанька,
Дарожкі не знаеш?
— Мой брацетка, мой родненькі,
Я й коніка маю,
Мой брацетка, мой родненькі,
Я й дарожку знаю.
Але ж праз то, мой брацетка,
У гасцях не бываю,
Мой брацетка, мой родненькі,
Нядобра ж ты чыніш:
Як прыеду ў госцікі —
Варот не адчыніш.
Мой брацетка, мой родненькі,
Нядобра ж ты робіш:
Як прыеду ў госцікі,
Са мной не гаворыш.
Не хацела б, мой брацятка,
Каб пяклі, варылі,
А хацела б, мой брацейка,
Каб вы гаварылі.
Не хацела б, мой брацейка,
Ані піці, ні есці,
А хацела б, мой брацейка,
За столікам сесці.
Не хацела б, мой брацейка,
Піва выпіваці,
А хацела б, мой брацейка,
Гора расказаці.

## 531. ОХ, МЕСЯЦ ТЫ, МЕСЯЦ

— Ох, месяц ты, месяц,
Што ты нізенька ходзіш,
А за лес не заходзіш?
Ах, брацец ты, брацец,
Міма двара часта ездзіш,
Ка мне ты не заедзеш.
Хоць заедзеш — не начуеш,
Заначуеш — праташнуеш.
Пад вакошкам спаць лажышся,
Часта ў вокны паглядаеш,
А ці свет, братцы, світае,
Ці заранарка зарае.

Брацец коніка сядлае
Да з двара з'язджае:
— А спасіба, сястрыца,
За хлеб, за соль, за вячэру
Да й за мяккую пасцелю!
— На здароўе, мой брацец,
Хлеб-солі не кушаўшы,
На пасцелі не ляжаўшы,
А ўсю ночку ташнаваўшы,
Заранячкі дажыдаўшы.

## 532. ОЙ, САМА Я, САМА

Ой, сама я, сама
На чужыне,
Ніхто не прыбудзе
У госці ка мне.

Не прыбудзе айцец,
Ані маці,
Се хіба прыбудзе
Родны брацец.

Ой, хоць ён прыбудзе —
Не начуе,
Ой, хоць заначуе —
Не ўсыпае.

Ой, хоць заначуе —
Не ўсыпае,
Па новай каморы
Пахаджае.

Па новай каморы пахаджае,
Пахаджае,
Сваю родну сястру
Пабуджае:

— Ой, устань, сястрыца,
Ужо світае,
Ужо твой брацэнька
Ад'язджае!

Ой, устань, сястрыца,
Дзень бяленькі,
Ужо ад'язджае
Брат радненькі!

Сястрыца браценьку
Пытаецца:
— Калі ты, браценьку,
У гасцях будзеш?

— Тады я, сястрыца,
У гасцях буду,
Як сухая груша
Разаўецца,

Як сухая груша
Разаўецца,
Як біта дарожанька
Раскапнецца!

Сястрыца начэнькі
Не даспала,
Усё сухую грушу
Палівала,

Усё сухую грушу
Палівала
І біту дарожку
Раскопвала:

— Ой, бадай ты, груша,
Не зрадзіла,
Як ты мяне з братам
Разлучыла!

## 533. ОЙ ТЫ, ГОЛУБ, СІВЫ ГАЛУБОЧКУ

Ой ты, голуб, сівы галубочку,
Ой, не ві гняздзечка на дубочку,
А зві ты гняздзечка на быліне,
Трудна мне быці-жыці на чужыне:
Ніхто ка мне ў госці не заедзе —
Ні татулька, ні родная мамка,
Толькі заедзе мой родненькі братка.

Хоць ён і заедзе — не начуе
Ды не ляжа спаці ў краваці.
Толькі ён ляжа пад аконцам,
Ды ўсё аконца адкрывае,
Ды белага свету ажыдае.
— Уставай, сястрыца, ужо свет бяленькі,
Ужо ад'язджае твой братка радненькі.
Тады сястра брата праважала,
Пад сухою грушаю пытала:
— Калі, братка, ў госці павярнешся?
— Калі суша-йгруша разаўецца,
Тады братка ў госці павярнецца.
Палівала йгрушу не вадою,
Не вадою — горкаю слязою.
Суха йгруша не развіваецца,
Братка ў госці не павяртаецца.

## 534. А У ЛУЗЕ, ЛУЗЕ САД ЗЕЛЯНЕНЬКІ

А ў лузе, лузе сад зеляненькі,
А ў тым садочку два салавейкі.
Салавейкі два — песенька адна,
У мяне, маладой, брацетка адзін.
Брацетка адзін у госці не едзе,
А хоць прыедзе — дык не начуе.
Адну ночаньку пераначаваў,
Ён жа і тую ператашнаваў,
Па новых сенях пахаджаючы,
Сваю сястрыцу пабуджаючы:
— Устань, сястрыца, я дамоў еду!
— Пажджы, брацетка, майго абеду!
— Дзякуй, сястрыца, я ўжо абедаў,
Гарачых слёзак я ўжо паснедаў!
А я, малада, дурна зрабіла,
Свайго брацетку не правадзіла,
Я свайго гора не расказала,
Яго багацця не рассчытала!

## 535. У МАЙГО ТАТУЛЬКІ САД НАД РАКОЮ

У майго татулькі сад над ракою,
У майго татулькі двор над вадою.
Ды ў тым садочку два салавейкі,

Яны піялі — праўду казалі,
Што брат да сястры ў госці наедзе.
Хоць і прыедзе — доўга не гасцюе,
Адну ночаньку переначуе
І тую не спіць, ператашнуе.
Ён пад аконнем спаці кладзецца,
Часта, часта аконца адчыняе,
Белага свету ён выглядае.
— Устань, сястрыца, дадому еду.
— Пажджы, брацітка, майго абеду.
— Дамоў заеду к свайму абеду.

## 536. ПРЫЛЯЦЕЛА ГАЛКА, СІВАЯ КУКАЎКА

Прыляцела галка, сівая кукаўка
Ды, сеўшы на сосне, кукуе жалосна,
Што я ў чужом краю марна прападаю.
Запрасіла братка да сябе ў госці:
— Прыдзі, прыдзі, братка, хоць не ўмываўшыся,
Хоць не ўмываўшыся, хоць не ўціраўшыся.
У мяне вада бяжыць у вішнёвым у садочку,
Вада ў кубочку, ручнік на калочку.
Вадзіцай умыйся, ручніком утрыся.
Ціхі, салавейка, не шчабячы рана,
Не шчабячы рана, да не будзі пана.
Наш пан маладзенькі, брацейка радненькі,
Учора звячора да мяне прыехаў,
А сягодня рана ўжо ад'язджае.
Мяне, маладую, адну пакідае.

## 537. ХОДЗІЦЬ, БРОДЗІЦЬ ПА СВЯТЛІЦЫ

Ходзіць, бродзіць па святліцы,
Тужыць, плачаць па сястрыцы:
— Аддаў сястру ў тую вёску,
Аддаў сястру ў бясхлебную.
А ў нядзелю па абедзе
Сястра ў госці к брату едзе.
Убачыў брацец, спалохаўся,
З соляй, з хлебам пахаваўся.
— Стой, брацец, не пужайся,
З соляй, з хлебам не хавайся!

Я ўчора вячэрала
І сягодня абедала, твайго жыцця адведала.
Учора ела хрэн да рэдзьку,
А сягоння капустачку.

## 538. СВЕТ З СВЕТАМ НЕ СТЫКАЕЦЦА

Свет з светам не стыкаецца,
Брат з сястрою чужаецца.

Сястра едзе к брату ў госці,
А брат сястры не ў радосці:

— Хавай, жана, хлеб-соль з стала:
Едзе ў госці сястра мая.

Сястра тое як зачула,
Назад коні завярнула:

— Пастой, братка, не чужайся,
З хлебам-соллю не хавайся.

Я ў дому абедала,
Прышла цябе адведала.

Не так цябе, дзетак тваіх,
Бо не маю ў сябе сваіх.

## 539. У МАЙГО БРАТА НОВА ХАТА

У майго брата нова хата,
Сені яго на памосце,
Едзе к брату сястра ў госці.
Брат у акенца пaглядае,
Жану сваю навучае:
— Прымай, жана, соль-хлеб з стала:
Едзе ў госці сястра мая.
Прымай, жана, соль-хлеб, кашу,
Нясуць чэрці сястру нашу.
Сястра тое й пачула,
Назад каня павярнула.
— Пастой, братка, не пужайся,

З хлебам-соллю не хавайся!
А я еду не для 'беду,
А я еду для савету.
Я ж, маладая, не ведала,
Села дома паабедала,
Тады братца адведала.
Прыедзь ка мне, братка, у госці,
Я ж нядзельку пагарую,
Але цябе пачастую.

## 540. ГЭЙ, ГЭЙ, ТРАВА З ТРАВОЮ НЕ ЗВІВАЙСЯ

Гэй, гэй, трава з травою не звівайся,
Брат сястрыцы не цурайся!

Гэй, гэй, сеў брат за стол паабедаць,
Глядзіць у акно — сястра едзе:

— Гэй, гэй, прымай, жонка, хлеб-соль з стала:
Едзе госця — сястра мая!

Гэй, гэй, прымай, жонка-красавіца,
Едзе сястра-гаротніца!

Гэй, гэй, сястра тое як учула,
Назад коні павярнула:

— Гэй, гэй, ох вы, коні вараныя,
Як жа вас памарыла.

Гэй, гэй, я ж не ехала ў абеды,
А я ехала ў адведы!

## 541. У ВАРОТАХ ВЕРБАЧКА КАЛЫХАЛАСЯ

У варотах вербачка калыхалася,
Я к братцу ў госці сабіралася:

Я й каліначкай умывалася,
Я й шарыначкай выціралася.

Прасіла каня — каня не далі,
Казала мужу — муж не паехаў.

Я ж, малодзенька, я й пяхотаю,
Я й пяхотаю да й ахотаю.

Падышла ж ды я пад вароцікі —
Ніхто не выйшаў, варот не адчыніў.

А й сядзіць брацец дый у ваконцы:
— А й прымай, жана, да хлеб-соль з стала:

А й ідзець у госці сястрыца мая —
І галодная, і халодная.

— Ты ж, мой братунька, ты не ўлякайся
І з хлебам-соллю ты не хавайся.

Не іду ж к табе ды дзеля абеду,
А іду к табе ды дзеля адведу.

## 542. У МАЙГО БРАТА НОВА ХАТА

У майго брата нова хата,
Нова хата на памосце,
Я ў брата адна госця.
— Прымай, жана, хлеб-соль са стала:
Едзе ў госці сястра мая.
А сястрыца, як учула,
Назад коні павярнула.
А брацятка здагадаўся,
Асядлаў коні дый пагнаўся.
Дагнаў сястру ў поўдарожкі,
Пакланіўся ёй у ножкі:
— Прашу, сястра, абедаці,
Маё гора адведаці.
— Ёсць у мяне хлеб у возе —
Будзе абед у дарозе.
Коні мае вараныя,
Як жа я вас памарыла?
Коні мае іздалёку —
Не каштавалі аброку,
Коні мае із Хіціцы —
Не каштавалі вадзіцы.

## 543. СЕНІ І ХАТА НА ПАМОСЦЕ

Сені і хата на памосце,
Ідзе сястра к брату ў госці —
І голая, і босая,
І халодная, і галодная.
Як на парозік ступіла,
Свайго брата старaніла.
— Знімай, жана, абед к сталу:
Ідзе наша абедніца —
І голая, і босая,
І халодная, і галодная.
— Не пужайся, мой брацeнька,
А я гэта як ведала,
Што я ў лузе паабедала
Чырвоную калінaчку.
Каліница як зок дак зок,
А ў мяне слёзкі як боб, як боб.

## 544. НА МАРОЗ ЗАРА ЗАГАРЭЛАСЯ

На мароз зара загарэлася,
К брату ў госцейкі захацелася.
Як задумала, дык паехала.
Еду поле, еду другое,
На трэцяе ўз'язджаю,
К варoцікам пад'язджаю.
Мой брацік за сталом сядзіць,
За сталом сядзіць, у вакно глядзіць.
— Прымай, жана, хлеб-соль са стала:
Едзіць сястра, сястра бядна.
А няхай яна ды сама ідзець,
А нашто ж яна ды дзяцей вядзець?
У хату ўвайшла, «дзень добры» дала,
Ніхто не сказаў «на здароўейка».
— А не бойсь, брацец, не пужайся,
З хлебам-соллю не хавайся.
Я учора, брацец, павячэрала,
А сягоння, брацец, паснедала,
Я цябе, брацец, адведала.
Прыбудзь, брацец, ка мне ў госці.
Хоць жа я, брацец, жабраваці буду —
Цябе, брацец, частаваці буду.

### 545. СТУКУ-ГРУКУ

Стуку-груку,
Стуку-груку на памосце,
Едзе к брату сястра ў госці.

Братавая,
Братавая хлеб саджае,
Братка сядзіць абедае:

— Прымай, жонка,
Прымай, жонка, хлеб і сала:
Едзе ў госці сястра мая.

Сястра гэта,
Сястра гэта як зачула,
Назад коні павярнула.

— Я ж не еду,
Я ж не еду піць, абедаць,
Толькі цябе пераведаць.

Ёсць у мяне,
Ёсць у мяне хлеб у возе,
Пабедаю я ў дарозе.

Прыедзь, братка,
Прыедзь, братка, ка мне ў Буду.
Я й гэтаму рада буду.

Хлеба-солі,
Хлеба-солі прыпазычу,
А ўсё ж табе дабра зычу.

### 546. ЗА ЛЕС СОНЦА ЗАХОДЗІЛА

За лес сонца заходзіла,
Сястра брата праводзіла.
Праводзячы, пастаяла,
Пастаяўшы, папытала:
— Калі, братка, у госці прыдзеш?
— Тады, сястра, у госці прыду,
Як у садзе вярба разаўецца,

Сястра мая разжывецца.
Сястра к вярбе сцежку ўбіла,
Вярбу слязой палівала,
Брата ў госці дажыдала.
Вярба ў садзе не развілася,
Сястра брата не даждалася.
— А дзеткі мае дробныя,
Запражыце мне коніка —
Паеду брата адведаю.
Сястра к двару пад'язджае,
Братка ў акно пазірае:
— Прымай, жана, хлеб-соль са стала:
Едзе сястра бяздольная,
Бяздольная, галодная.
Сястра гэта ўсё пачула,
Назад каня павярнула:
— Не пужайся, мой братка,
Я ўчора ў наймах была,
Хлеба-солі зарабіла,
Сваіх дзетак накарміла,
Сама села паабедала,
Прыехала братку адведала.

## 547. ОЙ, ШТО Ж ТО ДА ЗА СВЕТ НАСТАЎ

Ой, што ж то да за свет настаў,
Брат сястры любіць не стаў.

Брата хата на памосце,
Едзе к брату сястра ў госці.

Братка таго да не ведае,
Сеў з жаною да абедае.

Сястра на двор уз'язджае,
Братка ў вокны паглядае:

— Прымай, жонка, хлеб-соль з стала:
Едзе ў госці сястра мая.

Сястра тое да зачула,
Да цяжэленька ўздыхнула.

— Ох ты, братка, не пужайся,
З хлебам-соллю не хавайся,

Бо я ўчора павячэрала,
А сягоння паабедала,

А сягоння паабедала
І прыехала братка адведала.

Не так братка, як дзяцей тваіх,
Да не меўшы зроду сваіх.

## 548. ПРЫСНІУСЯ МНЕ СОН ДЗІУНЕНЬКІ

Прысніўся мне сон дзіўненькі,
Што памёр мой брат радненькі.
Вялю коней закладаці —
Ехаць брата адведаці.
Пад вароты пад'язджаю —
Брат вароты зачыняе,
Брат вароты зачыняе
Ды на мілую гукае:
— Хавай, жонка, хлеб-соль з стала,
Едзе ў госці сястра мая!
Сястра тое як пачула —
Назад коні павярнула.
— Ціха, братка, не пужайся,
З хлебам-соллю не хавайся.
Ёсць у мяне хлеб-соль у возе,
Паабедаю ў дарозе.
— Прашу цябе, сястра, ў хату,
Вялю жонцы абед даці.
— Я абеду не хацела б,
Твайго жыцця паглядзела б.
Не так цябе — дзетак тваіх,
Бо не маю ў хаце сваіх.
Братко потым зажурыўся,
Зняў шапачку, пакланіўся:
— Прашу цябе, сястра, ў госці,
Мая хата на помосце.
— Прашу цябе, братка, ў Буду,
А я ж табе рада буду,
Хлеба-солі нажабрую,
Цябе, браток, пачастую.

## 549. А У ПОЛІ ДУБЫ КРУМКАВАТЫЯ

А ў полі дубы крумкаватыя,
А мае браты ўсе й жанатыя,
Усе й жанатыя, усе й багатыя,
Аддалі мяне далёка замуж.
Я жыву гадок, я жыву другі,
Захацелася брата адведаць.
Як падумала, так паехала.
Прыязджаю я к брату у вароты,
Ажно мой брацік ля акна стаіць,
Ля акна стаіць, у акно глядзіць:
— Ай, жана, жана, прымай хлеб з стала,
Ой, рана, рана, прымай хлеб з стала:
А прыехала сястра меншая,
Сястра меншая, найбяднейшая.
— Ай, пастой, брацец, не ўлякайся ты,
З хлебам-соллю не хавайся ты,
Я к табе, браток, не піць, есці іду,
Я ж цябе, брацец, усё й адведаці,
І цябе, браток, і жану тваю,
І жану тваю, дробных дзетачак.
Запрагай, брацец, пару конікаў,
А садзі, брацец, ты сям'ю сваю,
А язджай, брацец, ка мне ў госцейкі.
Хоць жа я, браток, жабраваць буду,
Я ж цябе, браток, частаваць буду.
Я ж гарэлачкі на павер вазьму,
Я ж табе, браток, за каўнер залью.

## 550. У ЧУЖОМ ДВАРУ ВАДУ БЯРУ

У чужом двару ваду бяру,
Вада не бярэцца,
А брат сястры-бяздольніцы
Да не прызнаецца.

У чужом двару ваду бяру,
Вядзерачкі тонуць,
А брат сястру-бяздольніцу
Да вон з хаты гоніць.

— Адчыні мне, брацечка,
Да новыя сені,
Правядзі ад сабакаў,
Каб мяне не з'елі.

— А не буду бараніці,
А буду скаваці,
Каб ты болей не хадзіла
Ка мне жабраваці,

Каб ты болей не хадзіла
Ка мне жабраваці.
— Ой, паслухай, мой брацетка,
Што буду казаці.

Адна маці нас радзіла,
Адна гадавала,
Няроўную нам долечку
З табой надавала.

Табе дала, мой брацетка,
Долю медавую,
А мне дала, мой брацетка,
Долю слезавую.

## 551. У СУХІМ БАРУ ВАДУ БЯРУ

Ў сухім бару ваду бяру,
Вада не бярэцца,
Рад(ы)ня ж мая багатая
Ка м(ы)не не хінецца.
Сястра к брату,
Сястра к брату
Ішла начаваці,
Ішла начаваці,
А брат сястры,
А брат сястры
Не йшоў адкрываці.
— Мой брацетка, мой родненькі,
Адчыні ж мне дзверы,
Ды каб мяне, гаротніцу,
Сабакі не з'елі.

## 552. ШТО НА СВЕЦЕ ПАЧУВАЕЦЦА?

Што на свеце пачуваецца?
Брат сёстрамі не цураецца,
Папрасіў брат сёстраў у госцікі:
Багатую — у суботачку,
А бедную — у нядзелечку.
Багатая за сталом сядзіць,
А бедная — у канцы стала.
Багатая мёд, гарэлку п'е,
А бедная — і чысту вадзіцу.
Багатая песенькі пяе,
А бедная слёзачкі ліе.
— Чаму, сястра, песень не пяеш?
Ці ты, сястра, ноты не маеш,
Ці ты, сястра, песень не ўмееш?
— А я, сястра, нотачку маю,
А я, сястра, песенькі ўмею —
З багатымі пяяць не смею!

## 553. ШТО У БАРЫ ТРАШЧЫЦЬ ЦІ ТО ЛОМІЦЦА?

Што ў бары трашчыць ці то ломіцца?
Сястра да брата ў госці едзіць.
Ды ці не тая, што гарутная,
На благім конічку, ў благім вазочку?
Не вышаў братка сястру пераймаць,
А выслаў служак, каб перанялі:
— Вядзіце, служкі, яе на кухню,
Карміце яе хрэнам ды рэдзькай,
Паіце яе крынічнай вадой.
Што ў бары трашчыць ці то ломіцца?
Сястра да брата ў госці едзіць.
Ды ці не тая, што багатая?
Вышаў брацетка сястру пераймаць,
І сам вышаў, і служак выслаў:
— Бярыце, служкі, за белы ручкі,
Вядзіце, служкі, яе да пакоя,
Карміце сястру сытым пірагом,
Паіце сястру зялёным віном.

25. Зак. 262

## 554. А ШТО ЦЯПЕР ЗА СВЕТ НАСТАЎ?

А што цяпер за свет настаў?
А брат сясцёр да й на чэсць пазваў —
Багатырку і гарутніцу.
Па багатырку пару коней паслаў,
Гарутніцы праз людзей наказаў.
Багатырка ў дышле прыязджаець,
Гарутніца пехатой прыходзіць.
Багатырку пераймаць выйшаў,
Гарутніцы не хацеў і прызнаць.
Багатырку да й за стол пасадзіў,
Гарутніцу — да й на кончыку,
На кончыку да й на ўслончыку.
Багатырка і п'ець, і пяець,
Гарутніца слёзанькі ліець.
— Чаму, сястра, не п'еш, не пяеш,
Толькі, сястра, слёзанькі ліеш?
Ці песень не ўмееш, ці ноты не маеш?
— Я й песні ўмею, я й ноту маю,
Толькі, сястрыца, долі не знаю.
— Пойдзем, сястра, ды ў роўна поле,
Крыкнем, гукнем мы сваю долю.
Багатырцы — адклікнулася,
Гарутніцы — заікнулася.

## 555. ДА УЖО СОНЕЙКА ЗА ЛЕС КОЦІЦЦА

Да ўжо сонейка за лес коціцца,
Мне да матанькі ў госці хочацца.

Да ўжо сонейка закацілася,
Я ўжо ў матанькі нагасцілася.

Мая матанька, мая родная,
Да яна ж мяне да прапускала —

Да праз тры бары, бары цёмныя,
Да праз тры ракі беражыстыя,

Да праз тры ракі беражыстыя,
Да праз тры палі камяністыя.

А мой брацейка, а мой родненькі
Запрасіў у госці сваё сёстранькі.

Багатырачка за сталом сядзіць,
А мізэрная ў парозе стаіць.

Багатырачка мёд-гарэлку п'е,
А мізэрная дробны слёзы лье.

## 556. ДЗЕ ТОЕ ЖЫТА БІТА

Дзе тое жыта біта,[1]
Што два брацеткі жылі?

Ой, жылі яны, былі,
Папрасілі сясцёр у госці,

Папрасілі багатую,
Папрасілі й гаротную.

Па багату сястрыцу
Сем паслоў паслалі.

Багатую сястрыцу
На куце пасадзілі,

А мяне, гаротную,
Проці печы ў куточку.

Багатую сястрыцу
Мёдам, віном паілі,

А мяне, гаротніцу,—
Горкаю гарэлкаю.

Багатую сястрыцу
На тры ночкі запрасілі,

А мяне, гаротніцу,
Проці ночкі выправілі.

— Вы, ваўкі, вы, мядзведзі,
Ды збярыцеся ка мне,

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Ды збярыцеся ка мне,
Разарвіце ж вы мяне!

Багатая сястрыца
Па дварочку хадзіла,

Па дварочку хадзіла,
Яна ўсё гэта чула.

— Брацетка, саколіку,
Садзіся на коніка,

Дагані нашу сястру,
Дагані гаротніцу!

Папрасілі добра мяне,
Папрасіце ж вы яе!

Сем паслоў пасылалі,
Пашліце ж вы па яе,

У паўдарожкі перанялі,
Перайміце ж вы яе.

На куце пасадзілі,
Пасадзіце ж вы яе.

А ішла я лясамі,
Гукнула галасамі:

«Мёдам, віном напаілі,
Напаіце ж вы й яе.

На тры ночкі запрасілі,
Запрасіце ж вы й яе!»

## 557. ПА БАГАТУЮ СЯСТРУ

Па багатую сястру,
Па багатую сястру
Тры паслы пасылаюць,
А па мяне, бядняжачку,
А па мяне, бяздольную,
Праз людзей наказваюць.

Ды багатую сястру,
Ды багатую сястру
Сярод поля пераймаюць,
А мяне, бядняжачку,
А мяне, бяздольную,
У хаце на парозе.

Ды багатую сястру,
Ды багатую сястру
За прыбраны стол саджаюць,
А мяне, бядняжачку,
А мяне, бяздольную,
За печы, на лаўцы.

Ды багатую сястру,
Ды багатую сястру
Сахарнымі страўкамі кормяць,
А мяне, бядняжачку,
А мяне, бяздольную,
Поснай капустай.

Ды багатую сястру,
Ды багатую сястру
Усёй сямейкай прапушчаюць,
А мяне, бядняжачку,
А мяне, бяздольную,
Не відзяць, як ад'язджаю.

## 558. ЗАПРАГУ [redacted] ВАЛЫ ПАЛОВЫЯ *

Запрагу я валы паловыя
Да узару поле шырокае.[1]

Да ўзару поле шырокае,
Да й насею хмелю высокага,

Да насею хмелю высокага,
Да й накажу роду далёкаму.

Багатае сястры каня пашлю,
А беднае сястры перакажу.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Багатая сястра на кані едзе,
А бедная сястра дзетак вядзе.

Багатая сястра пірагі вязе,
А бедная сястра дзетак вядзе.

Багатая сястра на парозе,
А бедная сястра ў дарозе.

Багатая сястра на куце села,
А бедная сястра не паспела.

Багатая сястра — за сталамі,
А бедная сястра — за дз(і)вярамі.

Заедзе братка у камору:
— Адступіся, сястра, із(ы) дарогі.

— Ці я ў цябе, братка, не радзіма,
Што я ў цябе стаю за дз(і)вярыма?

— Каб ты, мая сястра, у жупане,
Ты б сядзела, сястра, радам(ы) з намі.

А ты, мая сястра, ў казачыне,
Нарабіла стыда ўсёй радзіме.

— Гайда, гайда, дзеткі, вы дахаты,
Не мяшай народу піць, гуляці.

## 559. ОЙ, ЧУЦЬ, ЧУЦЬ, У МАІМ(Ы) РОДЗЕ П'ЮЦЬ *

(і)Ой, чуц(і), чуць, ў маім(ы) родзе п'юць,
(і) Мяне, маладую, да сяней завуць.

Набярусь ума да пайду сама:
— Частуй, частуй, мой брацейка, я сястра твая.

Самі п'юць віно, а мне горкі квас,
Знаю, знаю, мой брацейка, нялюбая ў вас.

(і) Па багату сястру да й коні шлюць,
(і) А бед(ы)на сястра да й сама й прыйшла.

Багату сястру да й за стол садзяць,
А бедну сястру да ў парог ставяць.

А ці я ў вас, браткі, да й не радзіна,
А ці я ў вас, браткі, да й не рабіла?

— Ай, ты ў нас, сястронка, уся й радзіна,
Ай, ты ў нас, сястронка, усё рабіла.

А як ты, сястронка, бедная ўдава,
Дак пастой, сястронка, ля парога.

## 560. РАСКАПАЮ ГАРУ ВЫСОКУЮ

Раскапаю гару высокую
Да насею хмелю зялёнага,
Да й паклічу роду далёкага.
Па багату сястру тройкай едуць,
А па бедну сястру пяшком ідуць.
Багатая сястра тройкай едзе,
А бедная сястра пяшком ідзе.
Багатая сястра за сталамі сядзіць,
А бедная сястра за дзвярамі стаіць.
Багатая сястра мёд, гарэлку п'е,
А бедная сястра слёзы лье.
Ідзе братка із каморанькі:
— Уцякай, сястра, із дарожанькі!
— Да ці я ж, братка, не сястра ваша,
Што не сяджу, братка, дзе сястра старша.
— Каб жа ты, сястра, ў жупаніне,
Ты б сядзела пры ўсёй радзіне,
А то ты, сястра, у серай свіціне,
Нарабіла сраму ўсёй радзіне.

## 561. ЗАЙДЗІ, ЗАЙДЗІ, ВЯЧЭРНЯЯ ЗАРА

Зайдзі, зайдзі, вячэрняя зара,
Прыедзь, прыедзь, багатая сястра.[1]

Ўзышла, ўзышла паўночная зара,
Прыехала убогая сястра.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Едзе, едзе, дарожкі пытае,
Братка стаіць — слоўцам не вітае.

Мінай хату, мінай і другую —
Не для цябе я абед гатую.

Увайшла ў двор, ўвесь двор зарасіла,
Ў хату ўвайшла, ўвесь род разжаліла.

Зарасіла дробнымі слязамі,
Разжаліла вернымі славамі.

Каб я была сястронка багата,
То сядзела б за столікам у брата.

А як жа я сястронка убога,
То пастаю блізенька парога.

## 562. У ЧУЖЫМ ДВАРУ ВАДУ БЯРУ

У чужым двару ваду бяру,
Вада не бярэцца,
Мая радня багатая
Ка мне не хінецца.
У чужым двару ваду бяру,
Вядзёрка не тоніць,
Мая радня багатая
Ка мне не прыходзіць.
Я ж — бедная гаротніца.
А дзе ж мне падзецца?
Ой, пайду я, ой, пайду я
Да брацяткі ў госці.
— А брацятка мой родненькі,
Адчыні мне сені,
А каб мяне, гаротніцу,
Сабакі не з'елі.
— А хай ядуць, а хай ядуць —
Трэба зацкаваці,
Чаго гэта гаротніца
Ідзець начаваці?

## 563. ОЙ, У ЛУЗЕ КАЛІНА-МАЛІНА

Ой, у лузе каліна-маліна.
— Куды едзеш, жана мая міла?

— Вот я еду да брацейкі ў госці.
Пастаўлю каня ў вароцейках,

Сама пайду, стану пад аконца —
Не прамовіў брат да мяне слоўца.

Вот пайду я, стану пад другое —
Замкнёны аконцы абое.

Пайду я да брата ў новыя сені —
У майго брата вячэраць паселі.

— Чаму ж цябе, сястра, сабакі не з'елі,
Як мы без цябе вячэраць не селі?

Пайду я ў вішнёвенькі садок,
Ёсць у садзе цукровенькі гарох,

Ёсць у брата цукровенькі гарох,
Я кінуся свайму брацейку да ног.

Ёсць у садзе цукровенькі аграст,
Я перапрашу свайго брацейку зараз.

Ёсць у садзе ружовыя кветкі,
Пайду перапрашу я братнія дзеткі.

Вот буду ж я каліначку есці,
Ці не прыдуць ад брацейкі звесці.

Багдай мяне каліна ўдавіла,
Чым я свайго брацейку ўгнявіла.

## 564. НІХТО ПА МНЕ НЕ ВЕДАЕ

Ніхто па мне не ведае,
Аб чом я бядую,
Аб чом я бядую.

Радня мая багатая —
Я адна гарую,
Я адна гарую.

Пайду сяду, пайду сяду
Ў зялёным рамоне,
Ў зялёным рамоне.

Сястра мая багатая
Са мной не гавора,
Са мной не гавора.

Я паеду, я паеду
Да братоў у госці,
Да братоў у госці.

Пад'язджаю пад братнія
Пад новыя сені,
Пад новыя сені.

Ды ўжо два браткі мае
Вячэраці селі,
Вячэраці селі.

— Ды чаму цябе, сястрыца,
Сабакі не з'елі,
Сабакі не з'елі?

Ды чаму цябе, сястрыца,
Ўпол не разарвалі,
Ўпол не разарвалі?

Як мы без цябе, сястрыца,
Вячэркі не з'елі,
Вячэркі не з'елі.

## 565. САБІРАЛІСЯ СЕСТРЫ

Сабіраліся сёстры
І пайшлі к брату ў госці.
Багатую сястру
Сустрэў брат на дарозе,
А бедную сястру —

У сенцах на парозе.
Багатую сястру
Садзіць на куту,
А бедную сястру —
Напроціў печы.
Для багатай сястры —
Напіткі да наедкі,
А для беднае сястры —
Сухія скарынкі.
— Пі, сястра, піва,
Гэта ж табе не дзіва.
— Штосьці мне, братка,
Піва не п'ецца,
Што наша бедная сястра
Слёзкамі льецца.

## 566. ДА БЫЛІ Ў ТАТКІ ДА ДЗВЕ ДАЧУШКІ

Да былі ў таткі да дзве дачушкі,
Да аддаў татка абедзвёх замуж —
Адну далёка, вельмі багата,
Другую блізенька, вельмі бедненька.
І была ў таткі да бяседачка.
Па багатую татачка паслаў,
А бяздольніца і сама прыйшла,
І сама прыйшла, у парозе стала.
Багатырачка ў таткі пытае:
— Да мой татачка, да мой міленькі,
Хто ж гэта ў нас у парозе стаіць?
— Гэта стаіць наша бяздольніца.
— Ідзі, сястрыца, прывітаемся,
Пра сваю долю распытаемся.
Пойдзем у поле, будзем гукаці,
Сваей, сястрыца, долі шукаці.
Ой, як гукнула багатырачка —
Яе долечка з садочку ідзе,
З садочку ідзе, як роза, цвіце
Да пытаецца ў багатырачкі:
— А ці ўсе шубы ты панасіла?
Я табе болей прызапасіла.
Ой, як гукнула ды бяздольніца —
Яе долечка з балота ідзе,
З балота ідзе, абмачыўшыся,

Абмачыўшыся, абрасіўшыся,
Дай пытаецца ў бяздольніцы:
— А ці ўсе крэўзы ты панасіла?
Я табе болей прызапасіла.

## 567. ВАРЫЎ БРАЦЕЦ ПІВА

Варыў брацец піва,
Нарабіў людзям дзіва,
Зазваў брацец гасцей
І багатую сястру.
А худобка не ўпірліва,
Прышла к брату на піва.
А брат гасцей частуе
І багатую сястру,
А худобачку мінае.
Пашла худобачка, заплакаўшы,
Брату не дзякаваўшы.
Як пайшла сястра з піру,
Дык і пір стаў невясёлым,
Стаў і мёд не салодак
І гарэлка не горка.
А брат па двару ходзіць,
Сваіх сыночкаў просіць:
— Ідзіце, сынкі, у нову стайню,
Сядлайце пару каней
І едзеце ж наўздагоны,
Вярніце маю сястру,
Маю сястру, вашу цётку.
Худобка не ўпірліва,
Вярнулася к брату на піва.
Стаў і пір весяленькі,
Стаў і мёд саладзенькі
І гарэлка горка.

## 568. ПРЫПЛЫВУСЯ ПАД БРАТКОВЫ СЕНІ

Прыплывуся пад братковы сені,
Ужо ў браценькі за абед селі.[1]

— Ой, дзень добры да вашае хаты!
Ой, дзе ж ваша родненькая маці?

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

— А дзе наша родненькая маці?
Пайшла маці густа жыта жаці!

— Кідай, браток, абед абедаці,
Ідзі ў поле маценькі шукаці.

Кінуў браток абед абедаці,
Пайшоў у поле маценькі шукаці.

— Годзе, маці, густа жыта жаці,
Прыйшла дачка бяду бядаваці!

Прыйшла маці із поля із жніва,
Сядзіць дачка з жалю ледзьве жыва.

— Годзе, донька, бяду бедаваці,
Сядай з намі абед абедаці!

— Ішла, мамка, барамі, лясамі,
З'ела хлеба з дробнымі слязамі.

## 569. У МАЙГО БРАТА — НОВА ХАТА

Ў майго брата — нова хата,[1]
А сенечкі з высакосці,
Едзе сястра к брату ў госці.
Брат у аконца паглядае,
Сваю жонку навучае:
— А жана мая, жана,
Прымай хлебец са стала:
Едзе ў госці сястра мая.
Сястра гэта пачула,
Назад каня павярнула.
— Ты, мой братка, не чужайся,
З хлебам-соллю не хавайся.
А я ўчора вячэрала,
А сягоння абедала,
Цябе, братка, адведала.
— А ідзі, жонка ў каморачку,
Нясі ж тую барэлачку,
А дзе ёсць гарэлачка.
Будзем сястру частаваці,
Пра здароўечка пытаці.

[1] Кожны радок паўтараецца.

## 570. ЖУРБА МАЯ, ЖУРБА, ЯК ТЫ ЖУРЛІВА

Журба мая, журба, як ты журліва,
Іссушыла ты мяне да з ножак зваліла.

А я ў журбу тую вельмі не ўдаюся,
Пайду к карчомкі гарэлкі нап'юся.

Гарэлка не п'ецца, мне есці не смачна,
Мяне, маладую, па лічаньку значна.

Разлілося сіне мора і быстрыя рэкі,
Памёр ацец, маці — і я сірата навекі.

Памёр ацец, маці і ўся радзіна.
Дзе я прыхілюся, бедна, нешчасліва?

Пайду да братэйка, братэйка прыймае,
А мая брацīха скоса паглядае.

— Ой, мая ты міла, не дзівіся скрыва,
Бо маёй сястрыцы не штодзень гасціна.

## 571. А У ПОЛІ СОСНА*

А у полі сосна,
Пад соснаю вішня,
Ўся мая радзіма
На гулянне выйшла.[1]

Радзіма гуляе,
Мядок папівае,
А у быстрай рэчцы
Вада высыхае.

У рацэ высахне —
Ў крыніцу прыбудзе.
Як памрэ матуля —
Гасціны не будзе.

---

[1] Два апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Палажу я кладку
Цераз быстру рэчку,
Пайду да матулі
Хоць у цёмну ночку.

А як тая кладка
Набок пахінецца,
Як памрэ матуля,
Гасціна мінецца.

Брат сястроўцы кажа,
Сястра выступае,
Сядзіць братавая,
Скрыва паглядае.

— Ах, мая ж ты міла,
Не паглядай скрыва,
Бо маёй сястронцы
Гасціна не міла.

## 572. ПРАЗ РЭЧКУ МАСТОЧКІ МАСЦІЛА

Праз рэчку масточкі масціла,
К брацетку ў госці хадзіла.

Гашчу я нядзельку, другую
Ад брацеткі слоўца не чую.

Выйду на падвор'е слухаці,
Што будзе братоўка казаці.

Ой, чую — братоўка гаворыць:
— Нялюба госця залвіца,

Нялюбая госця залвіца,
А любая госця сястрыца!

За мяне брацетка ўступіўся,
За мяне брацетка ўступіўся:

— Нялюбая госця швагерка,
А любая госця сястрыца!

### 573. ГЭЙ, ГЭЙ, МІЖЫ ГОР БЯРОЗА СТАЯЛА

Гэй, гэй, міжы гор бяроза стаяла,
Аж да зямлі веццe спускала.

Гэй, гэй, я там, маладзенька, хадзіла,
Залатое веццe ламіла,

Гэй, гэй, цясовы масточкі масціла,
Да брацеткі ў госці хадзіла.

Гэй, гэй, я ў брацеткі ночку начую —
Ад брацеткі слова не чую.

Гэй, гэй, выйду я на падвор слухаці,
Што будзе братоўка казаці.

Гэй, гэй, гукае братоўка мяне:
— Нямілая госця залвіца!

Гэй, гэй, нямілая госця залвіца,
Мілейшая госця сястрыца!

Гэй, гэй, за мяне брацейка ўступіўся
І са мной гарэлкі напіўся.

— Гэй, гэй, я выкачу бочку мядочку,
Садзіся, сястрыца, ў радочку,

Гэй, гэй, я выкачу бочку пшаніцы
Для сваёй роднай сястрыцы!

# РАЗМОВА СЫНА З МАЦІ

## 574. ОЙ ТЫ, ГАЮ, ГАЮ ЗЕЛЯНЕНЬКІ

— Ой ты, гаю, гаю зеляненькі,
Што цябе, гаю, гэтак ссушыло?

Ці вада карэнне пападмывала,
Ці бура вяршочкі пазаломвала?

— Не вада карэнне пападмывала,
Не бура вяршочкі пазаломвала,

А маці сыночка ўсё праводзіла,
Пада мною, гаем, да спачывала.

Пада мною, гаем, да спачывала,
Слёзкамі карэнне пападмывала,

Слёзкамі карэнне пападмывала,
Думамі вяршочкі да пассушвала.

## 575. У ВІШНЁВЫМ САДОЧКУ

Ў вішнёвым садочку
Рута-мята ўсходзіць,
Там маці сыночка
За ручаньку водзіць.

Водзіць яна, водзіць,
Праўданькі пытае:
— Ды каго сыночак
Болей паважае:

Маладую жонку,
Ці родную сястронку,
Ці цёшчу чужую,
Ці мамку старую?

26 Зак. 262

— Міла мне і жонка,
Міла і сястронка,
Мілая мне цёшча —
Маці найдарожша.

Як мяне раджала,
Усю ноч не спала,
Белую сарочку
На смерць гатавала.

Гадуй, маці, доньку
У чужую старонку,
Сына ўзгадавала —
Нявестку прыдбала.

Вырасце дачушка,
Возьмуць яе людзі...
Хто ж табе, старэнькай,
Пасцель слаці будзе?

Пакуль дочка сцеле,
Ціха прымаўляе:
— Хай мая матулька
Добра спачывае.

Будзе слаць нявестка,
Стане праклінаці:
— Каб маёй свякроўцы
Назаўтра не ўстаці.

### 576. ДАРОЖКІ, ДАРОЖКІ

Дарожкі, дарожкі,
Жоўтыя пясочкі,
А на тых дарожках
Тры сады зацвіло.

У першым садочку
Салавей пяе,
У другім садочку
Зязюля куе,

А ў трэцім садочку
Маці з сынам ходзіць,
Маці з сынам ходзіць,
Паціху гаворыць:

— Ой, сыну мой, сыну,
Што найміленшае?
Хто ў цябе найвярнейшы:
Ці маці, ці цёшча, ці жонка?

— Цёшча верна для свайго прыхілля,
Жонка верна для любога жыцця.
Няма найвярнейшай
Над матку раднейшу!

Як мяне насіла,
Уголас галасіла,
Як мяне радзіла,
Канала, ўмірала,

К зямлі прыпадала,
Грудзьмі даставала:
«Ой, судзі мне, божа,
Сына падгадаваці
Да й вяселля даждаці».

### 577. САДЫ МАЕ, САДЫ!

Сады мае, сады, сады зеляныя!
У першым садочку зязюля кукуе,

У другім садочку салавей шчабеча,
У трэцім садочку сын з маткай гаворыць:

Ой, сыну, мой сыну, хто табе мілейшы:
Ці цёшча, ці жонка, ці родная маці?

— Ой, міла мне цёшча ў сваім прывеце,
Ой, міла мне жонка, як яблынька ў цвеце,

Мілей жа мне маці, як усё на свеце.
Як мяне насіла, цяжанька хадзіла,

Як мяне радзіла — канала, умірала,
Смярцельну кашулю сабе гатавала.

### 578. САДЫ МАЕ, САДЫ, САДЫ ЗЕЛЯНЫЯ!

Сады мае, сады, сады зеляныя!
А ў першым садочку зязюлька кукуе,

Ва другім садочку сын з маткаю ходзіць,
Сын з маткаю ходзіць, хораша гаворыць:

— Ой, сыну, да сыну, хто табе наймілейшы:
Ці цешча, ці жонка, ці маці радненька?

— Во, мне цешча міла, як майму прывету,
Во, мне жонка міла, як ружову цвету,

А матка радненька да й мне наймілейша.
Цяжанька радзіла, цяжэй гадавала,

У шаўковы пялюшкі мяне спавівала,
У цясовай калысцы мяне калыхала,

У чырвонай каліне мяне купавала
Дый вернае служкі сабе наджыдала.

### 579. ЯК У ПЕРШЫМ ДА У САДОЧ(Ы)КУ*

Як у першым да ў садоч(ы)ку(і)
Зязюлечка кавала(і),
А ў другім(ы) жа і да садоч(ы)ку(й)
Маці з сынам стаяла.

Маці з сынам стаяла,
Маці з сынам(ы) да стаяла,
Сына праўду пытала,

Сына праўду пытала ж(ы):
— Скажы, скажы, мой да сыночак,
Хто на свеце мілее?

Хто на свеце мілее ж(ы):
Ой, ці жон(ы)ка, ой, ці цеш(ы)ча,
Ці родная мам(ы)ка,

Ці родная мам(ы)ка ж(ы)?
— А мне жон(ы)ка для закону,
Цешча для савета,

Цешча для савета,
А мне род(ы)ная мая мам(ы)ка
Мілей ўсяго света,

Мілей ўсяго света.
Яна мяне дажыдала(і)
І ў люлечцы калыхала,

У люлечцы калыхала ж(ы):
«Люляй, люляй, мой да сыночак,
Пераменачка малая,

Пераменачка малая.
Як вырасцеш, мой да сыночак,
Пераменіш да мам(ы)ку».

## 580. ГАЮ МОЙ, ГАЮ, ГАЮ ЗЕЛЯНЕНЬКІ

Гаю мой, гаю, гаю зеляненькі,
У цябе, гаю, церамкі стаялі.

У адным церамку зязюля кукуе,
У другім церамку удовушка гаруе,

У трэцім церамку маці сына ўбірае.
Маці сына ўбірае, у сына пытае,

Маці сына ўбірае, у сына пытае:
— Ах, сыночку мой, сыночку, каго табе жалка?

— Жалка мне цешчу — цешча для прывету,
Жальчэй цябе, мамка, як белага свету.
Ты ж мяне насіла — цяжанька ўздыхала,

Ты ж мяне радзіла — кроў пралівала.

Ты ж мяне радзіла — кроў пралівала,
Ты ж мяне гадавала — ночкі не спала.

## 581. ДАРОЖКА, ДАРОЖАНЬКА

Дарожка, дарожанька,
Да ты шырокая [1].

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Каля той дарожанькі
Стаіць тры садочкі.

А ў першым садочку
Зязюля кукуе,

А ў другім садочку
Салавеюшка свішча,

А ў трэцім садочку
Маці з сынам гуляе.

Маці з сынам гуляе,
Маці сына пытае:

— Скажы, мой сыночак,
Хто з нас трох мілей:

Ці жонка, ці цёшча,
Ці родная маці?

— Што ты, мамка, пытаеш,
Ці ты сама не знаеш:

Цёшча для прывету,
Жана для савету,

А родная мамка —
Мілей усяго свету.

Жана калі памрэ —
З другой ажанюся,

Цёшча калі памрэ —
Без цёшчы абыйдуся,

Мамка калі памрэ —
Слязамі зальюся.

## 582. А ЙШОЎ Я ДАРОЖАЧКАЙ

А йшоў я дарожачкай —
Стаіць тры садочкі.

А й я ў першым садочку
Зязюля кукуе,

А ў другім жа садочку
Салавейка свішча.

А ў трэцім садочку
Маць з сынам гаворыць:

— Ой, сынку мой, сынку,
Скажы ўсяе праўду:

А й хто ж табе, сынку,
Хто з нас трох пamілее:

А ці цёшча, ці жонка,
Ці родная маці?

— Ай, маці, мая маці,
А што ж ты пытаеш?

А што ж ты пытаеш,
Сама пра то знаеш.

А цёшча мне міла,
Міла ля заезду,

Ай, жонка мне міла,
Міла для савету,

Ай, маці мне міла,
Мілей усяго свету.

Ай, на то ж яна міла,
Што на свет пусціла,

А паіла хворага,
Раджала — уміpала,

Гадавала — гаравала,
Ночкі не ўсыпала,

А з почапак
Ножак не вымала.

## 583. РОШЧА МАЯ, РОШЧА

Рошча мая, рошча,
Рошча зялёная.

Ах, і ў той жа рошчы
Тры двары стаяла.

А ў першым дварочку
Маць сына вітала:

— Ай, сынка, мой сынка,
Скажы мне ўсю праўду,

Скажы мне ўсю праўду,
Каго лучша любіш:

Ці цёшчу, ці жонку,
Ці родную мамку?

— Ай, люблю я цёшчу,
Цёшчу для заезду,

Ай, люблю я жонку,
Жонку для прывету.

А люблю я мамку
Лучша ўсяго свету.

А як памрэ цёшча,
Гарэлкі нап'юся,

А як памрэ мамка,
Слязою зальюся.

## 584. ОЙ, У РОЎНЫМ ПОЛІ СТАЯЦЬ ТРЫ САДОЧКІ

Ой, у роўным полі стаяць тры садочкі.
У адным садочку салавей шчабеча,
У другім садочку зязюлька кукуе,
У трэцім садочку сын з мамкай гаворыць:
— Ой, сынку, мой сынку, сынку найраднейшы,
Скажы мне, мой сынку, хто ў цябе мілейшы:
Ці цешча, ці жонка, ці родная мамка?
— А мне цешча міла толькі для прывету,

А мне жонка міла з вечара да свету,
А мне мамка міла ад веку да веку.
Як мяне насіла — цяжынька хадзіла,
Як мяне раджала — канала-ўмірала,
Мяне гадавала — ночкі недаспала.
А як памрэ цешча — я й так абыйдуся,
А як памрэ жонка — з другой ажанюся,
А як памрэ мамка — слязой абальюся.

## 585. ГОМАН, ГОМАН НА ВУЛІЦЫ

Гоман, гоман на вуліцы,
Гоман, гоман на шырокай.
Пойдзем, браткі, паслухаем,
Што за гоман на вуліцы.

То сын мамку з двара гоне:
— Ідзі, ідзі, мая мамка,
Ты мне дужа надаела,
А жонцы наўпярэчыла.

Пайшла маці заплакаўшы,
Свой родны кут пакінуўшы.
Ідзе поле і другое,
Дый трэцяе ўжо мінае.

Шуміць, шуміць дубравачка,
Гоне, гоне пагонічка —
Сын за мамкай ўдагон едзе:
— Ой, вярніся, мая мамка.

Мне без цябе бяда стала:
Мой лепшы конь на стайні паў,
Жана мая зажурылася,
Мае дзеткі заплакалі.

## 586. ШТО Ж ГЭТА ДА Й ЗА СВЕТ НАСТАЎ*

(і) Што ж гэта да й за свет(ы) настаў,
Што сын(ы) мамачку з двара прагнаў.

Што ж(э) сын мамачку з двара прагнаў.
Пашла ж мамачка рыдаючы.

Пашла мамачка рыдаючы,
Свайго сына праклінаючы.

Свайго ж(ы) сына праклінаючы:
— Вой, штоб(ы) табе, мой сынок родны,

Ой, штоб(ы) табе, мой сынок(ы) родны,
Калі б табе бог долі ж(ы) не даў,

Калі б(ы) табе бог долі ж(ы) не даў,
Што ты мамачку з двара ж(ы) прагнаў,

Што ж(ы) ты мамачку з двара прагнаў.
Прайшла поле, прайшла другое,

Прайшла ж(ы) поле, прайшла другое,
Шуміц(і)ь, шуміць лес-дубровачка,

Шуміц(і)ь, шуміць лес-дубровачка,
Бяжыць, бяжыць след пагоначка.

Бяжыц(і)ь, бяжыць след(ы) пагоначка:
— Вярнісь, вярнісь, мая мамачка.

Вярнісь, вярнісь, мая мамачка,
У маём(ы) двара няшчасце стала.

Ў маём(ы) двара няшчасце стала,
Жана мая дзіця прыспала.

Жана ж(ы) мая дзіця прыспала,
Самы лепшы конь на стайні ўпаў.

Самы лепшы кон(і) на стайні ўпаў,
Каровачкі ўсе пагінулі.

Каровачкі ўсе пагінулі,
Авечачак ваўкі паелі.

## 587. А ШТО ГЭТА ЗА СВЕТ НАСТАУ

А што гэта за свет настаў,
Што сын матку з двара прагнаў?
Ішла матка лясінаю,
Прыкрывалася лісцінаю.

А што гэта ў лесе гукае?
Ажно гэта сын матку шукае.
— Вярніся, мама, вярніся,
У мяне дома бяда стала:
Жонка сына прыспала,
Сівы конь на стайні паў.
Няўжо мяне бог скараў,
Што я матку прагнаў?

## 588. ГОМАН, ГОМАН НА ВУЛІЦЫ

Гоман, гоман на вуліцы,
Пойдзем, братцы, паслухаем,
Пойдзем, братцы, паслухаем,
Што за гоман на вуліцы.
Аж сын матку з двара гоніць:
— Ідзі, маці, з майго двара,
Ў мяне, маці, банкет будзе —
Мне праз цябе стыдна будзе.
Ў цябе, маці, каптан чорны,
Ў мае жаны саян добры.
Пайшла маці, заплакаўшы,
Як зязюля закукаўшы.
Ішла поле і другое,
На трэцяе ўзыходзіла
Да й прылегла к зямелечцы,
Да й прылегла, паслухала:
Ці не шуміць дубровачка,
Ці не стогне дарожачка?
Шуміць, шуміць дубровачка,
Стогне, стогне дарожачка —
Аж сын матку даганяе:
— Вярнісь, вярнісь, мая маці,
Ў маім дварэ бяда стала:
Жана сына спарадзіла,
Спарадзіўшы, схараніла,
Схараніўшы, сама ўмёрла,
Конь вароны на стайні ўпаў.
— Стань, сыночак, за кусточак,
Паглядзі наскрозь лісточак:
Ці відна табе дарожачка?
Так мне відна ў твой двор ісці.

## ПЕСНІ ЎДАВЫ

### 589. ОЙ, ЗЕЛЕНА, ЗЕЛЕНА

Ой, зелена, зелена
У лузе трава.
Ой, молада, молада,
Молада ўдава.

Чаго ж яна молада?
Без мужа жыла.
Ні збіта, ні зжурана,
Без клапот жыла.

### 590. ОЙ, СЯДУ Я ПАД АКНОМ

Ой, сяду я пад акном,
Накрыюся палатном.

Ой, гляну я чрыз акно:
Сонца, месяц высако.

Сонца, месяц высако,
Брат з сястрою даляко.

Ой, брацятка на вайне —
Не ведае аба мне,

А сястрыца ў няволі —
Не вернецца ніколі.

Ой, пайду я ў садок,
Стану зелле капаці,

Стану зелле капаці,
Стану зелле прымаўляці.

Стала зелле прымаўляці,
Кажуць, ідзі мужа хаваць!

Капай зелле жоўты цвет,
Будзе дзетак поўны свет.

## 591. ОЙ, У ПОЛІ КАЛІНА

Ой, у полі каліна
Адна адну туліла,

А мне, беднай сіраце,
Прытуліцца няма дзе.

Зямля з небам шырока,
Ацец з маці далёка,

А брацейка на вайне —
Не ведае аба мне.

А сястрыца ў няволі —
Не відзімся ніколі.

Вот мой мілы захварэў,
Ён зелейка захацеў.

Ну, пайду ж я ў вішнёвы сад,
Стану зелейка капаць.

Я да саду не дайшла,
За мной поштачка прышла.

— Кідай зелле далою —
Астанешся ўдавою.

Кідай зелле з кветкамі —
Астанешся з дзеткамі.

Кідай зелле жоўты цвет —
Будзе ўдоўкі поўны свет.

## 592. ДУБРОВУШКА ЗЯЛЁНА МАКУШАЧКУ СХІЛІЛА

Дубровушка зялёна макушачку схіліла,
Умер бацька, умерла матка, засталася я адна.
Сядзіць свёкар на палу, журыць маю галаву.
Як пайду я ў бор зялёны зелейка капаці,
Зелле капаць, свайго мілога ўзлячаць.
Я й да бору не дайшла, за мной пошта прыйшла.
Кідай зелле галавой, застаешся ўдавой.
Кідай зелле вельмі, застаешся з дзецьмі.
Кідай зелле жоўты цвет, будзе цябе поўны свет.

## 593. ЛЯЖЫЦЬ МІЛЫ НА ПАЛУ

Ляжыць мілы на палу,
Да звязаўшы галаву,

А мілая на лаве
Абліваецца слязамі.

— Ціха, міла, не тужы,
Можа, яшчэ буду жыў.

Ідзі, міленька, да гаю,
Знайдзі зелле размаю,

А перамый на рацэ,
Высуш яго на руццэ.

Высуш яго на руццэ
І навары ў пітушцэ.

Я да гаю не дайшла,
Да за мною пошта ішла,

А я пошты не знаю,
Усё зеллечка капаю.

— Кідай зелле капаці,
Ідзі мужа хаваці.

Кідай зелле з травою,
Застаешся ўдавою.

Кідай зелле з кветкамі,
Застаешся з дзеткамі.

А ў том зелле жоўты квет,
Будзе дзетак поўны свет!

## 594. ОЙ, УСТАНУ Я РАНЕНЬКА

Ой, устану я раненька
Да умыюся бяленька.

Ой, сяду я пад акном
Да утруся палатном.

Ой, гляну я ў садочак —
Аж вішанькі гнуцца,

А мне, жонцы маладой,
Няма дзе прытуліцца.

Ацец, матка далёка,
А да неба высока,

А брацейка на вайне,
Той запомніў аба мне.

Ляжыць мілы на палу,
Да звязаўшы галаву:

— Ціха, мілая, не плач,
Ідзі зелле накапаць!

Я да зелля не дайшла,
Да за мной пошта йшла.

— Кідай зелле з травою,
Асталася ўдавою,

Кідай зелле з кветкамі,
Асталася з дзеткамі.

Кідай зелле жоўты цвет,
Будзе сірат поўны свет.

## 595. ГЭЙ, БУРА ЛЕСУ Й ПАЛАМАЛА

Гэй, бура лесу й паламала,
Адна ліпа засталася,
Галлём неба даставае,
Лісцем землю пакрывае.
Пад той ліпаю стаіць ложа малявана,
А на той ложы да паніч ляжыць,
А над ім жа жана стаіць.
Жана стаіць, ручкі ломіць:
— Пры чым, мужу, пакідаеш?
— Пакідаю не ў голадзе,
Пакідаю ў срэбры, у злаце:
Два konічкі вараненькія,
Два волікі палавенькія.
Валы рыкаюць на аборы,
Клічуць пана да каморы,
Коні ржуць на стаенцы,
Клічуць пана да святліцы.

## 596. ОЙ, УСТАНУ Я РАНЕНЬКА

Ой, устану я раненька
Ды умыюся бяленька.

А стану я пад акном
Ды вытруся палатном.

Як гляну я ў вішнеў сад —
Аж там вішанькі стаяць.

Вішня к вішні хіліцца,
Лісток з лістком ліпнецца,

А мне, беднай сіраце,
Прыхіліцца няма дзе:

Сонца, месяц высока,
Татка з мамкай далёка.

Родны братка на вайне —
Не ведае аба мне,

А сястрыца у няволі —
Не адведае ніколі.

Ляжыць мужу на палу,
Дура маю галаву:

— Годзе, міла, плакаці,
Ідзі зелле капаці.

Як пайду я да гаю
Капаць зелле, што знаю.

Я й да гаю не дайшла,
За мной пошта ўслед прыйшла.

— Кідай зелле капаці,
Ідзі мужа хаваці.

Я й зеллейка збраснула
І ручкамі спляснула:

— Расці, зелле, травою,
Я асталася ўдавою.

Расці, зелле, кветкамі,
Асталася з дзеткамі.

Расці, зелле жоўты цвет,
Я ўдоўка на ўвесь свет.

## 597. А УСТАНУ Я РАНЕНЬКА

А ўстану я раненька,
А ўмыюся бяленька,
Сяду сабе пад акном
І ўтруся рукавом.
Адчыніла я акенца
І зірнула я ў садочак,
Аж ў садочку вішанькі.
Вішнік вішніку хіліцца,
А мне, беднай сіраце,
Няма к каму схіліцца!
Мой міленькі на вайне —
Не ведае аба мне,
А сястрыца і ў няволі —

Не бывае ніколі.
Мой свёкарка на палу
Журыць маю галаву,
А свякроўка на печы
Расселася крычачы.
Ясен месяц высока,
Айцец, матка далёка.

## 598. Я НЯДАЎНА І ЎДАВОЮ СТАЛА

Я нядаўна і ўдавою стала
Да багата гора і вазнала.

Злыя людзі мяне ізбівалі:
— Ідзі замуж, добра табе будзе.

Я людскую волю ўчыніла,
Пашла замуж — галоўку ўтапіла.

Утапіла галовачку з мосту,
Пашла замуж за небальшога росту.

Утапіла галоўку ў крыніцу,
Пашла замуж за горкага п'яніцу.

## 599. ІЗ-ПАД ДУБА, З-ПАД БЯРОЗЫ

Із-пад дуба, з-пад бярозы
Рэчка выцякае,
Жалка мужу жонку біці —
Жонка маладая.

Трэба яе навучаці
Усякай рабоце:
Шыці, прасці, кросны ткаці,
Белу пасцель слаці.

— Ой, бадай ты, пасцель бела,
Пылам запылела,
Як я, млада-младзюсенька,
Рана аўдавела!

## 600. ОЙ, ВЯРБА, ВЯРБА КУДРАВАЯ

— Ой, вярба, вярба кудравая,
Хто табе, вярба, кудры развіў?
— Развілі кудры буйныя ветры.

— Ой, удава, удава маладая,
Хто табе, удава, слёзы разліў?
— Разлілі слёзы ліхія людзі.

## 601. ДОБРА З ДОЛЯЙ, ДОБРА З ДОЛЯЙ

Добра з доляй, добра з доляй,
Добра з доляй жыці.
Не дай божа, не дай божа
Удовачкай быці.

Усе людзі п'юць, гуляюць
З сваімі мужамі,
А я, бедна ўдовачка,
Ліюся слязамі.

Людзі ідуць жыта сеяць,
А я — сваё гора,
Усе людзі бога просяць,
А я — сваю долю.

Людзі просяць пана бога,
Каб жыта радзіла,
А я прашу сваю долю,
Каб не ўсхадзіла.

Ой, узышло маё гора
Густымі кустамі,
Ды расцвіло маё гора
Рознымі цвятамі.

Адзін цвяток, адзін цвяток —
Сіні васілёчак,
Другі цвяток, другі цвяток —
Белы раманочак.

## 602. ГУЛА ПЧОЛКА, ГУЛА

Гула пчолка, гула,
Па бару лятаючы,
Мядочак збіраючы.
Плакала ўдованька,
Рана па ваду ідучы,
Горкі абед гатуючы:
— Да абедзе мой горкі,
Без цябе, мой міленькі,
Няма каму рана ўстаці,
Чаледушку пабуджаці.

## 603. ЗАГУДЗЕЛА ПЧОЛАНЬКА

Загудзела пчоланька,
Па бору лятаючы,
Мядок збіраючы:
— Горкі ты ж, мой мядочак,
Без слонечкі збіраючы.
Заплакала ўдовенька,
Па дворычку ходзячы,
Абедачак гатуючы:
— Горкі ж ты, мой абедачак,
Без міленькага абедаючы.

## 604. БРУЯЛА ПЧАЛІНКА

Бруяла пчалінка,
Па шчырым барам лятаючы,
Салодкі мёд сабіраючы.
А плакала ўдовушка,
Па цераму будуючы,
Горкі мёд гатуючы:
— Горкі, горкі мой абед
Без мілага дружочка,
Сама сяду за столікам,
А дзеці — за столбікам,
Сама ем з тарэлачкі,
А дзеці — з чарапочка.

## 605. ЗАГУДЗЕЛА ПЧОЛАЧКА

Загудзела пчолачка,
Па бару лятаючы,
Мядочак збіраючы.
Там гудзіць пчолачка,
Там плачаць удовачка,
Каля плоту ходзячы
Да дроўцы збіраючы,
Вячэру гатуючы.
— Вячэр мая, вячэрачка,
Хто ж цябе будзе вячэраці,
Хто ж це будзе вячэраці?
Дзеткі ж мае дробненькія,
Дзеткі ж мае дробненькія,
Хто ж вас будзе гадаваці?

## 606. ОЙ, ГУДЗЕЛА ЯРАВАЯ ПЧОЛАЧКА

Ой, гудзела яравая пчолачка,
Па бару лятаючы,
А плакала маладая ўдовачка,
Сыры дровы ламаючы,
Сыры дровы ламаючы,
Горкі абед гатуючы,
Дробных дзетак гаруючы:
— Ай, абедзе ж мой горкі,
А без цябе, мой міленькі,
Дзеткі мае маленькія,
А слёзачкі дробненькія.
Дзеткі мае пабольшалі,
Слёзачкі мае пагоршалі.
Дзеткі мае падняліся,
Слёзачкі мае ўзняліся.

## 607. ЗАЖУРЫЛАСЯ МАЛАДА УДОВАЧКА

Зажурылася малада ўдовачка,
Што не кошана зялёна дубровачка:

— Найму касароў семдзесят і чатыры,
Штоб пакасілі ўсе лугі, даліны.

Касары косяць, а вецер павявае,
Відна, мой мілы з другой размаўляе.

Колі з харошай — памажы яму, божа,
А колі з паганай — разлучы яго, божа.

## 608. ЗАЖУРЫЛАСЬ МАЛАДА УДОВАНЬКА

Зажурылася малада ўдованька,
Што не кошана зялёна дуброванька,
Касары косяць, а ўдованька плача:
— Чым я, малада, касарам заплачу?
Касары косяць, ветранькі павяваюць,
Шаўкову траву на касу нахіляюць.
— Не нахіляйся, травіца шаўковая,
Вытупім касу — не будзеш кашоная,
Тады будзеш ў полі зімаваная.

## 609. ЗАЖУРЫЛАСЯ МАЛАДАЯ УДОВАНЬКА

Зажурылася
Маладая ўдованька,
Што не скошана
Зялёна дуброванька.

— Ой, не журыся,
Маладая ўдованька,
Будзе скошана
Зялёна дуброванька.

Будзем наймаці
Косчыкі маладыя,
Будзем плаціці
Ды два залатыя.

Косчыкі косяць,
А вятрэц павявае,
Малада ўдава
Ад жалю абмірае.

Малада ўдава
Ад жалю абмірае:
— Дзесь мой міленькі
На сівым кані грае.

Ой, годзе, мілы,
На сівым кані граці,
Хадзі дадому
Вячэру вячэраці!

— Вячэрай, міла,
Ой, вячэрай здарова,
Мне назначана
Аж да войска дарога!

— Табе дарога,
А мне гасцінец біты,
Скажы, міленькі,
Каго будзеш любіці?

## 610. ОЙ, ШТО ТАЯ БЕДНА УДОВА ДЗЕЕ

Ой, што тая бедна ўдова дзее:
Не араўшы, пшанічаньку сее.

Сее яна а з цёмнае ночы,
Выплакала свае чорны вочы.

Яшчэ ўдава дадому не прыйшла,
Ужо ўдавіна пшанічанька ўзыйшла.

Яшчэ ўдава на лаўцы не села,
Ужо ўдавіна пшаніца паспела.

Пайшла ўдава пшанічаньку жаці,
Аж выводзіць зязюленька дзеці.

Стала ўдава пшанічаньку жаці,
Ой, стала ёй зязюлька куваці.

— Не куй, не куй, зязюленька, з ночы,
Бо выкуеш свае чорны вочы!

— Ой, як жа мне з ночы не куваці,
Меўшы дзеці — не з кім гадаваці,

Большы былі — тыя паляцелі,
А меньшанькі — дый пасіраце лі.

## 611. ЗА ГАРОЮ ЗА КРАМЯНОЮ

За гарою за крамяною
Маладая ўдоўка плача.
— Не плач, удоўка, бедна галоўка:
Твой татачка едзе.
— Ой, няхай едзе — не заяэджае
На маё падвор'е,
Няхай пастаіць, няхай паглядзіць
На маё бяздолле.
Не маю стайні, ні стаёначкі,
Дзе яго каня ставіць;
Не маю ложы, ні пярыначкі,
Дзе яго палажыць;
Не маю слоўца верненькага,
Што з ім гаварыць.
За гарою за крамяною
Маладая ўдоўка плача.
— Не плач, удоўка, бедна галоўка:
Ўжо твой міленькі едзе.
— Ой, няхай едзе да заязджае
На маё падвор'е:
Ой, маю стайню да стаёначку,
Дзе яго каня ставіць;
Ой, маю ложу ды пярыначку,
Дзе яго палажыць;
Ой, маю слоўца найвярнейшае,
Што з ім гаварыць.

## 612. ОЙ, У ПОЛІ, У ПОЛІ

Ой, у полі, ў полі
Буйны ветрык веіць,
Тамака ўдовачка
Пшанічаньку сеіць.

А сеіла, сеіла,
Стала валачыці,
Як завалачыла,
Бога папрасіла:

— А зарадзі, божа,
Пшанічаньку яру
Для маленькіх дзетак,
На людскую славу.

А яшчэ удоўка
Дамоўкі не прыйшла,
Ўжо гавораць людзі:
— Пшанічанька ўзышла.

А яшчэ удоўка
На лаўку не села,
Ўжо гавораць людзі:
— Пшанічка паспела.

## 613. ХАДЗІЛА УДОВАЧКА ПА САДОЧКУ

Хадзіла удовачка па садочку,
Палівала слёзачкі па лісточку.

Пайшла яна к дзевярку пад акенца:
— Пусці мяне, дзевярка, хоць пагрэцца,

Пусці, мяне, дзевярка, хоць пагрэцца:
З маленькімі дзеткамі недзе дзецца.

— А ідзі, братовачка, утапіся,
З маленькімі дзеткамі не вадзіся.

А хадзіла ўдовачка па садочку,
Палівала слёзачкі па лісточку.

Пайшла яна к брацятку пад акенца:
— Пусці мяне, брацятка, хоць пагрэцца,

Пусці мяне, брацятка, хоць пагрэцца:
З маленькімі дзеткамі недзе дзецца.

— Ідзі, ідзі, сястрыца, прыхініся,
З маленькімі дзеткамі павадзіся.

## 614. ХАДЗІЛА УДОВАЧКА У ДАЛІНКУ

Хадзіла удовачка у далінку,
Пракалола ножачку на былінку

Падышла к дзеверку пад акенца:
— Парадзь мне, дзеверка, дзе мне дзецца?

— Раджу, братовачка, ісці ўтапіцца,
З маленькімі дзеткамі не вадзіцца.

Пайшла яна к брацетку пад акенца:
— Парадзь мне, брацетка, дзе мне дзецца?

А радзіў мне дзеверка утапіцца,
З маленькімі дзеткамі не вадзіцца.

— Не тапіся, сястрыца, не тапіся,
Прыйдзі ў маю хатачку, прыхініся,
З маленькімі дзеткамі павадзіся.

### 615. УСЕ ГОРЫ ЗЕЛЯНЕЮЦЬ

Усе горы зелянеюць,
Паміж імі адна чорна,

Паміж імі адна чорна,
Дзе сеяла бедна ўдова.

Дзе сеяла, валачыла
Да слёзкамі памачыла,

Дзе сеяла, палівала,
Сваю долю праклінала.

— Ой, брацейка-сакалочку,
Прымі мяне на зімачку.

— Ой, сястрыца-перапёлка,
Калі ў цябе дзетак столька.

— Ціха, братка, не пужайся,
Маіх дзетак не цурайся.

Як ты сядзеш абедаці,
Дзетак буду выпраўляці:

«Выдзьце, выдзьце, дзеткі, з хаты —
Будзе дзядзька абедаці».

Яшчэ дзядзька не паабедаў —
Дзеці тату адведалі.

— Устань, устань, татка, з гробу,
Бо нам цяжка жыць ля роду.

Устань, устань, татка, з ямы,
Бо нам цяжка жыць ля мамы.

— Ой, не ўстану, дзеткі, з гробу —
Да жывіце каля роду.

Ой, не ўстану, дзеткі, з ямы —
Да жывіце каля мамы.

## 616. ЗЯЛЁНАЯ ДУБРОВАНЬКА

Зялёная дуброванька
Не гарыць, толькі курыцца,
Маладая ўдованька
Не жыве, толькі журыцца.

Каб мяне падпалілі,
Лучшы бы я загарэлася,
Каб жа мне добра было,
Жыла б я не журылася.

За рэчаньку за быструю
Брат сястры ўкланяецца,
Сястра к брату лісты піша,
Слёзкамі абліваецца:

— Якаво табе, мой брацец,
На чужбіне пажываецца?
— Завуць мяне на чужбіне
П'яніцаю, завалокаю.

Вялець жа рэчку плыць,
Тую рэчаньку глыбокую.
Ці ж мне яе пераплыць,
Ці ж мне яе перакінуці?

Ці ж мне яе пераплыць,
Ці ж мне яе перакінуці?
Відна мне, сіраце,
На чужбіне пагінуці.

## 617. ОЙ ТЫ, ДУБЕ, ДУБЕ, ЗЯЛЁНЫ БАЙРАЧА

— Ой ты, дубе, дубе, зялёны байрача,
Чаго ты смуціўся, малады казача?
— Ой, смуцен я, смуцен цёмненькай ночы,
Што не хочуць спаці мае чорны вочы.
Ой, я ад'язджаю ў вялікую дарогу,
Цябе пакідаю беднаю ўдавою.
Кідай, мілая, тры каласы жыта:
Ой, і первы колас — поле засяваці,
Ой, і другі колас — дзеці гадаваці,
Ой, і трэці колас — мёд, гарэлку браці.
— Бадай табе, мілы, дарожка пыліла,
Як мне, маладзенькай, гарэлка няміла.
Бадай табе, мілы, конікі прысталі,
Як мне, маладзенькай, трудна жыць без пары.

## 618. НЕ ШУМ, НЕ ШУМ, ДУБРОВАНЬКА ЗЕЛЯНАЯ

— Не шум, не шум, дуброванька зеляная,
Не плач, не плач, дзяўчынанька, не плач, маладая!
— Ой, як жа мне, дуброваньцы, не шумеці,
Ой, як жа мне, дзяўчынаньцы, не плакаці?
Ой, паехаў бел малойчык жаніціся,
Ой, далёка ён паехаў, аж да Варшавы.
А Варшава, слаўна места,
Маладыя малойцы прынімае,
Да каторы не жанаты — п'юць, гуляюць,
Да каторы жанатыя — ой, сільна плачуць.
Ой, цяпер жа нашы братцы запрапалі,
Ой, засталіся жонкі нашыя ўдавамі
Да дзеткі ж маленькія сіратамі.
Правадзіла жана мужа праз дуброву,
Сама, маладая, стала пад былінаю.
Бадай тая былінанька не радзіла,
Ой, як ты мяне з маім мілым да й разлучыла.
Правадзіла жана мужа, правадзіла,
Забылася папытаці пазволіць пагуляці.
— Гуляй, гуляй, мая міла, як гуляла,
Наймай сабе мужычанькі, як даўней наймала.

## 619. ОЙ, НАЛЯЦЕЛІ, НАЛЯЦЕЛІ

Ой, наляцелі, наляцелі
Саколікі, сакалы.
Селі-палі, селі-палі
А ў ўдованькі на двары.

Крылачкамі, крылачкамі
Увесь двор накрылі,
А дзюбачкамі, дзюбачкамі
Акошачкі набілі.

Галаскамі, галаскамі
Удовачку збудзілі:
— Устань, спрачніся,
Маладая ўдава,

Выйдзі, выйдзі
За цясовы варата,
Прыляж, прыляж
К сырой матушкі-зямлі,

А паслухай, паслухай,
Ці стогне сыра матушка-зямля,
А ці шуміць, ці шуміць
Дубравачка зеляна,

А ці едуць, ці едуць
Салдацікі са вайны.
Стогнець, стогнець
Сыра матушка-зямля,

Шуміць, шуміць
Дубровушка зеляна,
Едуць, едуць
Казачэнькі са вайны.

Майго мілага, майго мілага
Толькі коніка вядуць.
На коніку, на коніку
Сядзелачка ляжыць,

А ў сядзельцы, а ў сядзельцы
Рубашачка ляжыць,
Тонка, бела,
Уся кроў'ю скіпела,

Тонка, бела,
Уся кроў'ю скіпела,
А ўдовушка
Малада абамлела.

## 620. А ТАМ, У ПОЛІ, ПАД РАКІТАЮ

А там, ў полі, пад ракітаю
Чалавек забіты.
Ён забіты пад ракітаю,
Чырвоным накрыты.

Прылятае к яму пава,
Жона маладая,
Жона маладая,
Ліцо пазнавае.

Як пазнала, так упала
Бедная павенька:
— Устань, устань, мой ты мілы,
Я тэрэз удавёнька!

А твой конік вараненькі
Па полю гуляе,
З кім жа бедна ўдованька
Тэрэз размаўляла?

Сама ў дому гаспадыня
Тры дні печы не паліла.
Тая печка і так цяпленька,
Бо слязьмі абліла.

## 621. А Ў САДОЧКУ, У САДОЧКУ

А ў садочку, у садочку
Стаіць студня кленавая,
А ў ёй вада халадная.
Тонкая ліпка высокая,
На ёй лісце шырокае,
Вярхом неба даставала,
Лісцем землю прыкрывала.
Пад таею ліпанькаю
Стаіць ложак маляваны,

На тым ложку казак ляжыць —
Пасечаны, парубаны,
На тры часці падзеляны.
Прыляцела тры зязюлькі,
А ўсе яны тры сівенькія,
Селі, упалі, закавалі,
Так сярдзечна заплакалі.
Адна села край галоўкі,
А друга села край серданька,
А трэйця села ў канцы ножак.
Край галоўкі — то матуля,
А край серданька — то мілая,
У канцы ножак — то сястронка.
Плача міла да нядзелі,
А плача сястра аж да року,
А маці аж да веку.
— Чаго, міла, чаго плачаш,
Чы я табе не пакінуў?
Пакінуў табе пару коні вараненькіх,
Пару валоў сівуленькіх
І два сынкі маладзенькіх.
— Што мне, мілы, па тых канях?
Няма каму паязджаці.
А што жа мне па тых валах?
Няма каму закладаці.
А што жа мне па тых сынках?
Няма каму научаці.

## 622. САЛАВЕЙ МОЙ, САЛАВЕЙ

— Салавей мой, салавей,
Салоўюшка лугавой,
Ты куды, куды ляціш,
Куды бог цябе нясе?
— Палячу я, салавей,
Цераз трыдзевяць зямель
К удовачкі ў зелен сад.
Сеў у ўдоўкіным саду
На яблыні, на лісту.
Як на яблыні сахорнай
Я ўсю ночку прапяю.
Маладая ўдовачка,
Не стушаючы агню,

Усё сядзела ля акна
Да слухала салаўя.
— Салавей мой, салавейка,
Не лятай ты ў мой сад,
Не садзіся на акне,
Не задавай жалю мне.
Мая бедна галовачка
Многа ў свеце пажыла,
Многа гора бачыла.

## 623. Я НЕ ЗНАЛА, МОЛАДА

О-о-о, я не знала, молада,
Калі маладосць прайшла,

О-о-о, калі маладосць прайшла,
Старасць прыключылася,

О-о-о, старасць прыключылася,
З мілым разлучылася.

О-о-о, ты моладзец, моладзец,
Прагані сваю жоначку,

О-о-о, прагані сваю жоначку,
Вазьмі мяне, ўдовачку,

О-о-о, вазьмі і мяне, ўдовачку,
Бліжнюю суседачку.

## 624. ЖАНІСЯ, УДАВЕЦ

Жаніся, удавец,
Жаніся, маладзец,
Бяры мяне, ўдовачку,
Бяры мяне, ўдовачку.

Не бойсь, удавец,
Не бойсь, маладзец,
Што ў мяне дзяцей многа,
Што ў мяне дзяцей многа:

У каждым кутку
Ёсць па пятку,
На печы дзесяцёра,
На печы дзесяцёра.

І сем сыноў пашуць,
І сем сыноў барануюць,
Сем дачок постаць жнуць,
Сем дачок постаць жнуць.

І на загнецце ўсе мае дзеці,
І ў люльцы малёханькія,
І ў люльцы малёханькія,
Са мной раўнёханькія.

## 625. МНЕ, МАЛОЙЦУ, НЕ СПІЦЦА, НЕ ДРАМНІЦЦА

Мне, малойцу, не спіцца, не драмніцца,
Галовачка ў падушачках шаламніцца,
Вяліць, вяліць мне мамачка жаніцца:
— Бяры сабе ўдоўку за маладу жонку.
— Удовачку лёгка ўзяці, цяжка жыці:
А ўдовачка пасцель сцеле, уздыхае,
Яна свайго першага мужа ўспамінае.
— Бадай гэта бела ложа тут згарэла,
А як жа я, маладая, заўдавела.
А дзевачка пасцель сцеле і смяецца,
У цясовай караваці прыхінецца.
— Бадай гэта бела ложа тут стаяла,
А каб жа я, маладая, пагуляла.

## 626. ЕХАЛА УДАВА З-ПАД МАЛІНАВА

Ехала ўдава з-пад Малінава,
Вязла мёд прадаваці.
Спаткаў казачок, спаткаў малады,
Стаў мядок таргаваці:
— Я мядок люблю, я цябе вазьму,
Баюся, што дзяцей многа.
— Не бойся, казачок, не бойся, малады.
Усе дзеткі — работнічкі:
Сем сыноў арэць, сем барануіць,
А сем дачок на постаці.

## 627. ЗАКРУЦІЛАСЯ КРУТАЯ ГАРА

Закруцілася крутая гара,
Закружылася маладая ўдава:
— Хто ж майму дабру хазяін будзе,
Хто ж маіх конікаў даглядаць будзе,
Хто ж маім дзеткам татанька будзе,
Хто ж мне, маладзе, міленькі будзе?
А зачуў жа тое малады казачунька:
— Не тужы, не бядуй, маладая ўдава,
Я твайму дабру хазяін буду,
Я ж тваіх каней даглядаць буду,
Я ж тваім дзеткам татка буду,
Табе, маладзе, міленькі буду.
Я ж тваё дабро папрапіваю,
Я ж тваіх конікаў у карты прайграю,
Я ж тваіх дзетак паразганяю,
Цябе, маладу, да ўмору заб'ю.

## 628. ДА ЧАГО ТЫ, СІНІ ТУМАНОЧКУ

Да чаго ты, сіні туманочку,
Да затуманіўся?
За табою, сіні туманочку,
Нічога не відно.
Толькі відно зялёнага дуба,
Дуба верхавіна.
Пад тым дубам да красная дзеўка
З малойцам стаяла
І, стоячы, да тайныя рэчы,
Рэчы гаварыла:
— Не жаніся, малады малойчык,
Хаця год, гадочак:
Я падрасту, да красная дзеўка,
На адзін вяршочак.
Не паслухаў яе бел малойчык
Да ўзяў ажаніўся.
Не ўзяў сабе да красную дзеўку,
Да ўзяў удавіцу.
Удавіца пасцелечку сцеле,
Сцеле, высцілае —
Яна свайго жа першага мужа,
Мужа ўспамінае:

— Бо за першым мужам было добра —
Жыла не нажылася,
Да з табою ж, малады малойчык,
Да й нагаравалася.

## 629. ЯК Я БЫЛА СЕМ ЛЕТ УДАВОЮ

Як я была сем лет удавою,
То не чула ножак пад сабою.

Засталася за другога мужа,
То я стала чэраз рок нядужа.

Як стаў мяне дубінаю біці,
То сталі мне плечыкі балеці.

Як стаў мяне за косанькі рваці,
То стаў мяне вялікі жаль браці.

Як пайду я пад новенькі дварэц,
Ці не выйдзе з таго дварца хлапец.

Ажно выйшаў мой родненькі ацец,
Як стаў ён са мною гаварыці,

Як стаў ён са мною гаварыці:
— А ці добра ў чужых людзях быці?

— Хоць не добра, мушу прывыкаці,
Парадзіла нешчасліву маці.

## 630. ЗАБАЛЕЛА ГАЛАВА, ЗАБАЛЕЛА

Забалела галава, забалела.
Ад чаго яна забалела — заўдавела.
Як пайду я, маладзюшанька, да торгу,
Накуплю пірагоў поўну торбу,
Яшчэ й к таму рэдзечкі на капейку.
Як засею рэдзечку я ў гародзе,
Зарадзіла рэдзечка з лебядою.
А хто ж ету рэдзечку да праполе,
А хто ж мяне, удоўку, да прыгорне?

Ababраўся стары дзед з барадою:
— А я тваю рэдзечку да праполю,
А я ж цябе, удовушка, дый прыгорну.
Некрасівы стары дзед, некрасівы,
Ад таго ён некрасівы, што ён сівы.
Нехарошы стары дзед, нехарошы,
Ад таго ён нехарошы — няма грошай.

Не ў павазе стары дзед, не ў павазе,
Ад таго ён не ў павазе, што ў сярмязе.

## 631. ЯК І У ЛУЗЕ, У ЛУЖОЧКУ

Як і ў лузе, у лужочку,
Ля крутога беражочку —
Тама братцы сена косяць,
Яны косяць і гавораць:
— Кінем косы пад пакосы,
Самі пойдзем паабедаем,
Сваіх дзетак адведаем...
Прыхаджу я ка дварочку,
К высокаму церамочку.
Захаваўшыся ў куточку,
Сядзяць дзеці у радочку —
Панаплаканыя вочкі,
Пазацёрты рукавочкі.
— Ой вы, дзеці мае, дзеці,
А дзе ж ваша родна маці?
— Наша маці ў новай хаце,
Яна крэпенька заснула:
Мы будзілі — не ўставала,
Есць прасілі — не давала.
— Ах вы, дзеці мае, дзеці,
Як жа мне вас гадаваці,
Як жа мне вас гадаваці —
Аднаму без роднай маці?

## 632. У ЗЯЛЕНЫМ САДЗЕ-ВІНАГРАДЗЕ

У зялёным садзе-вінаградзе
Стаяў сівы конік на парадзе.
Ніхто яму рады не дарадзе,
Ніхто яму цаны не наложа.
Як прыехаў рыцар з Украіны,
Тады яму цану налажылі,
Ой, да восем тысяч і чатыры.

Сеў жа ён на коніка й паехаў.
Ехаў, ехаў аж да Украіны
І прывязаў коніка да рабіны,
А сам прылёг к мілай да магілы
Ды пытае ў мілай:— Ці жаніцца?
— Ой, жаніся, мілы, ты жаніся,
Ды не бяры такую, абы-якую,
А бяры такую, як я была.
А каб яна тая, абы-якая,
Ды па маіх слядах не хадзіла,
Ды маёй работы не рабіла,
Ды маіх дзетак не сушыла.

### 633. А У БАРУ СОСНА, УСЯМУ БОРУ ТОШНА

А ў бару сосна, усяму бору тошна.
Пад тою сасною сядзіць братка з сястрою.
Братка ў гуслі іграе, а сястра размаўляе:
— Хадзем, братка, у лес, набярэм ягадак,
Панясем прадаваць, сабе мамку купляць.
— Дурна сястра, дурна, неразумна,
Няма тых крамак, што купляюць мамак.

### 634. А ПА БАРУ, ПА БАРОЧКУ

А па бару, па барочку,
Там хадзілі сіротачкі

А збіралі ягадачкі.
Назбіраўшы, гаварылі:

— Ці нам сесці іх паесці —
Няма ж каму дамоў несці,—

Ці панясём ў тую крамку,
Дзе купляюць татку й мамку?

А ўсе крамкі абнасілі —
Татку з мамкай не купілі.

Бязумныя сіротачкі,
Бязумныя маленькія.

## 635. ЯК ЛАСТАЎКА ГНЯЗДО ЎЕ

Як ластаўка гняздо ўе,
Так мачыха дзяцей б'е.

Як мачыхі не зналі,
То за сталом спявалі.

Як мачыху пазналі,
То за печчу плакалі.

Пайшлі дзеткі ў лес гукаць,
Свае матулі шукаць.

Пагукалі — не найшлі,
Заплакалі ды пайшлі.

Пайшоў тата ў лес гукаць,
Сваіх дзетачак склікаць:

— Ідзіце, дзеткі, дадому,
Бо мне скучна аднаму.

— Жыві, тата, як бог даў,
Бо другую жонку ўзяў.

## 636. ЗА КАВАЛЕРАМ ДОЎГА СПАЦЬ

За кавалерам доўга спаць,[1]
За ўдаўцом трэба рана ўстаць.

За кавалерам размова,
За ўдаўцом біта галова.

Лепшая жона першая,
Але не тая другая.

Першая жона, як зара,
Тая другая, як сава.

Як сава ў лесе пташкі дрэ,
Так друга жона дзеткі б'е.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

— Пойдзем па саду пагукаем,
Свае матулі пашукаем.
Гукалі ўдзень і ўночы,

Не стае нам бог помачы,
Не хваціць слёзак сіраце.

## 637. ПАЙДУ ДА РЭЧАНЬКІ АБМАЧУСЯ

Пайду да рэчанькі абмачуся,
Пайду да свяцёлкі пасушуся.
Памёр ацец, маці, астаюся,
Да каго я, бедна, прыхілюся.

Усюды на вуланьцы
Дзетанькі іграюць,
Мяне, сіротанькі,
Нігдзе не прымаюць.

Ні брацейка роднага,
Ані сястрыцы,
Ой, вярнуся з вуланькі
Да сваёй святліцы.

Сяду на лаваньцы
Пад светлым акенцам,
Пацешуся, сіротанька,
Ясным толькі сонцам.

Не да каго прамовіці
Ані слованька,
Ох, я бедна і няшчасна
Сама, сіротанька!

## 638. ОЙ, ДАЛЯ, ДАЛЯ, ОЙ, ДАЛЯ, ДАЛЯ*

Ой, даля, даля, ой, даля, даля,
Мой загончык шырокі.
Хто яго араў, хто баранаваў?
Гаспадарык адзінокі.

Ён яго араў, ён баранаваў,
Да не меў часу ўстаці,
Заняў волікі, заняў сівыя
Да пагнаў у поле пасвіць.

— Ой, пушчу валы, пушчу сівыя
Да ў зялёну дуброву,
А сам я й пайду, а сам я й пайду
Да мілое на размову.

Яго мілая, яго любая
Да сыночка зрадзіла,
А сама ляжыць, а сама ляжыць
Да ў пасцельцы нежыва.

— Бадай, сыночак, бадай, маленькі,
Да на свет не зрадзіўся,
Як ты з мілаю, як ты з любаю
Да навек разлучыўся.

— Табе, татачка, табе, родненькі,
Да жонка ў вяночку,
А мне, сыночку, мне, маленькаму,
Да матка ў пясочку.

Табе, татачка, табе, родненькі,
Да жонак дзесяць будзе,
А мне, сыночку, мне, маленькаму,
Да і маткі не будзе.

## 639. ТЫ, ЗЯМЕЛЬКА, ТЫ, СЫРАЯ

— Ты, зямелька, ты, сырая,
Нашто мяне так скарала?

Ўзяла татулю й матулю,
Вазьмі й мяне, маладую.

— Я не хачу цябе браці —
Шчасце й долю хачу даці:

Дам коніка варанога
І малойца маладога.

На коніку ездзіць будзеш,
З малойчыкам гуляць будзеш.

На коніку раз'язджаці,
З малойчыкам піць, гуляці.

## 640. ОЙ, ЗАПЯЮ ПЕСНЮ ВЯСЁЛУЮ

Ой, запяю песню вясёлую,
Вясёлую
Да развею бяду сваю,
Бяду сваю.

Бяда свая, бяда свая
Прабедзенька,
Прабедзенька, ды ўсё не сукроўна,
Не сукроўна.

Радзіначка пайшла, пайшла маці
У сад гуляці.
Да свайго сыночка пазнаваці,
Пазнаваці.

Не пазнала сынка і ў народзе,
І ў народзе,
Да пазнала сынка і ў паходзе,
І ў паходзе.

— Ой, сынку мой, сынку Іванюша,
Іванюша,
Я цябе насіла, галасіла,
Галасіла.

Я цябе раджала, абмірала,
Абмірала
Да сорак жа ночак не спала,
Не спала.

Да сорак ночак не спала,
Не спала,
Да к сырой зямліцы прылягала,
Прылягала.

Зямля мая, зямля мая,
Маці сырая,
Узяла айца, узяла матку,
Усю радзіначку.

Узяла айца, узяла матку,
Усю радзіначку,
Вазьмі мяне, вазьмі мяне,
Сіраціначку.

Не вялела маці сірот браці,
Сірот браці,
Да вялела долю даці,
Долю даці.

## 641. ОЙ, ЦЯЖКА, ЦЯЖКА СІРАЦІНЕ

Ой, цяжка, цяжка сірацінe
Жыць адной на чужбіне.

Ой, не к каму сірацінe
Галовачку прыхінуці.

Ой, прыхіну я галовачку
А к зялёнаму дубочку.

Ой, што зялёненькі дубочак
Нічогенька не гаворыць?

Нічогенька не гаворыць,
Толькі лісцікам шаволіць.

## 642. КУВАЛА ЗЯЗЮЛЯ

Кувала зязюля,
Цераз сад летучы,
Плакала сіротка,
На службу ідучы.

— Не кувай, зязюля,
Цераз сад летучы,
Не плач ты, сіротка,
На службу ідучы.

Маеш ручкі, ножкі,
Светленькія вочкі —
Будзеш ты рабіці
Да цямненькай ночкі.

— А каб я рабіла —
Дзень з ноччу стачыла,
То мая работа
Нікому не міла.

Дадуць мне кусочак,
Як кляноў лісточак,
Пытаюцца ў мяне:
«Ці будзе для цябе?»

Не з'ем яго ў хаце —
То з'ем за дзвярамі,
Не з'ем я сухога —
Абаллю слязамі.

### 643. ХУДА ЖЫЦІ СІРАЦІНЕ

Худа жыці сіраціне
На чужой дальняй старонцы,
Што не к каму сіроціначчы
Галовачкі прыхінуць.
Ай, прыхіну я галовачку
К зялёнаму дубочку.
Дуб зялёны, дуб шырокі
Нічоганька не гаворыць,
Толькі лісцікам шаволіць.
Ай, вынімала сіроцінка
З карманачка крамушочкі,
Ай, высякала сіроцінка
З крамушочкаў аганёчак.
— Ах, нету, нету з крамушочка
Ні іскаркі, ні аганёчка,
Нету, нету сіроцінцы
Ад нікоганькі прывету.

### 644. ЗАКАВАЛА ЗЯЗЮЛЕНЬКА, ПРАЗ ЛЕС ЛЕТУЧЫ

Закавала зязюленька, праз лес летучы,
Заплакала сіротанька, на службу ідучы.

Аказаўся бог ласкавы з высокага неба:
— Ах, мая ж ты сіротанька, чаго ж табе трэба?

Ой, даў я табе чорны вочкі і белыя ручкі,
Рабі, рабі, сіротанька, да цёмнае ночкі.

— Ах, божа мой найласкаўшы, ці ж я не рабіла?
Як мая ж работанька нікаму не міла!

Ляжыць камень пры дарозе, а не паслізнецца,
Баліць жа мне моцна сэрца, чуць не разарвецца.

## 645. ЗАКАВАЛА ЗЯЗЮЛЕНЬКА, ЦЕРАЗ ГАЙ ЛЕТУЧЫ

Закавала зязюленька, цераз гай летучы,
Заплакала сіротанька, на службаньку ідучы.

Ой, зачуў сын божы тое з высокага неба:
— Скажы, скажы, сіротанька, чаго табе трэба?

Даў я табе ручкі, ножкі, светленькія вочы,
Хадзі, рабі, сіротанька, да цёмнае ночы.

— Каб рабіла, надрабіла, ручкі адрабіла,
Такі мая работанька нікому не міла.

Каб рабіла, надрабіла, ночкі не даспаўшы,
Судзіць мяне, мая пані, людзей прынаняўшы.

А калі дасць яна хлеба, як кляновы лістэнька,
То ўвечары пытаецца: «Ці з'ела усенька?»

А божа мой мілюсенькі з высокага неба,
Не дай жа нікому служэбнага хлеба.

Служэбны хлеб вельмі смашны, да не пажытэчны,
Бо яго анно ўкусіць, той заплакаць мусіць.

## 646. ЛЯЦЕЎ ГОЛУБ ПА-НАД МОРАМ

Ляцеў голуб па-над морам,
Падаў ў мора піці,
Ой, цяжанька сіротаньцы
У чужых людзей жыці.

Даў бог ручкі, даў бог ножкі
І светлыя вочкі,
Гаруй, працуй, сіротанька,
Аж да цёмнай ночкі.

Ой, выйду я на вуліцу,
Стану пад варота,
А хто ідзе, той спытае:
— Што плачаш, сірота?

— Ой, плачу я, сіротанька,
Плачу маладая,
Што ніхто мне ў няшчасцейку
Не дапамагае.

## 647. ШТО ХАДЗІЛА ДА БЛУДЗІЛА ГОРКА СІРАЦІНА

Што хадзіла да блудзіла горка сіраціна,
Яна хадзіла, яна шукала сваёй роднай маці.
Не знайшла яна роднай маці, нашла сіне мора.
— Зжалься, зжалься, мая мамка, цяпер жа мне гора.
— Не буду я, дзіцятачка, цябе жалаваці,
Ці ў раскошы радзілася, трэба гора знаці.

## 648. ЗЫЙДЗІ, ЗЫЙДЗІ

Зыйдзі, зыйдзі,
Зоранька вячэрняя,
Выйдзі, выйдзі,
Дзевачка бяздольная.

Ой, знаці, знаці,
Што ў каго свая маці,
То штодзень ідуць
На вуланьку гуляці.

Ой, знаці, знаці,
Што ў каго чужая маці,
Не пускае
На вуланьку гуляці.

## 649. КРАСНА ДЗЕЎКА ВАДУ ЧЭРПАЛА

Красна дзеўка воду чэрпала,[1]
Зачарпнуўшы, ды паставіла,
Паставіўшы, ды падумала,

[1] Кожны радок паўтараецца.

Падумаўшы, ды заплакала:
— Добра таму, ў каго матка свая.
Як у мяне ліха мачыха,
Не пускае ў зялён сад гуляць.
Выпраўляе на высок цяром,
Высок цяром белу ложу слаць,
Белу ложу, найбялейшую
Баярыну маладзейшаму.

## 650. У НЯДЗЕЛЬКУ ПАРАНЕНЬКУ

У нядзельку параненьку
Стучыць-грučыць па масточку —
Ідзе-бяжыць сіротачка.
Сустрэў яе сам гасподзь бог.
— Куды бяжыш, сіротачка?
— Іду-бягу сваю мамку шукаць.
— Сіротачка маленькая,
Ідзі-бяжы ў чыста поле.
У чыстым полі гаёк стаіць,
У тым гайку церамок стаіць,
А ў тым церамку твая мамка ляжыць.
Прыступ жа к ёй блізюсенька,
Пакланіся нізюсенька:
— Устань, устань, мая мамачка,
Перамяні мне кашулечку,
Падабуй мне босу ножачку,
А ўчашы мне русу косачку,
Абмый жа мне бела лічка.
— Дзіцятачка, міленькае,
Ёсць у цябе нова мамачка,
Хай жа табе кашульку дае,
Хай жа табе ножку абуе,
Хай жа табе коску пачэша,
Хай жа табе лічка абмые.
— Мамулечка, мая родная,
Другая матачка не жалее,
Кашульку дае — праклінае:
«Каб ты яе, дзіця, не знасіла
І другую не прасіла».
Ножку мые — паторгвае,
Коску чэша — валаскі рве,
Лічка мые — па шчацэ б’е.

## 651. ОЙ, ЛЯЦЕЛА ЗЯЗЮЛЕНЬКА

Ой, ляцела зязюленька
Цераз круту гору,
Не выжала пшанічанькі,
Выжала палову.
— Ой, нашто мне та палова,
Як зерна не маю,
Ой, нашто мне жыць на свеце,
Як мамы не маю.
Усе дзеўкі мамы маюць,
А я бацька маю,
Сем раз воду прынасіла
З ціхага Дунаю.
Сем раз воду прынасіла,
Восьмы — напілася,
Каб я мела родну маму,
То й не журылася.
Пайду я на круту гору
Да й стану плакаці:
— Прыйдзі, прыйдзі, родна маці,
Косу расчасаці,
Бо мне заўтра ў нядзеленьку
На шлюбе стаяці.
— Ідзі, дочка, ідзі, родна,
Сядай вячэраці,
А я прыйду па вячэры
Косу расчасаці.
Прыйшла дочка, прыйшла родна,
Села вячэраці,
Ждала, ждала роднай маці
Да й стала плакаці.

## 652. ЯК ПАМЕРЛА МАТУЛЬКА

Як памёрла матулька,
Ажаніўся татулька,
Ды паслалі сірацінку
У сыр-бор па малінку.

Ужо сонца заходзіць,
Сірата не прыходзіць...
Ідзі, бацька, шукаці
Сваяго ты дзіцяці.

Ды стаяла каліна,
А пад ёю магіла.
Там сіротка хадзіла,
Сваю мамку будзіла:

— Ой, устань, устань, мамка,
Цябе кліча дзіцятка.
Пашкадуй ты сіротку,
Расчашы мне галоўку.

## 653. ІШЛА-БЕГЛА СІРОТАНЬКА

Ішла-бегла сіротанька,
Ішла-бегла маленька.
Ішла-бегла гукаючы,
Свае маткі шукаючы.
А матка сказала:
— У цябе ёсць другая.
А сірата сказала:
— Другая не такая:
Як мые, то ў лічка б'е,
А як чэша, то за косы рве.
Кашулю дае, праклінае:
«Каб гэтае не знасіла
І болей у мяне не прасіла».

## 654. ДАРОГАЮ ШЫРОКАЮ

Дарогаю [ды] шырокаю,
Дуброваю [ды] зялёнаю,
Туды ішла [ды] сіротачка,
Туды ішла [ды] маленькая.

— Куды бяжыш [ты], сіротачка,
Куды бяжыш [ты], маленькая?
— Бягу, бягу к каплічаньцы,
Бягу, бягу я мамку шукаць.

— А стук, а грук ты, маманька,
Адчыніся, мая родная,
Адчыніся, мая родная,
Памый жа мне [ды] галовачку,

Памый жа мне [ды] галовачку,
Запляці мне русу косачку,
Запляці мне русу косачку,
А дай жа мне [ды] кашулечку.

— Ёсць у цябе ліха мачыха,
Няхай мые буйну голаву,
Няхай мые буйну голаву,
Заплятаіць русу косачку.

— Яна мыіць, ўсё смаргаючы,
Яна чэшыць, ўсё дзяргаючы,
Заплятаіць — прыбіваючы,
Кашулю даець — праклінаючы.

## 655. У НЯДЗЕЛЬКУ ПАРАНЕНЬКУ

У нядзельку параненьку
Стучыць-гручыць па масточку,
Стучыць-гручыць па залезным.
А хто ж бы там пастукаўся?
А хто ж бы там пагрукаўся?
Туды ішла сіротачка,
Туды ішла маленькая.
Сустрэў яе сам госпад бог.
— Куды бяжыш, сіротачка?
Куды бяжыш, маленькая?
— Іду-бягу пагуляці,
Сваю мамку паслухаці.
— Бяжы, дзіця, ў чыста поле,
Ў чыстым полі гаёк стаіць,
У тым гайку магілачка,
А ў магілачцы твая мамка.
Прыдзі к ёй паціхусеньку,
Гукні яе памалюсеньку:
— А ўстань, ўстань, мая мамачка,
А ўстань, ўстань, мая родная,
Абуй жа мне босу ножачку,
Памый жа мне бела лічыка
І спляці мне русу косачку,
Дай жа мне белу кашулю.
— Адступ, адступ, маё дзіцятка,
Адступ, адступ, маё мілае,

Ё ў цябе ў доме ліха мачыха,
Няхай табе ножку абуе,
Няхай табе лічка мые,
Няхай табе коску пляце,
Няхай табе кашулю дае.
— Устань, устань, мая мамачка,
Устань, устань, мая родная,
Ліха мачыха — непрыятніца:
Ножку буе — па ножцы б'е,
Лічка мые — па лічку б'е,
Коскі пляце — валасочкі рве,
Кашулю дае — праклінае:
«Бадай, дзіця, не знасіла,
Каб другую не прасіла».

## 656. ІШОЎ БОГ ДАРОГАЮ

Ішоў бог дарогаю,
Сустрэў сабе сіротаньку:

— Сіротанька маленькая,
Куды ідзеш, сіротанька?

— Іду, божа, блукаючы,
Свае маткі шукаючы.

— Ой, дзіўная сіротанька,
Увайдзі сабе да лясочку

Да выламі каліначку,
Стукні матцы ў магілачку:

— Устань, матка, умый мяне,
Умый мяне, учашы мяне,

Умый мяне, учашы мяне,
Учашы мяне, убяры мяне!

— Няхай цябе мачыха мые,
Няхай цябе прыбірае.

— Як мяне мачыха мые,
То маё сэрданька ные.

Як яна мяне чэша,
То мае коскі рвуцца.

Як яна мяне прыбірае,
То цяжанька праклінае.

## 657. ЦЕРАЗ ПОЛЕ ШЫРОКАЕ

Цераз поле шырокае,
Цераз мора глыбокае
Там ляжала гібка кладка.
Тудэма йшла сіротанька,
Ішла яна, галасіла,
Госпада бога судасіла.
— Куды ідзеш, сіротанька?
Куды ідзеш, малюсенька?
— Іду, божа, маткі шукаць.
— Ідзі-бяжы, сіротанька,
Ідзі-бяжы, малюсенька,
Ідзі-бяжы у чыста поле.
У чыстым полі цэрква стаіць,
А ў той царкве матка ляжыць.
Стукні-грукні ў царскі дзверы,
Адзавецца матка твая:
— Ой, хто ж стучыць па маім гробе?
Ой, хто гручыць па маім гробе?
— Ой, я, матка, сіротанька,
Ой, я, матка, маленькая.
— Што ж ты, дзіця, тут есці меш?
Што ж ты, дзіця, тут піці меш?
— Будуць, матка, каранцы расці,
Буду, матка, каранцы грызці.
Будуць, матка, дажджы іці,
Буду, матка, кроплі піці.
Такі буду з табой быці.
— Ёсць у цябе другая маці.
— Мая матка, то не родная,
Лічка мые — па лічку б'е,
Коскі чэша — валаскі ірве,
Кашулю кладзе — праклінае:
«Каб ты, дзіця, не знасіла,
Каб ты болей не прасіла».

## 658. У НЯДЗЕЛЬКУ РАНЮСЕНЬКА

У нядзельку ранюсенька
Чужая маці захварэла,
Ёй галоўка забалела.
Пасылае сіротачку
У цёмны лес па вадзіцу.
Няма дзянёк, няма другі,
Няма сіротачкі з вады.
А ці яна ўтапілася,
Ці яе там звяры з'елі?
А ні яна ўтапілася,
А ні яе звяры з'елі.
Там на гары каліначка,
Пад калінай магілачка,
На магіле дзяўчыначка,
Яна плача, прылягае,
Сваю матку пабуджае:
— Устань, мамачка родная,
Ды памый мне кашулечку
І пачашы галовачку.
— Адыдзіся, дзіцятачка,
У цябе ёсць другая маці,
Няхай мые кашулечку,
Няхай чэша галовачку.
— Яна мне галоўку чэша,
Маё сэрданька не ўцеша.
Яна мне кашульку мые,
Каб я гэтай не знасіла,
У яе болей не прасіла.

## 659. ОЙ, ГУКНУЛІ ЖУРАЎЛІ

Ой, гукнулі жураўлі
У чыстым полі на раллі:

Чы лепш ралля ранняя,
Чы лепш ралля позняя?

Да на ранняй — пшаніца,
А на позняй — мяцеліца.

Чы лепш жонка першая,
Чы лепш жонка другая?

З першаю дзеткі меў,
А з другою разлучаў:

— Ідзіце, дзеткі, служыці,
Ну ж вы мачысе гадзіці.

Пашлі дзеткі служачы,
За імі бацька тужачы.

Пашлі дзеткі скачучы,
За імі бацька плачучы.

А ў нядзелю рана
Ходзіць бацька па двару,

Дробны слёзы раняе,
Дзеткі свае збірае.

— Дзеткі мае маленькі,
Як галубкі сівенькі,

Да хадзіце дадому,
Трудна жыці самому.

— Жыві, бацька, як бог даў,
Што харошу жонку ўзяў,

Што харошу жонку ўзяў,
А нас, малых, разагнаў,

А цяперака збіраеш,
Дробны слёзы раняеш.

### 660. ОЙ, ЛЯЦЕЛІ ЖУРАУЛІ

Ой, ляцелі жураўлі,
Селі ў полі на раллі.

— Ці лепш ралля рання,
Ой, ці тая позняя?

— А на ранняй — пшаніца,
А на позняй — мятліца.

Тудэю ішлі мужыкі,
Гаварылі пра жанкі:

— Ці лепш жонка першая,
Ой, ці тая другая?

— А я з першай дзеткі маў,
А з другою гадаваў.

Ох, з другою гадаваў,
Да з трэцяю разганяў.

## 661. ОЙ, ЛЯЦЕЛІ ЖУРАУЛІ

Ой, ляцелі жураўлі,
Селі, палі на раллі,[1]

Селі, палі на раллі,
Гаварылі аб раллі.

Ой, на першай ралліцы
Родзіць куколь, мятліца.

А на другой ралліцы
Родзіць жыта й пшаніца.

Не дай божа раллі дзве,
Не дай божа жонкі дзве.

Як сарока шчабеча,
Так мачыха ляпеча.

Як сарока гнёзды ўе,
Так мачыха дзеці б'е.

## 662. ОЙ, ЗАГУДУ, ЗАГУДУ

Ой, загуду, загуду[2]
Ды ў Ячонцы не буду,

Бо ў Ячонцы ворагі
Кругом мяне аблäглі.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.
[2] Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Ой, пайду я, гукаючы,
Свайго роду шукаючы.

Ой, не знайшла радзіны,
Толькі ў полі яліну,

У чыстым полі яліну,
Сваёй маткі магілу.

— Устань, устань, матка мая,
Прыйшла к табе госця твая.

— Ой, не ўстану, не магу,
Галовачкі не ўзніму.

— Я й пясочак адграбу,
Галовачку падніму.

— Хоць пясочак адграбеш,
Галовачкі не ўзнімеш.

## 663. СІРОТАЧКА ПА МАГІЛЬНІЧКУ ХАДЗІЛА

Сіротачка па магільнічку хадзіла,[1]
Яна ж сваю родну мамачку будзіла.
— Ўстань, ўстань, мая мамачка, не ляжы,
Хаця ж ты мне хоць дзянёчак паслужы,
Хаця ж ты мне хоць дзянёчак-гадзінку,
Ды пазбіраю ўсю маю радзінку.
— Адступіся, маё дзіцятка, не магу.
А ты, Анечка, і ты раненька прабудзісь,
Ды чаму сваю ды родну мамку не будзіш?
— І да я будзіла, мае сястрыцы, будзіла,
І ўсю ночачку па магілачках хадзіла,
І да я стаяла пад зялёнаю сасною,
І да я будзіла гарачаю слязою.

## 664. САЛАВЕЙКА МАЛЕНЬКІ

Салавейка маленькі,
Твой галасок тоненькі,

[1] Кожны радок паўтараецца.

Не шчабячы па мяне,
Бо я ў чужой старане.

Белы камень ў полі ляжыць,
Мне без маткі трудна жыць.

Пайду ў поле гукаці,
Шчасця-долі шукаці.

Усенька поле перайшла,
Шчасця-долі не знайшла.

Толькі знайшла беражок,
На беражку камушок,

На камушку каласок,
Чутно маткі галасок.

— Устань, матка, не ляжы,
Шчасця-долі удзялі.

— Я не ўстану, не магу,
Шчасця-долі не ўдзялю:

Скаваныя ножанькі,
Звязаныя ручанькі,
Засыпаныя очанькі.

## 665. САЛАВЕЙКУ РАБЕНЬКІ

Салавейку рабенькі,
Не шчабячы раненька,

Ой, не сядай на акне,
Не задавай жалю мне.

Мне трудна, надта трудна,
Ох, у чужой старане.

Ох, трудна мне без роду,
Як камень у воду.

Камень у вадзе паляжыць,
Мне без роду трудна жыць.

Ох, пайду я плачучы,
Сваёй маткі ішчучы.

Знашла ў полі ялінку,
Сваёй маткі магілку:

— Ой, устань, матка, не ляжы
Да работы пакажы.

— Ой, устала б, не магу,
У сыру зямлю і ў дыму.

Мае ручкі злажоны
Да ў труніцу ўлажоны,

Мае очкі сплюшчоны.
Да ў пясочак улажоны.

Ой, у полі каласок,
Маёй маткі галасок.

Зыдзі, зыдзі, месяцу,
Да ты, ясна зоранька,

Асвяці мне дарожаньку
Да цёмнага гробаньку.

## 666. САЛАВЕЙКА ПТАШАЧКА

Салавейка пташачка,
Не шчабячы мне ў акно,[1]

Не шчабячы мне ў акно,
Не дадавай жалю мне,

Не дадавай жалю мне —
Я на чужой старане,

Я на чужой старане
Ды без мамачкі свае.

Ой, пайду я ў лес гукаць,
Сваю мамачку шукаць.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Найшла ў полі яліну,
Свае маткі магілу.

— Уставай, мамка, не ляжы,
Мне работу пакажы!

— Трэба было вучыцца,
Як я цябе вучыла.

А цяпер я не магу,
Угору ручак не ўзніму:

Прысыпалі зямлёю,
Нам разлука з табою.

## 667. ПАЙДУ З ГОРА Ў ДАЛІНУ

Пайду з гора ў даліну [1]
Пашукаць сваю радзіму.

Усю даліначку сайшла,
Нідзе роду не найшла.

Толькі найшла радзіну,
Што мамкіну магілу.

Я к магіле прыпала,
Сваю мамку гукала.

— А ўстань, мамка, не ляжы,
Мне дарожку укажы.

— А йдзі, донька, не баўся,
Добрых людзей пытайся.

Табе людзі ўкажуць
І пуць-дарожку пакажуць,

Усе дарожкі-пуці,
Куды сіраце прайці.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

## 668. ЯК ПАЙДУ Я ЛЕСАМ, БОРАМ

Як пайду я лесам, борам,
Лесам, борам, далінаю,

Лесам, борам, далінаю,
Шукаючы радзіму.

Усю даліну перайшла,
Нідзе роду не знайшла.

Толькі знайшла радзіну,
Мамкіну магілу,

На магіле каласок.
— Падай, мамка, галасок.

— А стой, дочка, хоць часок,
Не зачуеш галасок.

А йдзі, дочка, не баўся,
У добрых людцах пытайся.

## 669. ЯК ПА ТРАВАЧКІ, ПА МУРАВАЧКІ

Як па травачкі, па муравачкі...
Ой, чаго ты, сасна, пахілілася,
Ой, чаго, сірата, зажурылася?
Ой, чаго, сасна, ты мокранькая,
Ой, чаго, сірата, ты смутненькая?
Пахілілася сасна ад ветрыку,
Зажурылася сірата па атцу, па матачкі.
Ой, мокра сасна да ад дожджыку,
Ой, смутна сірата на чужой старане.
— Ох, ты сядзь, сірата, у край стала,
Ты запей, сірата, з гора песеньку,
З гора песеньку, з гора новеньку.
— Ой, добра пець вам, паабедаўшы.
Якава сіраце шчэ не снедаўшы?
— Ой, скажы, сірата, дзе ноч каратка?
— Што каратка ночка ў атца, мацеры,
У комнатачкі, на пярыначках на пуховенькіх.
— Ой, скажы, сірата, і гдзе ночка доўга?
— Што доўга ночка ва шчырым бару,
Пад сасоначкай, у зялёненькім.

## 670. ЗАПЕЙ, СІРАТА, З ГОРА ПЕСЕНЬКУ

— Запей, сірата, з гора песеньку.
— Добра табе пець паабедаўшы.
Як мне, беднай сіраце, шчэ й не снедаўшы?

— Запей, сірата, з гора песеньку.
— Добра табе пець павячэраўшы.
Як жа мне пець, шчэ й не снедаўшы?

Кукавала зязюля, ўгору летучы,
Плакала сірата, ў службу ідучы:
— А ў службе хлеб горкі, шчэ й горшы гарэлкі,
Ды і той даваны.
Як урэжа лусту з кляновую лісту,
Да шчэ й пытаецца: «Ці з'ясі ўсю?»

## 671. ЗАСПЯВАЙ, СІРАТА

— Заспявай, сірата,
З гора песеньку,
Ціхую да вясёлую.

— Добра табе песні пеці
Паабедаўшы,
А мне, беднай сіраце,
Шчэ не снедаўшы.

Узяла сірату
Да за праву руку,
Павяла сірату
У сваю святліцу.

Пасадзіла сірату
За цясовы стол
Да дала сіраце
Паабедаці.

— Ты чаму, сірата,
Да не жэнішся?
На каго, сірата,
Да надзеешся?

Няма ў цябе, сірата,
Ні мацеры, ні атца,
Няхай бы была
Хоць жана малада.

## 672. ПАСЕЯЛА МАКУ НАД ВАДОЮ *

Пасеяла маку над вадою,[1]
Зарос жа мой мак лебядою.
Няма ў мяне маку ні мачыцы,
Няма ў мяне айца, ні мацеры,
Няма ў мяне брата, ні сястрыцы.
Ой, не з кім мне стаці пастаяці,
Няма каму гора расказаці.
Усе мае падружкі рана ўсталі,
Харошую долю разабралі,
А я, маладая, заспалася,
Мне плахая доля засталася.

## 673. А У РОЎНЕНЬКІМ ПОЛІ ЦАРКОЎКА СТАЯЛА

А ў роўненькім полі царкоўка стаяла,
Каліна-маліна, царкоўка стаяла.

Царкоўка стаяла, сіротка шлюб брала,
Каліна-маліна, сіротка шлюб брала.

Сіротка шлюб брала, а ў шлюбе плакала,
Каліна-маліна, а ў шлюбе плакала.

— Ой, шлюбе мой, шлюбе, ці цябе мне браці?
Каліна-маліна, ці цябе мне браці.

Ці цябе мне браці, ці горы капаці?
Каліна-маліна, ці горы капаці.

Горы пакапаўшы, сяду адпачыну,
Каліна-маліна, сяду адпачыну.

З нямілым шлюб узяўшы, навекі загіну,
Каліна-маліна, навекі загіну.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

## 674. ШТО НЯДАЎНА Я ЗАСІРАЦЕЛА

Што нядаўна я засірацела,
Багата горачка працярпела.

Яшчэ к таму прыраілі людзі:
— Ідзі замуж, добра табе будзе.

Я людскую волечку ўчыніла:
Пашла замуж — галоўку ўтапіла.

Утапіла галовачку ў воду,
Папалася к паганаму роду.

Утапіла галоўку ў крыніцу,
Пашла замуж за горку п'яніцу.

Я ж не знаю, як яму гадзіці,
Рана ўстану да іду будзіці:

— Устань, мілы, маё радаванне,
Ужо на дварэ свет да белае ранне.

Што не ўспела «белае» сказаці,
Стаў жа мой мілы уставаці.

Стаў жа мой мілы уставаці,
Яна, млада, за дзверы ўцякаці.

— Чаго ты, міла, уцякаеш?
Ці ты ўсе мае норавы знаеш?

## 675. ЦІ ДАЎНО [redacted] СІРАТОЮ СТАЛА

Ці даўно я сіратою стала,
Зайшла замуж — галоўку звязала,
Яшчэ й к таму людзі прыраілі:
— Ідзі замуж, луччай табе будзе.
Я людскую волечку чыніла,
Зайшла замуж — галоўку ўтапіла.
Я думала, харошага роду,
А мой мілы праклятага роду,
П'е гарэлачку, як сцюдзёну воду.
— Едзь-ка, мілы, у новы гарадочак,

Купі, мілы, чорненькі грабочак.
— Не найшоў я новае кляніны,
А найшоў я новую дубіну.
Не ляжаць табе ў новай кляніне,
Ляжаць табе а ў чорнай дубіне.
— Я думала, жарка сонца ўсходзіць,
А то мой мілы па магіле ходзіць,
За ручачку дзіцятачка водзіць,
А другое на ручачках носіць.
Калі жалка — наймі мамку-няньку,
А не жалка — кідай ка мне ў ямку.
— Чым дзіцятка кідаць к табе ў ямку,
Луччай наняць яму мамку й няньку.

## 676. ВОТ ЯК ВЫЙДУ НА ВУЛІЦУ

Вот як выйду на вуліцу,
Стану, падумаю:
— Не чапайце, багатыя,—
Пасагу не маю.

Каб я мела, каб я мела
Сівыя каровы,
Ўзялі б мяне добры людзі
І з чужой староны.

— Пакінь, пакінь, мая міла,
Жарты жартаваці,
Ой, не будзе мая мамка
Пасагам ругаці.

— Узыдзь, узыдзь, ясны месяц,
З акна ды ў камору,
Ідзі ж, ідзі, нявестачка,
Ды падой карову.

Падой тую каровачку,
Што з сабой прыгнала.
— Ай, што, ай, што, мой міленькі,
Ці ж я не казала?

Ай, што, ай, што, мой міленькі,
Ці ж я не казала?
Ўжо твая матулечка
Пасагам ругае.

— Пакінь, пакінь, мая мамка,
Пасагамругаці,
І ты знала, і я ведаў —
Не трэ было браці.

Багатая багатырка —
Яна усё дзьмецца,
А бедная сіроцінка
К сэрцу прыхільнецца.

Дзяўчыначка-сіроцінка
Кашулечкі мыла,
Калі ўзялі, павянчалі —
Дык будзем жыць міла.

### 677. МАЛАДЫ ХЛОПЧА

— Малады хлопча,
Я цябе даўно знаю,
Ты мяне бярэш —
Я пасагу не маю.

— Малада дзеўка,
Мне твой пасаг не трэба,
Ты мне хараша,
Як зорачка з неба!

— Сягоння кажаш:
«Як зорачка ясная»,
А заўтра скажаш:
«Доленька няшчасная».

Ой, зарыкалі
Карованькі ў аборы,
Падходзіць маці
Да новае каморы.

— Уставай, нявестка,
Ой, бадай ты не ўстала,
Выганяй пасаг,
Што ад бацькі нагнала!

— А што, міленькі,
Ой, ці я не казала?
Ужо твая маці
Мне пасагам дагнала!

— Не цяпер, маці,
Пасагам даганяці,
Ой, было ж табе
Сіротанькі не браці.

Ой, было браці
Ад роду багатага,
Нагнала б табе
Тавару рагатага.

Ой, было браці
Ад айца і ад маткі,
То былі б табе
Усякія дастаткі.

## 678. ЧЫРВОНА КАЛІНА У ЛУЗЕ СХІЛІЛАСЯ

Чырвона каліна ў лузе схілілася,
А я, маладая, зажурылася.

Ой, цяжка, цяжка полю без камення,
А мне яшчэ цяжэй без плямення.

Ой, цяжка, цяжка саду без зязюлькі,
А мне яшчэ цяжэй без матулькі.

Ой, цяжка, цяжка траве без расіцы,
А мне яшчэ цяжэй без сястрыцы.

Ой, цяжка, цяжка дубу без лісточкаў,
А мне яшчэ цяжэй без браточкаў.

## 679. СТАРАНА МАЯ СТАРОНАЧКА

Старана мая староначка,
Да я ж цябе не забудуся,
А ні ў полі барануючы,
Ні зязюляю кукуючы.

— А зязюля мая шэрая,
А ляці ты у маю старану,
Праведай ты маю радзіну.
— Я учора з тваей стараны,
Праведаўшы тваю радзіму:
Айцец з мамкай памерлі,
Сёстры замуж павыходзілі,
Браты твае пажаніліся,
На цябе, сястру, забыліся.
— А й пайду ж я на магілачку,
Разбуджу сваю радзімачку:
Ой, устань, устань, радзімачка мая,
Я без цябе заскучалася.

## 680. ОЙ, ПАЛЫН-ТРАВА, ТРАВА ГОРКАЯ

Ой, палын-трава, трава горкая,
Удалася ж я ды бяздольная:
А няма ў мяне ні роду-плоду,
Толькі ё ў мяне адзін братачка,
Ды і тэй мяне у пір не заве,
У пір не заве ды прыказвае:
— Ой, жыві, сястра, ды не старыйся,
А пей мёд-віно, ды не п'янчыся.
— А няпраўдачка, родны братачка:
Жыўшы ў горы, буду старыцца,
Піўшы мёд-віно, буду п'яніцца.

## 681. ОЙ, ЛЯЦЕЛІ ГАЛКІ

Ой, ляцелі галкі
З-пад цёмнае хмаркі,
Селі яны ў пары
На тоненькай вольсе.
Хоць ты і тоненька,
Не хіляйся, вольха,
Бо мне, сіраціне,
Жыці вельмі горка.
А ў нядзельку рана
Сястра брата ждала.
— Ты прыедзь, мой братко,
К сіраціне ў госці,
Нап'ешся гарэлкі

